Жніўнай песняй у стомленай зале
Мутнавокая Сена цякла,
Быццам ёй не хапала дзякла,
Што за дым і валокі давалі.

Палі стрыманасці ў запале
Рупіла спілаваць, расхістаць.
Кожнай статуі нешта шаптаць
У Парыжы, ў Лацінскім квартале.

## У матчыным краі

Я раскланьваюся са старымі,
Бо не ведаю маладых,
Як не ведаю,
Хто са старых
Мой паклон землякоўскі прыме...

## Тады

Не толькі думаць,
Дыхаць трэба
На мове роднай,
І тады
Табой не будзе неба грэбваць,
Да той далучыць чарады,

Што просіць сонца ў край айчынны
Прыйсці па смелай ярыне,
Што белы цень ад аблачыны
Крылом ніводным не кране.

З той чарадой
Памкнешся з верай
У вырай лёсу,
Каб пасля
Сніць раніцу ў хусцінцы шэрай
А як зязюлька,
Як ралля...



Як матылёк свой цёмны кокан,
Душа мая
Пакіне цела.
І сонечныя верацёны
Спрадуць сарочку,
Каб зіхцела!

Бо й нарадзілася, магчыма,
Душа ў сарочцы,
Раз паспела
Зжыць недаверлівае цела
І неба падтрымаць вачыма.

Зямное ўсё
Душы чужое.
Эклезіяст спяшаў зазначыць:
Усё вачыма лепей бачыць,
Чым цёмначчу блукаць душою.

У руху ў несупынным коле
Душа адчуе
Подых Ойчы.
Зямлю наведае аднойчы,
Ды мной
Не будзе ўжо ніколі...

## Смех вазоў

*Вальдко Калініну*

Вальдко —
І цокаюць падковы,
Вальдко —
Стукочуць капыты,
Вальдко —
Інее дзень зімовы,
Вальдко —
Захакалі харты.

Увесь наш свет — вялікі табар,
І ўсе мы — трохі цыганы.
Вымольваем у сонца хабар,
У тым не чуючы віны.

Нам не зашкодзіць паганяты,
Бо па натуры лайдакі.
І нашы думкі —
Цыганяты,
Ім нешта б выпрасіць з рукі.

І ўсе цацанкі-абяцанкі
Крычаць, як рыба на пяску.
Надзеі ходзяць,
Як цыганкі,
І просяць залаціць руку.

Страсае светлякоў цыгаркі
На росы прыцемак-хвалько.
У песню едзе рэй цыганскі:
    У цыганкі хвартух новы,
    А ў цыгана кій дубовы...
Ты чуеш смех вазоў,
Вальдко?



Учора, здаецца,
Дальбог жа, ўчора
Пячурка цямнелася,
Быццам пячора.
Клёцкі ў барознах
Сядзелі трывала.
Малако ў паўдзён гізавала.
Паветраны шарык рохкаў,
Пасля ў яго насыпалі гароху,
І ён бразджэў без супыну.
Шапка-вушанка
Вусата хрумстала канюшыну.
У пашчу сурочаную
Няўклюднай мяліцы
У званочках сарочку
Клалі маміны пальцы.
Бляялі кажух з рукавіцамі.
Ад соку хмялелі
Жалейкі ніцыя.

А потым —
У кіпетні яблык
Назваўся кампотам.
З прораззю сала
Беконам стала.
І словы крэўныя з часам
Назваліся
Слоўнікавым запасам.
У горле песні
Радасць няпуджаная перасела.
Кожны сваё
Адгарцаваў, адбрыкаў.

Усё хутчэй перасела
З саней ды з брыкаў
У цягнікі ды машыны.
Кашулі ды кажухі
Скарацілі шляхі
У крамы ды ў магазіны.
Усё фасуецца.
Усё ў фасоне.

Прагрэс
Цераз пахілены плот пералез
Сёння.

## Як сыр у масле

Я не помсціў нікому ў шаленстве,
Нават сабаку суседскага не зачапіў.
Калі й біў я каго ў маленстве,
Дык адно толькі масла біў.

І цяпер задыхаюся ва ўспаміне
І ад стомы валюся
На аерны сяннік, як цэп.
Масла біць у вузкагорлым графіне —
Гэта не тое, што рэзаць яго
І намазваць на хлеб.

Чаму графін?
Растлумачыць мушу.
Вайна й маслабойкі звяла.
А мы пасля вайны разжыліся
На графін з зялёнага шкла.
І я, калі масла ў ім біў,
Яго не любіў як душу,
Ды калаціў, як ігрушу —
Ажно не хапала зла.

Трасеш, калоціш графін штосілы,
Здаецца, дарослым станеш,
А масла ўсё не відаць.
А голас унутраны кпіць:
«Тады была сіла,
Як маці на гаршчок насіла.
Падсмецення на патэльні
Не паспытаеш, відаць».

А ўсяго калоцяць адразу
Трасца, гарачка і малярыя.
І ты ўжо не бачыш,
Дзе горла ў графіна, дзе дно.
Ды ўрэшце ў крупінкі збіраюцца
Вяршынкі густыя
І тут галоўнае самае адно:

Не празяваць і выліць у час
Вязкаватую масу ў місу,
Бо імгненне — і ў горле графіна
Перасядзе камяк,
І яго — хоць графін разбівай —
Не дастанеш ніяк.
Трэба паспець, як на сходах казалі,
Падвесці рысу.

А з маслам голад не страшны.
З маслам і гаўно смашна.
З маслам і зямелькі глынеш.
Прыгаворы маміны ўспомніш
І ўзмашна
Трасеш графін,
Масла б'еш, б'еш, б'еш.

Толькі б не перастарацца,
Спыніцца паспець.
І мяне, як масла, збівае праца.
Адчуваю, застаецца ледзь-ледзь...



Павук, як іншапланецянін,
На павучынні за вакном
Павіс.
І вечар ціха цяміць,
Хто ўніз чалом,
Хто ўгору дном?

Усё адносна ў гэтым свеце,
І, думаецца, ў свеце тым.
З хвастом падпаленым
Камеце
Няма як думаць пра інтым.

Павіс павук ці павучыца?
А можа, не павіс —
Плыве,
Ці проста хоча павучыцца
У нас
Хадзіць на галаве?..



ЛІДЗІЯ АРАБЕЙ

# УСЁ НА ЗЯМЛІ

АПАВЯДАННЕ

Яна пакупала дзяцей і ўлажыла іх спаць, большага на асобны ложак, а меншага з сабою. Пакуль спала тут з Мішам, то і меншага клала з большым, бо ў пакоі стаялі толькі два ложкі, ды і не бачыла яна кепскага ў тым, што дзеці спяць разам, у вялікіх сем'ях, бывае, дзеці кладуцца ўпокат па трое і больш. Але вось два месяцы, як забралі Мішу, і яна кладзе меншага з сабою, бо большы, сплючы, можа з меншага і коўдру сцягнуць, і выцяць ненарокам. А яна спіць і чуе дзіцятка — як яно павернецца, як уздыхне. А малому няйнакш падабаецца спаць з мамаю, абдыме за шыю, прытуліцца.

Два месяцы, як забралі Мішу. За што? Каб жа ведаць. У яго на рабоце то многіх забралі, у галаве не можа месціцца, каб усіх нізавошта, вінаватыя недзе. Але Міша... А можа, ляпнуў што не падумаўшы, а сябры цяпер такія, нехта данёс...

Яна хадзіла ў той дом на Савецкай, стаяла ў даўжэзнай чарзе. Вайсковец за акенцам, нейкі сухі і тварам і голасам, быдта выціснулі з яго ўсё жывое, чалавечае, пакінулі адну абалонку, пакорпаўся ў паперах, буркнуў:

— Можаце прынесці перадачу...

Яна ўчапілася за тое акенца, каб не адштурхнулі нецярплівыя людзі, што стаялі за ёю ў чарзе, хацела спытаць самае галоўнае — за што ўзялі і ці скора выпусцяць, але той зноў буркнуў, нават не глянуўшы на яе:

— Разбяруцца...

І яна зразумела, што больш тут нічога не пачуе, суцешыла душу гэтым словам: «разбяруцца». І ўсё чакала — калі разбяруцца, калі вернецца. З хаты выходзіла — у магазін, на базар, дзяцей з сабою ўзяўшы, бо з кім пакінеш, а вярталася — аж бегла, раптам дома ўжо, вярнуўся... Але кватэра пустая, і яна з жахам думала — што

будзе, калі не вернецца яшчэ месяц? Грошы канчаюцца, яна не працуе, куды ж ад малых дзяцей, большаму, Колю, чатыры, а меншаму, Мішу, і двух няма. Меншага назвалі Мішам, бо надта ж падобны на бацьку, яшчэ як толькі з радзілкі прынеслі, то дзівіліся, як такі маленечкі тварык мог паўтарыць дарослае аблічча. А Коля больш на яе падобны. І як жа яны ганарыліся сваімі сынамі, мужчыны чамусьці вельмі ганарацца, калі ў іх сын народзіцца, а тут двое, адзін за адным.

Спала ўжо Вера, меншага, Мішачку, да сябе прыгарнуўшы, спала і чула дыханне дзіцяці, і чакала душа яе, нават у сне, стуку ў дзверы і Мішу вялікага. Разабраліся, выпусцілі.

І калі пастукалі ў дзверы, яна падскочыла, кінулася ў сподняй кашулі — адчыняць.

За дзвярыма стаялі чужыя людзі, трое. Па-гаспадарску ўвайшлі ў пакой, запалілі святло, затупалі, азіраючыся. Вера спешна апранала спадніцу, блюзку.

Яны нічога не трэслі ў кватэры, як тады, калі Мішу бралі, сказалі коратка.

— Собирайтесь.

Яна не адразу зразумела, што ёй сказалі, а калі зразумела, спыталася:

— Куды?

— С нами,— адказаў ёй адзін, мусіць, старэйшы, у кіцелі, падпяразаны шырокім рамянём.

— А дзеці? — яна глянула на меншага, на большага, якія пасля купання моцна спалі і нават не прачнуліся ад чужых галасоў.

— О детях не беспокойтесь...

Яна не спрачалася, не сварылася, каб не разбудзіць дзяцей, і толькі калі вывелі на вуліцу, нібы апамяталася:

— Дзеці! Там жа дзеці адны засталіся!..

— О детях не беспокойтесь...

Гэтыя словы — «О детях не беспокойтесь» — яна чула і пасля, на допытах.

— Вы были в курсе шпионской деятельности вашего мужа?

— А божачкі, ды не было ніякай шпіёнскай дзейнасці!

— Покрываете мужа! С кем связан был ваш муж в своей шпионской деятельности?

— Ні з кім не быў ён звязаны, мы жылі сям'ёю, муж працаваў у рэдакцыі, у нас двое дзяцей, двое хлопчыкаў, яны засталіся дома адны, выпусціце мяне, выпусціце!

— О детях не беспокойтесь...

У камеры з ёю было яшчэ дванаццаць жанчын, розныя па гадах, па-рознаму апранутыя, яны гаварылі між сабою, часам спрачаліся, здавалася, яны ўсе прывыклі ўжо да няволі, да гэтай камеры, да допытаў, жыццё ў турме зрабілася іх побытам. Вера жыла толькі тым, ад чаго яе адарвалі. Яна думала толькі пра сваіх дзяцей, уяўляла, як прачнуліся яны без яе, як плакалі, што з імі было ўчора, што сёння, хто іх накарміў, хто абмыў? Меншанькі, можа, зваліўся з ложка, іхні з Мішам ложак высокі, зваліўся і плакаў на падлозе. У роспачы, у адчаі яна гаварыла ўсім у камеры:

— У мяне дзеці... Адны дзеці дома засталіся...

Кожны дзень яна чакала, што адчыняцца дзверы, яе паклічуць, выпусцяць і яна кінецца дадому, да дзяцей.

Мінуў месяц. Мінула два месяцы. Востры адчай першых дзён перайшоў у тупы боль, які не спыняўся ні на міг, заціхаў хіба ў хвіліны сну, калі знікала яна сама, знікала ява, што яе акружала, знікалі ўсе думкі, адчуванні. Але варта было ўсплысці свядомасці, як боль навальваўся зноў, тупы, горкі, і ў галаву, у сэрца ўпівалася толькі адно: дзеці.

Яе арыштавалі сёмага верасня. Яшчэ трымалася на зямлі лета, яшчэ цёпла грэла, часам нават і пякло, сонца, яшчэ шумелі густымі кронамі таполі ў іхнім двары і пахла пылам ад сухой зямлі, яшчэ не змочанай дажджамі. Яе забралі ў спадніцы і лёгкай блюзачцы, яна нічога не ўзяла з сабою, бо не дапускала нават думкі, што яе надоўга затрымаюць. І першы час не адчувала холаду, у маленькай, перапоўненай арыштанткамі камеры было нават душна. Але вось духата пачала спадаць, у камеры пахаладнела, пачала наплываць сюды сырасць, і яна гадзінамі сядзела цяпер скурчаная, стараючыся трымаць цяпло ўласнага цела. Адна кабета — пажылая, з рэдкімі сівымі валасамі, маўклівая, яе голасу амаль не чулася ў камеры, выняла са сваёй торбачкі, якую клала пад галаву замест падушкі, шэры вязаны каптанчык, кінула ёй. Вера падзякавала, усцягнула каптанчык на плечы. Другая кабета, таксама пажылая, а можа, з маладых Верыных гадоў здавалася пажылою — дала свой шалік. Вера закруціла шалік на галаву. А за акном, пад самай столлю, за кратамі, ужо лёталі белыя мухі.

Час ад часу яе выклікалі на допыт. І зноў тыя самыя пытанні:

— Вы были в курсе шпионской деятельности вашего мужа? С кем он имел связи? Вашим запирательством вы вредите и себе и ему...

Аднойчы ў пакой, дзе следчы яе дапытваў, увайшоў высокі мужык з нейкім азызлым, нібыта спітым тварам, падступіў да крэсла, на якім яна сядзела, і раптам, знянацку, схапіў яе за валасы, накруціў валасы на пальцы і пачаў моцна тузаць. Вера схапілася за галаву, паднялася з крэсла, і той за валасы пацягнуў яе ў куток, пачаў біць кулаком пад рэбры. А следчы выцягнуў папяросу, прыкурыў, зацягваўся і глядзеў, як тузаў і біў яе той азызлы. Яна не крычала, бо не хапала на крык сілы, ад удараў пад рэбры задыхалася, хапала ротам паветра, як рыбіна. Азызлы пацягнуў яе назад да крэсла, яшчэ раз моцна тузануў за валасы.

— Ну, ты будешь признаваться, будешь подписывать? — прыдушыў следчы недакурак у папяльніцы.

Што яна магла ім сказаць і як магла падпісаць? Стагнала яму адно:

— У мяне дзеці... Дзеці дома адны засталіся...

За паўгода, што сядзела ўжо ў турме, яна не мела з волі ніякіх вестак. Ад каго магла мець? У горадзе жыла толькі яе стрыечная сястра Тамара, з якою яшчэ ў добры час спатыкаліся гады ў рады, а як забралі Мішу, з таго дня сястра ні разу і не заходзіла. Можа, баялася за свайго Івана, каб не абвінавацілі, што яго жонка трымае сувязь з жонкаю ворага народа? Пра суседзяў і казаць няма чаго, кватэру ім далі нядаўна, з суседзямі яшчэ як след не пасябравала, ды якія гэта суседзі будуць за цябе хадайнічаць, перадачы насіць? Гэта ўжо трэба, каб святыя суседзі былі. Матка... Каб матка жыла... Але матка тры гады як памерла, бацька ажаніўся з маладою, ды жылі не ў Мінску, у Пухавічах, адкуль сама Вера родам, бацька недзе і не ведае, што з дачкою такая бяда, цешыцца сабе з маладою жонкаю, і мачысе не ў галаве падчарыца, што жыве недзе сям'ёю ў стольным горадзе.

Круцілася зямля, уставала і заходзіла сонца, вецер гнаў хмары па небе, кавалак якога быў відзён Веры праз закратаванае акно.

Недзе пад вясну ёй аб'явілі прыгавор:

«За садзеянне мужу ў шпіёнскай дзейнасці дзесяць гадоў пазбаўлення волі».

І адправілі ў ссылку. Куды — сама не ведала. Потым аказалася — у Варкуту, за Палярны круг, у тундру.

Не так даўно тут знайшлі залежы каменнага вугалю і ў планы сталінскіх пяцігодак уключылі асваенне вугальнага басейна. Сюды і гналі эшалонамі зняволеных — пракладаць шахты, грузіць вугаль,

будаваць баракі для арыштантаў і дамы для начальства. Калі Вера прыехала, Варкута была невялічкім пасёлкам. Вакол ляжала бяскрайняя тундра, зімою пакрытая снегам, летам — мохам ды лішайнікамі, толькі ўсцяж ракі Варкуты кучараваліся нізкія кустарнікі.

Снег сыходзіў тут толькі ў маі, а ў верасні клаўся зноў. Нават кожным летнім днём можна было чакаць замаразку, на які метр у глыб зямлі ляжала вечная мерзлата.

Спачатку Вера дзівілася — як маглі тут выжыць і не вымерці карэнныя жыхары — ненцы, якіх называлі самаедамі. Потым зразумела — ненцы з пакалення ў пакаленне прыстасоўваліся да ўмоў — мелі цёплыя ярангі, апраналіся ў цёплую апратку з аленевай скуры, на зіму запасаліся рыбаю, тлушчам. Яна бачыла, як часам шалёна несліся ў нартах на аленях ненцы, мінаючы іхні пасёлак, толькі снег курэў пад палазамі ды чулася дзікае гіканне — ненец падганяў сваіх рагатых коней.

Зганялі на работу ў шахты і мясцовае насельніцтва, мужчын, але тыя зусім не маглі жыць у бараках, уцякалі з шахтаў, і іх цяжка было знаходзіць — усе здаваліся на адзін твар, па-руску амаль не разумелі і цяжка было ад іх дабіцца толку.

Ненцы, што з пакалення ў пакаленне жылі на гэтай зямлі, і то не маглі прызвычаіцца да работы ў шахтах, да баракаў, а што было ім казаць — у тых самых халодных бараках, абы-як апранутыя, галодныя, у брудзе. Нават гэты моцны інстынкт — мацярынства — у Веры пачаў затухаць, яго перамагаў інстынкт самазахавання. Урваць лішнюю гадзіну для адпачынку... Здабыць кавалак мёрзлай рыбіны ці аляніны, здабыць якую апранаху, каб прыкрыць цела ад холаду. Часам схамянался — гэта ж яна ўжо некалькі дзён не ўспамінала дзяцей... А потым зноў — як бомба — выбухаў жаль і разрываў грудзі.

Мінула ўжо тры гады яе катаргі, калі дзеці жывыя, то большаму ўжо сем, а меншаму пяць, але не магла ўявіць сабе Колю — сямігадовага, а Мішу — пяцігадовага, бачыла, успаміна іх маленькімі, такімі, як пакінула.

Яна дапускала, што дзяцей забралі ў прытулак, не выкінулі ж на сметнік. Ды і яшчэ там, у турме, і тут, у лагеры, жанчыны казалі, што дзяцей «ворагаў народа» аддаюць у прытулкі. Ёй прысудзілі дзесяць гадоў, па цяперашніх мерках то і не вельмі многа, цяпер даюць па дваццаць, па дваццаць пяць. Тры гады сваёй катаргі яна ўжо адмучылася, яшчэ сем,— і выйдзе на волю, і знойдзе сваіх дзяцей. Толькі б дажыць, толькі б выжыць.

Яна думала і пра мужа. А раптам выпусцілі? Але спадзяванне на тое было слабае: каб аказаўся ён на волі, то неяк знайшоў бы яе, даў бы знак...

Чалавек прывыкае да ўсяго, прыстасоўваецца да самых кепскіх умоў. Цяпер яна ўжо разумела тых кабет у турме, у камеры, якія нібыта і прызвычаіліся да сваёй няволі. І тут, у Варкуце, пры галадзе, пры цяжкой фізічнай працы, у халодным смярдзючым бараку, Вера пачала нібыта прывыкаць, прыстасоўвацца да ўмоў, у якіх апынулася, падстаўляцца пад удары з таго боку, дзе менш баліць. Кожны дзень, валячыся, стомленая, на свае нары, яна радавалася, што пражыла яшчэ суткі. Толькі б не захварэць, не зваліцца, каб не завалаклі на бераг Варкуты, на корм пясцам ды совам, як не адну ўжо з іхняга барака. Бо хто будзе зімою капаць магілу ў мерзлаце, прысыплюць снегам... Ды і летам... Няма сілы ў зэкаў-дахадзяг капаць глыбокую яму, дойдуць да мерзлаты, і ўсё, закідаюць зверху камякамі. Але Вера маладая, пакуль здаровая, узялі — было дваццаць пяць, цяпер дваццаць восем.

Дзень за днём ішлі без перамен. Яшчэ адну зіму адкочвала тачкі

з вугалем, яшчэ адну вясну. Надышло лета, стракатым дываном укрыўшы тундру, свяціла сляпучае сонца, побач са старымі маткамі-аленіхамі бегалі аленянятні — спраўляла баль бессмяротнасць жыцця. І раптам... Раптам вайна...

Яны не адразу даведаліся, што вайна, ім ніхто нічога не сказаў. Але пайшло пошапкам, па нарах, па бараках, а потым іх сабралі ўсіх на пляцы і аб'явілі, што вайна, што радзіме яшчэ больш патрэбен вугаль — для перамогі, што яны павінны яшчэ больш працаваць, бо і тут, у няволі, яны не могуць не быць патрыёткамі.

Зменшылі норму пайка. Пабольшала норма на шахце. Новых зэкаў, што прыбывалі кожны дзень, пачалі ганяць на будаўніцтва — расла ўшыркі і ўгору Варкута, пасёлак рабіўся горадам.

Не мелі яны газет, не слухалі радыё, не праводзілі з імі палітычных гутарак, але яны ведалі ўсё, што рабілася на фронце. Яны ведалі, што немцы забралі Мінск, забралі Кіеў, а хутка і ўся Беларусь аказалася пад акупацыяй, немцы дакаціліся да Масквы. Даходзілі чуткі, як нішчаць немцы ўсё на сваім шляху — паляць гарады, людзей забіваюць. І з новаю сілаю ахапіў Веру адчай: дзеці... Цяпер на тое, што знойдзе іх, заставалася яшчэ меней надзеі. І ўсё-такі яна верыла, нейкія чары шапталі ёй: дзеці жывыя, жывыя...

Як бы людзі ні жылі, як бы ні пакутавалі, жыццё ідзе па сваіх законах, плыве час, і ўсё, што мае свой пачатак, мае і канец, ва ўсякім разе, тое, што можа ахапіць свядомасць чалавека. Бо не зразумець яму з яго мізэрнымі мазгамі таго бяскрайняга і вечнага сусвету, які не мае ні пачатку, ні канца, ні ў часе, ні ў прасторы, усё, што бачым мы на сваім жыцці, прыходзіць да канца.

І скончылася вайна...

І скончыўся Верын тэрмін.

Яна прыехала ў Мінск восенню, зноў яшчэ сухою і цёплаю. Горад ляжаў у руінах. Як кінуць вокам — карабкі будынкаў з пустымі праваламі вокнаў, закураныя пажарышчамі сцены, тут і там лапінкі зямлі, абгароджаныя спінкамі зламаных, абпаленых ложкаў — агароды. Як магнітам пацягнула на тую вуліцу, шукаць той дом, дзе жылі да вайны. А раптам ацалелі? Здавалася, там будуць дзеці, такія, якіх пакінула, чатырохгадовы Коля і двухгадовы Міша, хоць разумела, што дзецям, калі жывыя, цяпер кожнаму болей на дзесяць гадоў і Колю, значыцца, чатырнаццаць, а Мішу — дванаццаць. Але зноў не магла ўявіць сваіх хлопчыкаў такімі.

Яна знайшла тую вуліцу. І той дом аказаўся цэлы. Бухала сэрца і падгіналіся ногі, калі, трымаючыся за парэнчы, паднімалася на свой другі паверх. Спынілася перад дзвярыма. Яны былі знаёмыя і незнаёмыя, як чалавек, якога не бачыла шмат гадоў. Тыя самыя дзверы са шчылінаю для паштовай скрынкі, але незнаёмыя драпіны, плямы і незнаёмае, чужое жыццё з таго боку, гэта адчувалася ўжо невядома як. Яна некалькі імгненняў стаяла перад тымі дзвярмі, не адважваючыся пастукаць. Але пастукала. Вельмі скора пачуліся крокі, і дзверы адчыніліся. Перад Вераю стаяла кабета гадоў сарака, паўнаватая, яе жывот абцягваў не вельмі чысты фартух, рукі былі вільготныя, відаць, адарвалася ад нейкай работы. З кватэры пацягнула пахам кіслай капусты, чуўся шум прымуса з кухні.

Жанчыны глядзелі адна на адну, гаспадыня, мусібыць, чакаючы тлумачэння, чаго сюды прыйшла гэтая кабета, а Вера — ад неспадзявання, быдта і праўда чакала ўбачыць тут нешта іншае.

Нарэшце схамянулася.

— Я... Я некалі тут жыла...

Гаспадыня павольна выцірала рукі аб фартух. Таксама павольна на яе твар набягала хмурнасць.

— Я некалі тут жыла,— паўтарыла Вера.

На твар жанчыны, здаецца, набегла трывога.

— Ну і што, калі жыла, цяпер мы тут жывем, законна, маем ордэр, магу паказаць,— жанчына хацела ўжо ісці, напэўна, па той ордэр.

— Што вы, не трэба,— затрымала яе Вера. Яна зразумела — кабета спалохалася, падумала недзе — былая гаспадыня будзе мець прэтэнзію на гэтую кватэру, Вера чула, што людзі, вяртаючыся з эвакуацыі, часта прэтэндавалі на сваё былое жыллё — і кватэры ім вызвалялі, тыя, хто вяртаўся з эвакуацыі, меў перавагу над мясцовымі, якія жылі пад акупацыяй і лічыліся ненадзейнымі.

— Я не прэтэндую на кватэру,— супакоіла гаспадыню Вера.— Я проста так... А вы даўно тут жывяце?

Жанчына, здаецца, супакойвалася.

— Ды яшчэ з вайны, наш дом згарэў, дзе нам было дзецца, жывем тут з сорак чацвёртага.

Вера пачынала разумець, што гэтая жанчына нічога ёй не раскажа, бо нічога не ведае, пасялілася ў сорак чацвёртым, што яна можа ведаць пра тых, хто жыў тут у трыццаць сёмым.

— Я... У мяне тут дзеці заставаліся,— хацела растлумачыць Вера, чаму прыйшла сюды.

— Не ведаю, нічога не ведаю,— гаспадыня яўна спяшалася.

— То бывайце здаровы.

Гаспадыня з палёгкаю зачыніла дзверы.

Вера сунулася ў суседнія кватэры, але вакол былі новыя, чужыя людзі, ніхто нічога не мог сказаць ёй пра дзяцей.

Яна наняла пакойчык у завулку на Камароўцы, у драўляным, ацалелым у вайну дамку. Уладзілася на работу — прыбіральшчыцаю ў выдавецтве, у Доме друку. Хацела ўладзіцца карэктарам — добра ведала беларускую мову, да замужжа скончыла тры курсы педінстытута, і карэктары былі патрэбныя, але не ўзялі. З такой судзімасцю пра работу на ідэалагічным фронце і думаць было нечага.

Так-сяк прыклеілася да жыцця і пачала шукаць мужа, дзяцей.

Напісала ліст у органы з запытаннем пра лёс Міхаіла Васільевіча Несцяровіча, якога арыштавалі дванаццатага чэрвеня трыццаць сёмага года. Іначай не ведала, як шукаць. А дзяцей... Пайшла ў прытулак, які быў у Мінску.

У дырэктарскім кабінеце сядзела за сталом і перабірала паперы даволі маладая жанчына са светлымі, падкручанымі ўніз валікам валасамі. На крэслах, на падлозе ляжалі пакункі, некаторыя ўжо развязаныя, і была відаць у іх адзежа, бялізна, валяўся на падлозе дзіцячы абутак — сандалікі, чаравічкі.

Гаспадыня кабінета падняла на Веру стомленыя, крыху падпухлыя вочы.

— Я... У мяне... Дзяцей сваіх шукаю... Можа, у вас што са старога прытулку засталося, даваеннага, якія дакументы...

Гаспадыня кабінета ўважліва паглядзела на Веру.

— Вы сядайце, сядайце, калі ласка,— запрасіла яна, але ўбачыла, што ўсе крэслы занятыя, устала, зняла з аднаго і кінула на падлогу пакунак.— Гэта ад Юнра нам прыслалі,— растлумачыла яна.— Яно то добра, патрэбна нам усё, але яшчэ не разабраліся.

Вера села на вызваленае крэсла.

— Я вас слухаю,— лагодна сказала жанчына.

Яшчэ ідучы сюды, Вера баялася пытання: а чаму гэта пры жывой мацеры дзеці трапілі ў прытулак? Хацела што-небудзь выдумаць, бо браў страх, што як скажа праўду, то з ёю, жонкаю ворага народа, і гаварыць не захочуць. Але хлусіць яна не ўмела, і таму прыйшлося сказаць, як усё было.

Дырэктарка ўважліва слухала, здаецца, яна не надала значэння таму, што Вера вярнулася з той Варкуты, а можа, такое для іх было

не навіна. Калі Вера скончыла сваю аповесць, гаспадыня кабінета ўздыхнула.

— На жаль, я нічога не магу вам сказаць... Я тут новы чалавек, працую толькі год, а вашых дзяцей, калі іх і прывезлі ў гэты прытулак... Дзесяць гадоў таму назад...— яна пакруціла галавою, паказваючы, як даўно гэта было.

— А што, ніякіх слядоў, ніякіх дакументаў у вас не захавалася?

— Што вы, якія дакументы... Як немцы пачалі наступаць, прытулак эвакуіраваўся, хто думаў пра тыя дакументы.

— Дык дзяцей вывезлі, эвакуіравалі? — схапілася за надзею, як тапелец за саломінку, Вера.

— Вывезлі...

— А куды?

— Я і гэтага не магу вам сказаць, не ведаю, я тут новы чалавек...

Вера думала, што, як прыйдзе сюды, у прытулак, яна ўбачыць шмат дзяцей, яны будуць бегаць, смяяцца. І дзіўна было ёй, што ў доме панавала нейкая цішыня, быдта тут не толькі дзяцей, наогул нікога не было. Але гэтая думка прайшла, не кранаючы моцна яе свядомасці, сэрца занята было сваім.

— Дык што ж мне рабіць, як шукаць? — спытала Вера не столькі ў дырэктаркі, як у самой сябе.

— Проста не ведаю, што вам параіць... Але... Ведаеце што,— ажывілася яна.— У нас тут жанчына адна працавала... Яшчэ да вайны, цяпер не працуе, па інваліднасці, у вайну пад бамбёжку трапіла, акурат калі дзяцей вывозіла, ёй руку моцна параніла, аднялі руку... Можа, яна што помніць?

Радасць, надзея зноў ажывілі Верына сэрца.

— Дзе яна жыве, які яе адрас? — яна цяпер была ўпэўнена, што напала на верны след, калі жанчына працавала ў прытулку да вайны, то, канечне, не можа не помніць, ведае.

— Зараз вам скажу,— гаспадыня кабінета ўстала з-за стала, абыходзячы пакункі, раскіданы абутак, пайшла з пакоя.

Вера засталася адна. Цяпер ёй здалося, што недзе далёка ў будынку заплакала дзіця... І плач той балюча ўкалоў у сэрца. Уявіла, як, можа, у такі прытулак прывезлі яе хлопчыкаў і як яны плакалі, асабліва меншы, Міша, які і хвіліны не мог абысціся без мамы. Ці ж сказалі яны, як іх зваць, як іхняе прозвішча? А можа, прозвішча назвалі тыя, што прывезлі? А калі не назвалі? Ці сказалі ў тым прытулку, што хлопчыкі — родныя браты? Калі не сказалі, то дзеці, падрастаючы, не будуць ведаць, што яны браты... Чаму раней яна не падумала пра гэта, чаму раней не прыйшло ў галаву? Меркавала, што як узялі дзяцей разам, то разам і будуць трымаць... Страхам абпаліла гэтая думка, быдта ў чорную бездань зірнула, першы раз мільганула безнадзейнае: ці знойдзе? Але жанчына, тая, што ў прытулку працавала да вайны, можа, што ведае, памятае? Яна сядзела ўжо тут, як на гарачым вуголлі, хацелася ўжо бегчы, шукаць тую.

Дырэктарка вярнулася, зноў, абыходзячы пакеты, раскіданую адзежу, абутак, села за свой стол,ададрала паперку ад перакіднога календара, з тых дзён, што ўжо мінулі, напісала на ёй, падала Веры.

— Вось яе адрас... І прозвішча тут, імя па бацьку.

Вера, можна сказаць, выхапіла лісток, падзякавала.

— Жадаю ўдачы,— сказала ёй дырэктарка.

Калі Вера выходзіла, у калідоры адчыніліся адны дзверы, і на парозе яна ўбачыла купку дзяцей гадоў па тры, па чатыры. Усе стрыжаныя пад нулёўку, вочы-гузічкі глядзяць на яе не міргаючы, як на нешта дзіўнае, чаго раней не бачылі. Вера міжвольна прыпынілася. Дзеці былі, здаецца, чыста памытыя і апранутыя не ў рызманы, але тварыкі ў іх былі нейкія закаржанелыя, без той дзіцячай мяк-

касці, далікатнасці, якія памятала ў сваіх хлопчыкаў. Дзеці моўчкі глядзелі на яе з нейкім сумам і недзіцячай сур'ёзнасцю. «Божа мой,— падумала Вера.— І ў кожнага ж з іх былі матка, бацька... І кожнае па-свойму асірацела...»

З глыбіні пакоя, у якім адчыніліся дзверы, выйшла маладая жанчына ў белым халаце, з-пад якога была відаць стракатая сукенка,— мусібыць, нянечка. Пагнала дзяцей назад у пакой, зачыніла за імі дзверы.

«Як у турму, як у камеру пагнала»,— успомніла Вера сваё зусім нядаўняе быццё.

Яна амаль бегла на тую вуліцу, што напісала на паперцы ёй дырэктарка, на вуліцу Ізвозную, добра, што ведала, дзе тая вуліца, задыхалася ад шпаркай хады, на міг сцішала і зноў амаль бегла. Здавалася, што спозніцца на нешта, тая жанчына некуды з'едзе альбо, не дай бог, памрэ. Яна скора знайшла і той дом — драўляны, жактаўскі, з двума ганкамі. Ткнулася ў адны дзверы — замкнёныя, пабегла да другіх. Другія дзверы адчыніліся, і яна ўвайшла ў цёмны калідорчык, зачапілася за нешта, нарабіла груку, але на грук ніхто не выйшаў. Шукала ў цемнаце клямку, намацала, адчыніла другія дзверы, увайшла ў пакой. Пасярэдзіне стол з непрыбранаю пасудаю, буфецік з разбітым шклом у дзверцах, даўно не мытая падлога. І тут не відаць жывой душы. Пасля толькі заўважыла, што варухнулася квяцістая занавеска, што адгароджвала закутак у пакоі. Ражок занавескі падняўся, і паказалася старэчая галава, абкручаная хусткаю.

— Хто тут? — хрыплым голасам спыталася старая.

— Скажыце, ці тут жыве Кацярына Антонаўна Зяневіч?

— Хто, хто? — не пачула кабета.

— Кацярына Антонаўна Зяневіч.

— А, Кацька... у тым пад'ездзе, там,— махнула яна рукою ўбок.

— Я торгала тыя дзверы, там нікога няма...

— То, можа, куды выйшла, зараз вернецца,— старая закашлялася.

Непрыбраны пакой... Старая за занавескаю, няйначай, хворая. Што яна тут, адна жыве? Можа, памагчы што трэба? Вера стаяла і думала — як спытаць, што сказаць жанчыне, каб прыняла яе спагаду. Той, Кацярыны Антонаўны, усё роўна пакуль няма, можа, тым часам яна б тут што-небудзь памагла.

— Ну, чаго стаіш, ідзі, ідзі,— груба перабіла яе думкі старая.— Ідзі! — яна зноў закашлялася.

І Вера павярнулася, пайшла.

Каля дома з боку вуліцы стаяла лавачка. Вера прысела на яе. Вуліца пралягала на самай ускраіне горада, за ёю прасціралася пустка, за пусткаю цямнеў сінім грэбенем лес. Стаяў верасень, дасюль яшчэ сухі і цёплы, але ў паветры пахла ўжо восенню, тым лёгкім пахам тлену, сухога ліста, зямлі, якая, напрацаваўшыся за лета, збіралася на адпачынак, тонкімі нітачкамі, бліскаючы на сонцы, лёталі павуцінкі. Па вуліцы зрэдку праходзілі людзі, Вера не ведала той Кацярыны Антонаўны, якую чакала, але мела верную прыкмету — у жанчыны адна рука. І скіравалася б яна сюды, у гэты двор, да тых дзвярэй, што замкнёныя.

Вера чакала доўга, і уставала, і хадзіла, і зноў садзілася на лавачку. Вырашыла, што чакаць будзе хоць да ночы, хоць да заўтра, але дачакаецца.

І дачакалася. Да дома падышла жанчына — левы рукаў у кішэні каптана, у правай руцэ кошык, нечым напакаваны. Вера пакіравалася за ёю. Жанчына паставіла кошык на ганак, адамкнула дзверы. Азірнулася, убачыла Веру.

— Я да вас... Мне параілі... Хачу з вамі пагаварыць,— пачала ёй тлумачыць Вера.

— Ага, добра... Гэта я вось хадзіла... Па пенсію хадзіла, а там па магазінах, забавілася. Вы, мусібыць, доўга чакалі.

— Ды не, нічога,— Вера адчула ў голасе ды і на твары ўбачыла спагаду, дабрыню, і ёй зрабілася лягчэй, здалося, што такая жанчына не скажа ёй нічога кепскага, а скажа нешта добрае, супакоіць, дасць надзею.

За жанчынаю ўвайшла яна ў невялікі пакойчык, побач яшчэ былі дзверы, але зноў замкнёныя, мусібыць, Кацярына Антонаўна не займала ўсю кватэру, а толькі гэты пакойчык. Тут было вельмі чыста і ўтульна. Белаю капаю засцелены ложак з трыма падушкамі — адна на адной, на шуфлядцы пры дзвярах да бляску начышчаныя каструлькі, чайнік, на палічках этажэркі беленькія накрухмаленыя сурвэткі, на дзвюх палічках — газеты, кнігі, на самай верхняй — люстэрка і каля яго сем слонікаў, на шчасце. Слонікі адбіваліся ў люстэрку, і здавалася, што іх не сем, а нашмат болей. Вера ў душы крыху падзівілася, што жанчына з адной рукою можа трымаць сваё жыллё ў такой чысціні.

Гаспадыня распранулася, села пры стале, запрасіла і Веру сесці, і тая прымасцілася насупраць, пачала расказваць, як была ў прытулку, шукала звестак пра сваіх дзяцей, там нічога не маглі ёй сказаць, не захавалася ніякіх дакументаў, параілі пагаварыць з ёю.

— Два хлопчыкі, Міша і Коля, Міша меншы, два гадкі, Колю чатыры. Прозвішча Несцяровіч... Іх маглі прывесці ў пачатку верасня трыццаць сёмага... Міша яшчэ не гаварыў, толькі асобныя словы, а Коля гаварыў, мог назваць сваё імя і прозвішча...

Кацярына Антонаўна ўважліва слухала, і хоць Вера не сказала ёй, чаму трапілі ў прытулак яе дзеці, яна, здаецца, сама здагадалася. Па твары гаспадыні было відаць, што яна спачувае мацеры і стараецца ўспомніць, стараецца.

— Ведаеце, столькі дзяцей... Прыносілі, прывозілі... Потым ад нас забіралі і перапраўлялі ў другія прытулкі, у другія гарады... Часам не называлі нам ні імя, ні прозвішча дзяцей, мы потым самі хрысцілі, можна сказаць... Беленькія... Браты... А хто ж іх ведае, дзе браты, дзе не браты...

— Але вы ўспомніце, падумайце, у мяне ж толькі на вас спадзяванне, калі не вы — дзе я буду шукаць,— у адчаі прасіла Вера.

Кацярыне Антонаўне самой, здаецца, было прыкра, што не можа нічога толкова ўспомніць, не можа нічога сказаць гэтай жанчыне, якая на яе так спадзяецца. Яна сілілася ўспомніць двух беленькіх хлопчыкаў, братоў Несцяровічаў, але колькі іх перабыло — і беленькіх і чорненькіх, і Мішаў і Коляў, колькі прывозілі, потым забіралі невядома куды, у тых, хто гэта рабіў, не было клопату, каб потым блізкія знайшлі дзіця, кідаліся тымі дзецьмі, як мячыкамі, за ўсе гады, што працавала ў прытулку, не памятала Кацярына Антонаўна, каб па дзіця прыйшлі бацькі, матка альбо бацька, ці якія сваякі, ніколі ніхто не прыходзіў, ніхто не знайшоў, не забраў.

— Кажуць, вы вывозілі дзяцей у эвакуацыю... Можа, вывезлі і маіх?.. Магло такое быць, каб і маіх вывезлі?

— Усё магло быць... Можа, вы чаю вып'еце? — спытала раптам Кацярына Антонаўна.

Вера прапусціла міма вушэй пытанне пра чай і нічога не адказала. Гаспадыня, мусібыць, прыняла яе маўчанне за згоду і паднялася, пайшла да шуфлядкі, дзе стаялі каструлькі, чайнік. Вера схамянулася.

— Не трэба клапаціцца, не трэба...— Ёй зрабілася няёмка, што дае турботу жанчыне без рукі, той, мусіць, нялёгка ўсё рабіць адной рукою.

— А якая тут турбота, я вось акурат пячэння прынесла, цукар ёсць.

Вера такі не спяшалася адыходзіць, хацела яшчэ распытаць гэтую жанчыну, якая здавалася як свая, як родная. Рэдка так бывае, калі чалавек, якога бачыш першы раз, здаўся нібы сваім. Мусібыць, кожны чалавек выпраменьвае нейкія флюіды, і адзін выпраменьвае добрыя, другі — благія. Таму з некаторымі людзьмі спакойна, добра, а ад другіх хочацца хутчэй уцячы.

— То давайце я вам памагу,— паднялася Вера.

— Не-не, сядзіце, я сама,— запярэчыла Кацярына Антонаўна.

Вера дзівілася, як спрытна рабіла ўсё гаспадыня адной рукою, другая і дзвюма так спрытна не ўвіхалася б, як яна распакоўвала кошык, уключала электрычны чайнік, як ставіла кубкі, налівала чай.

Вера зноў павяла размову пра дзяцей, пра эвакуацыю. Кацярына Антонаўна расказвала:

— Пры нашым прытулку была грузавая машына, палутарка, прадукты на ёй вазілі. Як пачалі немцы горад бамбіць, шмат людзей пакідалі кватэры, усё дабро і кінуліся ў бежанцы. Мы спачатку не ведалі, што нам рабіць, дырэктарка, тады не гэтая была, другая, пажылая, пабегла ў райана, спытацца... А там ужо нікога і духу няма, усе паўцякалі. Ну, і мы тады — дзяцей у кузаў і на Маскоўскую шашу. А там людзей-людзей — з клункамі, з чамаданамі, з дзецьмі, хто на падводах, а больш пехатою. Потым немцы гэтых людзей пераймалі, назад у Мінск пагналі. Ну, і на машынах шмат людзей ехала, на легкавушках, на палутарках. Усе беглі, ехалі невядома куды, і мы з імі.

Прадуктаў з сабою ў машыну крыху ўкінулі — некалькі боханаў хлеба, кансервы, але дзеці ж — як трусы, ім бы жаваць і жаваць, толькі ад'ехалі ад горада, яны ўжо есці просяць. Па дарозе нас некалькі разоў бамбілі, тады ўсе выскоквалі з машын, адбягаліся ў кусты прыдарожныя.

Даехалі да Талачына. Кінулася я да начальства, каб памаглі з дзецьмі, а таго начальства і тут ужо няма. А ў шафёра бензін скончыўся. Я тады з дзецьмі на чыгунку. А ў вагоны і тут ужо не ўбіцца, людзі, як апантаныя, пхнуцца, лезуць у цягнік, крычаць. Нейкі вайсковец нам дапамог, наставіў пісталет на тых, што ў вагон ірваліся, нас прапусціў.

Толькі ад'ехалі ад станцыі, як пачаў немец станцыю бамбіць. Наш машыніст, мусібыць, усе пары ўключыў, едзем мы, вагон гайдаецца, вось-вось з рэйкаў зляціць. Ужо з горада выскачылі, імчымся на вялікай хуткасці, а нямецкі самалёт за намі. Пачаў нас бамбіць. Чуем, з аднаго боку цягніка бомбы вухаюць, з другога. Меншыя дзеці да мяне папрыціскаліся, плачуць ад страху, каторыя пад лаўку пазалазілі. Мусібыць, усе яны першы раз у цягніку ехалі, ды пад такім страхам.

Можа, каб цягнік не спыніўся, то мы і ўцяклі б ад самалёта, але машыніст спыніў цягнік, не ведаю ўжо чаму, і ўсе людзі пачалі выскокваць з вагонаў, бегчы пад адхон. І я з дзецьмі выскачыла, большыя разбегліся па полі, шукаючы куста ці ямкі, каб схавацца, а меншыя за мною пакаціліся. Прытуліліся мы да нейкага пагорка, а немец з кулямёта... Лётае над намі і сыпле, сыпле... Дзеці плачуць, крычаць, пад мяне пнуцца... І я, як тая курыца, іх пад сябе грабу, грабу, рукамі, як крыламі, затуляю... Тут вось мяне і параніла... Адразу болю нават не пачула, гляджу толькі — кроў з рукі хлешча... Дзеці ўбачылі кроў — яшчэ больш закрычалі, заплакалі — цёця, цёця...

Не пачулі мы, як і самалёт адляцеў, ціха стала. Я хусцінкай руку перавязала, дзяцей папрасіла, каб тужэй пераціснулі. А тут паравоз загудзеў, пасажыраў склікае. Паднялася я, каб да цягніка бегчы,

а мяне ўбок і павяло. Усе сілы сабрала, іду, хістаюся, дзеці ўжо мяне валакуць. Так-сяк да вагона дапаўзлі, і большыя дзеці сабраліся. Я пытаюся ў іх — ці ўсе вы тут? Кажуць — усе.

Вера слухала не перабіваючы, усё чакала слоў, па якіх можна было б здагадацца — былі там яе дзеці ці не, былі ці не?.. А Кацярына Антонаўна расказвала:

— У вагоне мне ўжо людзі руку перавязалі, у некага бінт аказаўся, але кроў цякла і цякла, праз усе бінты, перавязкі. Я ўжо і прытомнасць пачала траціць, то прыйду да памяці, то зноў у чарнату валюся.

Ехалі мы доўга, на станцыях заторы збіраліся. Але неяк дапаўзлі да Масквы. Я з вагона сама ўжо выйсці не змагла, большыя дзеці пабеглі, паклікалі міліцыю, і тая пакамандавала — дзяцей у прытулкі, мяне ў бальніцу. Там я сваю руку і пакінула... Заражэнне крыві пачалося... Я доўга ў бальніцы ляжала, як выйшла — пайшла пра дзяцей што дазнацца, дык ужо тады іх след згінуў. Казалі, што паразвозілі па прытулках, па іншых гарадах. А я вам скажу, я іх вельмі і не шукала. Ну, думала, вывезла з таго пекла, хоць мне гэта і рукі каштавала, няхай ім цяпер бог памагае...

— Значыцца, па прытулках раскідалі,— быццам сама сабе сказала Вера.

— Па прытулках,— кіўнула галавою Кацярына Антонаўна.

— Але скажыце, чаму гэта вы адна з дзецьмі паехалі, больш ніхто не мог ці як? — спыталася Вера.

Яны выпілі ўжо чай, сядзелі, гаварылі, твар у Кацярыны Антонаўны паружавеў, мусібыць, ад хвалявання, успаміны абудзілі балючае.

— Я вам скажу, як пачаўся ўвесь гэты страх — бамбёжка, пажары, то ўсе нашы работнікі да сваіх сем'яў кінуліся, кожны сваю сям'ю ратаваў, шмат хто ў вёску, да радні намерыўся з'ехаць. А я была незамужняя, адзінокая, маладая, здаровая, вось мяне дырэктарка і пасадзіла з дзецьмі.— У голасе Кацярыны Антонаўны не чулася асуджэння ці крыўды, яна быццам лічыла, што тут ніякай несправядлівасці няма, кожнаму чалавеку свае дзеці бліжэй, чым чужыя.— Ды як вам сказаць... Не ведаў жа ніхто, што гэта надоўга, думалі, нашы скора вернуцца, адаб'юць немцаў. Адны паддаліся страху і ўцякалі з горада, а іншыя шкадавалі ўсё пакінуць і бегчы невядома куды. Я сама думала — вось ад'едзем крыху ад горада, на які бомбы сыплюцца, перажывем страх, а потым вернемся, нашы прагоняць немцаў. Наш шафёр таксама не палез з намі ў цягнік, застаўся пры машыне, баяўся машыну пакінуць — вернуцца нашы, скажуць — чаму пакінуў, яшчэ пад суд аддадуць... Ён так мне гаварыў...

— А дзеці, дзеці? — зноў вярталася да дзяцей Вера.— Шмат іх з вамі было? Якія ўзростам? Можа, помніце, можа, мае там былі, Несцяровічы, Несцяровічы, Коля і Міша?

Кацярына Антонаўна памалу збірала кубкі, сподачкі, ставіла іх адзін на адзін. Занесла на шуфлядку, што стаяла пры дзвярах.

— Дзяцей было трыццаць два, гэта я добра помню, бо як выскоквалі з машыны, калі яшчэ на машыне нас бамбілі, а потым у машыну вярталіся, то ўсіх кожны раз пералічвала. І ўзялі трыццаць два. Па гадах былі розныя, і пяць гадоў, і дванаццаць... Хлопчыкі і дзяўчаткі, былі там і Маня, і Коля, і Міша... А прозвішча Несцяровіч не помню... Ды мы дзяцей больш па імёнах звалі.

У Веры шумела, круцілася ў галаве, яна напружана шукала яшчэ нейкіх сцежак, дарожак, па якіх можна было пайсці, каб знайсці дзяцей.

— Скажыце, вось вы ўпаміналі дырэктарку, дзе тая цяпер, можа, ведаеце, можа, яна маіх дзяцей успомніць?

Кацярына Антонаўна неяк хмыкнула і змоўкла, быдта думаючы, гаварыць ці не гаварыць. Потым сказала:

— Старую дырэктарку вы не скора ўбачыце... Яна пры немцах настаўніцаю рабіла, як нашы вярнуліся, то яе засудзілі і выслалі...

— За тое, што настаўніцаю рабіла? — перапытала Вера.

— А няо ж... Немцам служыла...— І па голасе, і па інтанацыі Кацярыны Антонаўны не пазнаць было, ці яна пагаджаецца з такім прыгаворам, ці не пагаджаецца.— Я ж тры гады не была ў Мінску,— гаварыла яна далей.— Жыла спачатку ў Маскве, потым жыла на Урале, у Кургане, затым да Алма-Аты дакацілася... А вярнулася дадому — усё змянілася, ператрэслася, старых знаёмых амаль нікога не знайсці.

Вера ківала галавою, паказваючы, што разумее ўсё гэта, сама ж пасля Варкуты як у іншым свеце апынулася. Памаўчала, зноў вярнулася да цягніка, да эвакуацыі.

— То як вы думаеце, маглі там, з вамі, аказацца і мае дзеці?

— Усё магло быць...

Веры не хацелася, каб яе дзеці апынуліся ў тым пекле, але калі ўжо апынуліся, то каб дабеглі да цягніка, не засталіся ў полі, каб цягнік завёз іх у Маскву, каб там нарэшце іх уважліва перапісалі, завезлі ў добры прытулак, і яна знойдзе канцы. Каб толькі не разлучылі іх, братоў родных. І стаялі ў вачах — двухгадовы Міша і чатырохгадовы Коля, якім сёння, калі жывыя, аднаму дванаццаць, а другому чатырнаццаць. Жахнулася раптам: гэта ж каб убачыла іх на вуліцы — не пазнала б... Родных дзяцей не пазнала б... Але не, пазнала б, сэрца падказала б, што яны...

— Я вам скажу,— гаварыла Кацярына Антонаўна.— На Беларусі ж было шмат прытулкаў... Шмат прытулкаў пад немцамі аказалася. Ёсць у мяне знаёмая, у Бабруйску жыве, таксама ў прытулку працавала, дык іхні прытулак пры немцах заставаўся... Яна мне нядаўна пісьмо прыслала. Хто ж яго ведае, маглі і там аказацца вашы дзеці...

Вера ўхапілася і за гэтую нітачку, папрасіла ў Кацярыны Антонаўны адрас, і тая знайшла на этажэрцы канверт, на белым беражку ададраным ад газеты, Вера запісала той адрас.

Ішла дадому ўжо цёмначы, і цёмным здаваўся вялікі свет, у якім згінулі яе дзеці. Не дапамагла ёй гэтая жанчына, хоць надзеі і не забіла. Можа, дзеці жывыя, можа, іх вывезлі тым цягнікам, а можа, перавялі ў іншы прытулак, яшчэ да вайны? Ад некага чула, што былі спецыяльныя прытулкі для дзяцей «ворагаў народа», што мянялі дзецям прозвішчы, імёны, каб век не дазналіся, чые яны дзеці, і каб бацькі сваіх дзяцей не пазнаходзілі. Раней не верыла ў такое, цяпер чамусьці пачынала верыць.

І яшчэ наплыло, як змяя спавіўшы сэрца,— што ж сталася з тымі прытулкамі, якія заставаліся пад немцам? Што́ як немцы павывозілі дзяцей у Германію і пачалі іх на немцаў выхоўваць? Божачка, то, можа, яе хлопчыкі цяпер недзе ў Нямеччыне, па-нямецку гавораць і не ведаюць, дзе іх сапраўдная радзіма? Не дай бог... Не, не, вунь жа ў Бабруйску прытулак немцаў пераЖыў, дзеці тут засталіся... Сціснула ў руцэ паперку з бабруйскім адрасам, гатовая хоць сёння туды бегчы. А можа...

І пад першы ж выхадны паехала ў Бабруйск. Цягнік ішоў ноччу, вагон быў перапоўнены, яна сядзела на цвёрдай лаўцы, сціснутая з двух бакоў пасажырамі, якія спалі-драмалі, хто прыхінуўшыся да сценкі вагона, хто апусціўшы галаву на грудзі, на яе плечы то з аднаго, то з другога боку навальваліся сонныя людзі, але яна быдта не заўважала гэтага, бо сама не спала і спаць ёй зусім не хацелася, усёю душою была ўжо ў Бабруйску, спадзявалася — а раптам, усё ж можа

быць, яе дзеці там, і не ўяўляла на зямлі большага шчасця, чым прытуліць іх.

Яна знайшла той адрас і тую жанчыну — Ганну Сцяпанаўну — маленькую, худзенькую, з кароткаю стрыжкаю. Цяжка было сказаць — колькі ёй гадоў, постаццю выглядала наогул дзяўчынкаю, але на твары ўжо адбіліся сляды сталага чалавека. Сустрэла яна Веру прыветліва, як даведалася, што тая з далёкай дарогі, хацела пачаставаць сняданнем, але Вера адмовілася, есці не хацелася зусім, калаціла ад нецярпення — што-небудзь даведацца.

Ні дырэктарка ў мінскім прытулку, ні Кацярына Антонаўна не паставілі ёй у віну Варкуту, былі гатовыя дапамагчы, і тут, у Бабруйску, Вера смялей ужо расказала — чаму згубіла сваіх дзяцей.

Вочы маленькай жанчыны набрынялі слязьмі.

— Міленькая,— пацішыўшы голас, сказала яна.— І ў мяне ж такая самая бяда, і ў мяне мужа забралі, у трыццаць дзевятым, праўда, мяне не зачапілі, але засталася я з траіма дзецьмі... Большай, дзяўчынцы, было восем, сярэдняму хлопчыку пяць, а меншаму два... Я і ў прытулак пайшла рабіць, каб з тымі дзецьмі і сваіх як выкачаць... Ды, скажу вам, я і сама ў прытулку гадавалася, у Мінску, у Доме юнацтва імя Карла Лібкнехта... У нас там піянерамі і камсамолам кіравала Вера Харужая, гераіня, загінула ў час вайны... Кожны сход, які яна праводзіла, мы канчалі спевамі «Інтэрнацыянала», «Варшавянкі»... Так жа верылі мы і партыі, і савецкай уладзе, а чаму ж яны да нас такія жорсткія аказаліся?..

Ганна Сцяпанаўна гаварыла, і Вера баялася яе перабіць, тое, што яна расказвала, было, можа, і цікава, але не для таго сюды Вера прыехала, ёй трэба было дазнацца, ці не аказаліся тут яе дзеці. А Ганна Сцяпанаўна не спынялася.

— Немцы ж загадалі ўсіх яўрэйскіх дзяцей ім выдаць, а ў нас было трое яўрэйскіх дзяцей, хлопчык і дзве дзяўчынкі, але мы іх не выдалі. А потым да нас дакацілася, што немцы ездзяць па прытулках, выбіраюць самых прыгожых і здаровых дзяцей, навошта ўжо — ліха іх ведае, і наш дырэктар наклеіў на дзвярах паперку — «у прытулку тыф», дык немцы наш дом за вярсту абыходзілі.

А як нашы ўжо наступалі, прыходзіць да нас у прытулак немец і кажа: «Каб праз гадзіну дзеці былі гатовыя, прыедзем з машынаю іх забіраць». І адкуль у мяне такое ўзялося, як само выскачыла, кажу яму: «А во, нядаўна пан афіцэр ужо заходзіў, сказаў, што пайшоў па машыну». Той немец за дзверы, а я дзецям кажу: «Бягом да майго дома, хавайцеся ўсе ў садзе, пад кусты, у траву...» Так і ўратавалі дзяцей, а то ў Нямеччыну вывезлі б...

Вера ўлучыла хвілінку, калі Ганна Сцяпанаўна спынілася, запытала:

— А ці не было тут маіх дзяцей, Коля і Міша Несцяровічы, такія беленькія хлопчыкі, сінявокія, у трыццаць сёмым меншаму было два, а большаму чатыры...

Ганна Сцяпанаўна на хвіліну задумалася.

— Не, не помню... Да вайны ў нас было дзяцей чалавек сорак, і большыя, і меншыя, і дзяўчынкі, і хлопчыкі. Не, такіх не помню. І, здаецца, з Мінска нам дзяцей не прывозілі. А ў вайну да нас пачалі паступаць — калі немцы партызан расстрэльвалі, то іхніх дзяцей нам прысылалі, альбо калі арыштоўвалі матку і бацьку... Пад канец у нас было ўжо восемдзесят дзяцей. І ўсіх уратавалі... А потым дырэктара прытулку судзілі — што пры немцах у прытулку працаваў, выхоўваў дзяцей у нямецкім духу... А колькі мяне папацягалі... Таксама вінілі, што выхоўвала дзяцей у нямецкім духу... А ў якім духу мы іх выхоўвалі? Наадварот, сваіх чакалі... Ад смерці ратавалі...

— Скажыце, а цяпер у вашым прытулку тыя самыя дзеці, што

да вайны былі? — Вера ўсё-такі не траціла надзеі, а можа, Ганна Сцяпанаўна не ўсё помніць?

— Не, тых дзяцей ад нас забралі, па іншых прытулках раскідалі, цяпер у нас новыя дзеці, ведаеце, колькі сірот пасля вайны засталося.

«Няшчасная краіна,— з горыччу падумала Вера.— Тут заўсёды, ва ўсе часы поўна сірот...»

У пакой, дзе сядзелі Вера з гаспадыняю, забягалі і выбягалі дзеці — дзяўчынка, ужо велікаватая, гадоў шаснаццаці, і хлопчыкі, гадоў трынаццаці і дзесяці, дзеці Ганны Сцяпанаўны. Крыху дзіўна было Веры, што гэтая маленькая, худзенькая, як падлетак, жанчынка магла нарадзіць і выгадаваць, ўратаваць у вайну аж траіх дзяцей... І ўсе дзеці здаровыя, прыгожыя.

— Шчаслівая вы,— з зайздрасцю сказала Вера.— Дзеці з вамі...

— Ага, шчаслівая,— пагадзілася Ганна Сцяпанаўна. На гэтай шчаслівай жанчыне была выцвілая паркалёвая сукенка з латкамі на локцях, у пакоі стаялі два жалезныя ложкі, прыкрытыя шэрымі суконнымі коўдрамі, няйнакш на адным спала яна з дачкою, на другім — хлопчыкі. Яшчэ ў пакоі стаяў стол і шафа з адламанаю ножкаю, замест якой ляжала драўляная калодачка. Усё выглядала пажабрацку бедна, але жанчына зусім шчыра лічыла сябе шчасліваю, і гэта было сапраўды так.

Ганна Сцяпанаўна, здаецца, і сама перажывала, што нічым не дапамагла жанчыне, якая прыехала да яе аж з Мінска і, падумаўшы, сказала:

— Ёсць прытулак у Віцебску, у мяне там знаёмая была, не ведаю, ці цяпер яна там, але, можа...

Ганна Сцяпанаўна не сказала нічога пэўнага, але ў Веры зноў зачаплілася спадзяванне. А можа...

Яна вярталася ў Мінск зноў начным цягнікам, зноў у перапоўненым вагоне, вакол зноў драмалі-спалі пасажыры, і яна сама ўжо правальвалася ў сон, цяжэла, ападала галава, блыталіся-мроіліся вобразы, нешта нават снілася, але ўспомніць і расказаць, што праплывала праз затуманеную свядомасць, было немагчыма. Яна прачыналася і думала ўжо пра Віцебск, зноў чаплялася за павучынку надзеі, зноў тое самае — а можа...

Але і ў Віцебску яна нічога не дазналася пра сваіх хлопчыкаў. Тут ёй параілі з'ездзіць у Гомель, у Гомелі параілі з'ездзіць у Рэчыцу, і яна ездзіла ў Рэчыцу, адтуль у Полацк. І нідзе ніхто не мог нічога ёй сказаць, даваенныя дакументы прапалі, а помніць ніхто нічога не помніў, столькі дзяцей перавярнулася за дзесяць гадоў і цяпер вось поўна новых сірот, якіх вайна спарадзіла. Нічога не дазнаўшыся, яна вярталася, спустошаная, у свой пакойчык на Камароўцы.

Тачыў боль і па мужу, здавалася, каб ён аб'явіўся, то ўдваіх лягчэй было б і дзяцей шукаць, а так і пра яго ні слыху ні дыху, на пісьмы, што пісала ў тыя органы, ніякага адказу не мела.

Дома жыла ў вялікай самоце: на работу, з работы. Пайшлі чуткі, што зноў пачалі хапаць людзей, тых, каго не так даўно павыпускалі, і яна баялася, што яе схопяць зноў. Начамі прачыналася, прыслухоўвалася да кожнага гуку. Завулак, у якім наймала пакойчык, быў у баку ад шумных вуліц, начамі тут стаяла поўная цішыня, тым больш рабілася страшна, калі ў завулак заязджала машына ды блізка спынялася. Гатова была ў шафу схавацца, пад ложак залезці,ператварыцца ў муху, у мыш, каб не знайшлі, каб зноў не забралі. Не столькі за сябе ўжо баялася — вытрывала такое, чаго не вытрывала шмат людзей, нават мужчын. Колькі іх там, у вечнай мерзлаце, засталося навечна. Некалі, праз тысячы гадоў, можа, знойдуць новыя пакаленні ў той мерзлаце рэшткі людзей, як тых маман-

таў, і будуць варажыць — што ж гэта была за эпоха, які неаліт ці мезаліт, якая катастрофа, што людзей столькі ў мерзлаце аказалася. Можа, назавуць тую эпоху сталініт... Колькі людзей там пагінула, а яна вытрывала, перажыла тую доўгую халодную ноч, вярнулася. Вярнулася шукаць свайго мужа, дзяцей, калі зноў забяруць, хто іх будзе шукаць, так і згінуць навечна.

Яна зноў пісала пра мужа ў тыя органы і зноў не мела ніякага адказу, дзяцей шукала і праз міліцыю, і праз Чырвоны Крыж, пісала, калі і як іх пакінула, абмалёўвала знешнасць, хоць разумела, што дзеці цяпер зусім не такія, але якія цяпер — не магла ўявіць. З Чырвонага Крыжа, з міліцыі прыходзілі адказы на казённых бланках, казённымі словамі абвяшчалася, што Мішы і Колі Несцяровічаў у спісах дзяцей-сірот не значыцца.

Не было дня, не было вечара, каб не ўспомніла, не ўявіла Вера сваіх хлопчыкаў. Кладзецца, стомленая, спаць, заплюшчыць вочы, а ў тых заплюшчаных вачах — дзеці, як купала іх апошні раз, як намыльвала іх белыя галоўкі, як смяяўся ад лоскату Міша, калі мыла яго ножкі, як выцірала дзяцей ручніком. Здаецца, і цяпер адчувала іх мяккія далікатныя ручкі, чула пах іх чыстага дзіцячага цельца. Ведала, што не вінаватая перад імі, але чамусьці гняла віна — не зберагла... Але што ж яна вінаватая, гэта яны, яны, паганцы, той вурдалак Сталін і яго саратнічкі, гэта яны, яны... Чаму людзі маўчаць? А чаму яна маўчыць? Зашываюцца ўсе ў свае норы, як і яна. Аж задыхалася Вера ад гневу, ад злосці, ад крыўды, ад бездапаможнасці. Сама баялася сваіх думак, баялася, што нехта пачуе іх, і тады ўжо зноў не мінуць ёй Варкуты, цёмнай палярнай ночы.

Ішоў час, ішлі гады. Вера ў думках адзначала дні нараджэння мужа, хлопчыкаў. Вось Мішу ўжо пятнаццаць, а Колю семнаццаць. Божа, Колю ўжо выправілі з прытулка, цяпер яго яшчэ цяжэй будзе шукаць, праглыне жыццё. Вось Мішу ўжо семнаццаць, а Колю дзевятнаццаць, Колю ўжо недзе ў армію забралі, калі жывы...

Больш за ўсё баялася Вера, каб яе хлопчыкі, кінутыя ў гэты жорсткі, бязлітасны свет, не сышлі з людскай дарогі, не зрабіліся зладзеямі, бандытамі, не трапілі ў турму, у калонію. Баялася такое нават уявіць, адпіхала такія думкі. Хацела ўявіць іх добрымі, прыстойнымі людзьмі, але і такімі ўявіць не магла, бачыла маленькімі, такімі, як пакінула ў трыццаць сёмым.

Мяняўся час, мяняўся свет, памёр той вурдалак, аплаканы дурным народам. А хутка Хрушчоў аб'явіў, што судзілі, губілі людзей нявінных. Пачалася рэабілітацыя.

Зноў схапілася Вера пісаць — шукаць свайго мужа. Гэтым разам атрымала адказ — яе большага Мішу асудзілі на дзесяць гадоў без права перапіскі... Але мінула ўжо два разы па дзесяць, дзе ж ён?

Дзяцей лістамі больш не шукала, вунь колькі іх, лістоў, на казённых бланках і без бланкаў. Адзін адказ: прозвішча вашых дзяцей не значыцца... Можа, і праўда змянілі дзецям прозвішча і тыя выраслі, нічога не ведаючы пра тых, хто іх нарадзіў. Калі выраслі...

Змяніўся час, змянілася і Верына жыццё. Далі пакойчык у агульнай кватэры, у двух другіх пакоях жыла сям'я — муж і жонка, двое дзетак, сям'я харошая, спакойная. Яна купіла самае патрэбнае з мэблі — ложак, стол, шафу, крэслы, купіла нават тэлевізар. Вечарамі не прамінала глядзець «Калыханку» і кожны раз балюча думала, што яе дзеці такой «Калыханкі» не бачылі. Ехала ў тралейбусе, глядзела на дзетак — сыценькіх, хораша апранутых, пад ласкавым наглядам мацеры альбо бабкі, і зноў балела ў грудзях — не ведалі матчынай ласкі яе дзеці.

Аднойчы летам у час адпачынку да мора паехала — далі пуцёўку на рабоце. Бачыла, як там на пляжах дзеткі ў вадзе плешчуцца,

якая ім радасць ад гэтага, і зноў ныла ўсярэдзіне — яе дзеці не мелі такой радасці.

Яна працавала ўжо карэктарам, знялі з іх, былых вязняў, каранцін, ужо нібыта і спачувалі ім. Здаецца, можна было б пачаць нанава жыццё, з нуля. Але агледзелася і раптам убачыла, што яна ўжо старая. Сорак сем... Божачка, і калі яны набеглі, тыя сорак сем, і якая ж кабета ў такія гады можа пачынаць жыццё спачатку...

Яна разумела, што яе дзеці, калі жывыя, то ўжо дарослыя, і часам на яе нападала нешта падобнае на вар'яцтва. Хацелася неверагоднага, хацелася цуда. А раптам яе сыны, дарослыя людзі — ходзяць тут па горадзе, ездзяць у трамваях, у аўтобусах. А можа, яна спатыкалася ўжо твар у твар з большым ці з меншым і не пазналі адно аднаго. І яна пачынала прыглядацца да людзей, да маладых мужчын, шукала ў іх падобнага з тымі, маленькімі, альбо з мужам ці з сабою. І аднойчы ўбачыла. Светлавалосы, сінявокі, у акуратным палітончыку, з партфелем... Нешта было ў ім падобнае да Мішы. У тралейбусе яго ўбачыла, сядзеў, глядзеў у акно. Яна не зводзіла з яго позірку, мужчына заўважыў гэта і некалькі разоў здзіўлена на яе пакасіўся. Потым пачаў прабірацца да выхаду. Яна — за ім. Пайшла за ім па тратуары подбегам. Мужчына заўважыў яе, азірнуўся. Яна не вытрывала, дагнала, узяла асцярожна за рукаў.

— Прабачце, не палічыце мяне за дурную, але вы мне вельмі нагадалі аднаго чалавека. Скажыце, калі ласка, як ваша імя і прозвішча?

Мужчына назваў ёй нейкае зусім незнаёмае прозвішча.

— А бацькі? Хто вашы бацькі?

І надта ж хацелася ёй пачуць, што няма ў яго бацькоў, што ён сірата, рос у прытулку...

Мужчына, здаецца, вагаўся, гаварыць далей з гэтаю кабетаю ці не варта, што гэта яна яму допыт учыняе? Але нешта было, мусіць, у Верыным твары такое, што не дало адштурхнуць.

— Ну, бацька мой носіць такое самае прозвішча, як у мяне... І ў мацеры такое... Бацька выкладае ў інстытуце, маці...

— Не, хопіць, даволі... Я памылілася... Выбачайце, калі ласка...

Мужчына пайшоў, размахваючы партфелем, і Вера пасунулася па тратуары спустошаная. Міг надзеі адабраў у яе надта шмат сілы. Ішла і думала: не там шукаеш, не сярод тых шукаеш, твае дзеці, можа, абадраныя, галодныя ходзяць, можа, прыстанку не маюць, а ты такога прыняла за свайго... Хто мог вывесці тваіх дзяцей у людзі? Прытулак? Гэта толькі ў кніжках з прытулкаў выходзяць вялікія людзі, а ў жыцці...

Ішлі гады. Вера не забывалася адзначаць у думках дні нараджэння сваіх хлопчыкаў і аднойчы ўбачыла, што яе дзеці, калі жывыя, то ўжо зусім не маладыя, сталыя людзі, і каб яна знайшла іх сёння, то была б ім зусім непатрэбная. Яна была патрэбная ім маленькім, была патрэбная, калі падрасталі, але іх адабралі ў яе, кінулі ў бязлітасны, жорсткі свет, і яны згінулі там, як у бездані, і яна іх ніколі не знойдзе, і яны ніколі не дазнаюцца, хто іхнія бацькі, не дазнаюцца, што на свеце жыве яшчэ іхняя матка, сэрца якой разрываецца ад смутку і тугі.

Яна не верыла ў Бога, не верыла ў «той свет», але часамі на яе зноў наплывала нібы ачмурэнне, і яна хацела, каб быў Бог, каб быў «той свет» і каб некалі, у нейкім часе і прасторы, яна хоць там змагла б сустрэцца і са сваімі дзецьмі і з Мішам вялікім. Яны абняліся б душамі і ўжо гаманілі б, гаманілі б... Усё чыста расказалі б адно аднаму і аб сваіх жыццях, і аб тым, як сумавалі адно па адным.

Але яна разумела, што нават такой магчымасці ў яе не будзе. Няма «таго свету». І радасці, і гора — усё на гэтым. Усё на зямлі.

**АНЭЛЯ ТУЛУПАВА**

# На жаўруковай ноце

*У Крошыне. Каля магілы паэта.*

І кветак прынясём з сястрой,
І пастаім,
Штодня
Без слоў
Мы пагамонім з ім,
Даверыўшыся
Патаемнай думцы.
Так давяраўся ён калісьці
Дудцы.
Як ты даслаў нам з нематы,
Паўлюк,
Аціхлай дудкі
Пракаветны гук?
Нібы вярнуўся веснавы жаўрук.
Хоць арасеў на сёняшняй слаце,
Але ўзляцеў!
Паэт так захацеў.
Багрым, Багрым —
Грымотнае, як гром.
Валодаў ты ключом, а не пяром —
Ім адамкнуў і ліру, і цымбалы.
«Зайграй, зайграй, хлопча малы!»
Імя тваё ахоўваюць вякі.
Спакой і ты — ці ж гэта не мана?
Навучы мяне, як выдыхнуць радкі,
Якія б кожны за свае прызнаў.

# Сонца

Не кажы, што змарнаваны час.
Хай спазнаў ты проста парушынку.
Нехта часу гэтулькі прыпас,
Што зямлю абыдзе ўдоўж і ўшыркі.
Мне сказаў нядаўна той хадок,
Для сябе зрабіў ён адкрыццё:
Чалавек — вялікае дзіцё,
Век ягоны — вечнасці гадок.
Пад прыглядам сонечным расцём,
І ўсё ўгору. Не, не параўнацца.
Хочам мы да Сонца даляцець,
Каб дазнацца ўрэшце, дакапацца
Да вытокаў вечнасці. Цікава ж
Хоць убачыць ці крануць рукамі
Незгасальны сонечны вянец...

Мо й, дапраўды, Сонца — наш Тварэц?



## З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

# УСКАЛЫХАНАЯ «НАШАЙ НІВАЙ»...

*Пасля Канстанцыі Буйло засталася не вельмі багатая паэтычная спадчына. Многае з таго, што не было выдадзена і мела б цікавасць для чытача, не дайшло да нас. Амаль увесь свой архіў, у тым ліку найкаштоўнейшую яго частку — дакастрычніцкую, пісьменніца знішчыла. Звязана гэта было з рэпрэсіямі 30-х гадоў, калі арыштавалі і расстралялі яе мужа Віталя Калечыца, калі пагроза арышту вісела над самою Канстанцыяй Антонаўнай, жонкай «ворага народа». Цудам ацалелі два старыя сшыткі, у якія паэтэса запісвала свае раннія вершы. Большасць з іх увайшла ў «Курганную кветку», ёсць і такія, што друкаваліся толькі ў «Нашай ніве» ці іншых тагачасных беларускамоўных выданнях. Некалькі вершаў я знайшла ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы. Пра іх мне расказала Зоська Верас. У белым прадаўгаватым канверце я налічыла сем вершаў К. Буйло. У 1912 годзе яны былі адрасаваны ў «Нашу ніву» на імя «вяльможнага Вацлава Ластоўскага».*

*Пасля пераезду ў Маскву ў 1923 годзе Канстанцыя Буйло доўга не выступала ў друку. Але пісаць усё ж не кінула. Пісала «для сябе». У паэтычных радках выказвала свае перажыванні, выкліканыя цяжкімі жыццёвымі нягодамі, жорсткасцю «народнай» улады. Вядома ж, пра публікацыю такіх твораў нельга было і думаць. Нават трымаць іх дома было небяспечна. Усё ж некаторыя з тых твораў неяк захаваліся. У час «хрушчоўскай адлігі» Канстанцыя Буйло пачала пісаць і для друку, пісаць пра самае набалелае. Але найбольш вострыя вершы паэтэсы і цяпер былі «непажаданыя». Калі яны і друкаваліся, то са шматлікімі «купюрамі». У Канстанцыі Антонаўны захоўвалася цэлая папка такіх твораў. Папка мела вельмі выразны надпіс — «Пакалечаныя вершы». Гэта ў асноўным творы, у якіх «цвёрдай» рэдактарскай рукой выкрэсліваліся строфы, дзе ўпаміналася Калыма, гаварылася пра бязвінныя чалавечыя ахвяры, абвінавачваліся каты.*

*У асабістым архіве К. Буйло захаваліся таксама пісьмы, на жаль, толькі з пасляваеннага часу. Сярод яе адрасатаў — родныя, блізкія, а таксама і незнаёмыя людзі, якім яна пісала ў адказ на іх пісьмы.*

*Шмат пісем адрасавана малодшай сястры Іне Антонаўне, якую паэтэса ўзяла пад сваю апеку і з якой як з лепшым сябрам дзялілася сумненнямі і радасцямі, усім, што было на сэрцы.*

*Асаблівыя адносіны звязвалі Канстанцыю Антонаўну з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч, якая прывяла яе некалі ў «Нашу ніву», пазнаёміла з Янкам Купалам. Пасля смерці Янкі Купалы ў 1942 годзе Уладка, як звала яе К. Буйло, жыла некаторы час на Ціхвінскім завулку ў Маскве, а калі пераехала ў Мінск, частай госцяй была ў яе Костка. Праз Уладку была яна ў курсе ўсяго, што рабілася на Беларусі, адчувала тут сябе сваёй, ведала, што ёсць у яе родная душа. Балюча і няўцешна перажывала К. Буйло смерць сяброўкі. Пра гэта — многа ў пісьмах да Марыі Канстанцінаўны Хайноўскай, якая яшчэ да вайны была сваім чалавекам у доме Купалы.*

*Канстанцыя Буйло перапісвалася з Міхасём Лыньковым, а калі ён памёр, з яго жонкай Соф'яй Захараўнай. Сярод тых, каго любіла К. Буйло і каму давярала, была паэтэса Ніна Тарас, чыю творчасць яна высока цаніла за шчырасць і паэтычнасць. У адным з пісьмаў да Ніны Тарас Канстанцыя Антонаўна дае адказ на шматлікія пытанні і сумненні наконт таго, як пісаць яе прозвішча — Буйла ці Буйло. Так, сапраўды больш арганічна па-беларуску гучыць прозвішча Буйла. Але, відаць, варта лічыцца і з думкай і жаданнем самой паэтэсы.*

*Канстанцыя Буйло перапісвалася з Эдзі Агняцвет, з Сяргеем Новікам-Пеюном, Алесем Пальчэўскім, Станіславам Шушкевічам і многімі іншымі. Яе цікавіла ўсё, што адбываецца ў пісьменніцкім асяроддзі, прасіла не забываць яе, не пакідаць без сяброўскай падтрымкі.*

*Я сябравала з Канстанцыяй Антонаўнай апошнія дзесяць гадоў яе жыцця. У 1971 годзе яна згадзілася, каб пра яе была напісана кніжка. Праз год у «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» выйшла напісаная мною невялікая кніжачка «Люблю» пра жыццё і творчасць паэтэсы. Канстанцыя Антонаўна засталася ёю задаволена. У 1981 годзе з удзелам рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», з дапамогай Максіма Танка, Ніны Тарас, Анатоля Вярцінскага выйшла ў свет двухтомнае выданне твораў Канстанцыі Буйло.*

*Вядома, найбольш вострыя, па-грамадзянску мужныя творы паэтэсы не трапілі і ў гэтае прадстаўнічае выданне. Час для іх тады яшчэ не прыйшоў.*

*Найбольш цікавыя з тых неапублікаваных твораў, як «дарэвалюцыйнага», так і савецкага часу, а таксама ўзноўленыя арыгіналы асобных «пакалечаных вершаў» прапануем сёння ўвазе чытача. Падаём таксама частку эпісталярнай спадчыны Канстанцыі Буйло (асобныя пісьмы друкуюцца ў маім перакладзе з рускай мовы).*

**Дзіяна ЧАРКАСАВА**

## КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛО



Стаіць хвоя ў полі,
Думае панура:
Што тады з ёй будзе,
Як спануе бура?

Як тужліва хмары
Паплывуць па небе,
Як застогне вецер,
Веткі пацярэбе?

Ох, тады нямала
Пагубляе сілаў,
Не раз сведкай будзе
Не аднэй магілы!

Адно маю веру,
Што заблісне сонца,
Лёгка ў сваім краю
Будзе жыць сасонцы!

1909

# На чужыне

Ціха снег сыпле, белы сняжыначкі
круцяцца, ўюцца.
Думачкі ж думкі, чорныя думкі
зважна снуюцца.
Адзін я бедны тут на чужыне
век каратаю.
Там, дзе чакае родная матка,
бацька старэнькі.
Гдзе брацця, сёстры, мая кахана
ёсць дзяўчыненька.
Ці ж давядзецца мне тых пабачыць,
што так кахаю?
Сып жа, сняжочак! Мо ветрык павее
з роднага краю!

Ой, вецер, вецер, што над ваконцам
маім галосіш?
Якія весткі з роднага краю
ты мне прыносіш?
Занямог, можа, бацька мой
або матуля?
Ці, можа, замуж ідзе за другога
мая Гануля?
Не кажа вецер! Толькі снег круціць,
сняжынкі ўюцца,
Думачкі-думкі, чорныя думкі
зважна снуюцца.

1910

## Пралеска

Шчэ сонца чуць-чуць прыгравае,
Снег гурбамі ў лесе ляжыць,
А сіняе вочка пралескі
Важна на сонца глядзіць.

Чаго ж паспяшалася, кветка?
Хавайся ў зямлю ты глыбей.
У нас тут зіма йшчэ пануе
І сцюжай марозіць сваей.

1911

## З выраю

Лятуць да нас, лятуць яны
З далёкай цёплай стараны.
Нясецца крык іх над зямлёй.
Бо бачаць край ўжо родны свой.
Прывет з далёкай стараны
Нам радасна нясуць яны,
І ў крыку тым здаецца мне
Аб цёплай кажуць чужыне:
«Не страшыць стужай там зіма,
І злых марозаў там няма,
А кветкі вечна там цвітуць,
У гаях птушачкі пяюць.
Густой адзетыя ліствой,
Штось шэпчуць дрэўцы між сабой,
У іх цяні руччы бягуць
І птушкі райскія жывуць,
Што, хвост спусціўшы над зямлёй,
Гараць, як кветкі, між ліствой.
Паміж красуючых садоў,
Як рой маленькіх матылькоў,
Калібры гнёзды дзеткам ўюць,
Газэлі лёгкія жывуць.
Скажыце, птушачкі, вы мне,
Што ж не жылі ў той старане?
З краю, што завецца земскі рай,
Вы лецяце ў наш сумны край».
Здалёк ледзь чутна крык ляціць:
«Хоць добра у краю тым жыць,
Хоць век пануе там вясна,
Мілей нам родна старана.
Тут маткі гнёзды нам вілі,
Сярод лясоў тых мыраслі,
Тут гадавалі нас яны,
Сюды ляцім мы штовясны».

Вішнева, 1911

# Увосень

Смутны ты, вобраз роднай краіны,
гэтай парой:
Густа пакрыты лагі і даліны
дробнай імглой.
Носяцца хмары па небе бясконца,
дожджык пыліць.
Вецер галінамі яблынь ў ваконца
сумна стучыць.
Выйдзеш у поле — сумна наўкола,
толькі парой
Галкі садзяцца ў рады невясёла
дзесь над раллёй.
Крыллі лапочуць, і голас пануры
у вушы ляціць.
Мусі, вяселле ці то хаўтуры
сталі рабіць?
Вось апавіты стаіць пад гарой
лес глухатой
І ў раздум'і трасе галавой
лысай, сівой,
Лістом пажоўклым курчавай вяршыні
ўсё шапаціць
І ці пракляццем, ці то малітвай
падчас шуміць.
Мыюцца сцішна над рэчкай вярбіны
мутнай слязой.
Смутны ты, вобраз роднага краю,
гэтай парой.

1913



Вы просіце песні — ды сэрца збалела
І больш ужо іх не пяе.
Душа пад цяжарам цярпення самлела,
І песні не льюцца з яе...
Вы просіце песні?.. Калісьці у гаю,
Я помню, саловачка пеў.
Цяпер гдзе салоўка, ніхто з вас не знае,
Куды і чаго паляцеў...
Ці холад, ці голад, ці ястраб, смерць, можа,
Салоўку са свету звялі.
Вы помніце толькі, што пеў ён прыгожа
Калі ўсё цвіло на зямлі...
Калісь, як салоўка — дзяўчына з-пад вёскі
Так звонка умела пяяць.
Аж рэха любіла нясці адгалоскі
І слоўцаў канцы паўтараць.

Цяпер гдзе дзяўчына — хто знае, хто скажа?
Каго зацікавіць, каго —
Чыя пагубіла яе рука ўража.
Дый што бы каму да таго?..
Я знаю... скажу я... Аб беднай дзяўчыне
Мне хочацца вам расказаць.
Яе доля выгнала з хаты ў чужыну
І хлеба, і працы шукаць.
І ў шчаснай пары красы дзіўнай дзявочай
Спаткаўся благі чалавек.
Раз глянуў — а бачце, ліхія меў вочы! —
Прапала дзяўчына навек.
З тых пор яна болей ужо не пяяла,
А сохла, як цвет пад касой,
У вочах людскіх нікла, краса яе звяла,
Пакончыла ўрэшце з сабой...
А ўсё тыя вочы, нягодныя вочы,
А ўсё той благі чалавек,
Што так без пары ссушыў сэрца дзявоча,
І дзеўча прапала навек...
А мне, бачце, шкода... дзяўчаці жалею,
І сыплюцца слёзы з вачэй.
Вы просіце песень? Пяяць я не ўмею.
Паплачу — то будзе лягчэй...

1915



Сэрца, сэрца — ты, можа, заснула?
Цішыня навакола настала —
Не чуваць крыві палкага гулу,
Не грахочуць пачуццяў абвалы...
Цішыня...
Можа, смерць гэта,
можа,
Не ачнецца яно ўжо ніколі,
І нішто ўжо яго не ўстрывожыць,
І не будзе ні шчасця, ні болю...
Як спакойна!
Як страшна!
Дарэмна
За вокнамі вясна верхаводзіць.
У якойсьці дрымоце нікчэмнай
Дні і ночы тупыя праходзяць.
Не — о не!
Не хачу я —
не буду
Жыць у гэтым застыўшым спакою.
Выбаўлення чакаю я цуду,
Няхай громам грыміць нада мною,
Хай мяне скалыхне — як бывала,
Хваляваннем да болю гарачым,
Хай і горам вялікім — ці малым,
Толькі сэрца хай б'ецца і плача,

Няхай будуць і шчасце і гора,
Няхай будуць і слёзы і мукі,
А не гэта бяссілле...
з пакорай,
Абамлелае сэрца і рукі.

1937

## Адчай

Сонная муць мне ахутала вочы,
Мозг апавіла туманамі сну.
Не, не сустрэць мне у полі вясну,
Сэрца ні біцца, ні жыць больш не хоча.
Цяжка падняць мне стамлёныя вейкі,
Цяжка мне рукі угору падняць.
Тут не памогуць ні доктар, ні лекі,
Мукі такой не суняць.
Ты нежывы... Дагарае, як свечка,
Сэрца маё. Шчасця болей няма.
Так замірае бурлівая рэчка,
Калі ёй хвалі сцінае зіма.
Ты нежывы. Сэрца біцца не хоча.
Хай жа і я тут навекі засну.
Ці дачакаю я збаўчага сну?
Хай бы прыйшоў — і заплюшчыў мне вочы.

1937

## Вербы

Не шуміце, вербы, над вадою,
Не раняйце лісце залатое.
Ў вашым шуме сумнай скаргі многа
Аб згаранні лета залатога.
Раз-паразу роніцца дадолу
Лісце з шэлестам ціхім і кволым.
Зімка снегам ногі вам атуліць,
Апране у белую кашулю,
Ўсе галінкі інеем адзене.
У зямельцы зберажэ насенне,
Каб вясной шумелі вы вясёла,
Над вадой устаўшы стройным колам.

1938



I

Далёка за вёскай іграе гармонь,
То звонка, то ціха, працяжна.
Мы выйшлі з табою — далонь у далонь,
Ты ў вочы глядзіш мне уважна.

«Я думаў, няўжо не пазнаеш мяне,—
Сказаў ты з усмешкай лагоднай.—
Я доўга пражыў у чужой старане,
Свая мне тым больш стала роднай...

А ты як жыла?..» Помню вечар такі...
Стаялі мы побач ля мора.
Плылі параходы, і іх аганькі
Хісталіся ў шызых прасторах.

Маяк загараўся штохвілю і гас,
Мігаючы вокам чырвоным,
А з палуб далёкіх ляцелі да нас
Мелодый святочныя тоны.

У парку прыморскім згусцілася цьма.
І ў гэтым чароўным сутонні
К табе галавой я прынікла сама,
Адчуўшы твой подых на скроні...

Ты скора паехаў кудысь на заход,
У энскі атрад пагранічны,
А потым — пісаў, два-тры разы у год,
Аб нашым спатканні нязвычным.

І — раптам замоўк.
Прахадзілі гады.
Прыцьмілася прошласць сутоннем,
І сцерліся ўсе успамінаў сляды,
Каб зноў уваскрэснуць — сягоння.

Забытыя годы чаргою ідуць
І сэрца ўспамінамі раняць...
Усё шчасце жыцця — і ліхую бяду —
Я бачу, нібы на экране.

## II

Спаткала ў жыцці я такую любоў,
Якая не многім даецца.
Як казка, як чары праменныя слоў,
Яна апавіла мне сэрца.

Як добра, як шчасна мы з любым жылі
У тыя нялёгкія годы.
Калі мы з разрухай бой трудны вялі,
У баях адстаяўшы свабоду.

Тады нам не раз не хапала ўсяго
І хлеба падчас не хапала.
І ўсё ж — у каханні бязмежным яго
Мне шчасце нязменнае ззяла.

Мы так працавалі! Ён быў аграном,
Наладжваў паўсюды калгасы,
Я — сына расціла, ўлаштоўвала дом,
Хапала і сіл мне і часу.

З любімым да позняе ночы сядзець,
Яму памагаючы ў працы.
Мы звыклі ўсім цяжкасцям ў вочы глядзець,
Нічога ў жыцці не баяцца.

А годы ішлі... Мы расцілі сынка
І верылі ў шчасце упарта.
— Народная доля — ў народных руках,
Тут толькі працуй,—
і — не жартам —

Казаў мне любімы: — Да шчасця ідзем
Цяпер гулівераўскім крокам,
Пры гэткім уздыме працоўных людзей —
Ад нас камунізм недалёка!..

А потым... Прыйшла тая чорная ноч...
Зацьміўшая дзень наш багаты.
Пагасіўшы ззянне прамяністых воч —
Любімага вывелі з хаты...

Заціснулі шчасце маё у турму,
І ганьбы бязмежнай пракляцце
Лягло мне на плечы — і сыну майму,
Ды мрок той мне свету на засціў...

Пайшла працаваць — і ўсю сілу душы
У працу — для шчасця народа —
Уклала... І толькі ў начное цішы,
Я плакала — доўгія годы...

Загінуў любімы, не ведаю дзе,
Ніхто мне пра гэта не скажа,
Загінула многа нявінных людзей,
Ад сілы навіснае, ўражай...

Вось так я жыла... А цяпер — памаўчым,
І больш не пытайся, мой дружа...
Час — доктар, умее ён раны лячыць
І сэрца змярцвелае ў сцюжы.

1947



Гоніць мора грозныя валы
І кідае іх на бераг скальны.
Разбівае глыбы вод крыштальных
На фантаны кропелек малых...

Бушавала гэтак злая сіла,
Няўмольнай, згубнаю была...
У Калыме ты дальняй згінуў, мілы,
Там завея след твой замяла.

Колькі б ні шукала я сягоння,
Не знайсці мне магілкі тваёй,
Не паплакаць горасна над ёй,
Звон ільдзін над ёю толькі звоніць.

Лёг ты там бязвінна не адзін —
Уяўленне горкага бяссілля
Спіць з табой навек у той магіле,
Скованае холадам ільдзін.

І не дойдзе вестка да цябе,
Што ніякі ты ужо не «вораг»,
Што бязглуздым было наша гора,
Як вось гэтых дзікіх хваль разбег.

Мы да светлай праўды дажылі:
Мы — не сем'і больш «людзей варожых»,
Якіх кожны ўраз знявечыць можа...
Нам праменні праўды расцвілі!

Хай той бляск ільды магіл агорне,
Дзе заснулі вы пакутным сном,
Горкіх мук пазбыўшыся даўно —
Сёння пазбыліся ганьбы чорнай.

З ганьбай гэтай чэсны чалавек
Жыў — як у трызненні гарачковым...
І не чуў нідзе спагады слова,
Моўчкі зносіў той нялюдскі здзек...

Сёння дзікі той дурман змяло.
Глянулі мы сонцу праўды ў вочы...
Толькі к вам, у вашай чорнай ночы,
Не праб'ецца гэтае святло.

З душ застылых праўда не звядзе
Плям хлусні, з якой спіце вы вечна...
Колькі мукі горасчай, сардэчнай
Запяклося у грудзях людзей!

1962



Чайныя ружы ў мяне на стале,
Свецяцца квола ў вячэрняй імгле,
Свецяцца бляскам сваім залацістым,
Дыхаюць водарам тонкім і чыстым.

З пахам у сэрца маё, быццам госць,
Смела ўваходзіць мая маладосць,
Сны мае будзіць, ўзнаўляе падзеі,
Думы і мары, жаданні, надзеі...

Бачу я тых, што навекі зляглі
Спаць беспрабудна ў халоднай зямлі.
Вось — мая Уладка! Мой родны Купала...
Радасць жывая ў вачах іх заззяла,

Бачыць жыццё наша радасна ім...
Вось мой Віталі ідзе маладым,
Кінуў ён далі халоднай Калымы,
Дзе над ім горасна плакалі зімы.

Не, ён не «вораг». Ён друг нам і брат,
Ідзе — вызваленню шчасліваму рад...
Сэрца маё пазбываецца мукі,
Горача я прасціраю к ім рукі,

Горача іх я да сэрца тулю,
Іх я навекі ўсім сэрцам люблю!
Пах гэтых руж, як вясна, малады,
Сціпла закрэсліў старыя гады...

Бачу я блізкіх — і цяжкае гора
З сэрца сплывае, як чорная змора...
Веру я ў шчасце.
                    Бо — ў шэрай імгле —
Свецяцца ружы ў мяне на стале.

1964



Ты шчырасцю песні хвалюеш душу,
За сэрца кранаеш глыбока.
Слязою я боль успамінаў гашу,
Сум долі маёй адзінокай.

Спявай! Палягчэнне мне песня дае,
Душа тваім гукам адкрыта,
Жыццё ў ёй тлумачыць загадкі свае,
Гадамі ў туманы спавітых.

А розумам трудна, браткі, зразумець
Што скрыла ў сабе таямніца —
Калі можна толькі маўчаць і цярпець,
І думаць, што сон табе сніцца.

Што толькі ачнуцца — і згіне усё,
Уся жудасць адразу загіне...
А мы і сягоння здагадкі нясём
Аб мужу, ці брату, ці сыне...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

За што і навошта прапалі яны
У калымскай сняжыстае далі?
Савецкай дзяржавы, народа сыны,
Завошта іх там забівалі?

Чаму нам не скажуць, дзе косці ляжаць
Людзей нашых родных і блізкіх?
Чаму і сягоння маўчання пячаць
На справах нягоднікаў слізкіх,

Якія і сёння жывуць паміж нас,
І суд іх ніякі не судзіць...
О, людзі, о добрыя людзі,
Якая ж кароткая памяць у вас!

1965

Да сына Яўгена

Родны мой Жанюрка!

Учора атрымала тваё пісьмо, дзе ты пішаш, што твой страўнік здольны пераварваць цвікі, але не супакоілася. Прыкметы пякотак, ванітаванняў, болю — дрэнныя прыкметы, незалежна ад апетыту. Тым больш усе кашы, з'яўляючыся дыетычнай ежай, не павінны выклікаць хваравітых з'яў. Таму мой табе наказ: страўнікам заняцца сур'ёзна і — аб наступным мне давесці.

У мяне 11-га сакавіка г. г. быў вельмі ўрачысты і знамянальны дзень. Нават пазваніў мне старшыня Саюза савецкіх пісьменнікаў т. Лынькоў і паведаміў мне, што вечарам адбудзецца нарада Саюза пісьменнікаў, на якой будуць прымаць мяне, і прасіў мяне быць на нарадзе. Я, вядома, выказала задавальненне, папракнуўшы яго, што прыём занадта запозніўся. Ён сказаў, што за ўвесь гэты час Саюз збіраўся толькі аднойчы. Маё пытанне было пастаўлена на парадак дня — але вырашана не было, таму што не маглі дазваніцца да мяне. У 7 гадзін адбылася нарада, на якую сабраўся не толькі прэзідыум Саюза — але і ўсе прысутныя ў Маскве члены Саюза. У вельмі ўрачыстай абстаноўцы адбылося пасвячэнне мяне ў пісьменнікі. Сход адкрыў Лынькоў, паставіўшы першым пытаннем маё. Аб сацыяльным маім паходжанні гаварыла Уладка. Аб маім літаратурным шляху выступалі многія, зусім незнаёмыя мне тады, і гаварылі з веданнем справы. Паэт-ардэнаносец Глебка расказаў аб маёй творчасці на тэмы Айчыннай вайны, паведаміўшы, што ідзе ў бліжэйшым нумары часопіса «Беларусь» мая паэма, якой дадзена высокая ацэнка як аб эмацыянальнай, з яркімі вобразамі, прасякнутай глыбокімі пачуццямі партызанскай паэме. Выступалі кампазітары. Гаварылі аб тым, што многія мае вершы пакладзены імі на песні, якія спявае Беларусь. Усе выступаўшыя паўтаралі, што мне даўно павінна было быць прадастаўлена належнае месца ў Саюзе пісьменнікаў. Галасаваў спачатку прэзідыум: адзінагалосна. Галасавалі ўсе члены Саюза: адзінагалосна. Галасаванне скончылася авацыяй. Пасля ўстаў старшыня Лынькоў і павіншаваў мяне, горача паціскаючы мне рукі. За ім пачалі паціскаць мне рукі ўсе члены прэзідыума і ўсе іншыя таварышы. Сакратар Броўка, паэт, двойчы ардэнаносец, крыў: «А, цяпер ты ў маіх руках. Я павінен аформіць цябе, забяспечыўшы білетам і літэрнай карткай «Б». Я засмяялася: «Я шукала ў вас маральнай падтрымкі, а вы пад яе падводзіце матэр'яльную базу».— «Дух без цела мёртвы ёсць,— заявіў Броўка.— Паэзія павінна сілкавацца, каб жыць».

Атмасфера стала цёплай і дружалюбнай. Слухалі чытанне п'есы Кучара аб дзецях партызана Міная. П'есу крытыкавалі ў дэталях,

але ўвогуле — адобрылі. 2-гі Беларускі Дзяржтэатр прыняў яе да пастаноўкі. Учора дома ў мяне святкавалі гэтую ўрачыстасць. Была Іна, Уладка, Глебка, Броўка і іншыя. Сёння мяне павіншавалі на рабоце. Словам, усё пакуль добра, аб чым табе і дакладаю. Цалую цябе вельмі моцна і прашу мне пісаць. Яшчэ раз цалую вельмі моцна.

Твая мама.

13/III-44

Да Уладзіславы Францаўны Луцэвіч

Родная, дарагая мая Уладынька!

Атрымала тваё пісьмо «на машынцы», прачытала з задавальненнем. Што ты задаволена сваёй паездкай у Ленінград, а з яшчэ большым тое, што ты збіраешся ў Маскву. Вельмі хочацца цябе пабачыць. Газеты атрымліваю, дзякуй табе, мая родная. Быў у мяне некалькі разоў Міхась Ганчарык, ён заўсёды пасылае табе вельмі сардэчныя прывітанні. Заходзіў да мяне, якраз у дзень, калі быў Ганчарык, Лужанін. Абрадавалася яму надзвычай. Як быццам нехта вельмі родны прыехаў «з дому». (...)

Мае ўсе жывыя і здаровыя. У сувязі з новым законам аб прапісцы прыязджаючых на працягу 24 гадзін — дом адразу апусцеў. Жывём мы толькі з маім Віцюшам. Жэня паехаў да жонкі на дачу (яна ў нас не прапісана). Люцік і Людачка — на Лугавую, а мы кейфуем удваіх на ўсю кватэру.

Настрой у мяне дрэнны ў сувязі з нявысылкай нікім грошай. Не ведаю, можа, яшчэ заплацяць па 1/10. Гэта таксама можа стацца — тады і чакаць няма чаго. Гэта перашкаджае нават пісаць. Здаецца, што ні я, ні мая творчасць нікому не патрэбны, а гэта не ўзнімае настрою да творчасці. Інка і Віцюша шлюць табе масу самых сардэчных пажаданняў і сардэчныя прывітанні. Пішы мне часцей, а яшчэ лепш — прыязджай, дарагая, вельмі хачу цябе бачыць, проста страх. Маё сардэчнае прывітанне ўсім нашым...

Цалую цябе пяшчотна. Твая заўсёды Костка.

Масква, 28/1—48 г.

Да сястры Іны Антонаўны Буйло

Мілая мая Іначка і ўсе іншыя, таксама мае мілыя!

Атрымала тваё пісьмо і вельмі ўзрадавалася, што ў вас ўсё добра, усе здаровыя і шлю вам усім кранальныя прывітанні. У мяне вялікая падзея, якая вельмі мяне ўсхвалявала. Сабраўшыся з духам, я нядаўна пазваніла следчаму Мальцаву, які вёў судовую справу Віталя. І ўяві маё хваляванне, калі ён паведаміў мне, што 29-га ліпеня, у панядзелак, справа разбіралася ў Маск. Гар. Судзе, і суд вынес Віталю поўнае апраўданне. Ён па тэлефоне вельмі цёпла павіншаваў мяне з тым, што ўсё ў маёй заяве пацвердзілася. А сёння я ўжо заказным пісьмом з Гарсуда атрымала за пячаццю наступнае:

«Даведка.

Справа па абвінавачванню Калечыца Віталя Адольфавіча перагледжана Прэзідыумам Маскоўскага Гарадскога суда 29 ліпеня 1957 г.

Пастанова Калегіі ОДПУ ад 29 верасня 1933 года адменена, а справа ў адносінах Калечыца Віталя Адольфавіча, 1890 г. нараджэння, справаводствам спынена за недаказанасцю абвінавачвання.

Старшыня Маскоўскага Гарадскога Суда Л. Громаў».

I нават фармулёўка лепшая, чым у першым атрыманым мною рашэнні аб рэабілітацыі. Я, дарэчы, выказвала сваё абурэнне ў следчага, што рэабілітацыя выказана так няясна. Я цэлы дзень праплакала і ад радасці і ад гора. Дваццаць пяць гадоў неслі мы цяжар гэтай незаслужанай заганы. Тры разы здымалі з работы мяне, тры разы Жэню. I ўсё ж праўда перамагла. Ганаруся гэтым. Светлая памяць Віталя ачышчана ад бруду. Ён чысты і цудоўны, як і быў у жыцці. А тыя, хто ўтоптваў яго ў бруд, загінулі, і іх памяць ачышчана не будзе, не! Мальцаў сказаў, што я магу патрабаваць, каб мне вярнулі ўсё, што ўзялі ў час арышту, што я магу патрабаваць даць мне ўсе звесткі аб ім — дзе ён памёр, дзе пахаваны, дзе ён жыў і як. Заўтра пайду на Лубянку па гэтыя звесткі. Ты і не ўяўляеш сабе, Іначка, як паўплывала на мяне ўсё гэта. Вельмі добра, што ўвесь час, цэлыя два дні, са мной быў Жэня. Ён нават стаяў у кабіне пры мне, калі я званіла следчаму. Ён хацеў сам пазваніць яму, бачачы, што я хвалююся. Але я яму не дазволіла. I вось. Я доўга не званіла, а тут не магла не званіць. Яшчэ да прыезду Жэні я знайшла тэлефон Мальцава і вырашыла званіць. Адзін дзень — не дазванілася. Назаўтра пайшла зноў і дазванілася. Размова была кранальна цёплай. Мальцаў усё мне падрабязна расказаў. (...) Выкрыта поўная неабгрунтаванасць абвінавачванняў, выкрыта з поўнай відавочнасцю па яго заяве. Збіраліся ўсе даведкі, правяралася кожнае слова, і нідзе не выяўлена ніводнага факта, ніводнага дакумента, якія пацвярджалі б віну Віталя ў чым бы там ні было.

Я хаджу як п'яная. Гэта нешта, што перавышае сілы чалавечыя. Праўду не закапаеш. Яна выйдзе наверх пры ўсіх акалічнасцях. Шкода, што позна. Шкода, што Віталя ўжо няма, і ён не можа адчуць шчасця волі і ачышчэння ад бруду подлых людзей. Няхай зямля ляжа на іх каменем!

Фестываль ідзе. Я цэлымі днямі на стадыёнах, у парках, дзе адбываюцца канцэрты і спаборніцтвы. Стамілася нават. Пішы, Іначка. Як вы там жывеце?

Цалуем усе вас усіх моцна.
Я цалую таксама
Твая Костка.

Масква, 7/VII—57 г.

Да Марыі Канстанцінаўны Хайноўскай

Дарагая мая Марыйка!

Атрымала тваё сумнае пісьмо, і сэрца аблілося крывёю. Мне вельмі балюча ад усведамлення, што Уладка так сур'ёзна хворая і не шкадуе сябе ніколькі, трацячы рэшту сваіх сіл са шчодрасцю багацея, які валодае невычэрпным запасам гэтых сіл. Што гэта? Няведанне сапраўднага становішча спраў? Абыякавасць да магчымага зыходу? Захапленне работай да самазабыцця? Усё гэта трагічна, паколькі вядзе да гібельнага выніку. Няма ні дня, ні мінуты, ні гадзіны, каб я пра яе не думала з такім болем, з такой трывогай, што я табе гэтага перадаць не магу. Бора і ўсе нашы стараюцца мяне ўгаворваць, што, маўляў, непазбежнага не мінаваць, але гэта яшчэ больш мяне хвалюе, і я зусім страчваю спакой. Я не думала нават, што такая моцная мая сувязь з ёю. Як быццам усе яе пакуты рыкашэтам б'юць па маіх нервах, і я хварэю разам з ёю, толькі душэўна. Іду на далёкія прагулкі адна, усё перажытае паўстае ў памяці, быццам нехта круціць плёнку ўсяго майго жыцця перад вачыма. Вялікае месца займае Уладка на гэтай

плёнцы, асабліва ў маладыя гады мае. І ўсё жыццё, я заўсёды, пры ўсіх абставінах помніла, што недзе ў мяне ёсць Уладка, мая апора, мая гавань, мая сіла, верны сябра і таварыш. Няхай гэта была мая выдумка. Няхай я ў гэтыя гады рэдка сустракалася з ёю, не атрымлівала і не пасылала пісьмаў, не мела ніякай дапамогі рэальнай. Адна свядомасць, што яна існуе на свеце, надавала мне мужнасць пераносіць усе нягоды і ўсё гора, якія шчодра выдзеліў мне ў долю лёс. Вось цяпер я і ўспамінаю ўсё перажытае, і іншы раз міжвольны стогн вырываецца з грудзей, і я спалохана азіраюся, ці не чуюць яго прахожыя, ці не здзіўляюцца такому выяўленню пачуццяў жанчыны, якая брыдзе адзінока ў глыбокай задумлівасці. Уладка, Уладка. Занадта многа звязана з ёй і добрага і цяжкага і дрэннага, але адно было нязменным — маё шчырае і глыбокае пачуццё прывязанасці да яе. А яна была ўсякай. А я помню яе, больш верна хачу помніць толькі такой па-мацярынску чулай, арганічна звязанай са мной, якая любіць мяне. Яна як маці, ў мінуты свае добрыя, унікала ў маё жыццё як ніхто, умела так глыбока закрануць самыя набалелыя пытанні, так разумна развесці бяду цяжкіх сумненняў і душэўнай трывогі, быць надзіва сваёй, роднай, блізкай.

Вось таму я не ўяўляю сабе існавання свайго пры думцы, што не будзе Уладкі, не будзе... У маёй свядомасці не ўкладваецца такое. І ва ўсіх маіх пісьмах я як апантаная ўнушаю ёй волю да пераадолення хваробы. Як заклінанне гучыць мая малітва, якая, перакладзеная на простую мову, гучала б: «Жыві, Уладка, дзеля ўсяго святога, жыві, родная, жыві, што б там ні было! Мне страшна без цябе. Увесь свет апусцее для мяне, калі не стане цябе, мая дарагая Уладка!» Гэта ўжо псіхоз, вядома, але я ва ўладзе яго, і нічога не магу з сабой зрабіць. Яна ўвесь час скардзіцца на адзіноту. Я так рада, што ты бываеш у яе, дарагая Марыечка. Вядома, ніхто з нас ёй памагчы не можа. Яна піша мне, каб я да яе прыехала. Але я ж ведаю, што праз гадзіну пасля майго прыезду я ўжо буду стамляць яе, якія ўжо госці ў такім стане. Бедная мая Уладка! Усе людзі ў такім становішчы адзінокія. Я б рукі пад яе падклала, душу б ў яе ўдыхнула, а што я магу зрабіць. Толькі хадзіць вось так у поўнай разгубленасці, заходзячыся ад болю. Вось упершыню вырвалася тое, чым поўная я цяпер, Марыечка! Дзякуй табе за часопісы. Надрукаваны у ім толькі першы абзац майго верша, і ён, абкарнаны, бязглузды, гучыць дзіка. Як яны маглі так знявечыць мой любімы верш! Бессаромныя людзі!

Бора абдымае Вас моцна. Цалуем Вас сардэчна. Ваша Костка і Бора.

Масква, 10/1—60 г.

Дарагая мая, родная Марыйка!

Дзякуй, галубчык мой, за выкананне просьбы, за добрае, душэўнае пісьмо, што выклікала ў мяне гарачы паток слёз — упершыню пасля пахавання Уладкі. Я зусім была закаменела, нервы напружаны да краю, а плакаць не магу. І вось пасля атрымання твайго пісьма я заплакала бурна, страсна, з палёгкай. Ты ж ведаеш, што нікому ў нас Уладка не была такой блізкай, як мне. Я цяпер хварэю Уладкай, хворая сур'ёзна, і нікому нават сказаць пра гэта не магу. Усе дні і ночы яна ў вачах, думках, пачуццях. Хаджу да паштовай скрынкі ў дзвярах сто разоў на дзень, чакаючы жывой сувязі не толькі з ёй, але і з Мінскам, і з Беларуссю, і з усімі пісьменнікамі. Ажыццяўлялася гэтая сувязь Уладкай, яна была той артэрыяй, праз якую ўлівалася ў мяне мая Радзіма. Яна жывіла маю творчасць, мае настроі і пачуцці

да Радзімы, маёй Беларусі. Я ведала, што сувязь гэтая непарыўная. Калі я не пісала тыдзень, прыходзілі трывожныя лісты ці тэлеграмы з пытаннем: «Чаму не пішаш, што здарылася, непакоюся». Такой трывалай, такой неразрыўнай была сувязь, і вось яна перарвалася. Утварылася жудасная, палохаючая пустата там, дзе білася галоўная жылка, што жывіла душу і розум творчымі настроямі. Я асірацела. Асірацела не толькі, страціўшы сябра, але і сувязь з Радзімай, штодзённую, пастаянную, непарыўную. Тваё пісьмо данесла да мяне голас Уладкі і яе акружэння. Гэта так добра! Я плачу і цяпер, калі пішу табе, плачу лёгка. Як быццам таюць ільды ўнутры, што скавалі душу, і мне становіцца лягчэй. Вата, што сціснула мозг і абяссіліла душу, знікае са слязамі. Учора атрымала ад Міхася Ціханавіча Лынькова чатыры тамы«Векапомных дзён». Сёння напісала яму і Соф'і Захараўне ўдзячнае пісьмо. Гэта вельмі высакародна з боку Міхася Ціханавіча ўспомніць пра мяне ў гэты цяжкі для мяне час. Марыйка, дарагая, не забывайце там мяне. Вы не ведаеце, як ўсе вы мне патрэбны для таго, каб жыць і тварыць. Прачытала «Кветку шчасця», падораную мне Нінай Тарас, і была ўражана цудоўным росквітам яе таленту. Узяла мяне за душу першым радком кнігі і не адпусціла да апошняга. Колькі пачуцця, колькі дзіўнай чысціні і шчырасці, колькі глыбіні і прыгажосці паэзіі. І пры ўсім тым дзівосная сціпласць і цнатлівасць у выказванні пачуццяў. Я зачаравана ёю, цудоўны нарадзіўся паэт на Беларусі. Сёння напісала і ёй усхваляванае пісьмо.

Дарагая Марыйка! Пішы мне, хоць, магчыма, і не так часта, як пісала Уладка, але пішы мне пра ўсё, чым вы там жывяце, дай мне адчуць «дым Айчыны» ў тваіх пісьмах. (...)

Кланяйся магіле Уладкі. Я ўвесь час адчувала яе жывой, толькі вось няма пісьмаў так доўга, як не было яшчэ ні разу. (...)

Пішы пра ўсё, як зараз. Твая Костка.

Масква, 18/III—60 г.

Да Ніны Тарас

Дарагая мая Ніначка!

Атрымала тваё віншаванне — дзякуй, родная. Захацелася табе напісаць вось так, пра ўсё, чым я цяпер жыву і дыхаю. Прайшла гадавіна смерці Уладкі, якая зноў навеяла сум і журбу аб гэтай заўчаснай канчыне, аб гэтай цяжкой для мяне страце. Сёння ў Маскве такая слота. Неба шэрае. Дождж уперамешку са снегам заляпіў вокны, неба шэрае, я дома зусім адна, усе на працы, і неяк самотна стала на душы, хаця прычыны для суму няма зусім. Наадварот, адчуваю пасля наведвання Мінска прыліў творчых сіл. Пішу штодзённа, з вялікім уздымам, адчуваючы вялікую радасць ад працы, якая клеіцца. Таварышы аднесліся да мяне цёпла, ласкава, сагрэлі душу ўвагай, і адразу неяк ажыла яна для работы.

Як многа і наколькі лепш, больш плённа працавала б я, адчуваючы заўсёды вось такую дружалюбную, цёплую атмасферу. Адасоблены мы адзін ад аднаго. Нейкія саматужнікі-адзіночкі. Гэта, вядома, перш за ўсё адносіцца да мяне. Мне думаецца, вы там усе разам, не адчуваеце гэтай творчай адзіноты.

Дома ў мяне ўсё добра. Тут няма адзіноты — тут заўсёды цёпла і ўтульна, тут поўны парадак. Але ж гэта ў сям'і. А калектыў рабочы дзе? Яго няма ў мяне, і гэта адбіваецца на рабочым самаадчуванні.

Мілая Ніначка! Ты абяцала прыслаць мне свае вершы. Вельмі хачу іх атрымаць, вельмі хачу дзяліцца з табой сваімі думкамі і

планамі. Як ты сябе адчуваеш? Як твая гіпертанія? Я ж таксама гіпертонік, але яна, г. зн. гіпертанія мая, нейкая не вельмі надакучлівая. Галава ў мяне амаль не баліць, хіба ў нейкім адным месцы і то рэдка. Шум у вушах — я да яго ўжо прывыкла. (...)

Напішы мне, Ніначка. Хачу грунтоўнага, шчырага, сяброўскага пісьма.

Моцна цалую цябе

Костка.

Пішы.

Масква, 13/III—61 г.

Да Б. В. Чайкоўскага

Паважаны Багдан Восіпавіч!

З паэзіяй Шаўчэнкі я пазнаёмілася ў раннім дзяцінстве. «Кабзар» — тоўсты том, яго яшчэ ледзь ахоплівалі дзіцячыя рукі, калі душу ўзяла невыказная, пранікнёная, абпальваючая сіла слова Тараса. Гэта было маім пасвячэннем у паэзію. Яго вялізная любоў да людзей, вобразы якіх ён з ашаламляльнай хвалюючай глыбінёй адлюстроўваў у сваіх паэмах, яго душэўная сувязь з Радзімай, якой ён прысвяціў свае бессмяротныя вершы, пранікла ў душу на ўсё жыццё. Калі сёння ў мяне знаходзяць многа задушэўнасці, шчырасці і цеплыні ў маёй творчасці, то без усякага перабольшання магу сказаць: гэтым якасцям маёй творчасці я абавязана Вялікаму Шаўчэнку.

Многа геніяльных паэтаў захаплялі мяне потым. Міцкевіч, Славацкі, Пушкін, Лермантаў, Блок, Брусаў, Гейнэ, Байран і многа іншых, але ліра Шаўчэнкі гучала найбольш сугучна маёй душы. Так гэта было, так гэта і засталося да сённяшняга дня. Люблю я Купалу, Коласа, Багдановіча, Куляшова, Панчанку, і ў іх я адчуваю водгукі ліры Тараса. Беларуская літаратура, асабліва творчасць яе класікаў-паэтаў, носіць на сабе адбітак ўплыву бессмяротнага Кабзара. Мой вельмі блізкі, лепшы сябра Купала ў гутарках са мной часта гаварыў мне, як глыбока пранікла і ў яго душу паэзія Шаўчэнкі. Я нізка схіляю галаву перад яго памяццю. Упэўнена, што і наша моладзь таксама палюбіць паэзію Шаўчэнкі, як любіла яго наша пакаленне.

Кан. Буйло.

Масква, 7.X.63 г.

Да Ніны Тарас

Дарагая мая Ніначка!

Каб пазнаёміцца з маімі творамі, якія яшчэ нідзе не друкаваліся, табе трэба, перш пайсці ў выдавецтва «Беларусь», узяць вялізную папку ў Барадуліна і праглядзець у ёй сшытак пад назвай «Новыя вершы».

Вершы апошніх часоў ляжаць ва ўсіх рэдакцыях газет і часопісаў. (Калі не знішчаны.) Проста пазвані ва ўсе і папрасі пазычыць іх табе на час; табе патрэбны. Сягоння атрымала пісьмо ад Паслядовіча, ён рыхтуе падборку. Пісала Васілевіч: яна рыхтуе таксама. Ва ўсіх рэдакцыях вершаў новых многа — чытай на здароўе, дарагая. І ў «Полымі» ёсць таксама. Зрабі мне ласку, правер, што робіцца з маёй кнігай, аднатомнікам. Пісаў мне Барадулін, што ў першых днях студзеня яе падпішуць у набор. Ідзе люты, а дагавора абяцанага

няма. Яшчэ просьба: усё, што не ўвайшло ў кнігу (а там 750 старонак), прасіла вярнуць мне назад. Ні слова дабіцца не магу. Ніхто не лічыць патрэбным адказваць на пісьмы, не толькі спаўняць просьбы. Прасіла, каб абавязкова была падпісана фамілія Буйло — а не разляпаная Буйла. Доўга спрачаліся, потым згадзіліся. Цяпер Казека там не працуе — бадай зноў прыйдзецца пачынаць спор спачатку. Шмат сіл і энергіі трачу на гэтую барацьбу з непрыязнымі абставінамі. А ты ж кажаш — любяць мяне на Беларусі... Хто? Вось ты і Еўдакія Лось збіраецеся пісаць артыкулы аба мне. Дзякуй Вам, дарагія. Сардэчна дзякую за Ваша старанне. Еўдакія Якаўлеўна збіраецца нават прыехаць. Не вельмі гэта зручна. У мяне сястра ў бальніцы, яе аблучаюць рэнтгенам... Разумееш? Тут і не да гасцей, і не да артыкулаў. А пісаць хоча артыкул пад назвай: «За рабочым сталом». Кажу, каму патрэбны такі артыкул, калі ўся прадукцыя з рабочага стала ідзе на паліцы, а мо й у карзінкі пад сталамі. Горка гэта і крыўдна.

Калі даведаешся аб кнізе — напішы. Можа, яе перанеслі на 69 год??? Чакаюць смерці аўтара, няйначай...

Пішу горкі ліст. Ты мне прабач, родная мая. Сястра выйдзе з бальніцы ў канцы сакавіка. Калі будзе ўсё добра, рада буду бачыць у сябе і цябе і Еўдакію Якаўлеўну. Парай і ёй прыехаць тады. Цяпер ўвесь час езджу туды, і душа страшэнна неспакойная.

Рада, сардэчна рада, што ўспамінаеце мяне добрым словам. Гэта памагае жыць. Адзінока мне тут і самотна, але ж уся сям'я тут, куды падзенешся. Моцна і шчыра цалую цябе, родная Ніначка.

Усім сэрцам твая

Кан. Буйло.

Масква, 5/II—68 г.

Дарагая мая Ніначка!

Атрымала тваё пісьмо і твой артыкул — цудоўны, поўны такой хвалюючай цеплыні да мяне і маёй работы, што я заплакала. Не вельмі шмат давялося мне ў жыцці адчуваць такое цяпло, тым даражэй яно цэніцца. Ніякіх паправак уносіць у той артыкул не трэба. Апроч фаміліі: цяпер і кнігі і вершы будуць падпісвацца не Буйла — а Буйло. Вось гэта і перарабі. Што датычыцца месца майго нараджэння, то я і сама добра не ведаю: ці Маладзечна, ці Вільня. Барсуковіна — гэта месца, дзе мой бацька доўга жыў, і напісала я Барсуковіну у час культу, калі Вільня і Маладзечна лічыліся заграніцай і да таго чапляліся тыя, якім гэта было патрэбна, каб правіць свой нялюдскі здзек над людзьмі. Барыс, мой муж, перадрукаваў «Хвою» ці, лепш, сфатаграфаваў у Ленінск. б-цы, я табе яе пасылаю. І якую там вартасць мае даведка, што першае было надрукавана? Дзіцячыя, нічога не вартыя вершы.

Я з вельмі вялікай непавагай адносілася ўсё жыццё да анкет. Ненавідзела іх. Гэта мяне абражала, асабліва ў час культу, калі муж быў забраны, калі я ўсюды павінна была аб гэтым пісаць — ведаючы, якую дзікую расправу вядуць над бязвінным, такім чэсным і благародным чалавекам, як Віталій Калечыц. І ні слова пратэсту.

Ну, не буду ўспамінаць.

Пасылаю табе маё фота. Калі табе часам захочацца зрабіць мне вялікую прыемнасць, напішы мне...

Ну, бывай здаровая! Нічога я аб табе не ведаю, як і чым ты жывеш, як табе жывецца.

Цалую моцна і шчыра. Твая Кан. Буйло.

Дарагая мая Ніначка!

Сардэчнае табе дзякуй за шчыры, добры ліст, за гатоўнасць выпаўніць маю просьбу, за цеплыню тваіх адносін да мяне, за ўсё добрае. Не адразу адказала табе, хварэла, яшчэ і цяпер недамагаю. Сэрца. Вымушана была адмовіцца ад вечара ў Мінску і Маскве. Хоць учора вельмі сардэчна запрашаў Мазалькоў, каб прыйшла ў канферэнц-залу СП, дзе збяруцца людзі, якія шмат зрабілі для папулярызацыі беларускай літаратуры, дзе будуць чытаць мае вершы артысты і перакладчыкі, а потым у рэстаране дома СП абяцалі сервіраваць стол (у складчыну!), як падкрэсліў Мазалькоў, дзе мне будзе ўручаны дагавор на кніжку, якая ідзе ў «Советском писателе». Усё гэта прыемна і добра, толькі ні сэрца маё, ні нервы не вынясуць напружання. Не будзе побач маёй Уладкі, якая галоўны націск перанесла бы на сябе — і я... вытрымала б. А так — не вытрымаю. Так і сказала... Напісаў мне надта сардэчнае пісьмо Мікола Гаўрылавіч Ткачоў, запрашаў у Мінск, дзе таксама планавалі вечар. Ніначка, не з маімі нервамі гэта. Учора запісвала на магнітафон вершы для дзіцячага сцэнарыя ў Мінск, і так расхвалявалася, што не спала ўсю ноч. Хоць з'ела аж тры сонных парашкі... Была б Уладка, я прыехала б абавязкова, а так, быць выстаўленай на абзор усяе залы, дзе хтосьці будзе штосьці аба мне гаварыць — не магу. Не вытрымаю. Вось ты зразумей мяне і не судзі строга. Хочацца, чамусьці, залезці ў куток зацішны і каб ніхто не кранаў маю асобу.

Вядома, я ўдзячна таварышам, якія мяне ўспомнілі, якія хочуць адзначыць... А што адзначыць? Што не памерла, як памерлі многія, што з плеяды нашаніўскіх пісьменнікаў адна засталася, як сасна на прагалінцы хістацца над магілаю зрубленых дрэў, ад якіх асталіся толькі пні помнікаў, а ў таго-сяго яшчэ і помнікаў няма. (...) Цалую цябе, родная, твая Канстанцыя.

Масква, 3/XII—68 г.

Да М. К. Хайноўскай

Дарагая, родная мая Марыечка!

Дзякуй табе вялікае за кнігу. Яна мне прынесла сапраўдную асалоду. Купала і Уладка жывы ў маёй душы, пакуль жывая я. Ужо вельмі цесна пераплятаюся нашы лёсы, асабліва мой і Уладкі. Амаль з дзяцінства і да самай смерці маёй сумбурнай, шалёнай, разумнай, добрай, сардэчнай і па-вар'яцку яраснай Уладкі. Любіла я яе вельмі моцна. Момантамі таксама моцна ненавідзела, але толькі момантамі, калі яна выбірала сабе ахвяру і неміласэрна трэціравала яе, звычайна самую бездапаможную істоту, якая не магла ёй адказаць гэтаксама. Бывала гэтай ахвярай і я. Але ніхто, бадай, не гаварыў ёй потым, такіх жорсткіх і шчырых слоў асуджэння. Рабіла я гэта на наступны дзень, калі яна прыходзіла да мяне вінаватая і прасіла прабачэння. Тады яна была мяккай, як воск, і пакорліва выслухоўвала мае выказванні на яе істэрычныя выпады. Цяпер у душы і памяці толькі адно добрае, а ў сэрцы глыбокая любоў да яе і Янкі і нязгасны сум і журба, што іх ужо няма на свеце. Уладка зноў мне бачыцца светлай, цудоўнай, добрай, чулай і глыбока любячай мяне сяброўкай усяго майго жыцця. Купала мяккі, добры, чулы, як і Уладка, толькі маўклівы, але які адной заўвагай мог перадаць сяброўскую спагаду, сардэчную цеплыню, пранікнёнае спачуванне ў маім горы, калі, прыходзячы да мяне на работу, пры ўсіх цалаваў мае рукі, абдымаючы, цалаваў галаву, вочы і кранальна гаварыў: «Трымайся, Костка, дарагая, ты маеш сілу духу, трымайся, родная».

Я не магла стрымаць слёз. Гэта было тады, калі сябры шарахаліся ад мяне — як ад зачумленай, толькі Купала і Уладка былі са мной яшчэ больш сардэчнымі, яшчэ больш ласкавымі, чым раней. Яны прыходзілі да мяне і на работу і дамоў, калі прыязджалі ў Маскву, а калі жылі ў Маскве, амаль штодзённа Уладка званіла мне на работу і заўсёды гаварыла: «То, можа, зойдеш сягоння, я зварыла смачны абед. Прыходзь, Костка, родная». І я прыходзіла, не кожны дзень, у мяне яшчэ быў дом і Жэня, які таксама вёў гаспадарку і варыў абеды і чакаў мяне.

Вось усё гэта з новай сілай хваляй нахлынула на мяне. І сардэчнае табе дзякуй за гэтае душэўнае свята.

Сёння атрымала два запрашальныя білеты ў Дом Саюзаў, на юбілей Петруся Броўкі. Адзін білет «у прэзідыум». Не пайду, таму што адчуваю сябе слабой, а такая хваля эмоцый яшчэ больш узніме крывяны ціск — а ён у мяне і так высокі. Бора заўтра адвязе ў СП маё віншаванне Броўку і прабачэнні, што прысутнічаць не магу ў выніку нездароўя. Быў у мяне Алесь Пальчэўскі. Вельмі сардэчная, вельмі цёплая была сустрэча. Вельмі цёпла гаварылі аб табе. Ён сказаў: «Калі мы прыехалі адтуль, Марыя Канстанцінаўна прыняла нас сардэчна, цёпла. Я гэтага ніколі не забуду. Ніхто да нас не падышоў так па-сяброўску, як яна, ніхто нам не дапамагаў так аддана і дружалюбна».

Учора ён мне прыслаў свой двухтомнік з сардэчным прысвячэннем. Пішуць мне Содаль, настаўнік Палікарпаў з Баранавіч, просячы даць матэрыялы для артыкулаў пра мяне. Забараняю капацца ў маім быце, пакуль я жывая. Калі памру — няхай пішуць усё, што хочуць.

Родная мая! Не выдумляй, што не атрымліваеце пісьмаў, таму што пакрыўдзілася. Проста старасць бярэ за горла і душыць усе дзеянні. Вельмі горка і хваравіта пераношу смерць Лынькова. Неяк вельмі гэта ўдарыла па сэрцы.

Костка.

Масква, 19/IX—75 г.

Да С. З. Лыньковай

Дарагая Соф'я Захараўна!

З задавальненнем прачытала Ваша грунтоўнае, шчырае і цікавае пісьмо. Вельмі, вельмі рада, што работа па ўвекавечванню памяці усім нам дарагога Міхася Ціханавіча ідзе ў належным тэмпе, што людзі ставяцца да яго любоўна і сардэчна, што ён і цяпер з намі, жывы, са сваёй вялікай душой, цёплым сэрцам і ясным розумам. Ён у маёй памяці адчувальны, як родны мне чалавек. А я ж не сустракалася з ім часта. Я жыла ў Маскве. Але кожны мой прыезд у Мінск я сустракала з яго боку сяброўскую падтрымку, дапамогу і цеплыню. Я гэтага ніколі не забуду. Ён мяне падтрымліваў у маіх справах з Белгізам, дзе не заўсёды былі чулыя да мяне, дзе мае кнігі гадамі чакалі выхаду ў свет, пылячася на паліцах шафаў. І, галоўнае, я ніколі яго ні пра што не прасіла, ён сам даведваўся пра ўсё і сам звяртаўся, да каго трэба з прапановамі паскорыць працэс праходжэння рукапісу па інстанцыях. Прасіць я не прывыкла. Гэта мне даецца цяжка. Я не ўмею шукаць апякунства ў моцных, гэта мяне прыніжала б ва ўласных вачах. Гэтым тлумачыцца тое, што кніг маіх выйшла менш, чым магло б выйсці, што пра мяне маўчаць газеты і часопісы, хаця ў нашаніўскія часы было наадварот. Ваша дзейнасць

у галіне збору матэрыялаў пра Міхася Ціханавіча ўнушае мне задавальненне і радасць.

Так, работы непачаты край, і яна толькі пачынаецца. Вельмі цікава б даведацца, як сканструяваны макет помніка. Магчыма, яго надрукуюць? (...)

Пра Вас думаю часта вельмі цёпла і ласкава. Вы — жонка Міхася Ціханавіча, значыць, цяпер, калі яго няма, занялі ва мне большае месца, чым раней, і Вас я не магу аддзяліць ад яго і ад сябе. Я маю вялікае шчасце быць яго таварышам па ССП Беларусі. Гэты Саюз непарыўны. Ён звязаны назаўсёды. Пісьменнікі і паэты не паміраюць. Іх душы гучаць у іх творах. Была б шчаслівай атрымаць кнігі Міхася Ціханавіча, калі яны выйдуць з друку.

Цалую Вас моцна, Ваша Кан. Буйло.

Масква, 23/X—76 г.

Да Д. Ц. Чаркасавай

Дарагая мая Дзіяна Цімафееўна!

Дзякуй Вам за шчырае, добрае пісьмо. Шкадую, што міжвольна псую Вам добры настрой і жыццё. Але ж, даль Бог, я ў гэтым не вінавата. Узвалілі Вы сабе на плечы цяжкі груз — ведаю, цяжкі, але ж — не па маёй волі. Учора атрымала пісьмо і кніжачку «У тапалiную замець» Ніны Тарас. Піша сардэчна:

«Дарагой маёй Канстанцыі Буйло.

...«Палявая кветка» —
«Колас адзінокі»...
Друг ты мой харошы,
Друг ты мой далёкі!
Не завяла кветка,
Колас не зламаўся —
У народзе песняй
Вечнаю астаўся».

Палявая кветка курганная, колас адзінокі — з верша, які ўспамінае і Дубоўка. Дарагія мае, родныя сябры. Як цёпла на сэрцы ад гэтых слоў. Пісьмо Уладкі не апошняе. Яна ўмірала пры мне, я была тады ў Мінску. Але гэтае пісьмо, вядома, ужо ў цяжкі для яе час. Адрасу Сергіевіча, ці Сяргеева, ці яшчэ як-небудзь, бо ж там подпіс не поўны — не маю. Ён на першым лісце, яшчэ больш цікавым і змястоўным. «Песня» добра ўяўлена Вамі, так яно і ёсць, мне нават няма чаго дабавіць! Усё сказана ў вершы, і Вы яго добра зразумелі. Калі ласка, не стрымлівайце сябе, калі Вам захочацца мне напісаць. Вашы пісьмы мне прыемныя, як і Вы сама. І не бойцеся мяне стаміць, я чытаю цэлымі днямі. Барыс абаніраваўся ў дзвюх бібліятэках, каб я не сядзела без новых кніжак. Чытаю запоем. Магу абысціся без хлеба, але без кніг — аніяк. Дома ўсё так-так. Абышлося пакуль што без аперацыі. Вельмі таму рада. Праверылі ўсё. Сказалі: узрост Ваш 62 гады, не болей. Я сказала, а я болей і не хачу. Урачы рады падтрымліваць дух у хворым і ўмеюць гэта рабіць. Дома чыста, ціха і ўтульна. (...)

Ну, дай Вам Бог шчасця за тое, што даносіце да мяне іскрачкі той любові, яна так мне патрэбна, каб жыць і не сумаваць у адзіноце ад найбліжэйшых сяброў. (...)

Цалую Вас моцна

Кан. Буйло.

Масква, 26/X—77 г.

Дарагая мая Дзіяна Цімафееўна!

Ваша добрае пісьмо атрымала і інтэнсіўна працую над адборкай матэрыялу. Гэта абцяжарана тым, што я прачытваю недрукаваныя вершы, што займае некалькі больш часу. Потым я адбіраю ўсё перадрукаванае чыста, што можна не перадрукоўваць. Гэта паскорыць работу ў Вас. Далей, ёсць вершы і паэмы, напісаныя даўно. Яны наўрад ці прыгодныя для кніг. Але я, робячы Вас (па Вашаму дазволу) маёй даверанай асобай, хачу здаць усё гэта Вам, каб, пасля азнаямлення з гэтым матэрыялам рэдактара, выкарыстаць што можна і трэба, а ўвесь матэрыял, адпраўлены мною Вам, не вяртаць мне назад, а здаць у дзяржархіў, як я ім гэта абяцала. У мяне дастаткова копій, больш, чым патрэбна. А ці ўсё тут, не ведаю, ды гэта і няважна, мне гэта нядоўга будзе патрэбна. Архіў вельмі настойваў, каб я ім здала ўсё, да апошняй паперкі чарнавіка. Далей. Было б пажадана, каб Вы прымалі непасрэдны ўдзел у гэтым выданні замест мяне. Мне не трэба нічога прывозіць для прагляду. Калі рэдактарам будзе самавіты паэт, каму мая творчасць зразумела і дарагая, здаю яму поўнасцю права рэзаць і правіць тое, што ён палічыць патрэбным. Не мне ж гэта патрэбна, а народу, а што падабаецца народу, яму можа быць больш бачна, таму што ён сучаснік, а я даўно пастарэла са сваімі густамі. Словам, Вам, маладым, поўнасцю давяраю маю «спадчыну», рабіце з ёй, што хочаце. Вельмі рада, «што ты, Радзіма мая, пачуеш мяне, мусіць, толькі калі я ўжо вочы заплюшчу». Рада, што хоць перад смерцю даведалася, што ўся мая работа перадана ў рукі блізкіх мне людзей. А чытаць ядавітыя надпісы на старонках вершаў (учора наткнулася на такую папку вернутых вершаў) мне ўжо не пад сілу. Не хачу ведаць, як будзе кпіць рэдактар наконт няўдалых вершаў, няхай ён проста адкладвае іх у бок, а Вас прашу — аддайце ўсё ў архіў. Вядома, я напішу ў Саюз пісьмо, якое будзе даваць Вам усе правы на ўдзел у складанні кнігі ці самастойнае яе складанне. Гэтак жа папрашу дазволіць Вам напісаць уступнае слова. Матэрыялу ў Вас дастаткова. Скарыстайце яшчэ прадмову «Світання», вядома, факты. Аўтабіяграфіі не трэба: нудна і суха. Прыязджаць цяпер сэнсу няма. Калі я Вам прышлю некалькі экз. некаторых вершаў, то, цешу сябе надзеяй, што Вы іх зможаце перадаць ў перыёдыку. А калі не, няхай ідуць у архіў. Тым больш што ёсць урэзаныя экз. і поўныя.

Рада, што лёс падарыў мне Вас і што Вы цікавіцеся тым, што мною зроблена, і даяце мне магчымасць не надрываць свае чахлыя сілы на тое, што цяпер робіце Вы. Не хачу больш бачыць той матэрыял, які перасылаю Вам, інакш як толькі ў гатовай кнізе, калі ўдасца дажыць да яе выхаду ў свет. Моцна любячы, цалую Вас, родная. Перадайце прывітанне ўсім Вашым. Б. М. нізка кланяецца.

Ваша Кан. Буйло.

4/IV—79 г.

Дарагая Дзіяна Цімафееўна!

(...) У мяне вялікае гора — смерць Алеся Пальчэўскага. Я літаральна акамянела, даведаўшыся пра яе, а таксама пра Ткачова. Аднаго дабіла вайна, другога праклbriefly культ. Бедная Тамара[1]! Не

[1] Тамара Цулукідзе, жонка А. Пальчэўскага.

ведаю. Не ведаю, якімі словамі звярнуцца да яе. Яна ўся баліць, як дакрануцца да яе. Ужо два дні саджуся за стол, збіраючыся нешта ёй сказаць, а словы нямеюць перад такім няўцешным горам. Застацца зусім адной. У яе нядаўна памерла сястра, цяпер муж. Божа мой! А як трагічна яна страціла першага мужа — так, як і я... І ўсё гэта перанесла гэтая маленькая, крохкая жанчына — і сама са сцэны трапіўшы ў месцы не такія ўжо далёкія! Цяпер ездзіла ў Тбілісі на юбілейныя ўрачыстасці, прысвечаныя загубленаму нявінна мужу. Што яму ў гэтым? Ён не даведаецца, што гонар яго адноўлены, што ён зноў у пашане. Яна дачакалася гэтага пры жыцці. А колькі бедаў цяпер звалілася на яе галаву. Як перажыць? Як перанесці? Мне зразумела яе сціпласць, яе замкнёнасць, яе страх адкрываць душу. А яна знайшла ў сабе сілы, ад заслужанай артысткі стала пісьменніцай. Вельмі спадзяюся, што творчасць дапаможа ёй перанесці і не загінуць ад адчаю. У мяне няважна. З нервамі творыцца незразумелае. Хвалююся за ўсё. Мне здаецца, што лепш бы ўсё гэта рабілася пасля маёй смерці. Я не адчувала б гэтай трывогі. Цяпер мне цяжка ўвогуле зразумець, што са мной. Прашу Вас, лічыце, што я памерла і рабіце ўсё як быццам мяне няма на свеце. Памагчы я нічым не магу. Вось толькі днямі вышлю фота і яшчэ вершы, якія, быць можа, у Вас ужо і ёсць. Усё, што ў Вас засталося,— прашу здаць у Дзяржархіў Беларусі. Вам вельмі веру — у гэтым маё выратаванне. Інакш было б дрэнна.

Ваша Кан. Буйло.

3/V—79 г.

Дарагая, родная мая Дзіяначка Цімафееўна!

Атрымала Ваша пісьмо, якое вельмі абрадавала мяне. Няўжо ўсё ж змянілася Выд-ва і будзе выконваць свае абяцанні і планы? Я ім напісала вялікае пісьмо, дзе былі і просьбы і выкладкі, чаму яны абавязаны друкаваць мяне. Гэта тое, што я ім над душой не вісела, не трывожыла, а іх маўчанне пачынае сур'ёзна трывожыць мяне і Вас, і з гэтым нешта трэба рабіць. Прасіла рэдактара не вельмі бойка займацца «абразаннем», а ўважліва ставіцца да індывідуальнасці аўтара і не стрыгчы яго па вобразу і падабенству свайму. Але я сказала, што рабіць патрэбныя рэдактарскія папраўкі, вядома, трэбы і я супраць іх зусім нічога не маю. Харошая мая, я старалася не нервавацца, супакойваючы сябе шматгадовай практыкай, але нервавалася ўсё роўна. У мяне ж цяпер няма ў запасе шмат гадоў...

Супакойцеся і Вы, мая харошая і... няхай будзе ўсё добра. Не хвалюйцеся і не бойцеся нічога. Я пачынаю верыць у шчасце.

Людвіка Антонаўна[1] напісала мне пісьмо, але ў ім няма паведамлення аб Вашым наведванні яе. Я ёй таксама не напісала, што ведаю пра Ваш візіт, магчыма, пісьмо напісана да Вашага да яе прыезду. Яна прыгожа апісала восень у сваім лесе.

Я атрымала пісьмо ад Валянціны Трыгубовіч[2] аб яе камандзіроўцы ў Польшчу. Апісвае, як у школе імя Б. Тарашкевіча як гімн школы пяюць «Люблю наш край». Пісала, што быў злёт з усёй Польшчы былых вучняў гэтай славутай школы. І вось была вельмі хвалюючая мінута, калі ўся школа, са слязамі на вачах, спявала свой гімн стоячы, і Валянціна Трыгубовіч піша, што яна таксама спявала з імі гэтую песню. Яна намякнула, што, магчыма, варта напісаць у гэтую школу мне. Я ёй сказала, што мая песня стала самастойнай асобай, значыцца

[1] Зоська Верас.
[2] Валянціна Трыгубовіч — журналістка.

народнай,— і мне прымазвацца да яе і яе славы, бадай, нясціпла. Таму нічога ім пісаць не буду. Яе падзякавала за хвалюючую вестку. Браніслаў Тарашкевіч памёр у 1937 годзе ў нас. Там яго арыштавалі і прысудзілі да 12 гадоў зняволення за камуністычную дзейнасць. У нас — загінуў навекі. Бывала так вельмі часта.

Я вельмі шчаслівая за сястру. Інстытут кармоў, дзе яна прарабіла амаль усё жыццё, урачыста святкаваў яе юбілей 80-годдзя. Напісалі пра яе захоплена хвалебны артыкул ў інстытуцкай газеце. Потым дырэктар выдаў загад, у якім з вялікай павагай падрабязна пералічылі яе заслугі, потым пасадзілі яе на ганаровае месца за стол, дзе, акрамя масы букетаў, былі і бутэлькі з віном і вельмі многа смачных рэчаў. Выступалі з прамовамі дырэктар, парторг, прафорг, таварышы, навуковыя супрацоўнікі. Паднеслі ёй выдатна аформлены адрас з подпісамі і вялікі букет чырвоных гваздзікоў. Акрамя таго, канверт з 80 рублямі — у якасці прэміі. Яна была вельмі здзіўлена, таму што людзі ўсе цяпер новыя, але ўсе запэўнілі яе, што яе самаадданая праца і партыйная работа не будуць забыты ніколі. Праўда, як мне прыемна, што мая любімая сястрычка ўдастоілася такога гонару. (...)

Ваша Кан. Буйло.

1980 г.

Да Сяргея Новіка-Пеюна

Дарагі Сяргей Міхайлавіч.

Сардэчны дзякуй Вам за кнігу Гальяша Леўчыка «Доля і хлеб». Чытаю яе і перачытваю. Усе людзі знаёмыя, з Людвікай Антонаўнай інтэнсіўна перапісваюся — цікавы і цудоўны чалавек. Ваш артыкул прачытала з задавальненнем. Прыемна было даведацца, што Вы актыўна працавалі па беларускай справе. Вось і пацярпелі на гэтым. Але гэта не мінала амаль нікога. І ўсё ж людзі не баяліся ніякіх пагроз і пакаранняў, а ішлі ў бой з адкрытым забралам. Віншую Вас са святам Кастрычніка. Жадаю ўсяго найлепшага ў жыцці. А ці паслалі кніжку Людвіцы Антонаўне? Яна мне пісала, што нават рабіла карэктуру яе.

Са шчырым прывітаннем Кан. Буйло.

Да С. З. Лыньковай

Дарагая мая Соф'я Захараўна!

З цікавасцю прачытала аповесць пра Купалу![1] Прама скажу, вельмі не спадабалася яна мне. Гэта якраз такое, чаго я не выношу ў адносінах да сябе. Я цярпець не магу прыставанняў карэспандэнтаў аб маім асабістым жыцці. Вось і тут — збіўчыва, markdown рознагалоса, адрывачна апісана тое, што з'яўляецца інтымным жыццём, куды не дапускаецца чужое вока і чужая рука. Бесцырымонна выкрываюцца адносіны, якія альбо былі, альбо іх не было — гэтага не праверыш, і наўрад ці Купала з кім-небудзь дзяліўся ўражаннямі аб перажытым.

Зайздрошчу Вам (па-добраму), што Вы на Нарачы. Як цудоўна павінна быць там! Птушкі спяваюць, лес шуміць, вада плешчацца

[1] Маецца на ўвазе раман-эсэ Алега Лойкі «Як агонь, як вада».

аб берагі, а паветра напоена пахамі кветак і лесу, сасны, елкі і іншых дрэваў. Дай Бог Вам шчасця! У мяне выйшаў двухтомнік другім тыражом. 2 тыражы зараз. Даведалася пра гэта толькі атрымаўшы 2-гі ганарар, такі ж салідны, як і за першы тыраж. Калі б гэта ўсё раней! Цяпер радуюся толькі таму, што забяспечу сям'ю і сваю, і сястры, і ўнукаў, і пляменнікаў. Гэта так радасна магчы даць блізкім сёе-тое, адыходзячы з жыцця. Рада, што Ваша мілая Надзюша ўжо з Вамі і Вам спакайней жыць пад яе апекай і клопатам. Можа быць, таму, што я стала «багатай», я таксама карыстаюся і дапамогай, і клопатам, і ўвагай усіх блізкіх. Стараюся плаціць ім тым жа. Сям'я ў нас цесна спаяная і дружная, усе клапоцяцца адзін аб адным і любяць адзін аднаго. Пішыце мне, калі захочаце, я рада Вашым пісьмам і заўсёды чакаю іх прыходу. А калі не пішацца — не пішыце, я разумею, як гэта бывае. Не пішацца і мне іншы раз.

Моцна цалую Вас і Надзейку і Ірачку.

Ваша Кан. Буйло.

28/7—82 г.

Дарагая, родная мая Соф'я Захараўна!

(...) Я яшчэ раз уважліва прачытала кнігу пра Купалу Лойкі. Напісана яна ўвогуле вельмі добра. Дадзены багацейшы матэрыял пра часы «Нашай нівы», пра людзей, якія рабілі яе, пра становішча ў тым супольніцтве, якое я блізка ведала, і людзей бачу як жывых. Я была занадта маладая ў той час, мне не былі зразумелы ўсе тыя калізіі палітычнага і грамадскага парадку, якія там разыгрываліся. Але я добра ведала Ластоўскага Вацлава, яго жонку Марыю, якая заўсёды паіла смачнай кавай з булачкамі. Аднойчы я зайшла ў «Н. Н.», і яна выйшла да мяне з заплаканымі вачыма і з новай газетай «Н. нівай», дзе быў надрукаваны мой верш «Адна, ізноў адна...». Яна плакала над ім. Мне здалося, што яна не зусім шчаслівая са сваім Вацлавам, калі такое яе хвалюе да слёз. Я ведала яе дачок Ганку і Стасю. Ганцы было тады гадоў 5—6, а Стасі тры гады. Яна была пухленькая, беленькая, зусім не падобная на смуглую Ганку. Я тады і не падазравала, што Ластоўская вядомая літоўская пісьменніца. Потым у Каўнасе, у глыбокай старасці, калі на яе юбілей увесь дом яе быў завалены кветкамі, яна, ужо не разумеючы нічога, пыталася ў Стасі: «Адкуль столькі кветак? Навошта яны?» Пра гэта мне расказвала Ганка. Вось мне і хочацца дачытаць гэтую аповесць пра знаёмыя часы і людзей. Думаецца, Янка быў бы смяротэльна злы на вывалакванне на ўвесь свет яго інтымных спраў, калі яны і былі. Нельга карыстацца безабароннасцю мёртвых...

Цалую Вас, маю мілую, дарагую, родную моцна. Ваша заўсёды Кан. Буйло.

1982 г.

**Публікацыя Дзіяны ЧАРКАСАВАЙ.**





# НОВЫЯ ПЕРАКЛАДЫ

ІОН ВІЕРУ

## Параемнасць

Ты помніш нашы абрыкосы?
Яны засохлі, як дзяды,
І ў родны дол па волі лёсу
Пайшлі аднойчы
Назаўжды.

І ў садзе, цішынёй спавітым,
Хаця б адзін застаўся з іх —
Пад гэтым сонечным блакітам,
Сярод жывых,
Сярод сваіх.

Ад іх, ад пошуму жывога
Застаўся толькі
успамін.

Ды пень журботна ля парога
Глядзіць на нас
Ад тых часін.

А побач дзесь пад лісцяў шолах,
Сагрэты ласкаю нябёс,
У рост пайшоў
Зялёны, кволы
Наступнік —
Юны абрыкос.

Што будзе з ім, што лёс рыхтуе?
Ці шмат нягод,
Ці сонца шмат?..
Пакуль жа ён пяе, лістуе,
А гэта ўжо — нямала, брат!

## Закінуты дом

Як пуста ў гэтым доме,
Маркотна-безгалосым!..
Праходзяць міма людзі,
З іх клопатам, з іх лёсам.
Ідуць сяльчане міма,
Чуваць вясёлы гоман.
Але ніхто не зверне
У гэты двор, да дома.

І густа ўзрос дзядоўнік —
Яму раздолля многа —
Каля варот запёртых
І там, каля парога.
І хмель, і павітуха
Усё сплялі навокал,
Каб двор ніхто не ўбачыў
Ні з вуліцы, ні збоку.

Дзе ж гаспадар, што колісь
У ім чапляў калыску?
Чаму, як і сяльчане,
Не прыдзе ды не гляне
На дом журботны зблізку?
Дзе гаспадыня дома?
Чаму ні ўдзень, ні ўранку
Не рыпне, не адчыніць
Ні дзверы ў ім, ні брамку?

Аднекуль толькі кошка
Да дома прыйдзе зрэдку,
Зірне тужліва з прызбы
На ганак, на паветку.
На выбітыя вокны,
На плот, гнілы, пахілы.
Пасля кудысьці знікне,
Як ад нячыстай сілы.

Ды знoўку нечакана
У двор зглушэлы зойдзе:
Мо гаспадар з'явіўся —
І ёй паесці знойдзе?
А можа, гаспадыня
Прыйшла — і ў дом упусціць?..
Ды бачыць кошка дзверы —
Забітыя чамусьці.

Дом не такі стары ўжо
І не такі ўжо новы,
Ды б'е па ім самота,
Як дождж цяжкі свінцовы.
Яна ж, самота, сее
На дом, як град, сняжынкі:
Хто ў гэты двор пратопча
Па цаліку сцяжынку?

І я спяшаўся неяк
Паўз дом, што жыў самотай,—
У лопухах збуцвелых,
У хмелю, у сумётах.
Гаспадара не клікнуў...
Панёс я цяжкай ношкай
Спамін пра дом забыты
І пра яе — пра кошку.

## Бацькі

Каб, нібы колас той, не апусцеў,
Не разгубляў зярнят — сваёй пяшчоты,
З бацькамі побач трэба быць часцей,
І ў час пакут, і ў час іх адзіноты.

Быць побач з тымі, хто нястомна дбаў,
Не знаў спачыну, жыў адным табою.
Душу сваю —
Усю табе аддаў,
Свой хлеб аддаў, падсолены журбою.

Хто ўзгадаваў, як мог, усё зрабіў,
Каб лёс трывогай не крануў нікога,
Каб сын у іх — спагадны, чулы быў,
Была дачка — надзея і падмога.

Нічога не хацелі
узамен,
Каб толькі вернасць зберaглі з гадамі,
Каб сум па дому, чысты, як струмень,
Застаўся ў нас,
І жыць працягваў з намі.

А мы сябе спыталі хоць калі:
«А чым жа мы расплачваемся з імі?»
Любоўю, ласкай, што яны далі,
Ці чэрствасцю і крыўдамі сваімі?
З бацькамі побач будзьма ўсе гады —
З іх сэрцам, з іх дыханнем, з іх вачыма.
Яны ў жыцці — у нас адны заўжды,
Як неба,
Як маленства,
Як айчына.



Сонца плешчацца ў акне,
Родная зямля
спявае...
Ды не вельмі лёгка мне —
У жыцці ўсяляк бывае.

Ды найперш мне
гэты свет
Голас даў — будзіць світанні.
Ён — лятунак, першы след,
Кветкі сполах-трапятанне.

Ды, як цяжка б ні было,
Гэты свет — мая надзея.
Рук, душы маёй цяпло,
Іх не страчу анідзе я!

Сонца, родная зямля,
Свет, з наступным і мінулым,
Будзьце побач, не здаля —
У душы,
У сэрцы чулым!

Сонца...
Родная зямля...

**З малдаўскай. Пераклаў Мікола ЧАРНЯЎСКІ.**





# ПУБЛІЦЫСТЫКА НАРЫСЫ

АЛЕСЬ ПЕТРАШКЕВІЧ

# НАРОДЗЕ ТЫ МОЙ, НАРОДЗЕ...

*«Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі і ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Берліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы. А то круці галавой над языкамі, як баран над студняй...*

*Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларускі язык, а вы хацелі б заставіць нас, руска-ісцінную тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю сушыць над ім свае апошнія мазгі».*

Да «бессмяротных раздумін» бессмяротнага Мікіты Зносака з «Тутэйшых» Янкі Купалы, працытаваных у эпіграфе, мы яшчэ вернемся. А пакуль паведамім пра тое, што Радзівілы і іншыя годныя і самастойныя грамадзяне Беларуска-Літоўскага гаспадарства, якое ўвайшло ў гісторыю як Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, не адказвалі каралям Польшчы — Рэчы Паспалітай на іх пасланні, калі яны былі напісаны не па-беларуску, хоць, не ў крыўду будзе сказана нашым сённяшнім «радзівілам» і іншым «годным» грамадзянам Рэспублікі Беларусь, акрамя польскай і сваёй тыя Радзівілы ведалі яшчэ і французскую, і нямецкую, і ангельскую, і італьянскую, і латынь, і мову старажытных грэкаў, і мовы, як бы цяпер сказалі, народаў бліжэйшага замежжа. Тэлевізараў у XIV—XIX стагоддзях, вядома ж, не было, дык кіраўнічыя кадры дзяржавы і паны-рада і члены сойма Беларуска-Літоўскага гаспадарства самі, прытым без прымусу і без Закону аб мовах, чыталі ў арыгінале і Арыстоцеля і

Сакрата, і Пятрарку, і Бакачыо, і Лютэра з Вітэнберга, і Эразма з Ратэрдама, і Томаса Мора з астравоў Альбіёна, і многіх іншых разумнікаў як старажытнай, так і сучаснай ім Еўропы. (Пра тое, што менавіта Радзівілы чыталі «медждy протчым», як сказаў бы Мікіта Зносак, сведчаць каталогі іх найбагацейшых бібліятэк, разрабаваных спачатку царскімі апрычнікамі пры падзелах ды перадзелах нашай Айчыны, ну, а тое, што яшчэ ацалела, пусцілі па ветры савецкія ўлады ў 1920-м, а тады яшчэ і ў 1939-м.) Кіраўнічая эліта сярэднявечча і яе «актыў» — шляхта, як сведчаць дакументы, і да сваёй і да чужых моў адносіліся з розумам, мелі ўласны гонар, годнасць і вучыліся, вучыліся і яшчэ раз вучыліся, хоць запаветаў Ільіча, натуральна, не ведалі, як не маглі ведаць і Маркса—Энгельса, якія, між іншым, лічылі, што чалавек столькі разоў чалавек, колькі ведае моў. І з гэтым нельга не пагадзіцца, а спрачацца тым больш не разумна, бо нават цёмныя ведаюць, што «учение — свет». Словам, кіраўнічыя продкі нашы дэфіцыту на кандыдатуры паслоў у замежныя дзяржавы не мелі. Не тое што сёння. Каб не Садоўскі ды Фарфель, то і немаведама як было б наладзіць адносіны з Германіяй ды Ізраілем, бо з «языками» ў нас справа шwах. А чаго вартыя без'языкія савецкія паслы, мы добра ведаем менавіта па сваіх наменклатурных земляках, што высылаліся «на пасяленне» ў замежныя краіны.

Паны-рада (па-нашаму — дэпутаты) былі людзьмі культурнымі, цывілізаванымі, не кажучы ўжо што адукаванымі. Вучыліся «сплуататары» самі і дзетак вучылі і не толькі сваіх княска-магнацкіх, але і шляхецкіх, а то і мужыцкіх, калі ў тых быў спрыт ды розум растаропны, як той Пустарэвіч з «Паўлінкі» казаў. І вучылі дзецюкоў не толькі ў арыянскіх, езуіцкіх, касцельных ды царкоўна-прыходскіх школках, якіх на Беларусі было намнога больш, чым у суседзяў, скажам, на Усходзе, але і ва універсітэтах і ў першую чаргу ў Ягелонскім у Кракаве, Карлавым у Празе, а яшчэ ў Падуанскім, у Сарбоне ды шэрагу германскіх. Відаць, дапялі б тутэйшыя да Маскоўскага і Пецярбургскага універсітэтаў, але, на жаль, іх тады яшчэ і заваду не было...

Такі ўжо быў час для тутэйшых. Такая ўжо была іх тутэйшая натура — глядзець прыжмурыўшы вока і на Захад і на Усход і набываць, набываць розум, асабліва дзяржаўны. Бо дзяржава была не смешкі, а сапраўдны фарпост ад находнікаў як з Захаду, так і з Усходу. Была і традыцыя, звязаная, як бы цяпер сказалі, з надзвычай складаным геапалітычным бытаваннем беларуса. На світанку сваёй гісторыі наш край грудзьмі прыкрыў Захад ад татара-мангольскага нашэсця, а крыху пазней ўратаваў сябе і Усход ад нямецкіх крыжакоў. А потым з паўтысячы гадоў ратаваў тую ж Заходнюю Еўропу і сябе самога ад князёў, цароў ды імператараў Расейскіх, якія пішчом лезлі ў Еўропу і ўсё праз наш двор. Гэта мы сёння думаем, што самыя вялікія міжнародныя праблемы менавіта на нас цяперашніх зваліліся. Не, шаноўныя, у продкаў нашых яны былі не працейшымі і, натуральна, патрабавалі дзяржаўнага розуму — ды яшчэ якога! І натуральна, што становішча наша ратавала культурнасць і адукаванасць як вярхоў, так і нізоў, не кажучы ўжо пра дваранскую (чытай шляхецкую) сярэдзіну.

Праўда, расейская, а затым і агульнасавецкая навука з прапагандаю дзесяцігоддзямі будуць сцвярджаць пасля, што Беларусь спрадвеку была краем гэтакіх іракезаў-папуасаў ды непалоханых ідыётаў. Беларусу нават хваробу прыдумалі — каўтун, якая ставіла яго па-за межы істоты разумнай. Так, нейкае адхіленне ад агульначалавечай біялогіі, калі можна так мовіць. Хоць медыкі ведалі і цяпер ведаюць, што хваробы такой — каўтун — не было, не існавала, не зарэгістравана не толькі ў Беларусі, але і нідзе ў свеце.

А годны выраз годнага свабоднага палешука паглядзіце як перакруцілі?!

Падарожнік у палешукоў пытаецца: «Людзі, чые вы?» Палешукі адказваюць: «Мы не людзі, мы палешукі!» Людзі, што сябе паважаюць, падкрэсліваюць, што яны нічые не «людзі». Яны не належаць ніякаму пану! Яны свабодныя! Яны — палешукі, а не якія-небудзь прыгонныя!

Шавініст, а за ім і мясцовы дурань-прапагандыст выраз «Мы не людзі» замяняюць на «Мы не чалавекі» і запушчаюць на стагоддзі гуляць «прымаўку»: «Палешукі мы, а не чалавекі». Можа, адсюль і малюнак рускага мастака Азямблоўскага «Беларускі нявольнік». Стаіць гэтакі прывід недавярка, недачалавека. Канешне, такому менавіта і патрэбна было расейскае, а затым і бальшавіцкае выратаванне.

А колькі гадоў далдонілі і ў навуцы і з трыбун, што да Вялікага Кастрычніка «ў цёмнай, забітай і адсталай Беларусі» нібыта кожныя 8 жыхароў з 10 былі непісьменныя. І гэта ў той час, калі матэрыялы перапісу канца XIX стагоддзя «беспристрастно» сведчылі, што на Беларусі 32 працэнты сялян былі пісьменнымі, і гэта пры забароне беларускай мовы не толькі ў школе, але і ў паўсядзённым ужытку як мовы хамскай, мужыцкай, быдлячай. Трэба думаць, што тутэйшы тады зноў прыжмурыў вока: веды набываў на чужой мове, а сваю матчыну карыстаў і шанаваў як родную. А то ці яна б, няшчасная, дажыла да сёння?

Што ж да рэкрутаў — прызыўнікоў у салдаты, здольнасці якіх надзвычай цанілі расейскія генералы, то па беларускіх губернях працэнт пісьменных і адукаваных дасягаў 70 і больш.

Каб пацвердзіць месіянерска-асветніцкую ролю Расеі на Беларусі, надаядла-настырна сцвярджалася, што ў нашым краі не было ні адной вышэйшай навучальнай установы. А яны ж былі, і не адна, толькі інакш называліся. І пра гэта 25 гадоў таму ўпершыню адзначыла «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» і іншыя энцыклапедычныя даведнікі. У Гародні, да прыкладу, яшчэ ў XVIII стагоддзі была акадэмія медыцынская, а ў Полацку акадэмія езуіцкая, дарэчы, з цудоўна абсталяванымі класамі і лабараторыямі, з непараўнальна для тых часоў багатай бібліятэкай, зноў жа разрабаванай расейскімі ўладамі. (Дарэчы, часопіс «Спадчына» ў № 3—5 за 1992 г. дае скарочаны пералік нашых бібліятэк, звезеных у Расею на працягу вякоў акупацыі Беларусі і паасобных набегаў рабаўнікоў на яе гарады. Ён складае каля 30 старонак уборыстага шрыфту.) Была ў нас яшчэ і першая ва Усходняй Еўропе сельскагаспадарчая Акадэмія. Былі і педагагічныя інстытуты, і семінарыі, да ўзроўню якіх дай бы бог дацягнуцца сённяшнім педінстытутам.

Расейскія гісторыкі пра гэта, вядома, не пісалі, а тутэйшыя Зносакі, натуральна, пра гэта не далдонілі. Не выхваляліся, «междду протчым» ні тыя ж навукоўцы, ні прапагандысцкія лёкаі і пра тое, што да 1905 года на Беларусі была афіцыйна забаронена беларуская мова і беларускае кнігавыданне. Хоць, папраўдзе сказаць, не квітнела яно і пасля зняцця забароны. Чахла паціху і пры савецкай уладзе. Дый сёння мадзее як утрыманка ў скупога пана на сорам перад адукаваным і цывілізаваным светам, імкненне ў які трапіць так соладка апявае «перабудовачная» прапаганда. Старая заезджаная пласцінка па-старому і круціцца, стварае шумавое афармленне новаму беларускаму «Адраджэнню», якое дзікі рынак калі яшчэ і не заглынуў, то, відаць, у хуткім часе заглыне, чаму ўсё тыя ж «інтэрнацыяналісты» ад душы паспрыяюць.

Лёкаям ад навукі і ад уладаў заўсёды выгадна было падкрэсліць тутэйшую нашу цемнату, неадукаванасць і бескультур'е. Хіба магла дазволіць сабе такую раскошу расейская даўняя і нядаўняя навука і партыйна-інтэрнацыянальная прапаганда, каб сказаць, што край

наш і яго працоўны люд апынуліся ў тым незайздросным становішчы, у якім і да гэтага часу знаходзяцца, з прычыны амаль трохсотгадовай акупацыі як фізічнай, так і маральна-духоўнай, дзе рабункі духоўных каштоўнасцей (ды ці толькі духоўных?), нацыянальнае прыніжэнне, фізічны і духоўны генацыд сталі з'явай звычайнай і звыклай. Звыклай нават для саміх беларускіх нявольнікаў.

Так, генацыд! Бо з народа вынішчалася самае разумнае, самае таленавітае, самае сумленнае, самае сацыяльна актыўнае. І галоўнае, ад чаго мы менавіта сёння харкаем крывёю, вынішчалася памяць старажытнага народа пра самога сябе, пра яго месца ў гісторыі, пра яго пасад сярод іншых народаў.

Рабункі нацыянальных багаццяў, рэкрутаванне і вываз працоўнага, найбольш генетычна моцнага элемента, вынішчэнне інтэлігенцыі, забарона мовы, а ў савецкі час яшчэ і разбурэнне нацыянальнай школы з мэтаю хутчэйшага камуністычнага зліцця нацый, здзек з веравызнання, звычаяў і культуры народа — хіба гэта не генацыдам называецца?! Ператварэнне шматмільённай нацыі ў пакорны статак, у быдла для эксплуатацыі, якое да такой ступені затуркалі, што яно ўрэшце адмовілася і ад сваёй гісторыі, і ад сваіх герояў, і ад сваёй культуры, і ад сваіх звычаяў, нарэшце, і ад сваёй мовы, не навучыўшыся, «меджду протчым», і мове гвалтаўніка. Хіба ж гэта не генацыд?!

Паслухайце, што пісаў слуга «царю и Отечеству» нехта І. М. Захар'ін у сваіх «Воспоминаниях о службе в Белоруссии. 1864—1870 гг.», надрукаваных у «Историческом вестнике», №№ III і IV, 1884 г. Заўважце, што гэта якраз быў той час, калі Расея амаль сто гадоў пакіравала «единокровными и единоверными братьями-белорусами» і толькі што патапіла ў крыві іх паўстанне супраць «освободительницы». «...Крестьяне Минской губернии поражали меня своим испитым болезненным видом, малым ростом, белого сукна рубищами, в которые были одетыми. Избы их все курные, сырые; лошади их ростом небольше обыкновенных годовых жеребят в наших внутренних губерниях... Недаром покойный Добролюбов заметил, что белорусы совсем измельчавшая и забитая человеческая раса, мало похожая на обыкновенных людей».

Вось яна, вызваленчая роля Расеі і «добровольное» далучэнне да яе Беларусі! Ды хто пра тое сёння ведае ў адурманеным, абылганым, затурканым краі?!

А калі ўжо гаварыць пра высокую культуру і цывілізаванасць, якую дзяржава наша і яе люд мелі да захопу Расеяй, то справядліва зазначыць, што тутэйшыя былі не лыкам шыты. На Беларусі балет квітнеў ужо тады, калі на Маскве яшчэ скамарохаў сабакамі цкавалі ды друкарні разам з кнігамі палілі. (Што да тэатра на Маскве, то першы быў створаны земляком нашым Сімяонам Полацкім — першым беларускім і рускім драматургам, выхавацелем Пятра І. На жаль, тэатр той у хуткім часе быў забаронены.) Дарэчы і друкарства да нас прыйшло не з Масквы і тым больш не з кастрычніцкай рэвалюцыяй, а яшчэ на досвітку XVI стагоддзя. І гэта наш гонар, а не наш нацыяналізм, як папракаюць нас шавіністы. І не трэба да тутэйшых лезці ў духоўныя настаўнікі. Тут яшчэ варта разабрацца, хто каму настаўнік, асабліва ў друкарстве. Першадрукары і выдаўцы нашы ў асобе найлепшых сваіх сыноў мелі гонар быць не апошнімі і ў навуцы, і ў культуры, і ў мастацтве сярод першых у старым Еўрапейскім свеце ў тыя часы, калі новы свет яшчэ і адкрыты не быў. Біблію — твор найвышэйшай чалавечай культуры — на сваю дзяржаўную беларускую мову пераклалі другімі ў свеце пасля чэхаў, каб даць навуку дзеткам «паспалітым простым», а царкве і вернікам мудрасць боскую, якую б яны разумелі не на чужой, а на сваёй матчынай мове. І ведаў, і мудрасці, і спрыту, і працавітасці хапіла доктару

медыцыны і навук вызваленых Францішку, сыну Скарыніну з слаўнага града Полацька, каб выканаць тытанічную работу за надзіва кароткі тэрмін. Хапіла і матчыных слоў, каб выкласці найскладанейшыя тэксты, па сутнасці, высокафіласофскага зместу.

Дзіва! Колькі ні знішчалі нашу мову, колькі ні «отплясывали» на ёй «казачка» і «бугі-вугі», але і сёння хапае ў ёй слоў і паняццяў і для сённяшніх перакладчыкаў Бібліі, ды і не толькі Бібліі. 80 тысяч слоў выкарыстана толькі ў першай «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі»! Вось дзе яно, наша духоўнае багацце і гарантыя неўміручасці як самой мовы, так і яе носьбіта!

Можа, сакрэт неўміручасці і багацця нашай мовы ў тым, што прашчуры нашы мелі і перапісвалі разумныя кнігі ўжо ў X стагоддзі. Адукаванай была Рагнеда. Высокаадукаваным быў яе сын Ізяслаў, хоць век яго быў надзвычай кароткі. Сапраўднымі кніжнікамі былі яго сын і ўнук — князі Брачыслаў і Усяслаў Чарадзей — дзед Ефрасінні Полацкай, пра годнасць і ролю якой у асвеце народа колькі ні гавары, не перабольшыш. А пра Кірылу Тураўскага (1130—1182) сказаць усё ж трэба і сказаць важка, бо гэта гіганцкая фігура сярод інтэлектуалаў тагачаснай Еўропы не толькі як належыць не вывучаецца, але, як мне здаецца, і наўмысна замоўчваецца, і на тое ёсць важкія прычыны. Слова Міколу Багадзяжу:

«...Творы Кірылы Тураўскага на працягу стагоддзяў карысталіся вялікай папулярнасцю ў славянскіх народаў. Дзякуючы свайму красамоўству, гуманістычнай накіраванасці яны ўвайшлі ў залаты фонд старажытнарускай літаратуры. Яго творы перапісваліся ад рукі ажно да XIX стагоддзя, друкаваліся. У XIV—XV стагоддзях частка іх была ўключана ў «Златоуст» і «Торжественик» — своеасаблівыя зборнікі-анталогіі лепшых узораў казанняў грэка-візантыйскіх майстроў аратарскага красамоўства, твораў Івана Златавуста і іншых хрысціянскіх пісьменнікаў. Творы нашага земляка атрымалі вядомасць і за мяжой.

Шмат хто з сучасных вучоных таксама ставіць Кірылу Тураўскага ў адзін шэраг з безыменным стваральнікам «Слова аб палку Ігаравым», а пісьменнік Б. Зотаў у артыкуле «Кто он, автор «Слова о полку Игореве», змешчаным у часопісе «Вопросы истории» (№ 1 за 1989 год), упэўнены, што аўтарам гэтага геніяльнага твора з'яўляецца Кірыла Тураўскі. Для праверкі сваёй думкі ён прапануе правесці даследаванне з дапамогай ЭВМ».

Які б адказ у будучым ні дала машына, у любым выпадку гэтая гіпотэза — яшчэ адно пацвярджэнне таго, што мы маем права лічыць Кірылу Тураўскага першым пісьменнікам еўрапейскага (а для таго часу — і сусветнага) узроўню, што жыў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Нездарма нашы далёкія продкі называлі яго — «Златоуст, паче всех воссиявший на Руси» («Дзеці і мы», 1992, № 16).

Зоркі асветы, запаленыя святымі Ефрасінняй Полацкай і Кірылам Тураўскім, не згаслі ў вяках і дажылі да часоў Скарынавых. Між іншым, кнігі свае Скарына стварыў у той самы трагічны час, калі на Маскве, на вялікі жаль, разумныя людзі «паміралі за адзіную літару «аз», а геніяльны Максім Грэк быў асуджаны царкоўным Саборам на пажыццёвае зняволенне. Сёння даказана, што гэты волат духу калі і не быў асабіста знаёмы з Скарынам, то ведаў яго кнігі, карыстаўся імі, цытаваў у сваіх працах думкі беларускага асветніка. І тое, што мы ганарымся гэтым, аніяк не аднясеш на наш нацыяналізм.

Пра скарынінскія традыцыі ў друкарскай справе скажам крыху пазней, а зараз — пра Скарыну яшчэ як і пра аднаго са складальнікаў Статута Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага 1529 года.

Статут — гонар нашага народа, сведчанне яго дзяржаўнасці,

цывілізаванасці, культуры і адметнай самабытнасці. У пісьмовай форме законы былі ў нашых прашчураў ужо ў XIII—XIV стагоддзях. Прафесар Язэп Аляксандравіч Юхо пераканаўча даказаў гэта ў сваіх шматлікіх і грунтоўных даследаваннях. Кадыфікацыя ж законаў пачалася ўжо ў сярэдзіне XV стагоддзя. Пасля прыняцця і зацвярджэння Статута 1529 года праца над ім не спынялася. У 1566 годзе быў прыняты другі дапрацаваны Статут. А ў 1588-м — трэці. Гэта быў самы дасканалы збор законаў Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Гэта было дзецішча таленавітага сына Айчыны канцлера Беларуска-Літоўскага гаспадарства Льва Сапегі і яго не менш таленавітых паплечнікаў. Статут з'явіўся першым сістэматызаваным зборам законаў у Еўропе, які ўключыў у сябе дзяржаўнае, вайсковае, маёмаснае, крымінальнае і сямейнае права. То быў узор праватворчай думкі ў тагачаснай Еўропе. І Еўропа гэта прызнала. Статут быў перакладзены на шэраг моў, у тым ліку і на рускую. Натуральна, што створаны і надрукаваны ён быў спачатку на беларускай мове, якая была дзяржаўнай у Беларуска-Літоўскім гаспадарстве на працягу вякоў яго існавання. (Гэта сёння мы марым увайсці ў цывілізаваную Еўропу, куды нас не вельмі запрашаюць. А то быў час, калі мы былі самой часткай той цывілізаванай Еўропы.)

Шкада, што нашы цяперашнія заканадаўцы не заглядваюць у Статуты першай Беларускай дзяржавы. А, між іншым, там ёсць чаму навучыцца. Ну, хоць бы таму, што трэба берагчы тую зямлю, на якой жывеш, не нішчыць яе лясоў і рэк, не зводзіць яе жыўнасць, не прадаваць яе іншаземцам, не даваць дзяржаўных пасад іншаземцам, не дазваляць карчмарам спойваць народ і многае іншае.

Нямала цікавага ёсць і ў зямельным кодэксе Беларуска-Літоўскага гаспадарства, так званай «Уставе на валокі», якая адносіцца да тых жа часоў, што і Статуты. Дарэчы, Статутам 1588 года многія губерні Расейскай імперыі карысталіся аж да 1848 года. Ну, а ў падзеленай і задушанай Беларуска-Літоўскай дзяржаве дзейнічаць сталі расейскія законы — пісаныя і няпісаныя. Пасля гвалт з дзяржавы і яе народа афіцыйная навука і прапаганда назавуць «добровольным вхождением Белоруссии в состав единокровной России». А потым будзе яшчэ яе ўваходжанне і таксама «добровольное» «в единую семью братских народов». Сёння ж нас тысячамі павадкоў прывязваюць да той жа Расеі праз нераўнапраўныя і кабальныя дагаворы. Чым гэта скончыцца для нашага народа, угадаць не цяжка...

Хто пра гэта гаварыў бы сёння, каб гісторыю нашу не перакручвалі, а з нас бы, вельмі «талерантных» тутэйшых, не здзекаваліся. Ну чаго толькі варты такі факт. Калі Расея адзначала, і не першы ўжо раз, юбілей свайго «первого восточнославянского первопечатника Ивана Фёдорова», то імя Францішка Скарыны так званая цэнтральная прэса нават не згадвала, не кажучы ўжо пра тэлебачанне і радыё. Пётр Мсціславец жа праходзіў як нейкі безаблічны цень Фёдарава. І тут няма ніякай загадкі, бо ў наяўнасці адно нахабства. Па-першае, Іван Фёдараў не з'яўляецца першадрукаром усходнеславянскім, бо гэты гонар належыць іншаму друкару і не проста друкару, а асветніку, перакладчыку, мастаку, доктару медыцыны і навук вызваленых Францішку, сыну Скарыніну з слаўнага града Полацька, які здзейсніў свой подзвіг гадоў на сорак раней за Івана Фёдарава. Па-другое, калі ўжо на тое пайшло, Іван Фёдараў — гэта Іван Хведаровіч, наш зямляк, выхаванец таго ж, што і Скарына, Ягелонскага універсітэта. І гэта пераканаўча даказаў маскоўскі даследчык Яўген Неміроўскі. А што да Пятра Мсціслаўца, то ён выбраў ці яму далі такое прозвішча, што, як кажуць, каментарыі не патрэбны. А дадаць, што ён пры Івану Хведаровічу быў фігураю важнай, варта. І не дзеля нейкай нашай беларускай амбіцыі, а дзеля справядлівасці і праўды перад гісторыяй.

Пасля таго, як Мсціславец разышоўся з Хведаровічам, ён стварыў і выдатна наладзіў справу ў сваёй Віленскай друкарні.

З лёгкай рукі Скарыны ды Хведаровіча з Мсціслаўцам Беларусь (тады яе называлі Літвою, якую не варта блытаць з Жамойціяй. Нас жа звалі ліцвінамі, якіх не трэба блытаць з літоўцамі ці летувісамі) стала краем надзвычай актыўнай выдавецкай дзейнасці. Багатыя і адукаваныя людзі лічылі сваім гонарам мець уласную друкарню ці быць фундатарамі выдавецкай справы. Друкарні ствараліся ў замках магнатаў, у маёнтках дзяржаўцаў, пры манастырах. Тым не менш, як піша адзін з найлепшых даследчыкаў беларускага сярэднявечча і яго культуры Юрый Лабынцаў, «белорусские издатели и типографии XVI в. почти никогда не были исполнителями чужой воли, они печатали то, что считали нужным. Это одна из важнейших особенностей их деятельности, оказавшей колоссальное влияние на развитие культурного процесса. Белорусским типографиям и издателям удалось создать несколько типов печатных книг, имеющих свои собственные черты, отличающие от прочих подобных изданий. Особая заслуга в этом принадлежит типографиям Франциска Скорины, Петра Мстиславца, Мамоничей, Виленского братства». (А былі ж яшчэ друкарні ў Нясвіжы, Куцейна пад Воршай і многія іншыя. Дарэчы, Куцеінская друкарня была цалкам вывезена ў Расею.— **А. П.**) «Количественные подсчеты и анализ содержательной стороны выпущенных книг свидетельствуют о ведущей роли белорусской печатной литературы XVI столетия среди литератур ряда народов Востока и юга Европы, в том числе русского, украинского, болгарского, сербского и других; и неопровержимо доказывают, что белорусская кирилловская печатная литература православной ориентации была тогда крупнейшей и богатейшей в мире.

Во всей продукции типографий кирилловского шрифта доля белорусских составляет более половины, во второй половине XVI в.— около сорока процентов. Это ставит белорусскую печатную литературу в ряды ведущих в Европе, распространяющих своё влияние на все концы материка. Особенно сильным влияние было в России XVI—XVII в.» («Советская Белоруссия», 5 жніўня 1992 г.).

Падлікі Ю. Лабынцава сведчаць, што да 1596 года, а гэта верхняя храналагічная граніца эпохі Адраджэння, на Беларусі і за яе межамі для беларусаў праваслаўных, каталікаў і пратэстантаў было выдадзена каля чатырохсот назваў кніг. Іх тыраж склаў звыш трохсот тысяч асобнікаў. (Так што, як той казаў, не бяры тутэйшага голай рукою і, тым больш, не ўшывай яго ў дурні!) Сёння б нам такія тыражы!..

Робіць гонар беларускім выдаўцам і тое, што яны экспартавалі «в иные земли» не толькі кніжную прадукцыю, але і друкарскі рыштунак, дапамагалі ў стварэнні цэлых выдавецкіх цэнтраў. Беларускія выдаўцы і друкары прымалі ўдзел у адраджэнні рускага кнігадрукавання ў XVI стагоддзі, падтрымлівалі яго на працягу ўсяго XVII стагоддзя і ў пачатку XVIII. Пра гэта таксама паведамляе Ю. Лабынцаў. Дадамо да гэтага, што першую спробу дапамагчы тады яшчэ роўным рускім братам у друкарскай справе зрабіў Францішак Скарына, прывёзшы ў Маскву на, як бы цяпер сказалі, прэзентацыю свае кнігі і, магчыма, друкарскае абсталяванне. Толькі ўлады маскоўскія па патрабаванні айцоў царквы прывезенае асветнікам на кастры спалілі. Самому ж яму ўдалося ўратавацца, можа, толькі таму, што на той час былі падпісаны перамірныя граматы паміж Масковіяй і Беларуска-Літоўскім гаспадарствам. Праз многа гадоў пасля гэтага Івану Хведаровічу ўсё ж удаецца надрукаваць на Маскве адзіную кнігу, пасля чаго яму давядзецца ўцячы з Масквы і ратавацца на Беларусі, дзе ён знойдзе і прытулак, і гасціннасць, і ўмовы для дру-

кавання кніг. Разам з Пятром Мсціслаўцам Іван Хведаровіч заснуе знакамітую друкарню ў Заблудаве на Гродзеншчыне (цяпер тэрыторыя Польшчы) на сродкі і пры падтрымцы гетмана Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Пасля ж пераедзе ў Львоў, дзе таксама наладзіць друкарню і здзейсніць свой асноўны грамадзянскі подзвіг, які створыць гонар не толькі Белай і Малой Русі, але і Вялікай.

Такая вось яна сярмяжная праўда пра нашу тутэйшую цемнату і спрадвечную забітасць, калі быць сумленным перад той жа гісторыяй — сваёй і краін сумежных. А пра Радзівілаў ды іншых дзяржаўцаў, якім не трэба было абяцаць свайму народу карыстацца на пасяджэннях роднай мовай, пра Статуты, як атрыбут і галоўнае сведчанне нашай дзяржаўнасці задоўга да Вялікага Кастрычніка, пра друкарні, як паказчык нашай цывілізаванасці, пра Скарыну ды Сапегу, як сімвалы адукаванасці і найвышэйшай культуры, я толькі таму ўспомніў, што да слова прыйшлося і дужа абрыдла ў затурканых хадзіць ды прыніжацца перад дужа цывілізаваным старэйшым братам.

Няма месца, а то можна б расказаць яшчэ пра цэлы пласт лацінскай паэзіі часоў сярэднявечча, якой у краінах бліжэйшага ўсходняга замежжа наогул не было. Пакуль што мы больш-менш ведаем пра Міколу Гусоўскага, пра яго «Песню пра зубра». А колькі тых песень было спета, якіх мы яшчэ не ведаем? Узяць бы хоць паэму «Пруская вайна» Яна Вісліцкага, нашага земляка, выкладчыка Ягелонскага універсітэта, пра Грунвальдскую бітву, напісаную на латыні праз 100 гадоў пасля той бітвы і не перакладзеную пакуль на родную мову яе аўтара...

Скажу вам шчыра, браткі беларусы: дзіўна, прыкра, брыдка, а бывае і страшна чытаць у газетах ды слухаць па радыё-тэлебачанні «песні», вельмі падобныя на тыя, што некалі гучалі-ліліся са старонак «Губернских ведомостей» часоў росквіту каланіяльнай імперыі, калі Айчына наша па волі акупанта-захопніка звалася «Северо-Западным краем», а потым «Западной коммуной», а потым «Белорусской Советской Социалистической Республикой», апорай і надзеяй якіх у ахове «великой, единой и неделимой» быў і, «меджду протчым», застаецца ўсё той жа бессмяротны Мікіта Зносак — стварэнне настолькі гнюснае, наколькі і жывучае. Гэта і сёння ўсё ён жа пад дыктоўку «русско-истинных интернационалистов» ставіць усё тыя ж замшэлыя пытанні: а ці была ў беларусаў свая гісторыя? а ці жылі яны хоць калі-небудзь пры сваёй дзяржаве? а ці не пазычылі яны сваю Пагоню ў паліцэйскіх узору 1941—1944 гадоў? а ці не дыялект іх мова ад мовы расейскай? а ці была калі-небудзь такая нацыя, як беларуская? а ці варта адраджаць беларускія школы, каб вывучаць дыялект, калі можна адразу вывучаць «великий и могучий»?..

Словам, правакатары-шавіністы праз недавяркаў зносакаў пытанні задаюць, а сродкі масавай інфармацыі іх множаць і транслююць, узбуджаючы дурняў да змагання супраць саміх жа сябе і будучыні сваіх нашчадкаў. (Па-тутэйшаму гэта завецца свабодай друку ў свабоднай, незалежнай і нейтральнай Рэспубліцы Беларусь.)

Пытанні, здавалася б, што? Адзін правакатар ці дзесяць затурканых тутэйшых могуць задаць столькі дурных пытанняў, што сто разумнікаў не адкажуць. Але калі б ставіліся толькі пытанні, няхай сабе і дурныя, то толькі б той і бяды было. Але ж гучаць і сцвярджэнні. Гучаць і патрабаванні з пагрозамі аж да рэферэндуму для вырашэння «языкового вопроса в Белоруссии». Беларусь, маўляў, гэта не што іншае, як Русь, толькі Белая. Ёсць жа, маўляў, Русь Вялікая, Русь Малая, Русь Чорная і нават Чырвоная. Чаму ж у гэтым шэрагу «под началом великой и неделимой» не быць і Русі Белай.

І паглядзіце, як зашамацела, як замільгала гэтая назва на шыльдах

ўмовах старога дарэвалюцыйнага ладу, на зыходзе XIX стагоддзя. «Мы бачым яго і ў тыя гады, калі ён цяжкаю працаю хлебароба крок за крокам будуе сваё асталяванне на сваёй пасадзе; бачым і тады, калі яго па капрызу ўсемагутнага пана або новага яго спадручніка, ляснічага, перакідаюць на новае месца, дзе прыходзіцца нанава адольваць прыроду і ствараць новае асталяванне для сям'і сродкамі і прыёмамі амаль першапачатковага пасяленца. Мы бачым яго і ў часе абходу лесу, і за хатняю гаспадаркаю, і на панскай пацесе, «на глушцовых токах», і за ціхім сталом у коле сям'і, бачым і ў мінуты з цяжкасцю стрымліваемага абурэння супраць панскага самадурства, і ў часы доўгага роздуму аб уласнай працоўнай гаспадарцы, аб «новай зямлі». Перад намі праходзіць усё нескладанае жыццё беларуса ад часу яго маладосці да бесчасовай смерці, жыццё з усплошкі шэрымі буднымі днямі і з рэдкімі прасветлінамі ў відзе сямейных свят, жыццё ў пастаянных зносінах з суровай прыродаю і ў пастаянных бясплённых імкненнях выйсці з-пад ярэмнага стану сацыяльнай абяздоленасці на прастор вольнай і творчай працы».

Як адзначае далей даследчык, неабходнасць дадаць сваім рэальнабытавым назіранням адпаведную форму вывела Якуба Коласа на пуціну мастацкага сінтэзу рэальных сродкаў жывой народнай гутаркі. Перш за ўсё яму трэба было знайсці для сваіх назіранняў адпаведны літаратурны жанр. Паказваючы народны побыт, ён рызыкаваў упасці ў тон сентыментальнага народніцтва або нават у меладраматызм і хадульнасць. Якуб Колас перамог гэтую цяжкасць тым, што ўзяў для паэмы сюжэт без усялякіх эфектных эпізодаў, пераказаны роўным і спакойным тонам. У паэме, можна сказаць, адчуваецца амаль што эпічны спакой Калевалы.

Для такога жанру няўхільна трэба было звяртацца да жывых матэрыялаў народнай гутаркі і сінтэзаваць іх у мастацкім стылі паэмы. І Якуб Колас, падкрэслівае вучоны, сярод беларускіх паэтаў — адзін з найбольш дбалых ахоўнікаў чысціні беларускай мовы. Паэтам створаны настолькі яркія тыповыя малюнкі і вобразы, што яны несумненна набываюць значэнне мастацкага дакумента беларускай культуры. «Заканчваючы чытанне,— піша І. Замоцін,— я зразумеў, што перада мною іменна беларуская мастацкая літаратура моманту, якая выявіла ў паэме Якуба Коласа свой сапраўдны арыгінальны твор».

З восені 1923 года, калі вучоны здаў у «Полымя» сваю першую працу на беларускай мове «Пуціны беларускай літаратуры (Якуб Колас «Новая зямля»)», пачаўся новы этап у яго творчасці. Сёння нельга не падзівіцца, з якой прафесійнай кампетэнтнасцю гісторык рускай літаратуры «ўваходзіў» у свет новай для яго нацыянальнай літаратуры.

Увогуле, як адзначае У. Конан, пяру вучонага належаць звыш 140 навуковых прац — артыкулаў, манаграфій, нарысаў, рэцэнзій, прысвечаных рускай і беларускай літаратурам. У вышэйназваны зборнік увайшло яго дзевяць літаратуразнаўчых артыкулаў: «Чарговыя задачы вывучэння гісторыі беларускай літаратуры», «М. Багдановіч. Крытычна-бібліяграфічны нарыс», «Пуціны беларускай літаратуры (Якуб Колас «Новая зямля»), «Паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка» як аўтахарактарыстыка» (да дваццацігоддзя літаратурнай дзейнасці паэта), «Беларуская драматургія (драматычныя творы Янкі Купалы)», «Аб новых рукапісах В. Дуніна-Марцінкевіча», «Літаратурная спадчына А. Б. Пятрашкевіча (па рукапісных матэрыялах)», «Драматычныя творы Цішкі Гартнага», «Творчы шлях Крапівы: 1922—1932». Да артыкулаў змешчаны таксама каментарыі.

Як бачым, спектр праблем развіцця беларускай літаратуры, якія разглядаў вучоны, даволі шырокі. Да шматлікіх з іх ён звярнуўся першым сярод даследчыкаў і крытыкаў на Беларусі. Па словах Юльяна Пшыркова, многія думкі Замоціна знайшлі далейшае развіццё ў працах сучасных беларускіх літаратуразнаўцаў. Сказанае, аднак, не азначае, што ўсе палажэнні і вывады вучонага бясспрэчныя. Нельга, напрыклад, пагадзіцца з выказанай ім думкай, што Янку Купалу не ўдалася справа стварэння драмы і сатырычнай камедыі. Увогуле ж, манаграфіі, нарысы і артыкулы Замоціна прывабліваюць чытача комплекснасцю і багаццем першакрыніц: творчасць

вобласці аб'яўляюцца расейскімі, беларуская мова — непатрэбшчынай, сама Беларусь — «Северо-Западным краем», культура — не самастойнай і бог ведае якое яшчэ глупства з арсеналаў «Губернских ведомостей», якія ў свой час не «в порядке дискуссии», а без «обвиняков» называлі нашу мову і культуру мужыцкай, хамскай, быдлячай. Гэта ж і не «меджду протчым» робяць сёння заезджыя расейскія эмісары ў нашых усходніх абласцях.

А гэты справакаваны няўклюдны дэмарш затурканых бацькоў з Гомельшчыны, што наважыліся не пушчаць сваіх дзяцей ў беларускія школы. Нам, маўляў, і адной рускай мовы хопіць. (Ну як тут не ўспомніць «незабвенного» Зносака — прадстаўніка «руска-ісцiннай тутэйшай, меджду протчым, інтэлігенцыі», якая не хацела сушыць над беларускай мовай «свае апошнія мазгі».) А чаго вартыя пісьмы «трудящихся» ў падтрымку гомельскіх дзівакоў, якім партыйна-шавіністычная прапаганда так адбіла глузды, што родная матчына мова стала ненавіснай падчаркай.

Толькі што тут гаварыць пра адбітыя глузды «руска-ісцінных» зносакаў з Гомельшчыны, калі ім «уподобились» не хто-небудзь з затурканых, а навукоўцы-даследчыкі Беларускага Дзяржаўнага універсітэта, як бы мовіць, калыскі нацыянальнай культуры. Відаць, і ім, прадстаўнікам «руска-ісціннай, тутэйшай, меджду протчым, інтэлігенцыі», не хочацца «сушыць свае апошнія мазгі». (Перапрашаем навуковае паньства за аналогіі.) Дык вось, гэтыя самыя навукоўцы з БДУ так ахвотна і лоўка прымеркаваліся да «Эрыдана» — ёсць на Белай Русі такое ісцінна-рускае манапольнае выдавецтва, што «незабвенный» Мікіта мог бы толькі пазайздросціць. Карацей, па заказу «Эрыдана» (і чаму б гэта менавіта яго?!) навукоўцы з БДУ вельмі аператыўна правялі сацыялагічнае даследаванне сярод тутэйшых, з якога вынікае, што «подавляющее большинство» з іх сваёй беларускай мовы не ведаюць і ведаць не жадаюць. Адсюль выснова, так сказаць, навуковы вывад: Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь «принят без волеизъявления большинства народа» і яго, маўляў, трэба перагледзець з тым, каб дзяржаўнай мовай на Беларусі была прызнана руская, г. зн. мова іншай дзяржавы. Каму-каму, а такому траянскаму каню, што пасецца менавіта на нашай беларускай ніве, як «Эрыдан», такія высновы навукоўцаў аказаліся вельмі і вельмі даспадобы, як, «меджду протчым», і іншым нядаўна створаным 300-м выдавецтвам і амаль 600-м газетам, часопісам і бюлетэням, якія, канешне ж, у сваёй пераважнай большасці рускамоўныя. А ім, вядома, чытач патрэбен такі, што не прывык «круціць галавой над языкамі, як баран над студняй...» ды «сушыць свае апошнія мазгі». Тут не трэба быць такім ужо здагадлівым, каб зразумець, што 900-м расейскім выдавецтвам, газетам, часопісам і бюлетэням патрэбен свой чытач-пакупнік, які і будзе (нават падсвядомым) галоўным русіфікатарам у былым «Северо-Западном крае».

Здабыткі навукоўцаў БДУ былі тут жа пратрансліраваны ў прамым эфіры па праграме «Радыёфакт». Дыктар з характэрным націскам падкрэсліў, што ён дае гэты факт без каментарыяў. Што тут, маўляў, каменціраваць: факт ёсць факт; тутэйшыя сваёй мовы даўно выракліся і патрабуюць дзяржаўнасці мовы расейскай. Каб зноў жа па Зносаку «адзін непадзельны рускі язык ад Смаленску да Берліна», каб «жыць сабе тады прыпяваючы».

Ну, скажыце, на міласць боскую, ці не становімся мы зноў палігонам па адпрацоўцы «формаў і метадаў» таго самага зліцця сваяцкіх моў і культур у нейкай новай перспектыве?! (Але да паняцця «палігон» мы вернемся крыху пазней.) Зараз жа пра тое, як дабрахоты «інтэрнацыяналізму» гатовы са скуры вылузацца, каб толькі перашкодзіць народу вярнуць сваю мову, загаварыць на ёй. Загаварыць

на ўвесь голас і без аглядкі на «старэйшага брата», якому можа не спадабаецца такая «незалежная», «суверэнная» і «нейтральная» смеласць тутэйшых.

Шаноўны мой чытач, у тым ліку і рускамоўны, ці можаш ты ўявіць сабе, што ў Францыі праводзіцца рэферэндум з пытаннем: ці згодны французы зацвердзіць дзяржаўнай мовай яшчэ і ангельскую, паколькі Англія некалі заваёўвала Францыю? Або плебісцыт у Італіі адносна ўвядзення мовы французскай ў якасці дзяржаўнай (бо, як вядома, французскія войскі некалі акупавалі італьянскія правінцыі). А можна яшчэ ўявіць, што егіпцяне пераходзяць на італьянскую мову (паколькі і да нашай і пры нашай эры рымляне даходзілі да Александрыі і нават далей). Або рэферэндум у Польшчы з пытаннем: ці згодны, проша пана, паляцы мець за дзяржаўную мову акрамя сваёй яшчэ германскую і расейскую (паколькі германцы і расейцы «мелі гонар» гаспадарыць у Польшчы як у сябе дома — першыя гадамі, а другія вякамі).

Не, такое ўявіць не толькі цяжка, але і немагчыма. Хіба што ў сне з вялікага перапою. Затое ў суверэннай, незалежнай і нейтральнай Рэспубліцы Беларусь пытанне аб рэферэндуме адносна ўзаконення рускай мовы як дзяржаўнай можа паставіць любы разумнік ад парламентарыя да нашчадка Мікіты Зносака, не кажучы ўжо пра асацыяцыю, якая нядаўна аб'яднала тутэйшых бальшавікоў з асабовым складам расейскіх філій партый і сабораў на Беларусі. Менавіта гэтая «асацыяцыя» паставіла ў сваёй праграме задачу — барацьба з нацыяналізмам. Цікава з якім нацыяналізмам? Не было паведамлення і пра тое, хто і калі перадаў «асацыяцыі» пракурорскія функцыі барацьбы з нацыяналізмам. Тым не менш гэтая самая «асацыяцыя» заявіла на ўсю СНДэўскую інфармацыйную прастору аб сваіх намерах весці барацьбу за ўвядзенне ў Беларусі «русского языка» ў якасці дзяржаўнага толькі, відаць, на той падставе, што Расея некалі панавала ў Беларусі і 300 гадоў не толькі выбівала з яе беларускую душу, але і вырывала язык.

У сувязі з гэтым вось што падумалася: калі прытрымлівацца логікі рускіх патрыётаў-інтэрнацыяналістаў і логікі сваіх недавяркаў-зносакаў, то чаму б, скажам, у Расеі не правесці рэферэндум-плебісцыт аб увядзенні на яе тэрыторыі татара-мангольскай мовы, калі такая была, у якасці другой дзяржаўнай. І падставы-аналогіі ёсць — на Беларусі расіяне гаспадарылі 300 год, а на Русі татары столькі ж. І Украіне можна было б прапанаваць-параіць увесці некалькі дадатковых дзяржаўных моў — ну, хоць бы такія: палавецкую, печанежскую, хазарскую ды яшчэ 2—3 варажска-скандынаўскія мовы. Ці мала якая набрыдзь швэндалася па яе былых прасторах...

Пра падобнае дзікунства сёння можна свабодна пісаць у «дэмакратычнай» прэсе (цяпер жа ўсе дэмакраты), калі прытрымлівацца логікі тэарэтыкаў «единой и неделимой» «на славянско-православной основе». Ну хочацца небаракам, і ўсё тут, свабоды далейшай русіфікацыі абарыгенаў у новых «дэмакратычных» умовах. Ну, а калі нельга, але вельмі хочацца, то, канешне, можна! — думаюць прэтэндэнты на новую «бессрочную» акупацыю «санітарнага калідора» ад Смаленска—Воршы да Бярэсця—Варшавы.

І яшчэ адно дзіва! Узаконення дзяржаўнай рускай мовы на Беларусі дамагаюцца не столькі рускія людзі, як нашы Зносакі і некаторыя «замежныя дабрахоты». Тут ужо і яны, і «інтэрнацыянальны» Зносак, адданы сваёй тутэйшай натуры, у першых радах і вытыркнуўся, зноў паспеў заявіць сваю халуйскую гатоўнасць служыць душой і целам любому гвалтаўніку, і прытым добраахвотна — бяры мяне, тутэйшага, «пользуйся в свое удовольствие», я не пярэчу, я згодзен,

бо я «руска-ісцінны тутэйшы, меджду протчым, інтэлігент». Такой згодаю ды ахвотаю Зносакаў выслужыцца хоць перад якой набрыддзю шырока карыстаюцца новыя месіянеры і пад чырвоным і пад жоўтым ліхтаром.

Размах і формы наступу на наш суверэнітэт ды незалежнасць (апеляваць да нейтралітэту ўжо і язык не паварочваецца) сёння прымаюць такія маштабы (гэта я ўжо пра беларускі палігон русіфікацыі), што, здаецца, прыхільнікі новага Саюза ССР вырашылі «употребить» не только «интернациональных» зносакаў, але і ўсю нацыю... А таму і падумалася: а можа, мы ўжо і ёсць нацыя зносакаў? А можа, мы і сапраўды ўжо зусім і не нацыя? Можа, мы сапраўды толькі затурканае, недапечанае насельніцтва на Русі Белай, толькі і здатнае на тое, каб глядзець у рот Русі Вялікай і быць з яе дазволу каланіяльнай крыніцай працоўнага быдла, гарматнага мяса ды рэзервам янычараў на выпадак вострых сітуацый, якія могуць мець месца ў будучым, як мелі яго ў мінулым. Хадзіць далёка, каб пацвердзіць сказанае, не трэба. Варта звярнуцца хоць бы да пакета апошніх пагадненняў Рэспублікі Беларусь з Расейскай Федэрацыяй, што былі падпісаны 20 ліпеня 1992 года ў Маскве. Яны красамоўна адлюстроўваюць становішча, якое склалася сёння і якое можа мець трагічныя вынікі ў будучым.

...Можа, з гэтых прычын у нашага суперінтэрнацыянальнага начальства такая любасць і замілаванне да расейскага ваеннага генія, які паклапаціўся, каб увекавечыць сябе праз усю сваю слаўную гісторыю па збіранню «окольных» зямель. Хіба для Беларусі і беларуса можа быць большае шчасце, чым адчуваць сябе расейскай правінцыяй. ...Паглядзі, паважаны мой чытач, на якія духоўныя і культурна-гістарычныя каштоўнасці здаўна і да сёння нас арыентуюць. Да прыкладу, фельдмаршал Сувораў, які не ўдзельнічаў ні ў адной вызваленчай вайне, а толькі ў захопніцкіх, які распяў на крыжы Беларусь і Польшчу, вынішчыў тысячы яе лепшых сыноў, сотні тысяч раздаў у прыгон сваім «чудо-богатырям», надзяліў іх зямлёю нашых продкаў, узяў сабе ў вечнае карыстанне Кобрын з 15750 прыгоннымі. А беларус, бы той дурань лапавухі, верыць рускаму гісторыку-шавіністу, што Аляксандр Васільевіч і ёсць яго благадзецель, яго нацыянальны герой. А каб у гэтым ніхто не сумняваўся, «начальствующие» зносакі ўвекавечваюць імя палкаводца-душыцеля найменнямі дзесяткаў калгасаў і саўгасаў, а таксама вуліц у гарадах і мястэчках і якраз у тых мясцінах, дзе касіла тутэйшых і шашка, і куля-дура, і штык-маладзец фельдмаршала. Пра Кобрынскі мемарыял у гонар «светлейшего князя» гаварыць ужо і не даводзіцца. Адкуль жа яму, затурканаму тутэйшаму ведаць, што яго сапраўдны герой Андрэй (Тадэвуш) Касцюшка. Змагар за нацыянальную ідэю, барацьбіт за свабоду і не толькі на Беларусі і ў Польшчы, але і ў Амерыцы. Адзін з выдатных інжынераў фартыфікацыі ў амерыканскай вызваленчай вайне. Друг Джэферсана і Вашынгтона, ганаровы грамадзянін ЗША. Там яму, «меджду протчым», помнікі пастаўлены. А ў нас, у затурканых, што? Мемарыял Сувораву ў Кобрыне?! Ды яшчэ нічым не адзначаная вёска Сяхновічы, дзе Касцюшка нарадзіўся, у складзе калгаса імя Суворава.

Ганьба! І многа разоў ганьба!

І яшчэ адзін цуд, вытлумачыць які звычайнай людской логікай немагчыма. Сувораў разграміў і задушыў паўстанне Пугачова. Гэты факт нават увекавечаны на жывапісным палатне рускага мастака: фельдмаршал-пераможца на белым кані едзе наперадзе, а ззаду ў клетцы вязуць паланёнага Народнага Героя Расіі Ямельку Пугачова. А нам з вамі ўдзяўблі ў галаву, што і «святлейшы князь» Аляксандр

Васільевіч і Ямелька — абодва аднолькава паважаныя героі і перад абодвума нам трэба здымаць шапкі, абодвух трэба славіць. І выходзіць — аднаго за тое, што супраць цара паўстаў, а другога за тое, што ад імя таго ж цара (ці царыцы) яго раскрыжаваў.

Абсурд! Нонсенс! Дзікунства!

Ці знойдзецца ж у нас калі-небудзь хоць адзін патрыёт у кіруючых сферах, каб меў гонар замест мемарыяла Сувораву стварыць у Кобрыне музей калі не Касцюшкі, то Паўстання 1793—95 гадоў. Будзем спадзявацца, што знойдзецца! Будзем спадзявацца і на тое, што давядзецца развітацца некалі з найменнем «Сувораўскае» і мінскаму ваеннаму вучылішчу для падлеткаў, якое павінна выхоўваць не янычараў для чужых армій, а патрыётаў сваёй Айчыны. Можа, яно і не будзе ў піку фельдмаршалу Сувораву ці генералу Мураўёву названа ў гонар нацыянальных герояў Андрэя (Тадэвуша) Касцюшкі ці Кастуся Каліноўскага, але ж і ў гонар гаўляйтэра фон Кубэ яго не назавуць.

Дарэчы, успомнім і яшчэ аднаго генерала, што пакінуў глыбокую зарубку на памяці беларускага народа. Маю на ўвазе генерал-губернатара Курлова. Агульнавядома, што ў час яго царавання ў «Северо-Западном крае» на прывакзальнай плошчы ў Менску ў 1905 годзе было расстраляна 80 чалавек і больш за 200 паранена толькі за тое, што яны рашылі ўголас заявіць свой намер людзьмі звацца. Такія эпізоды з жыцця крывавай гісторыі царскай імперыі лепш ці горш, але ўслаўлены ў многіх гарадах. У Маскве — Красная Прэсня, у Кіеве — Арсенал, у Баку — 26 камісараў. І толькі зносакі савецкага часу да сёння не адважваюцца ўвекавечыць трагедыю ў Менску і «подзвіг» рускага генерал-губернатара.

А ў жніўні 1992 года «Советская Белоруссия» ў асобе свайго аглядальніка, відаць, невыпадкова дала «сенсацыйнае» паведамленне: генерал-губернатар Курлоў загаду на расстрэл мірнай дэманстрацыі ў Мінску не даваў. Падставы? Уласныя мемуары самога генерал-губернатара! (SIS!). Нібы тое, што кат не прызнаўся ў сваім злачынстве, мяняе справу! Нібы таго расстрэлу ўжо і не было! Давайце, шаноўныя чытачы, падумаем разам, каму такія сенсацыі трэба? На чый млын «обозреватели» льюць сіропчык?.. Нават цар, нават яго ўрад асудзілі дзеянні генерал-губернатара — забойцы, а наш тутэйшы «обозреватель» абяляе яго, выводзіць з рангу катаў!

А вось подзвігамі супраць царызму, бо ён рускі царызм, мы не выхваляемся і ахвяр яго не ўслаўляем. Затое, паглядзіце, з якой халуйскай звышактыўнасцю і гонарам выхваляюцца зносакі тым, што тутэйшыя аддалі на алтар Вялікай Айчыннай кожнага чацвёртага (а калі па праўдзе ды сумленні, то кожнага трэцяга свайго суродзіча). Хоць маглі б столькі і не згубіць, калі б не было ў вайну і перад ёю столькі расейска-савецкага глупства, дурноты, няўмельства, бяздарных ваенных аперацый і проста жорсткасці да гарматнага мяса, асабліва калі гэтае мяса з ускраін, што пабылі пад часовай нямецкай акупацыяй.

Будзем спадзявацца, што дакументы яшчэ раскажуць (жывыя сведкі ўжо крыху разгаварыліся) пра тое, як па загаду Вялікага кормчага і яго генштаба сотні тысяч беларускіх мужчын і падлеткаў, што падраслі за гады акупацыі, не толькі належным чынам не ўзброенымі, але і не пераапранутымі ў вайсковае, кінулі на штурм Усходняй Прусіі, асабліва яе бастыёна Кёнігсберга. Там яны ўсе і засталіся. Пра гэта, між іншым, сведчаць спісы загінуўшых, што сабраны ў гарадах і раёнах Беларусі. Шмат сярод загінуўшых было і партызанаў, і не толькі ўраджэнцаў Беларусі. Усе яны былі на акупаванай тэрыторыі і па стратэгіі таго часу павінны былі загінуць. Мог жа сярод іх быць хоць адзін патэнцыяльны шпіён ці вораг народа!

А большасць ваеннапалонных, якія пасля вайны прайшлі савецкія канцлагеры?! З 6 мільёнаў немцы знішчылі толькі крыху больш за 3 мільёны!

А колькі нашых людцаў палягло на рацэ Проні! Іх таксама спачатку сабралі на вызваленай у 1943 годзе Магілёўшчыне і наўмысна кінулі молаху вайны ў пашчу.

А Лабанкоўская аперацыя?! Сёння былыя і партызанскія і вайсковыя стратэгі самі кажуць, што яна не вымагалася высокімі стратэгічнымі меркаваннямі. А колькі людзей перамалолі, і служывых і цывільных?!

Атрымалася, як у тым беларускім анекдоце. Гаспадару паведамілі, што яго пуня згарэла, а ён, дурань, узрадаваўся і з гонарам кажа: затое колькі мышэй ляснула!

Калі верыць афіцыйным звесткам, каля 600 тысяч нашых грамадзян «ляснула» ў канцлагерах ды на пасяленнях НКУС. І гэта ўсё дзеля таго, каб падсмажыць некалькі магчымых шпіёнскіх пацукоў?!

Пра гэта мы таксама не вельмі выхваляемся, бо лагеры тыя ды пасяленні былі ўсесаюзна-расейскімі — уральскімі, варкуцінскімі, далёкаўсходнімі. Загаворыш пра тое, а ўсе рускія возьмуць ды і пакрыўдзяцца. Не па-брацку, маўляў, сябе, шаноўныя тутэйшыя, паводзіце. «Нехорошо! Национализмом это попахивает, уважаемые! Неуважением к великому русскому народу!» А хіба ж я пра рускі народ тут кажу? Я ж пра яго катаў кажу!..

А палігонам па адпрацоўцы стратэгіі, тактыкі і палітыкі генацыду каланіяльная Беларусь стала не сёння і не ўчора. У гэтай справе традыцыі ў метраполіі даўнія і моцныя. Сёння на нашым беларускім палігоне адпрацоўваюцца не столькі ваенныя (час усё ж мірны), колькі ідэалагічна-палітычныя аперацыі. Ну чаго варта, напрыклад, ініцыятыва групы энтузіястаў услаўлення подзвігаў рускай зброі, якая ўнесла шырокамаштабны праект «проведения в Республике Беларусь встречи представителей стран — участниц войны 1812 года в связи с ее 180-летней годовщиной». Яшчэ да афіцыйнага разгляду гэтага праекта ў адпаведных установах, а іх «задействовано» было больш за 20 — ад Саўміна, міністэрстваў і ведамстваў да кааператываў і пасрэдніцка-гандлёвых кантор, ён быў шырока разрэкламаваны ў прэсе, па радыё і тэлебачанні. Былі нават падключаны замежныя пасольствы і консульствы. А як жа, такая падзея! Беларусь — удзельніца вялікай перамогі рускай зброі над карсіканцам і яго сатэлітамі! Яна ж і той край, дзе Вялікая Армія знайшла сваё апошняе прыстанішча. Словам, выпала беларускай правінцыі і яе сталіцы Менску стаць нарэшце Нью-Васюкамі і пупам еўрапейскай палітыкі. Тым больш, што згодна з планам мерапрыемстваў, у Менск павінны былі быць запрошаны прэзідэнты ўсіх краін — удзельніц вайны (як пераможцаў, так і пераможаных) для знаёмства ў неафіцыйнай абстаноўцы. Запланаваны быў і парад-але войскаў усіх краін-удзельніц пад нацыянальныя духавыя вайсковыя аркестры. Ну, а ў фінале (і, заўважце, адначасова!) памінальныя малебны ў саборах і рок-канцэрт на стадыёне з удзелам зорак сусветнай эстрады першай велічыні.

Словам, у чытачоў і гледачоў захапіла дых ад такога размаху. Падзеі давалі шанц Рэспубліцы Беларусь зазіхацець белаю капейкаю ў святле славы расейскай зброі і яе вызваленчай місіі ў Еўропе.

А канфуз адбыўся нечакана, і мыльны пухір лопнуў, як і павінен быў лопнуць. Пры разглядзе самой ідэі правядзення гэтага «шоу» высветлілася, што Беларусь выступала ў вайне 1812 года на баку... Напалеона, ды яшчэ карміла ўсю яго армаду. Пры абмеркаванні ідэі і канцэпцыі задуманага свята ў Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь з удзелам экспертаў-гісторыкаў было зачытана і пісьмо

«прадстаўніка навуковай грамадскасці беларускага паходжання» спадара Цішука Я. А. з Масквы. Паслухайце! — далібог, цікава:

«Уступленне ў межы Расійскай імперыі ўзначальваемай Напалеонам арміі непасрэдна для нашага народа было звязана з надзеямі на адраджэнне незалежнасці. Першага ліпеня было адноўлена Вялікае княства Літоўскае, незалежнае ад створанага раней герцагства Варшаўскага. У ваенных умовах пачалося аднаўленне адміністрацыі і арміі. У кароткія тэрміны былі сфармаваны чатыры палкі кавалерыі, пяць палкоў пяхоты, гвардзейскі уланскі полк, шэсць батальёнаў егераў, конна-егерскі полк добраахвотнікаў. Магілёўскі і Віцебскі палкі, Нацыянальныя гвардыі ва ўсіх губернскіх і павятовых цэнтрах.

Усе гэтыя часці ўліліся ў напалеонаўскую армію, праследавалі рускія войскі да Масквы, удзельнічалі ў Барадзінскай бітве, аднымі з першых увайшлі ў Маскву, спаленую крымінальнікамі і рабаўнікамі, потым разам з адступаючай арміяй адышлі ў Еўропу і на баку Напалеона прымалі ўдзел у «бітве народаў» пад Лейпцыгам, пасля паражэння ў якой перайшлі Рэйн і засталіся ў эміграцыі ў Францыі.

Фармаванне ў сціслыя тэрміны значных сіл па тым часе было магчыма таму, што да 1812 года ў памяці народа былі свежыя і акупацыя войскамі Расейскай імперыі ў 1793 годзе, і падаўленне з нечуванай жорсткасцю паўстання 1795 года набіўшымі руку на падобных «подзвігах» — (падаўленне Пугачоўскага паўстання і турэцкая вайна) салдатамі Суворава.

Правядзенне такіх мерапрыемстваў, калі яны адбудуцца, толькі затармозіць адраджэнне пачуцця нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і з'явіцца дрэнна завуаляваным траянскім канём русіфікацыі, бо спакваля будзе глушыць праяўленне сапраўднай гістарычнай рэальнасці і праводзіць лінію хлуслівай інтэрпрэтацыі ходу і вынікаў той вайны і значэння яе для нашага народа.

...Ачышчэнне гісторыі, асабліва беларускай, ад наносаў імперскай хлусні, безумоўна, неабходнае і для правільнага выхавання нашай нацыянальнай арміі, як гаранта незалежнасці Беларусі ў будучым».

Адным словам, не суджана было на гэты раз пакупацца Беларусі ў промнях расейскай славы. І галоўнае, ніхто з экспертаў-гісторыкаў не ўзяў на сябе адказнасці раіць рэжысёру парада-але, дзе паставіць беларускія палкі — за Напалеонам ці за Аляксандрам I, бо няшчасныя продкі нашы былі і на адным і на другім баку. Такая ўжо наша тутэйшая планіда: ліць кроў за чужыя інтарэсы ў чужых авантурах і крычаць, што мы з братам перамаглі іх. А каго іх, гэта ўжо не так і важна.

Такі вось на гэты раз ціхі пшык атрымаўся з гучнай помпы, прыдуманай ці «по недомыслию» яе аўтараў, ці з іх памкненняў учыніць гучную правакацыю. Так ці інакш, а сышліся на тым, што ахвяры не Айчыннай вайны для нас варта памянуць у цэрквах ды касцёлах, а праўду пра яе расказаць людзям праз сродкі масавай інфармацыі. А піру з «царской охотой» і рок-канцэртам пад час чумы не праводзіць — і стратна, і перад людзьмі сорамна.

Добры пачатак! А яшчэ лепш было б закрыць, ліквідаваць беларускі ідэалагічны палігон, як той, атамны пад Сяміпалацінскам.

Прыклады агрэсіі, як даўняй, так і зусім нядаўняй, супраць нашай нацыі, яе культуры, побыту, супраць гістарычнай самабытнасці беларускага народа, урэшце, супраць яго мовы можна было б множыць бясконца. Але ж пара сказаць пра нашу самую вялікую бяду і небяспеку. А самая вялікая бяда і небяспека беларуса сёння не толькі ў тым, што за 300 гадоў сацыяльнага і асабліва нацыянальнага прыгнёту «беларускага нявольніка» давялі да атупення, пакорлівасці, абыякавасці не толькі да ўсяго на свеце, але і да самога сябе, да свайго

ўласнага лёсу. Пакорліва-лакейскія паводзіны гістарычнага папіхайлы цяперашнія падручныя палітыканы называюць не інакш, як беларускай талерантнасцю. Сапраўды, другой такой «талерантнасці» нідзе ў свеце больш не знойдзеш. З усёй сусветнай каланіяльнай сістэмы бадай што адзіная Беларусь пакуль яшчэ не выйшла! Усё яшчэ талеранціцца на смех сусветнай грамадскасці.

Бяда Беларусі ў тым, што каланізатары перамаглі абарыгенаў у асноўным — вынішчылі нацыянальную самасвядомасць народа і ўзрасцілі на яго палетках і ў чалавечых душах нацыянальны нігілізм у такіх памерах і канцэнтрацыях, што працэс асіміляцыі дзесяцімільённай нацыі пагражае стаць беззваротным, калі не стаў ужо такім.

Давайце будзем шчырымі! Закон аб мовах ні ў школах, ні ў інстытутах, ні ў большасці міністэрстваў і ведамстваў не выконваецца. Народная, нацыянальная тапаніміка не адраджаецца. Рускамоўная рыначная рэклама запаланіла ўсё, што змагла — радыё, тэлебачанне, газеты, сцэны і сцены. Кааператыўныя выданні (а іх 300) і выдавецтвы (а іх 600) завалілі чытача сваёй рускамоўнай прадукцыяй не лепшага гатунку. Чарнуха, парнуха, экстрасенсы, астролагі, варажбіты, «чревовещатели вещают» з кожнай падваротні, наклікаючы не больш і не менш як канец свету. Да пачатку навучальнага года школы не атрымалі больш за 40 падручнікаў — паліграфічныя прадпрыемствы працуюць на рынак. Праваслаўная царква размаўляе з вернікамі на расейскай мове. Ксяндзы-місіянеры пераводзяць касцёлы на польскую мову. Побач з іконамі святых вывешваюцца польскія сцягі ды партрэты Пілсудскага і Валенсы. Вернікаў-католікаў пераконваюць, што яны палякі, якія жывуць на «крэсах усходніх». Кіраўнікі прапольскіх аб'яднанняў і іх актывісты вядуць справу на раскол нацыі. Свае шукальнікі палітычных авантур знайшлі на Палессі «новы народ» і рыхтуюць яму аўтаномію, а то і далучэнне да суседняй дзяржавы. На вывучэнне роднай мовы наша роднае чыноўніцтва атрымала сямігадовы мараторый.

Ці не дзіва?! Ці не сорам?! Сем гадоў на вывучэнне роднай мовы! Што тады ўжо казаць пра кітайскую ці дыялект нейкага афрыканскага племя?! Між іншым, замежныя лінгвісты, якія ведаюць хоць адну славянскую мову, беларускай авалодваюць за месяц-паўтара. Менавіта яны і пераконваюць нас, што мова наша «такая ж людская і панская» (а не мужыцкая), як і іншыя.

За вельмі кароткі тэрмін дасканала авалодаў беларускай мовай выпускнік Балонскага універсітэта, што ў Італіі, Паола Гальвані і цяпер перакладае анталогію беларускай паэзіі на італьянскую. А ўспомнім перакладчыка з беларускай мовы, прафесара пражскага Карлава універсітэта Вацлава Жыдліцкага! А доктара Зіму, які ў тым жа універсітэце чытае курс беларускай літаратуры на беззаганнай нашай мове! А Норберт Рандаў у Берліне, а прафесар Макмілан у Лондане хіба не папулярызатары нашай мовы і культуры! А паслухайце мову беларусістаў з Англіі Дэймса Дзінглі і Пітэра Маера! А прафесар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку Томаш Гэрд! Дай бог нашай нацыянальнай прафесуры так ведаць беларускую, як яе ведаюць і прапагандуюць пералічаныя і не пералічаныя замежныя вучоныя. Значыцца, цэняць, паважаюць, захапляюцца нашай з вамі мовай. Бо культурныя, адукаваныя, разумныя людзі, з якіх бы дзяржаў яны ні былі.

У многіх краінах свету створаны спецыяльныя цэнтры і кафедры па вывучэнні беларускай філалогіі, літаратуры і мастацтва. Інтарэс да нашай дзяржавы, яе культуры і мовы надзвычайны. Ацэнкі нашай старажытнай мовы самыя высокія. Найбольш моцны цэнтр беларусазнаўства створаны ў Аўстрыі ў Зальцбургу Германам Бідэрам. Пан Бідэр рыхтуе кнігу пра беларускае Адраджэнне. Ён жа арганізаваў

міжнародны сімпозіум «Моўная і культурная палітыка ў Беларусі». Доктар Ніна Брэдлоў з Патсдамскага універсітэта працуе над манаграфіяй па беларускай літаратуры. І такія прыклады можна множыць і множыць.

Крыўдна. Вельмі крыўдна, што пры ўсім пры тым у сябе дома нацыянальны нігілізм атруціў нацыю і не толькі ў сферы быту, але і ў сферы дзяржаўнай. Многія сродкі масавай інфармацыі толькі шыльды начапілі на сябе беларускія. Радыё і тэлебачанне (нацыянальнае) працуюць па прынцыпе «Штэпселя і Тарапунькі». У незалежнай самастойнай рэспубліцы ідзе ашалелая антыбеларуская кампанія. Гэтыя словы належаць прадстаўніку Рэспублікі Беларусь у ААН Генадзю Бураўкіну. А яму здалёк добра відаць.

Так званы рынак і яго прыхільнікі ва ўсіх сферах ні ў што паставілі розум, інтэлект, творчую асобу ў навуцы, літаратуры, мастацтве. Пачалася сапраўдная вайна дзялкоў супраць нацыі. І пачалася на ўсіх узроўнях. Нельга не пагадзіцца з тым жа Генадзем Бураўкіным, што на таленты, на дасведчанасць накідваюць эканамічную пятлю і заціскаюць яе. Вярхі не разумеюць, што ў нацыі павінен быць дух. А гэта таленты, гэта інтэлігенцыя. Парламент сваімі дзеяннямі, сваімі рашэннямі паказаў, што ён многіх рэчаў не тое што не можа вырашыць, ён — не хоча іх вырашаць. І нават больш таго, не хоча іх заўважаць.

Сродкі масавай інфармацыі ўсё часцей і часцей знаёмяць нас з так званымі сацыялагічнымі даследаваннямі, якія імкнуцца падвесці навуковы падмурак пад «доказы» палітычнай і сацыяльнай неабходнасці адсунуць нацыянальную беларускую мову на другаснае месца, каб яна ўжо загібела зусім і канчаткова. Бачыце, беларусы, яўрэі, татары, палякі і, канешне, рускія так «хотят», а іх у Беларусі шмат. А хто пытаўся ў тых самых яўрэяў, татараў, палякаў ды рускіх? Хто ўзяў на сябе адказнасць плявузгаць ад іх імя, выкарыстоўваючы такія магутныя сродкі абалваньвання народа цэлай дзяржавы?

А хто ў беларуса пытаўся, ці хацеў ён бурыць і нішчыць нацыянальную школу, нацыянальную культуру, нацыянальную царкву і 300 гадоў таму назад і зусім нядаўна? Ці клікаў ён на сваю зямлю Суворавых, Мураўёвых ды Курловых? Ці далучаўся ён «добровольно» да «великой и неделимой?»

Нашчадкам каланізатараў усвядоміць бы ўсё гэта ды папрасіць прабачэння ў дзесяцімільённага народа, ці хоць бы ціха прызнаць сваю «вызваленчую ролю» ў мінулыя стагоддзі і дзесяцігоддзі, каб не пасварыцца з сённяшнім беларусам, каб мець яго дружбу і прыязнасць надалей.

Бачыце, нам прапануюць альтэрнатыву: ці да канца адмовіцца ад сваёй мовы, ці мець сур'ёзныя сацыяльна-палітычныя канфлікты і нават сутыкненні. Больш таго, нам абяцаюць разгарнуць і ўзмацніць барацьбу з «нацыяналізмам». (Разумеюць, што для беларуса самае запаветнае: «абы вайны не было!»)

Гэта мы — абрабаваныя, прыгнечаныя, анямелыя па чужой волі,— нацыяналісты?!

Калі гэта завецца «национализмом», тады, панове шавіністы, складайце на нас новыя спісы для новых ГУЛАГаў. Мы гатовы адсядзець усёй нацыяй. Некалі ж і яе рэабілітуюць. Галоўнае, асцерагайцеся заганяць яе ў партызаны...

...Хацеў падсумаваць сказанае, а потым падумаў: а навошта паўтарацца, калі ўсё патрэбнае ў дадзеным выпадку было сказана разумнымі людзьмі ў «10 загадах для памяці» і надрукавана ў «Беларускім календары» яшчэ ў 1922 годзе.

1. Кожны праваслаўны беларус павінен ведаць, што ён не расеец,

а каталік, што ён не паляк. Памятайце, што вы не проста «тутэйшыя людзі», а беларусы.

2. Не саромся, беларусе, гаманіць па-свойму — на роднай мове бацькоў і дзядоў сваіх. Шануй сваю мову, свае песні, свае казкі, звычаі і ўсё роднае — гэта спадчына дзядоў і вялікі наш скарб.

3. Богу маліцца трэба толькі па-свойму; тады вы добра зразумееце тое, што кажаце. Дзяцей вучыць трэба... у роднай мове, тады навука прынясе шмат карысці.

4. Толькі тады цябе ўсе будуць шанаваць як чалавека, калі сам сябе будзеш шанаваць,— калі не адкінеш свайго нацыянальнага ўласнага багацця. А першы скарб нацыянальны — гэты родная мова.

5. Толькі ў роднай, добра зразумелай мове чалавечы розум развіваецца і багаціць родную духоўную і эканамічную культуру.

6. Культура кожнай нацыі паасобку прыносіць карысць агульначалавечай культуры — усяму свету. Таксама і мы, беларусы, прынясём карысць усім людзям на зямлі толькі тады, калі яны ў нас угледзяць нашае асобнае, вытваранае намі, а не пазычанае. Фундаментам гэтага ёсць толькі родная мова.

7. Быць беларусам гэта значыць працаваць дзеля свайго краю, дзеля свайго народа і развіваць сваю культуру і штукарства. Таксама шанаваць і ўсе іншыя нацыі — і свайго не цурайся і чужому навучайся!

8. Кожны з нас павінен памятаць і ведаць, што наша беларуская мова не горшая за іншыя мовы, толькі на нашай мове было наўмысна забаронена пісаць і друкаваць кнігі дзеля таго, каб мы аставаліся цёмнымі людзьмі... Ведайце, што некалькі сот гадоў таму назад на нашай мове пісаліся законы ў гэтым краі і друкаваліся розныя святыя і свецкія кнігі.

9. Той чалавек, хто называе нашу мову «мужыцкай», «хамскай» і кпіць з яе, гэта або правакатар, або дурны. Бо мова, у якой гамоніць 12 мільёнаў людзей, мае права быць нараўне з усімі іншымі мовамі і развівацца праз друк кнігі.

10. Тыя людзі з палякаў ці з маскоўцаў, што кажуць вам: «кіньце сваю бедную, неразвітую мову і прылучайцеся да нас — мы вам дадзім усё гатовенькае!» — гэта, памятайце, такія людзі, што надалей хочуць закабаліць вашу душу,— не ідзіце за імі, бо страціце сваё імя і зробіцеся нявольнікамі духу, грунтам для чужых...







ГАЛІНА ГАРЭЦКАЯ

# ДЗЯДЗЬКА ГУРЫК

Расказваў дзядзька Гурык, як маліўся ў дзяцінстве. Гадоў каля пяці меў, а штаноў яшчэ не насіў. У доўгай сарочцы са зрэбнага палатна, непрыгожай, стаяў на лаўцы перад абразамі, маліўся голасна. Збіваўся, словы губляў. Часам крычаў на ўсю чыста сілу: верыў, што бог пачуе. Хто міма хаты ішоў, яго маленне чуў. Крыклівы быў, таму і празвалі «гарлачом». Дражнілі: «Гарлач, гарлач, малако зліваць!»

На шостым годзе штаны пашылі. Смяяліся: «Цяпер мы цябе з Вулькаю ажэнім!» Суседцы Вульцы Нажынскай гады чатыры. Раз пабег за ёю, каб пабіць. Яна хутчэй па «сценцы» — сцяжынцы каля садовай лескі (плятня), а потым па вузенькай сцежачцы да гумна Гарэцкіх. І пабегла пад гуменнымі ла́тамі, а ён бег на крок бліжэй да гарода і пабіў аб латы галаву. Разы тры ўдарыўся. Кроў цякла. І пасля ганяўся за Вулькаю, пабіць стараўся, што з-за яе дражняць.

Любіў ездзіць з маці ў Лонніцу, дзе бацька яго кухарам у пана Цэкерта служыў. Маці сама каня запражэ, малога Гурыка на калені возьме. Ён у неба глядзіць: там воблакі, як харомы, і фігуры нейкія здаюцца, нібы велізарныя мядзведзі ідуць... Дрэвы з бакоў дарогі бачыў. У Лядах на пароме перабіраліся цераз Днепр.

Помніцца панская кухня прасторная, падлога бліскучая. І цацку бліскучую тут падаравалі. Разбіў яе несумысля — першая згуба. Плакаў горка.

З Лонніцы на станцыю Красное хадзілі праз мост. Гурык баяўся прадоння.

А будаваць «масты» любіў. Пасля дажджу хлопчыкі багацькаўскія праз канаўкі кладачкі перакідвалі, на іх, упоперак, меншыя дошчачкі клалі. Станавіліся на «мост», чакалі, ці не разваліцца.

Па канаўках вада сцякала на ніжнія гароды ў большую, пасярод вёскі, канаву, якая калісьці была рэчкай. Яна і зараз жывая, канава

тая, толькі па баках яе, замест пышных гародаў, зрабіўся травяністы выган. Як і раней, дзве безыменныя вуліцы, раздзеленыя цяпер ужо выганам, упіраюцца ў трэцюю, якую празвалі Шырокай Паласой. Вось і ўся Малая Багацькаўка.

Першыя лапці сплёў Гурыку бацька, калі малому споўнілася сем гадоў. Былі з аборамі прыгожымі, крыж-накрыж, потым паралельна і зноў накрыж. «Кожны хацеў свой фасон мець»,— усміхаўся дзядзька. Казаў, што ў дзяцінстве дапамагаць старэйшым любіў. Збіраў макрыцу, асот маладых, лісце з буракоў на сечанку свінням. Сачыў, каб куры не псавалі грады. Што прынесці, падаць любіў.

У Залужжы, у лядах, зарослых арэшнікам, хлапчукі багацькаўскія скот пасвілі. З аднаго боку — багацькаўцы, з другога — бельцы (з вёскі Бель). Між імі баі ўчыняліся. Тады Гурык, як малодшы, сядзеў каля схованкі з нарыхтаваным загадзя шубе́ннем (палкі для кідання). Пачнуць адступаць багацькаўцы — і раптам свіст, і Гурык хутчэй нясе новыя шубені, цэлае бярэмя. Бельцы — ходу. Гузы адзін другому набівалі. Каровы тым часам мірна пахаджвалі.

Пастушкі ў карты на запалкі (замест грошай) гулялі. Кралі запалкі ў матак і ў суседак.

«Калі падрос,— успамінаў дзядзька,— дужа ўпадабаў грыбы збіраць. Было моцнае імкненне шукаць, знаходзіць. Ад грыбоў усё і пайшло. Самы лю́бы занятак — пошукі розныя!»

Старэйшы брат яго Максім запісаў у 1912 годзе на кавалачку паперы:

Гаўрылька і Ганна
Сяння ўранні,
Узяўшы кашолкі,
У лес у грыбы
Па роснай травіцы пайшлі.
Там доўга хадзілі,
І пільна шукалі,
І поўны кашолкі
Грыбоў назбіралі,
І ўдвору к сняданню прыйшлі.

Ганна, самая малодшая ў сям'і, любіла суніцы збіраць. Пад восень па дурнап'ян (ганабе́ль) хадзілі. Збіралі журавіны, брусніцы. Аднойчы Гурык і Ганначка вельмі спужаліся, калі трапілі ў лесе ў густы-густы туман.

Раз выбраліся Гурык з Ганначкай у баравікі. У Гайку іх процьма расла. У крайнім двары на прызбе чорны здаравенны сабака ляжаў, вочы блішчэлі. Гурык падышоў, пагладзіў яго, а ён цап! за руку. І моцна пракусіў. Крыўда на сабаку была, руцэ балюча, але дамоў не вярнуліся. Цярплівым хлапчуком быў Гурык.

У Гайку па ўскраінах старэйшыя браты Гурыка — Іван, Максім, Парфір — траву касілі, бралі ў паноў зямлю ў арэнду. У Засценках, у Боціках (па дарозе ад Шырокай Паласы ў мястэчка Шамава) сенажаць добрая была. Арандавалі і тут па кавалачку лугавіны.

Успамінаў дзядзька Гурык:

— Вечарэе, але яшчэ цёпла. На сенажаці Іван, Парфір, Максім на ўсю сілу крычаць ад здаровага адчування жыцця і прыроды. На розныя галасы крычалі. І паасобку, і разам. У Максіма барытон прыемны, гучны быў. Уяўлялі, што калі-небудзь пойдуць міма Малой Багацькаўкі цягнікі, і выдавалі сябе паравозамі, гудзелі зычна. Жанчыны з поля ідуць, дзівяцца, чаго гэта хлопцы так крычаць, нібы пяюць.

Помніў дзядзька Гурык, як Гаёк ссякалі. Панам Іванскім грошы патрэбны былі (яны і зямлю прадавалі). Ад вялікага старога лесу сям-там кустоўнік застаўся, маліна расце. Месца гэтае так Гайком

і завецца. Недалёка ад яго, бліжэй да М. Багацькаўкі, новы могільнік у 1918 годзе заснаваўся, цяпер зялёнаю купаю здалёк бачыцца. Тут і мае дзед з бабаю ляжаць. На помніку: Гарэцкая Ахрасіння Міхайлаўна $18\frac{6}{VII}64$—$19\frac{4}{III}35$. Ніжэй: Гарэцкі Іван Кузьміч $18\frac{20}{III}56$—$19\frac{13}{II}45$.

З бліжніх да М. Багацькаўкі лясоў засталіся хвойны — Жаб'е і Курманаўшчына — змешаны. Даўным-даўно не стала лесу ў Засценках, Боціках, Залужжы, Чортаўшчыне. Няма ўжо і тых лясоў, дзе бывала я з бацькам маім у 1936—1937 гадах: сунічнай, з мноствам арэхаў, Багацькаўшчыны, журавіннага Булінскага Моху, грыбных Салаўёвых Машкоў — хвойнага лесу, куды з дзедам Іванам Кузьмічом ездзіла па «хвораст».

Успамінаў дзядзька Гурык, як калісьці багацькаўскія мужчыны, хлопцы і падлеткі хадзілі цэлай вёскай драць лыкі ў Цёмны Лес, кіламетраў за дванаццаць. Яду бралі з сабой і торбы для арахоў. Торбы на шыі чаплялі, і яны віселі на жываце ці збоку. А лыкі ў вязанкі збіралі. Ліпавыя, першарадныя, ішлі на лапці, а з лазы, якую найчасцей у Боціках дралі,— на фарбаванне, дубленне.

У Цёмным Лесе арэхі на сухіх мясцінах раслі, па 5—7 гнёздаў на галінцы сустракалася. Лузганцы — самы смак! Аж сыпаліся.

Пыталася я ў дзядзькі, што асабліва ўразіла яго ў дзяцінстве.

— Быў у Белі Панас — злодзей. Краў у многіх вёсках, але Малую Багацькаўку абыходзіў. У 1912 годзе нехта скраў багацькаўскага жарабка. Падумалі на Панаса. І ўчынілася жудасная расправа — самасуд. Некалькі маладых хлопцаў забілі яго каламі. Паклалі на санкі, завезлі ў лес і кінулі. Прыстаў прыехаў, загадаў закапаць. Чужыя людзі пахавалі пры лясной дарозе. Потым усе шкадаваць пачалі: можа, не ён вінаваты.

Хаўтуры вясковыя помняцца. Першым, на памяці дзядзькі Гурыка, памёр ад сухотаў Васіль Кушаноў, за ім салдат, што вярнуўся з японскае вайны з медалём (ад ран памёр), і асабліва запомнілася, як прыехаў з Пецярбурга паміраць у вёсцы брат Максіма Нажынскага. Быў рабочым, захварэў на сухоты. Прывёз жонку, тыповую рускую. Батрачкай працаваць пайшла. Хата Максіма Нажынскага крайняя, пад Багацькаўшчыну, стаяла. Два дубы пры ёй вялікія, шмат бывала жалудоў. Сухотнік усё сядзеў пад дубам. Як і таго салдата раненага, дужа ўсе жалелі яго.

Прыходзілі ў вёску краўцы, шаўцы, шапавалы (пераважна з Галалобаўкі, валенцы ўсім рабілі), хадзякі (жабракі). Сляпыя хадзякі з павадыром хадзілі, псальмы, песні пялі. Начавалі ўсе па хатах.

Найбольш цікавілі канавалы. З Таржкоўскага, Асташкаўскага паветаў былі. Абвешаныя путамі і прыладамі для лягчання. Гаманлівыя. Апавядалі пра здарэнні розныя. «Як тэатр які!» — казаў дзядзька. Прыходзіў паслухаць канавалаў і брат яго Максім.

У Большай Багацькаўцы была школка граматы. Вучыў нейкі Панасёнак. Кніжкі-начаткі, бясконцае паўтарэнне розных спалучэнняў літар, завучванне вершыкаў. Дома было некалькі пракламацый з малюнкамі на рэвалюцыйную тэму. Падпольшчыкі давалі іх сялянам. Бачыў Гурык у той час і брашуры пра рэвалюцыю 1905 года, засталіся ў памяці.

Два гады ў Панасёнка правучыўся, а потым хадзіў са старэйшымі хлопцамі ў сяло Слаўнае (дзядзька, як і багацькаўцы, вымаўляў: Слаўнава), кіламетры за тры ад Малой Багацькаўкі. Да Жаб'я, вялікага лесу, даходзіў, а далей сілы не хапала. Хлопцы Парфір Гарэцкі, Якаў Казлоў, Іван і Гаўрыла Мікіцёнкі (Кушановы) садзілі яго на лапкі з ёлак, цягнулі. «На яловых лапках у школу ездзіў»,—

смяяўся дзядзька. Пазней у дзеда свайго Міхалкі Папова пасяліўся ў Слаўнаве альбо ў Касцюка слаўнаўскага, Міхалкавага сына, жыў. Вучыла ў Слаўнаве Анастасія Іванаўна Глінская. Да яе заляцаўся шляхціц Кацуба. Прыедзе на стаенніку — Глінская, уся чырвоная, выбежыць да яго. Вучні ўсё разумелі.

У той час захапляліся малодшыя гульнёю ў пёркі. Выйгравалі і прайгравалі іх. Жоўтыя былі пёркі (№ 86) і белыя («перашпілістыя»). Замілаванне да пёрак было.

Помніць дзядзька Гурык, як хадзіў з маці на ўсяночную ў слаўнаўскую царкву. Па грэблі маці на руках яго пераносіла, бо ў нізінках цераз грэблю цякла вада. Драўляная царква Ільі Прарока (пабудавана ў 1-й палове 19 веку) і зараз яшчэ цэлая, служаць у ёй. Яна адзначана ў «Зборы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (1986, с. 317—318), упаміналі яе бацька мой у «Антоне», «Камароўскай хроніцы» і Уладзімір Караткевіч у эсэ «Мсціслаў» (Мінск, 1985).

Калі адчынілася і ў Большай Багацькаўцы земская школа, бліжэй хадзіць стала. Настаўніца — Людміла Шпакоўская. Прыгожая, строгая. У 1910 годзе паведаміла вучням, што памёр Леў Талстой. Сумная была хвіліна...

У 1911 годзе адвяла маці Гурыка ў двухкласнае вучылішча ў Старым Сяле. Ад М. Багацькаўкі кіламетраў дванаццаць. Настаўнічаў тут Паўлоўскі Пётр Сцяпанавіч з Горадзеншчыны. Вучыў добра, але грубаваты бываў: «Лепшаму вучню — усё, а вам, дурням, нічога!» За добрае вучэнне падараваў Гурыку Гарэцкаму «Записки охотника» І. С. Тургенева. Усяго адзін год правучыўся Гурык у Старым Сяле. Сябраваў з Лейбам Крэйнгаўзам, у адным класе былі. Жыў у дружнай сям'і Шведавых, на поўным пансіёне. Бацька плаціў тры рублі ў месяц за кватэру і харчаванне. Маці часам прыносіла хлеб, гарох.

У лесе паблізу Старога Сяла было многа карставых варонак, зямля правальвалася. Хадзілі чуткі, што з-пад зямлі ў поўнач царкоўныя званы чуваць. Хацелася хлапчукам-вучням паслухаць звон, ды страшыліся. Верылі ўсяму. Бачыў Гурык, як на Духа («калі цёпла і суха»), каб ведзьмы на кароў не ўплывалі, над варотамі пуні багацькаўскай чаплялі палку, якую выразалі ў лесе з бярозавага сука, і абавязкова з наростамі.

Са Старога Сяла перавялі багацькаўскіх вучняў у вёску Раздзел (побач з вёскай Курманава, на рэчцы Рамясцвянцы, ад М. Багацькаўкі $3^1/_2$ кіламетры) у пяты клас новай школы. Настаўнік Паўлоўскі шкадаваў, што лепшага вучня — Гурыка Гарэцкага — губляе, але ў Старое Сяло далёка было хадзіць.

Вучыў у Раздзеле цудоўны настаўнік Пётр Платонавіч Максімаў. Строгая была дысцыпліна. Добра выкладаў рускую літаратуру, гісторыю, геаграфію, рашалі цікавыя матэматычныя задачы, вучылі на памяць вершы, асабліва байкі І. А. Крылова.

П. П. Максімаў прыгожа апранаўся. Валасы назад зачасаныя. Вышэй сярэдняга росту, хада быстрая. Хораша спяваў барытонам. Любіў песню «Гандзя». Аднойчы ён і жонка (маладажоны) запрасілі Гурыка дапамагчы ім сшыткі праверыць. А потым абедаць пазвалі. Саромеўся. Не ведаў, як відэлец трымаць. Першы раз у жыцці бачыў катлету. Ды яшчэ доўгія макароны падалі, ніяк не мог іх укусіць...

Хадзіў у Раздзел разам з Міхалкам Шнарскім і Ігнатам Сілаковым. Ішлі праз Чортаўшчыну. Па дарозе валілі сухастой. Некалькі сухіх бярозак паваляць. Спачатку разгойдаюць іх. Мяшаны лес быў, пераважна бярозы. Выходзілі рана, бралі з сабою па кавалку хлеба, малако, яблык. У школе елі.

У першыя маразы лёд добры бываў. Мяхі возьмуць, садзяцца на іх і адзін другога катаюць. Канькоў, лыжаў не зналі, а коўзацца любілі. Дома каталіся на «маразянках». Самі рабілі: на рэшата наліваўся

разведзены ў вадзе гной (густа, слаёў у пяць) і замярзаў. А то «каня» ці «казла» рабілі: дзве дашчэчкі стаякамі, на іх дошка для сядзення, пад імі другая, намарожаная. Месца, дзе коўзаліся, называлася каўзель. У снежкі часта гулялі. Папаў аднойчы Гурык у вока Пятру Платонавічу. Другім разам шкло пабіў мячыкам. Але ўсё абышлося. За пабітае шкло 50 капеек заплацілі. Толькі цяжкавата і сорамна было, асабліва перад бацькам Іванам Кузьмічом.

Закончылі пяты клас. Перад тым быў урачысты экзамен. У новых кашулях хлопцы, у лепшых сукенках дзяўчынкі. Нават іншыя настаўнікі прыйшлі да іх на свята.

На развітанне павёў Пётр Платонавіч вучняў на экскурсію на рэчку Рамясцвянку. Па лузе ішлі, дзе многа кветак было. Незабудкі ў клас прынеслі, на талерку з вадою паклалі, а пасярод камень. Кветкі на камень прыгожа ўздымаліся. Настаўнік з жонкаю частавалі ўсіх цукеркамі. Усе атрымалі пасведчанне аб сканчэнні Раздзельскай школы. Вучэнне было бясплатнае, і кніжкі давалі бясплатна.

Пётр Платонавіч доўга жыў. Пахаваны ў Курманаве. Дачка яго Ганна Пятроўна сказала мне, што ўсё жыццё захоўваў ён выпускное сачыненне Гурыка Гарэцкага. Называлася «Что посеешь, то пожнешь».

Першапачатковая адукацыя скончылася ў 1914 годзе. Вучыўся ў пяці настаўнікаў: Панасёнка, Глінскай, Шпакоўскай, Паўлоўскага, Максімава (у Большай Багацькаўцы, Слаўным, зноў у Большай Багацькаўцы, у Старым Сяле і Раздзеле).

Рос Гурык вельмі моцным, здаровым. Гной у поле вазіць гадоў у дванаццаць пачаў. Неяк трэба было весці каня з возам гною ў поле, а ён бегаў купацца ў сажалцы каля Залужжа і спазніўся. Бацька вожкамі аперазаў. Адзін толькі раз пакараў так. Усё ж ён паважаў хлапчука, што добра вучыцца.

Гадоў з чатырнаццаці араць пачаў, парыну (папар) скарадзіў. Падабалася сена, жыта вазіць, асабліва вазы накладаць. Малаціў нароўні з дарослымі, умеў «і ў чатыры, і ў пяць цапоў». Салому збіралі, кулі вязалі. Ніхто не любіў грады палоць, а морквінку выцягнуць, схрумстаць прыемна было. Мак з мачынкаў елі. Гаспадарка ў Івана Кузьміча была такая: самае большае — дзве каровы (ці карова і падцёлак), дзве свінні, некалькі авечак. Хлявы халодныя. Быў конь любімы. Адзін час быў і злы, зваўся Аграмак.

Хата спачатку была з земляной падлогай. Па-багацькаўску «падлога» — «мост», а сямейны ложак (ніжнія палаці) называўся «пол» («на палу́», «з по́ла»). На страсе мох быў. Пабудаваная пазней новая хата таксама была крытая саломай.

У «Нашай Ніве» за 31 студзеня 1914 года з'явіліся нататкі — паведамленні за подпісам «Гурык Г.» Пра тое, як у Цёмным Лесе падрубленае дрэва забіла Мікалая Ханеўскага, а перад тым у Чортаўшчыне, на вачах пані Іванскай, дрэвам забіла каня ў беднага чалавека. Пані ўразіла яго гора, дала яму пяць рублёў («Дала б і болі, кажуць, але ён хаця, праўда, і доўга без шапкі стаяў, ды ў руку не пацалаваў. У нас паном у рукі яшчэ цалуюць, і старыя пані пільнуюць гэтаго: хто не пацалуець у руку, той ужо «дэмакрат і неблаганадзёжны», і паны такога чалавека не любяць»). А ў «Нашай Ніве» за 6 чэрвеня 1914 года ў адным з паведамленняў «З Амсціслаўшчыны», за подпісам «Г. Г.», раскажа юны карэспандэнт, як забітага на рацэ Віхры бабра прадаваць у Амсціслаўль прывезлі. («На таргу давалі 25 руб[лёў]... А іспраўнік дачуўся і стражнікаў наслаў — рыбаловаў забралі. І кажуць тут у нас людзі, суд на іх за бабра не абы-які: у вастрог на месяц, ды грашамі 50 руб[лёў] заплаціць...»)

Хацелася пісаць апавяданні. Здаецца, у 1914 годзе склаў першае апавяданне. І эпіграф сам прыдумаў: «Ах ты, родная старонка Беларусь! А ці ўбачу, дачакаюсь, дажывусь цябе светлай, благароднай

стараной!» Брат Максім паказаў у Вільні аднаму знаёмаму, а той: «З гэтага хлопца пісьменніка не выйдзе!» Пісанне мастацкай прозы на тым і скончылася, калі не лічыць яшчэ аднаго апавядання, напісанага ў дні Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, і некалькіх вершаў «інтымнага характару» ў 1916-м.

Пра братоў сваіх дзядзька расказваў:

— Івана, самага старэйшага, усе любілі. Працавіты быў, добразычлівы. Бацька пакінуў яго пры гаспадарцы, таму і застаўся Іван з трыма класамі пачатковай школы. Ён усю сялянскую работу правіў. Добра сеяць умеў, як і другі брат — Парфір. Абодва яны дапамагалі бацьку лапці плесць: сям'я немалая была.

— Парфір быў нясмелы, сарамлівы і крыўдлівы. Вось ідуць усе са школы слаўнаўскай. Метраў за пяцьдзесят ад багацькаўскай лазні груд мялля сабраўся. Хлопцы любілі падпаліць мялле і скакаць праз агонь. Парфір на гэты раз расхрабрыўся — і адразу ў полымя. Шчаку абпаліў, бо ўсё ж нясмела скокнуў. Я тады яшчэ скакаць цераз вогнішча не адважыўся, а пазней спрабаваў, але на самым краі трапляў у агонь, лапці смылелі.

— У сям'і вельмі ж Максіма слухаліся, нават бацька. Што сказаў, параіў — закон! Максім у каморніцка-агранамічным вучылішчы ў Горках стыпендыю атрымліваў. Ад платы за пансіён заставалася тры рублі. На іх кнігі купляў. Ён у вучылішчным гуртку струнных інструментаў іграў, нотную грамату ведаў. Бацькі яму скрыпку купілі. Дужа танна заплацілі, але скрыпка добрая была. Дамоў, у вёску, скрыпку прыносіў. Любіў іграць на ёй. Найбольш песні народныя (часцей — вясельныя), маршы розныя, рамансы. Часам была імправізацыя... Пяяць любіў. А сыграць мог любую песню. (Міжволі ўспамінаюцца словы дзядзькі майго Парфіра: «У лес Засценкі к вадапойнаму балоту хадзілі, там пра здані расказваў і так запалохваў, што мы аж трасліся, а Максім смяяўся ды на скрыпачцы граў...»)

Максім на ігрышчы хадзіў. Гуляў там, скакаў. А Гурык, калі ўжо і юнаком стаў, часта саромеўся. Ледзь што — сэрца білася, выскоквала з грудзей, і чырванеў. Нават не помніць, як дзяўчат на скокі запрашаў, бо ў тыя хвіліны бянтэжыўся вельмі. Полечкі, кадрылі скакалі. Скрыпкі, бубен, дудкі igралі. На скрыпцы хораша іграў Васіль Вірысек з вёскі Івоны (ад Слаўнага недалёка).

З прыемнасцю ўспамінаў дзядзька Гурык пра сад, які пасадзіў калісьці бацька яго.

Сад цягнуўся ад пуні да бальшака, за якім была кароткая дарога ў Салаўёвы Машкі. З левага боку, умоўна аддзелены, рос зусім яшчэ малады сад Якава Кузьміча Гарэцкага. Спачатку браты Іван і Якаў укучы жылі. Падзяліўшыся, Якаў новую хату паставіў на ніжнім гародзе, цераз вуліцу, але яго частка саду заставалася за ім.

У Івана Кузьміча раслі 12 яблынек і 2 грушы, стаялі 3—4 пчаліныя калоды. Адна груша, у канцы саду, справа, высачэнная была, тоўстая, сукаватая. Дулечкі жоўтыя, буйныя, ад ветру звальваліся, разбіваліся, часам пападалі ў вялікую яміну (мусіць, раней тут пограб быў). Вакол яміны — высокія кусты шуры́ (іргі), маліна, смарода. Дзеці ў гэтым месцы гуляць любілі: хаваліся ў яміне, ласаваліся ягадамі, залязалі на грушу. Знайсці на зямлі дулечку — радасць! Другая груша, недалёка ад пуні, была ніжэйшая, плады давала таксама смачныя.

Была любімая яблынька, крывая, моцна нахіленая ўбок (а потым зноў уверх цягнулася). На крывулі гэтай усе пасядзець любілі. Яблыкі ў садзе і салодкія былі, і трошку кіславатыя. Дзве антонаўкі і тры вінныя яблыні (нясмачныя) трымаліся да самай восені. Ефрасіння Міхайлаўна дужа добра ўмела сушыць яблыкі, дулькі. «Дадуць узімку

жменьку, салодкую, духмяную...» — прыемна успаміналася дзядзьку.

Раслі ў садзе два, як казаў дзядзька, «гістарычныя дрэўцы», два высокія стромкія ялéнцы. Пасадзілі іх Іван Кузьміч і Ефрасіння Міхайлаўна, калі пажаніліся. Адзін яленец зваўся бацькаў, другі — матчын. Лічылася: чый раней засохне, таму і паміраць раней. Хто здалёк дамоў вяртаўся, перш-наперш ішоў у сад паглядзець яленцы. У імперыялістычную вайну дрэўцы гэтыя памёрзлі... У 1931 годзе, як помніцца мне, не было ўжо ў садзе высокай старой грушы, і яміны той, і крывой яблынькі. А сад харошы быў. Помню, як у 1937 годзе «маладзілі» яго Іван Кузьміч і бацька мой.

У 1914 годзе Гурык Гарэцкі паступіў у каморніцка-агранамічнае вучылішча ў Горках на Магілёўшчыне. Геаграфію на экзаменах прымаў Яўген Міхайлавіч Бяссонаў, на мянушку Тушканчык. Некалі рабіў ён землеўпарадкаванне ў Лонніцы ў пана Цэкерта, быў знаёмы з Іванам Кузьмічом Гарэцкім. Гурыку на экзамене паставіў $4^1/_2$. Спытаўся пра Рыо-дэ-Жанейра і рэкі Арынока і Місісіпі. Спагадліва аднёсся да новага вучня і дырэктар вучылішча — Горскі Леў Уладзіміравіч. Ён добра ставіўся і да Максіма Гарэцкага.

Пах горада здаўся Гурыку зусім асобным, не такім, як у вёсцы. Нейкі быў незвычайны пах прэлага сена, нібы слодычы якой. І гукі асаблівыя. Хадзіў па Горках стары яўрэй, яшчэ дужы, крычаў: «Эй, мароз! Эй, мароз!» — гандляваў марожаным.

Уладкавалі Гурыка на кватэры ў Кідалінскіх, на Садовай вуліцы.

Кідалінскі быў з адной рукою. Студэнты сацыял-дэмакраты, якія кватаравалі ў яго ў 1905 годзе, бомбу зрабілі, схавалі ў печ. Не паспелі забраць, ён дроў прынёс, склаў, запаліў — і як шуганула! Адняло выбухам руку. Быў харошы чалавек, на студэнтаў не данёс. І жонка слаўная, добрая была.

У пачатку вайны 1914 года з сельскагаспадарчых вучылішч у Горках пайшлі ваяваць добраахвотнікі. Жыццё ў той час, Гурыкаў страх за ваенны лёс брата Максіма і многае іншае лягло ў аснову старонак «Камароўскай хронікі» М. Гарэцкага, прысвечаных аднаму з яе галоўных герояў на імя Лаўрык Задума (Батура), прататыпам якога быў Гаўрыла Гарэцкі.

У 1916 годзе закахаўся Гурык-юнак у сваю прыгожую швагерку Надзю з Большай Багацькаўкі, сястру жонкі яго старэйшага брата Івана. «Першае, нясмелае каханне»,— казаў дзядзька. Яна хутка выйшла замуж за аднавяскоўца яго, Сцяпана Гарэцкага. Лічыліся мы аднафамільцамі, але продак быў агульны. Пазней Сцяпан Еўдакімавіч з сям'ёй пераехаў у Ленінград. Надзея Гаўрылаўна перажыла блакаду, пасля вайны адняліся ў яе ногі, памёрла ў бальніцы для хронікаў.

У Лютаўскія дні 1917 года быў Гурык-студэнт міліцыянерам. Са стрэльбаю, з адным патронам, вартаваў дарогу ў Горкі. Апавяданне напісаў — «Только один патрон». Нібыта чакаюць, што нейкія жандары могуць з Оршы насунуцца на Горкі. Студэнту-міліцыянеру ўяўляецца цэлы малюнак, як бой ідзе. Але гэта выдуманы бой. Так і канчаецца апавяданне: ён стаіць са стрэльбаю, а патрон цэлы.

У 1917 годзе выпісаў Гаўрыла Гарэцкі «Курс стенографии» (для Дзяржаўнай Думы) па сістэме Ф. К. Габельсбергера. Сам усё спасціг. У студзені-маі 1918 года ў Смаленску быў стэнаграфістам у Савеце народнай гаспадаркі пры Выканкоме Заходняй вобласці. Вучэнне ў горацкіх студэнтаў часова спынілася, і ён жыў у брата Максіма. Пра жыццё тагачаснае ёсць у яго «Успамінах пра брата» («Полымя», 1963, № 2). У канцы 1918 — пачатку 1919 года працаваў стэнаграфістам у Горацкім выканкоме.

Моцнай была любоў да кніг. Нямала спрыялі ёй настаўнік Пётр

Платонавіч Максімаў і брат Максім. Яшчэ ў юнацкія гады многа меў клопату, каб «у найхутчэйшы час прывясці ў парадак бібліятэчную справу як у самім горадзе, гэтак і ў павеце» — словы з вялікай нататкі «Добры пачын», за подпісам «Гурык Г.» («Дзянніца», 30 кастрычніка 1918 года).

У 1918 годзе слоўнічак аддрукаваў на машынцы (Г. і М. Гарэцкія, «Руска-беларускі слоўнік», Смаленск, 1918). Не дазвалялі казённай машынкай карыстацца, але неяк умудрыўся, вельмі настойлівы быў.

Выйшаў слоўнічак. Трэба было даставіць яго ў Мінск. Набраў Гурык 200 экземпляраў, запакаваў у саквояж, паклаў яшчэ кавалак сала, бялізну. Перад Оршаю на шасэ папрасіў селяніна, прыемнага на выгляд (і дачушка з ім прыгожая была), падвезці саквояж. А сам напрасткі, па сцежцы, да станцыі. Прыйшоў, а іх няма. Здалёк убачыў, як селянін гэты сцябае каня, каб хутчэй перабрацца па шасэ цераз пераезд. Кінуўся за імі: «Пастойце! Пастойце!» А яны й паехалі, разам з яго саквояжам. Усё ж у Мінск з'ездзіў потым, пакінуў колькі экземпляраў слоўнічка, узамен кніжкі іншыя, цікавыя, здабыў.

Успамінаў дзядзька Гурык пра свой удзел у Беларускай секцыі літаратурна-музычна-драматычнага гуртка, які заснавалі вучні трох горацкіх сельскагаспадарчых вучылішч у канцы верасня 1918 года.

Аднойчы прыехала ў Горкі оперная трупа Зіміна з Масквы. Гурык Гарэцкі пазнаёміўся з грымёрам, бо задумалі студэнты-беларусы сваю самадзейнасць рабіць, а грыму няма. Грымёр абяцаў прыслаць. Гурык даў яму з касы культасветы тысячу рублёў, а распіскі не папрасіў. Месяцы тры прайшло — не шле нічога. Паехаў Гурык у Маскву. «Дзе ж грымёр?» — «Разлічыўся».— «А дзе грошы?» Усміхаюцца... Прапалі грошы. Доўгі час пасля гэтай падзеі вылічалі ў Гурыка з зарплаты, пакуль не вярнуліся грошы ў касу.

У «Дзянніцы» за 3 снежня 1918 года ў нататцы «Беларуская Секцыя» расказана, як 5 кастрычніка гэтага ж года быў наладжаны ў Горках спектакль-вечар. Ставілася драма Л. М. Андрэева «Дні нашага жыцця». Беларускай секцыяй у асобным класе каморніцка-агранамічнага вучылішча была зроблена «хатка беларуса» («Да «хаткі» праз клас вяла яловая алейка. З елачкі на елачку ў два рады былі працягнуты шпагатавыя ніткі, на якіх развешаны ў беларускім стылі каснікі з рознакаляровае паперы. На сучках, на галінках былі павешаны арыгінальныя творы беларускіх пісьменнікаў: вершы, апавяданні, кніжкі для навучання, лемантары і інш. Асо́джаныя ў рамачкі з чырвона-сіняе паперы партрэты Я. Купалы, В. Дуніна-Марцінкевіча і Я. Баршчэўскага, як і выдадзеныя ў Вільні «Тыпы беларусаў» (відавыя паштоўкі, тыпы), зварочывалі на сябе агульную ўвагу. З цікавасцю разглядаліся малюнкі беларускіх артыстаў-аматараў, беларускія кніжкі, брашуры, газеты. ...Большая частка гэтай літаратуры была прызначана дзеля прадажы ў «хатцы»). Дзядзька амаль слова ў слова ўсё гэта пераказаў, бо ён і быў аўтарам нататкі, адно што замест подпісу «Гурык Г.» было памылкова надрукавана «Чурык Г.». Успомніў, што фасад «хаткі» намаляваў сам дырэктар каморніцка-агранамічнага вучылішча Л. У. Горскі.

У 1918 годзе ў вучылішчным спектаклі «Апошняе спатканне» Уладзіслава Галубка выконваў Гурык Гарэцкі ролю бацькі. Любіў дэкламаваць урыўкі з твораў Янкі Купалы, вершы Адама Міцкевіча, Максіма Багдановіча.

Два цікавыя нарысы змясціў ён у горацкай газеце «Луч Интернационала». Столькі ў іх сталага клопату пра жыццё вёскі, усведамлення, што не просты, не лёгкі пераход да новага ладу жыцця. Першы нарыс «По уезду (Факты и впечатления)» надрукаваны 7 мая 1919 года за подпісам «Гурык-Хадок», другі — «Два мирка» — 30 чэрвеня 1919 года, падпісаны: «Гурык Г.».

У нарысе «Два мирка» абураецца аўтар, што некаторыя сельскія настаўнікі скардзяцца на «скучную, безыдейную, деревенскую жизнь», а самі нічога не робяць, каб дапамагчы вясковай моладзі зрабіць жыццё больш светлым, цікавым. У канцы нарыса:

— Михалка Шнаршчонык принес из местечка Шамова газету, из которой и прочел всем собравшимся обращение к селянской молодежи о поддержке движения юношества. ...Напрасно уговаривал Шнаршчонык поддержать движение молодежи хоть организацией кружка, напрасно высказывал надежду на поддержку местной интеллигенции — учительства. Его слова вызывали смех и недоверие.

(Адбылося гэта на імправізаванай сходцы ў Засценках, на лядах, дзе збіралася на гулянкі вясковая моладзь.)

— Кого винить? — спрашивал сам себя Шнаршчонык.— Хлопцев? Интеллигенцию, которая все тоскует и ищет какой-то идейной работы? И кто кого не понимает?

Вясною 1919 года ў газеце «Луч Интернационала» быў артыкул Гурыка Гарэцкага «Слово и дело». У адказ — «Маленький фельетон» (пад псеўданімам Гонга). Завяршыла палеміку нататка «О «Маленьком фельетоне». У канцы яе: «С упорным народным голосом должен считаться всякий сотрудник газеты. Не остроты и колкости сумеют изменить работу, а только критика, показывающая глубокое несоответствие между словом и делом. Так побольше же серьезного внимательного отношения к народному голосу, к могущим проистечь из-за игнорирования им последствиям,— а посмеяться всякий сумеет. Гурик Г.».

Свае публікацыі ў перыядычных выданнях падпісваў па-рознаму: Гурык Г., Гурык-Хадок, Г. Мсціславец, Б. С., Габрыэль Мсціславец, Гурик Г-ий, Габрыэльт і інш. Імя Гурык, так называла малодшага сына Ефрасіння Міхайлаўна, засталося за ім для блізкіх яго на ўсё жыццё.

У 1919 годзе вучэнне ў Горках завяршылася. Гаўрылу Гарэцкага накіравалі ў губземаддзел г. Уфы, дзе даручылі арганізацыю лугавога фонду. Працаваў інструктарам-рэвізорам з лістапада 1919 да ліпеня 1920 года. Старшынёю Уфімскага губземаддзела быў Еўлампіеў, загадчыкам аддзела землеўпарадкавання — Дацко (украінец, хворы на сухоты). Яны ва ўсім спрыялі маладому працаўніку. А ў яго многа было палявой працы, сумленна адносіўся да яе, як і да любой іншай.

Дужа хацелася далей вучыцца. Залічыўся ва Уфімскі інстытут народнай асветы на прыродазнаўчае аддзяленне, у геалагічную секцыю. Узяўся пісаць рэферат, зрабіў даклад па дынамічнай геалогіі.

Хацеў стаць гарманічным чалавекам. Запісаўся ў школу мастацкай гімнастыкі. Прыйшоў на першыя заняткі — не аказалася ў яго тапачак. Купіць не было на што. Прыйшлося адмовіцца. У гэты час асабліва захапляўся жыццём і творчасцю А. І. Герцэна.

Выйшаў загад, па якім можна было пастулаць у ВНУ. Вырашыў Гаўрыла Гарэцкі вучыцца ў Пятроўскай (пазней — Ціміразеўскай) сельскагаспадарчай акадэміі ў Маскве. Атрымаў камандзіроўку ў Наркамзем, але туды адразу не пайшоў. Захацеў з'ездзіць у Вільню, пабачыцца з братам Максімам, яго сям'ёй. Вярнуўся — і аказаўся пад нядоўгім арыштам за тое, што адразу не з'явіўся па назначэнні. Экзаменаў у Пятроўскую акадэмію не здаваў: залічылі матэматыку, геадэзію і яшчэ нешта з таго, што раней здаў у Горках. Паступіў на эканамічны факультэт.

Горацкія студэнты стварылі ў Пятроўцы сваю камуну. Жылі разам у гаспадыні ў Ліхаборах, недалёка ад чыгуначнай станцыі Пятроў-

скае—Разумоўскае. Гаспадыня варыла на ўсіх, пераважна гарох. Бялізну студэнтам мыла. У камуне Ухін, Маржаедаў, Опря (малдаванін), Мікіта Лайкоў, Пятро Хоцкі, Гаўрыла Гарэцкі. Пазней перабраліся ў інтэрнат. З гэтай камуны ўзнікла Беларуская культурна-навуковая асацыяцыя студэнтаў-пятроўцаў.

Беларуская асацыяцыя мела ў інжынерным корпусе Пятроўскай акадэміі свой пакой. На сценах вытрымкі з выказванняў пра Беларусь Адама Міцкевіча, Някрасава, Тургенева, Элізэ Рэклю. Заснавалі бібліятэчку, куды Гаўрыла Гарэцкі аддаў свае кніжкі: што сам набыў, што брат Максім падараваў. Загадвала бібліятэчкай студэнтка Пятроўскай акадэміі Ларыса Парфяновіч, будучая жонка Гаўрылы Гарэцкага (пабраліся ў пачатку чэрвеня 1923 года).

25 мая 1921 года адбылася студэнцкая маёўка пад Ліхаборамі. На прыгожай паляне, на ўскраіне лесу, сабралася чалавек сорак. Успамінаў дзядзька, як выступіў на маёўцы. Казаў пра цікавасць Максіма Багдановіча да гісторыі Беларусі, летапісаў; любоў да прыроды; пашану да жанчыны; наватарства ў пошуках розных паэтычнай формы і г. д. Грунтаваўся, галоўным чынам, на зборніку «Вянок», многа дэкламаваў на памяць. Пад псеўдані́мам Г. Мсціславец была яго нататка «Свята памяці М. Багдановіча» ў газеце «Савецкая Беларусь», 1921, 18 чэрвеня.

13 лістапада 1921 года ў батанічнай зале Пятроўкі прайшоў гадавы ўрачысты сход Беларускай культурна-навуковай асацыяцыі студэнтаў. Сярод гасцей старшыня ЦВК БССР і СНК БССР А. Р. Чарвякоў. У справаздачы пра гэты сход («Савецкая Беларусь», 1921, 7 снежня, за подпісам С. Т.) сказана: «Адчыніў сход старшыня Асацыяцыі т. Гарэцкі Г. ...ён успамянуў аб шырокіх абшарах нераспачатай працы на Беларусі, дзе так шмат багацця спіць, альбо ім карыстаюцца неправідлова». Пасля цікавага выступлення А. Р. Чарвякова, які «яскрава і ўсебакова абмаляваў сучасную працу на Беларусі», і кароткага перапынку быў даклад Гаўрылы Гарэцкага «Вывучэнне фактару культурна-эканамічнага адраджэння Беларусі». Студэнт Грабоўскі расказаў аб працы Асацыяцыі за мінулы час. Былі другія выступленні, абмеркаванні. Пасля сфатаграфаваліся ўсе на ганку, у цэнтры — А. Р. Чарвякоў.

Быў «Кружок общественной агрономии» — КОА. Кіраваў прафесар Даярэнка Аляксей Рыгоравіч (1874—1958) — выдатны даследчык прыроды, заснавальнік айчыннай аграфізікі, рэдактар часопіса «Вестник сельского хозяйства», аўтар многіх навуковых прац, успамінаў («Из агрономического прошлого»), кнігі для дзяцей («Занимательная агрономия»), музыкант і кампазітар. Актыўны ўдзел у працах КОА прымаў і прафесар А. Ф. Фартунатаў (1856—1925) — вядомы вучоны і цудоўны выкладчык. Гаўрыла Гарэцкі добра ведаў яго кнігу «Сельскохозяйственная статистика Европейской России» (каля 1893 года) і «Сборник статей по общественной агрономии» (1920).

Важнае значэнне надавалася грамадскай агранаміі: аграном павінен быць краязнаўцам, мець грамадскія веды, умець кіраваць працаю. Гаўрыла Гарэцкі ўваходзіў у склад праўлення КОА (быў выбраны агульным сходам у лістападзе 1921 года).

Успамінаў дзядзька Гурык, як на пасяджэнні Асацыяцыі зрабіў даклад на тэму: «Быт беларускага селяніна». Казаў пра формы будынкаў, размеркаванне ў хаце, земляныя падлогі, саламяныя стрэхі, бедны інвентар; гаварыў, што мала кніг, амаль няма газет, не ўсе дзеці вучацца. Пачаліся спрэчкі. Выступае Галена Іванаўна Леанкевіч (з м. Кляшчэлі Беластоцкага павета) і яскрава, з запалам кажа супроць: занадта змрочна намалёвана карціна. На Гродзеншчыне, Міншчыне ёсць хаты, крытыя гонтаю, сяляне ходзяць у ботах. Селя-

нін імкнецца палепшыць гаспадарку. А Магілёўшчына сапраўды адсталая. Прыйшлося згадзіцца.

Галена Леанкевіч працавала потым аграномам у Сярэдняй Азіі. Загінула ад басмачоў (зверскі замучылі). «Разумная, прыгожая, зграбная, стромкая была...» — з глыбокім сумам казаў дзядзька.

У 1922 годзе ездзілі студэнты-ціміразеўцы на практыку ў Беларусь. Па дарозе назад заехаў Гурык Гарэцкі ў Малую Багацькаўку, забраў з сабою ў Маскву сястру Ганну. Яна хацела паступіць у Ціміразеўскую (Пятроўскую) сельскагаспадарчую акадэмію альбо ў Заатэхнічны інстытут. Колькі было ў іх маладой невычэрпнай энергіі!

31 жніўня 1922 года Гаўрылу Гарэцкага арыштавалі па фальшывым даносе студэнта Рындзіна. Сядзеў 17 дзён. На допыт выклікаў В. Р. Мянжынскі. Моўчкі слухаў, як студэнт гаварыў пра этнаграфічныя межы Беларусі (паказваў іх на карце, што вісела ў кабінеце), пра беларускую літаратуру, даказваў, што беларускі рух адпавядае ідэям інтэрнацыяналізму. Ні ў чым не пярэчыў і адпусціў са словамі: «Раю Вам заняцца выключна навукай». І з усмешкай: «Буду рад, калі ніколі больш не сустрэнуся з Вамі ў гэтым будынку». Меркавалі выслаць Гаўрылу Гарэцкага, разам з вялікай групай інтэлігенцыі, за граніцу, але абышлося. Дазволілі закончыць вучэнне, толькі павінен быў выйсці з Асацыяцыі беларускіх студэнтаў.

Пакуль быў на Лубянцы, трагічна загінула Ганна. Ехала на спатканне з братам, везла яму перадачу. Пры выхадзе з трамвая Ганну моцна штурхнулі. Яна завалілася. Трамвай крануўся — і яе смяротэльна прыціснула тагачаснай трамвайнай падножкай. Падаваць у суд на вагонаважатага брат Гурык не стаў, бо ў таго было многа дзяцей.

«Зачем тебя в недобрый час
Сберечь мы не смогли?!.
Не место, видно, среди нас
Цветам земли!..» — з верша Ф. Хоўранкі,
19.IX.1922 г.

Брат Максім прысвеціць Ганне «Хрэстаматыю беларускай літаратуры. XI век — 1905 год»: «Яе дарагому вобразу, як памятку на магілку ў чужыне, гэтую кнігу пасвячаю. Брат». Перад пасвячэннем — урывак з дзённіка Ганны за 1922 год.

У Асацыяцыі пад кіраўніцтвам Гаўрылы Гарэцкага ўсё ж нямала было зроблена. У студэнцкім часопісе «Новая Петровка» № 1 за 7 лістапада 1922 года ў артыкуле Габрыэля Мсціслаўца «Белорусская культурно-научная ассоциация» расказана пра вялікую працу, якую выканалі будучыя аграномы на Беларусі ў 1921—1922 гадах у час практыкі. І асобна адзначана: «Уделено внимание памятникам народной мудрости: собрано несколько сот народных пословиц, примет и пр.» Гады праз два Асацыяцыя зліквідавалася.

У 1923 годзе на сельскагаспадарчай выстаўцы ў Маскве быў Гаўрыла Гарэцкі намеснікам начальніка экскурсійнага бюро. У гэты час бываў з жонкаю ў тэатры. Бачылі пастаноўку Меерхольда. Усякае наватарства падабалася. У Політэхнічны музей хадзілі на літаратурныя дыскусіі. Выступалі Уладзімір Маякоўскі, прадстаўнікі розных літаратурных напрамкаў.

Ціміразеўскую акадэмію скончыў у 1924 годзе (па эканоміка-геаграфічнай спецыяльнасці). Пасля вучыўся ў аспірантуры Інстытута сельскагаспадарчай эканомікі. З кастрычніка 1923 да верасня 1925 года выкладаў эканамічную геаграфію на беларускім сектары Камуністычнага універсітэта нацыянальных меншасцей Захаду (у Маскве).

Пра сваю працу ў Горках (на Магілёўшчыне), дзе з кастрычніка 1925 да сакавіка 1927 года ў якасці дацэнта вёў курс эканамічнай

геаграфіі ў БСГА, дзядзька расказваў мала. У 1926 годзе ў Мінску надрукавана яго кніжка «Народны прыбытак Беларусі».

Мама мая казала, што быў ён чуллівы, уражлівы. Калі забіў на паляванні паблізу Малой Багацькаўкі дзікую качку, то моцна перажываў потым гібель вольнай птушкі. Душэўныя яго пакуты ляглі ў аснову апавядання маці «Чапля». Не выйшаў з дзядзькі Гурыка паляўнічы, а «Чапля» Леанілы Чарняўскай прапала ў мінскім выдавецтве 30-х гадоў.

У 1927 годзе стаў дзядзька Гурык дырэктарам заснаванага ў Мінску Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі пры Саўнаркоме БССР.

26 снежня 1928 года быў ён зацверджаны сапраўдным членам Акадэміі навук Беларускай ССР. Пра яго тагачасную вялікую навуковую і грамадскую працу расказана і ў перыёдыцы 30-х гадоў, і ў прысвечаных яму артыкулах апошняга часу.

У 1930 годзе наступілі рэзкія змены ў жыцці і працы бацькі майго і дзядзькі Гурыка. Бацьку арыштавалі ў Мінску начою 19 ліпеня. Што з дзядзькам Гурыкам, мы спачатку не ведалі, бо ён адпачываў у санаторыі ў Хосце. Яго забралі 24 ліпеня па дарозе дамоў, у Новарасійску на вакзале.

У мінскай турме дазволілі дзядзьку атрымаць кнігу І. В. Мушкетава (1850—1902) «Физическая геология» і адну з кніг па геалогіі П. А. Туткоўскага (1858—1930). Потым, праўда, адабралі, але калі прызначылі на ад'езд, вярнулі. Чытаў іх усю дарогу, давалі духоўную падтрымку. На мінскім вакзале мама мая здолела сустрэцца з дзядзькам Гурыкам, перадачу яму добрую прывезла і нават крыху пагаманіла.

Везлі зняволеных праз Оршу, Віцебск, Ленінград. У Оршы каля вагона кароткая сустрэча з жонкай Ларысай Восіпаўнай, маці Ефрасінняй Міхайлаўнай і братам Іванам. «Маці — хоць бы слязінку,— казаў дзядзька,— знешне спакойная, ласкавая. А з сынам Максімам у турме мінскай пабачыцца ёй не задалося. «Пайду, хоць на дом той пагляджу»,— сказала. Пайшла, схадзіла. Кілбаску вясковую, кавалачак сальца занесла»,— запіша ён потым.

У жніўні 1931 года ў г. Кемі (Карэлія) прызначылі маладога акадэміка Гаўрылу Гарэцкага на працу ў картанажны цэх. Рабіў каробачкі для сінькі, ударнікам быў. І як у Лаўрыка з «Камароўскай хронікі», «настрой яго мяняўся — ад самага чорнага да поўнага надзей, пэўнасці ў добрай будучыні». Не хацелася застацца «вечным каробачнікам». Аднак лёс спагадаў яму. Набіралі рабочых, у тым ліку і сярод зняволеных, на працу ў геалагічную базу Ленінградскага разведтрэста, куды і залічылі дзядзьку Гурыка 27 верасня 1931 года.

Пачалося новае жыццё, спачатку ў Карэліі, а потым на Кольскім паўвостраве.

Станаўленне як геолага адбылося, калі заўважыў памылку ў вышуканнях працаўнікоў адной геалагічнай партыі. Здолеў даказаць існаванне ў гэтай мясцовасці двух марэн, а не адной, што змяняла папярэднія ўяўленні вышукальнікаў. Марэна — скопішчы абломкавага матэрыялу, які пераносіцца і адкладваецца ледавікамі. Гэта дапамагло застацца на геалагічнай працы. Многа чытаў спецыяльнай літаратуры, многаму вучыўся. Не хаваў радасці, калі меў геалагічны здабытак. Самым выратавальным, прыемным сталі пошукі ўсяго, што звязана з зямлёю.

Першыя знаходкі марской фауны — цэлыя радовішчы яе на поўнач ад г. Павянца і на ўзбярэжжы Сегвозера. Знойдзены былі фауны з озавых град (адклады, якія ўтварыліся пад ледавіком і маюць форму чыгуначнага насыпу), асабліва з оза каля Шавані (на поўнач ад г. п. Надвоіцы). Фауны шмат было ў пяску, лёгка выбіралася.

Адной з цікавых знаходак былі рэшткі дыятомавых водарасцей з міжледавіковых адкладаў і з марэн на паўночных і паўночна-заходніх берагах Анежскага возера. Радасць вялікая была, таму што — новае.

Узрадавала і знаходка іольдзіевай фауны на захад ад г. Кемі. «Чарапашкі ў іольдзіевай гліне!» — захапляўся дзядзька Гурык і праз пяцьдзесят гадоў.

Аднойчы паблізу г. Кемі нехта знайшоў косткі вялікага памеру. Перадалі, на словах, геолагам, што гэта косткі маманта. Два дні шукаў іх дзядзька Гурык, пакуль не ўгледзеў каля нейкага патухлага вогнішча. На жаль, убачыў рэшткі кіта... І склаў вуснае апавяданне: тут і паляўнічыя, якія знайшлі гэтыя косткі, і шпіёны, якія выведвалі, што ў нас дзеецца. Шпіёнаў злавілі, склад зброі шпіёнскай адшукалі... Разы тры расказваў. Думалі, што праўда. Калі прызнаўся ў выдумцы, усе смяяліся. Усё ж цягнула дзядзьку прыдумляць, складваць прыгодніцкія апавяданні.

Больш за пяцьдзесят стаянак эпохі бронзы і неаліту былі знойдзены ў раёнах г. Мядзведжагорска і г. Павянца. Сустракаліся вырабы з крэменю, керамік з арнаментам ямачна-грабенчатай культуры. Многа скрабкоў, адшчэпаў, нажавідных пласцінак, малаткоў, ядрышчаў-нуклеусаў (крэмень, ад якога адбіваюць кавалачкі пароды для вырабаў), макралітаў (буйных вырабаў з каменю). У даліне ракі Выг — шмат нажавідных пласцінак і наканечнікаў стрэлак. На захад ад г. Кемі унікальнае месца было, дзе знаходзіліся вырабы з кварцу.

У 1932 годзе перавялі дзядзьку Гурыка з Ленінградскага ўпраўлення разведтрэста ў горны геалагічны аддзел Беламорска-Балтыйскага камбіната. Менш меў волі. І так цягнулася да канца будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Першы артыкул дзядзькі Гурыка па геалогіі — «Геологическая характеристика Водораздельного канала» — быў змешчаны ў зборніку «За качество», 1933, № 11(1).

У 1934 годзе выйшаў загад: набіраць геолагаў для адпраўкі на Кольскі паўвостраў на будаўніцтва Ніжне-Туломскай гідрастанцыі (у Мурмашах).

З 7 лютага 1934 года да 7 лютага 1937 жыў дзядзька Гурык у г. Коле. Рабіў вышуканні пад Ніжне-Туломскую і Верхне-Туломскую ГЭС, пад Кольскі канал. Сям'я пераехала да яго ў канцы лістапада 1934 года. У кастрычніку гэтага ж года вызваліўся і працаваў вольнанаёмным. Прабыў у зняволенні чатыры гады і чатыры месяцы. Далі адпачынак. У М. Багацькаўцы апошні раз пабачыўся з маці... Поўнасцю рэабілітавалі яго толькі ў 1958 годзе.

У ліпені 1934 года на чыгуначным насыпе каля станцыі Ніва трапілася адна чарапашка Cardium edule. Тыповая чарапашка марскіх адкладаў. І адразу думка, што паміж Кандалакшай і Колай было некалі злучэнне Белага мора з Кольскай затокай. Трэба было знайсці яшчэ такія ж чарапашкі. І пайшоў дзядзька Гурык усцяж чыгункі ад станцыі Ніва, праз Аленью, да Колы. Ішоў лёгка апрануты. Нават начамі ішоў, белымі, светлымі... Усё глядзеў на пясок... Кіламетраў па дзесяць рабіў. Знайшоў яшчэ некалькі чарапашак паблізу Аленьяй, сантыметры два памерам, колеру белага ці светлажоўтага. Частку дарогі ў поездзе праехаў. І вось каля станцыі Кола — вагон, а ў ім баластны пясок. І поўнае расчараванне: пясок пры-

вазны, а ў ім Cardium edule прыехала. Тэорыя засталася без доказу: марская фауна між Кандалакшай і Колай не знойдзена. Усё ж задавальненне нейкае было, што хоць высветліў, адкуль тут цікавыя чарапашкі. Вынік: неабходнасць пошукаў да канца.

Вяліся пошукі марской фауны ў даліне ракі Туломы. Былі знаходкі каля паселішча Мурмашы. Такой багатай, з геалагічнага погляду, даліны дзядзька больш не сустракаў, хіба што потым на поўдні — на Манычы.

— А ў даліне ракі Колы няма марской фауны. З аднаго боку марскія адклады і тэрасы, з другога — прэснаводныя. Гэта — вынік найноўшай тэктонікі. Нягледзячы на такую блізкасць, не было еднасці, а толькі сувязь паміж марскімі і кантынентальнымі адкладамі.

Так успамінаў дзядзька пра сваю працу на поўначы. З 1933 да 1951 года апублікавана ім не менш трынаццаці артыкулаў, прысвечаных геалогіі Кольскага паўвострава.

— На Кольскім паўвостраве бярозы дзён дзесяць пахлі вясновым водарам. Але заўсёды, дзе ні быў вясною, прыпаміналіся Багацькаўшчына, Цёмны Лес. І асабліва сцежкі ў жыце і пад'езд да Малой Багацькаўкі ад бальшака...

Пасля Колы нейкі час была праца ў Рыбінску. Затым зноў у аддзеле вышуканняў Беламорска-Балтыйскага камбіната ў Мядзведжай Гары ў Карэліі. Працуе старшым інжынерам-геолагам на Ондскай ГЭС і па рачному порту Павянцы (на вышуканнях). Знаёмыя мясціны...

На кастрычніцкія святы 1936 года гасцявалі ў нас дзядзька Гурык з дзядзінай Ларысай Восіпаўнай. Жылі мы тады ў г. п. Пясочня (цяпер — Калужскай вобласці). Радасць сустрэчы і сум, што няма ўжо Ефрасінні Міхайлаўны. Так і не пабачыўся з ёю сын Максім, нават прыехаць на пахаванне маці ў сакавіку 1935 года яму, ссыльнаму, не дазволілі.

5 лістапада 1937 года развіталіся мы з бацькам назаўсёды, а для дзядзькі Гурыка кастрычнік 1937 года, май 1938 — чэрвень 1939 аказаліся асабліва цяжкімі. Быў ён у гэты час пад арыштам, зведаў здзеклівыя допыты, жахлівы карцэр, у якім толькі нейкім дзівам выжыў. У чэрвені 1976 года, калі гасцяваў у нас у Ленінградзе, начою раптам жудасна закрычаў, але хутка заціх. Раніцою даведаліся: яму прыснілася, што цягнуць на катаванні.

У канцы чэрвеня 1939 года пошукі працы. Падаў дванаццаць заяў у розныя геалагічныя кіраўніцтвы. Праз месяц — тэлеграма ад Буркова, які быў разам з дзядзькам на вышуканнях пад Кольскі канал. Запрасіў у Арэнбург, дзе працаваў у той час начальнікам геалагічнага кіраўніцтва. Запрашалі яшчэ ў г. Куйбышаў (у геалагічны музей), у Архангельск — геолагам у Большазямельскай тундры. Паехаў быў у Арэнбург, а начальнік аказаўся у камандзіроўцы, не прымаюць. І раптам тэлеграма за подпісам Сіманава, начальніка ў Мядзведжай Гары, каб безадкладна ехаў Гарэцкі на вышуканні пад будаўніцтва Салікамскага гідравузла.

У пачатку ліпеня 1939 года паехаў у Салікамск. Прызначылі старшым, а потым галоўным геолагам гэтага раёна. Тут пачаліся спрэчкі, ці можна будаваць гідравузел пры блізкім заляганні калійных соляў, баяліся вышчалачвання. Працавала экспедыцыя Гідрапраекта СССР, пераважна ленінградцы, і асобная маскоўская партыя ад Геалагічнага інстытута АН СССР на чале з прафесарам Мірчынкам Георгіем Фёдаравічам (1889—1942). Кансультантам быў Прэабражэнскі Павел Іванавіч (1874—1944), які ў 30-я гады знайшоў нафту на Каме, каля Верхне-Чусаўскіх гарадкоў. Прыязджалі іншыя, вельмі паважаныя, кансультанты. Не прыходзілі да агульнай думкі. Дзядзьку Гурыку пашанцавала знайсці т. зв. «меридио-

нальную зону интрузии (внедрения) нижнекаменной соли«, што ўзнялася і праткнула калійныя солі. Утварылася саляна-карставая западзіна. Трэба было пайсці ўбок ад яе і ўбок ад Пра-Камы, бо і там было вялікае вышчалачванне. Стала зразумелым, дзе выбраць створ: там, дзе солі ўжо ў значнай меры вышчалачаны, але на саляным радовішчы ляжыць кэпрок — чорныя гліны выветрывання каменных і калійных соляў. Яны не дапусцяць ваду да ніжняй каменнай солі, і на іх ляжыць магутны пласт валуноў, галькі і жвіру. Вада будзе фільтравацца, не дойдзе да соляў. Гэта быў створ-2, каля Цюолькіна.

Праца ў Салікамску была для Гаўрылы Іванавіча пачаткам даследаванняў пахаваных выкапнёвых рэк (палеапатамалогія). Першай сустрэлася Пра-Кама, у даліне сучаснай Камы, блізка. Некаторыя вучоныя аднесліся да яе са здзіўленнем. У гамонках называлася яна «Пра-Кама Гарэцкага».

І нечаканая каманда: спыніць працу ў Салікамску і ехаць у г. Баравічы на будаўніцтва Мсцінскай ГЭС. Патрэбна энергія для ленінградскіх заводаў. Пачаліся новыя вышуканні. Цэлы каскад намячаўся: 3-4 гідраэлектрастанцыі. Мсцінская ГЭС была складанай: многа карстаў. Цяжкая праца...

На майскія святы 1941 года ездзілі я і брат мой Лёня, студэнты, з Ленінграда ў Баравічы праведаць дзядзьку Гурыка. 2 мая хадзілі з дзядзькам на раку Мсту. Паказваў ён мясціны, якія рыхтаваліся пад будаўніцтва. Мста — рака з надзвычайна шыбкай плынню. Аж дзівіліся мы. Гаварылі ў той час пра навіслую над усімі пагрозу вайны. Гнятуча, трывожна было на душы... Лёня наш (малодшы лейтэнант Леанід Максімавіч Гарэцкі) загінуў на Ленінградскім фронце 18 лютага 1944 года.

У басейне ракі Мсты былі знойдзены фрагменты даліны Пра-Мсты. Ужо свядома, актыўна шукае Гаўрыла Іванавіч прарэкі.

Каб вылучыць граніцы прарэк, трэба знайсці пахаваны алювій, што складаецца з рачных пяскоў, базальнага гарызонта алювію (жвір, галька, розназерневыя пяскі) і адкладаў старыц (старыя рэчышчы з супяскамі цёмна-шэрымі, з раслiннымі рэшткамі).

У першыя дні вайны вышуканні пад Мсцінскую ГЭС спыніліся. Нядоўгі час быў дзядзька Гурык на абарончых работах пад Ржэвам. Праца ваенных геолагаў: ацэнка праходнасці тэрыторыі, выбар месц для абарончых рубяжоў, пошукі пітной вады для забеспячэння войска і г. д. Потым працаваў у Волагдзе, Чарапаўцы. Здаецца, у канцы 1941 года новы загад: ехаць на Урал, дзе значна ўзрасла патрэба ў электратоку для заводаў. Сям'я дзядзькі яшчэ раней была эвакуіравана і жыла ў сяле Вавож Удмурцкай АССР.

У Ніжнім Тагіле — база гідрапраекціроўшчыкаў-вышукальнікаў. Гаўрыла Іванавіч трапіў да начальніка Г. Д. Афанасьева, які быў раней на Павянцы, знаў яго. Паслалі на вышуканні пад будаўніцтва Шырокаўскай ГЭС. Дабірацца да яе трэба было пехатою. Першы раз пайшлі Сяргей Якаўлевіч Жук (начальнік Гідрапраекта), Грышын — намеснік галоўнага інжынера Гідрапраекта, Н. В. Разін — галоўны інжынер будучай Шырокаўскай ГЭС і ўсяго будаўніцтва, Г. І. Гарэцкі і яшчэ некалькі геолагаў-вышукальнікаў. Кіламетраў сорак ішлі. Мясціны бязлюдныя. Заначавалі ў лесніка. Гаспадары ведалі, што С. Я. Жук у чыне генерала, прапанавалі яму ложак. Нізашто не лёг, і ежу агульную з усімі дзяліў. Ён многа зрабіў, каб у канцы 40-х гадоў абараніць дзядзьку Гурыка ад страшнага лёсу, зберагчы для навукі, бо высока цаніў яго навуковыя веды, сумленнасць, працавітасць. Выбралі на р. Косьве месца для Шырокаўскай ГЭС. Вёў будаўніцтва Г. Д. Афанасьеў. Старшы геолаг — Ліванаў В. К., матэматык, паэт, мастак. Ёсць яго каляровы малюнак. Намаляваў, па

ўяўленні, лес багацькаўскі («звенящий лес»). Бярозы, рабіны, а між імі малыя Гурык і Ганначка збіраюць грыбы.

Пачаліся геалагічныя вышуканні па ўсім Прыураллі. Дзядзька Гурык з сям'ёю жыў у гэты час у пасёлку Чунжына каля г. Чусавой. Быў галоўным геолагам у Бюро № 12. На чале — Н. В. Разін. В. Е. Даманскі — галоўны інжынер. Прабылі тут два з палавінаю гады.

Раз захацелася дзядзьку Гурыку праплыць па р. Чусавой. Было гэта ў 1943 годзе. Узяў 14-гадовага сына Радзіма. Кіламетраў за шэсцьдзесят ад Чунжына — Кумыш, дзе праектаваўся створ. Яшчэ вышэй падняліся, да лесапільнага завода. Тут зрабілі плыт. Учатырох працавалі: дзядзька Гурык, геолаг Уладзімір Пракаповіч, энергічны, вясёлы аптыміст, і двое рабочых. Паплылі бацька і сын. Унізе плыта — бярвенне, верх — шалёўкі. Падпіхваліся тонкімі шалёўкамі. Хлеба ўзялі, рыбы кавалак. Рака парожыстая, берагі высокія, скальныя. То адзін бераг высокі, то другі. Кожная скала назву мае. Прычальвалі, дзе хацелі. Начавалі ў Кумышы. К вечару другога дня былі ў Чунжыне.

У даліне ракі Чусавой знайшліся фрагменты Пра-Чусавой. Артыкул Г. І. Гарэцкага «Из наблюдений над молодыми террасами среднего течения р. Чусовой» быў надрукаваны ў 1948 годзе ў «Трудах Ин-та географии АН СССР, вып. 39. Проблемы геоморфологии». М.-Л., с. 52—70.

Аднойчы трэба было позняй восенню плыць па рацэ Косьве. Ідуць апошнія чаўны, што вязуць сена. Едзе нейкі дзядзька з сынам на двух парах чаўноў. Між чаўнамі ў кожнай пары — памост з сенам. На першай паплылі гаспадар з дзядзькам Гурыкам, на другой — сын гаспадароў. Гадзін праз шэсць дабраліся без прыгод да Палавінкі, дзе прыставаць трэба. Стараюцца трапіць у затон, налева, каб зачапіцца за бярвенне. Гаспадар крычыць, каб пасажыр дапамог адпіхвацца, а той не дастаў дна і паляцеў услед за калом. А вада халодная страшэнна. Гаспадар выцягнуў. У гаспадаровым доме чаем гарачым напаілі і на печ адправілі. «Добрыя ўральцы людзі!» — хваліў дзядзька.

Вырасла Шырокаўская ГЭС, а Понышская і Кумышская не сталі будавацца.

Пасля Чунжына былі вышуканні на Волзе. База — Чкалаўск. Потым — Гарадзец. Зрабілі працу па двух варыянтах, выбралі Гарадзецкі. Засталіся тут праектанты і будаўнікі, а вышукальнікі паехалі на Дон. Была гэта экспедыцыя № 5 Гідрапраекта.

У Чкалаўску і Гарадцы сабралі багатыя матэрыялы пра даліну Пра-Волгі.

Інжынерная геалогія не стала галоўнай у жыцці дзядзькі Гурыка. Палеапатамалогія — асноўная цікавасць. Між іншым, больш любіў ён слова «даследчык», чым «вучоны». Рэкі вобразна называў «залатымі струнамі, што спалучаюць мора з сухазем'ем». Я не раз назірала, як турбуе яго неадчэпная творчая думка, жаданне зразумець чарговую таямніцу. Ён мог падтрымліваць гамонку, а сам бясконца думаць пра свае навуковыя здагадкі.

У 1945 годзе Гаўрыла Іванавіч абараніў у Геалагічным інстытуце АН СССР кандыдацкую дысертацыю («О роли местных географических условий в четвертичной истории на примере изучения Кольской и Туломской долин на Кольском полуострове»), у 1946 годзе, там жа,— доктарскую дысертацыю («Неогеновые и четвертичные отложения района Средней Камы между устьем Вишеры и городом Боровском»).

На Волга-Дон выехаў дзядзька Гурык у сярэдзіне мая 1947 года. Пазней перабралася да яго і сям'я. Жылі ў станіцы Раманаўскай

Растоўскай вобласці. Спачатку сумаваў тут дзядзька. Прыгнятаў стэп з сухою зямлёю («Суцэльная дзярніна. Зямля перасохне — шчыліны робяцца»). Потым акацыі падабацца сталі, надавалі хараства вясною. Цюльпаны прыгожа цвілі. Крэчаты ляталі высока-высока. І любіў пах палыну, скрозь чуў яго. Прырода ў стэпе і захапляла часам. У Сарпінскім стэпе бязмежнае кавыльнае мора, серабрыстыя хвалі. Рэдка дзе крэчат праляціць, прабяжыць дрофа. Суркі сустракаліся, тушканчыкі, стракатыя ўдоды. Шакалы — здалёку. Міражы падабаліся: трымціць паветра — і здаюцца азёры, мора... Дзікія мясціны ўражвалі, а звычайна бачылі культурны стэп: палеткі, сенажаці, табуны коней.

Сайгакі ў стэпе палохаліся невялічкага чатырохмеснага самалёта, які належаў геалагічнай экспедыцыі. Усім статкам, ахопленыя невымоўным жахам, імчаліся ўперад, проста-такі ляцелі пад самалётам.

Ваўкі на бахчах кавуны псавалі. Іншы кавуноў шэсць раструшчыць, пакуль сёмы, самы сакавіты, з'есць.

На Волга-Доне кіраваў дзядзька Гурык інжынерна-геалагічнымі вышуканнямі, якія папярэднічалі будаўніцтву Цымлянскага гідравузла, а таксама стварэнню Цымлянскага вадасховішча і цэлага шэрагу каналаў (Волга-Данскога, Сальскага, Пралетарскага і інш.). Вяліся вышуканні пад шлюзаванне Дона (ад Цымлянскай ГЭС да Азоўскага мора). Пачаліся былі, пад кіраўніцтвам Г. І. Гарэцкага, вышуканні пад ЧБВП (Черноморско-Балтийский водный путь), але іх закансервавалі, бо вельмі дорага.

З лістоў дзядзькі Гурыка, якія пасылаў з Раманаўскай да нас у Ленінград, ведалі мы пра яго нястомную працу, а калі ўлетку 1951 года я і мая маці прыехалі да яго ў госці, то нямала дзівіліся яго рэдкай працаздольнасці, вынослівасці.

Давялося мне пабыць на будаўніцтве Цымлянскай ГЭС. Мяне папярэдзілі, каб ні на крок не адступала ад праважатага, а калі ўсё ж у неймаверным шуме, грукаце на некалькі хвілін згубіла і яго і трох сваіх спадарожнікаў, дык спужалася: з гарачага густога пылу, з усіх, здавалася, бакоў сунуліся на мяне з рыкам і лязгам аграмадныя машыны. Пякельная была тут праца...

Паказаў мне дзядзька Гурык, як намываецца з магутнай помпы, пад моцным ціскам, пясок — і расце плаціна. Аднойчы злятала з ім і геолагам Уладзімірам Пракаповічам у Аксай (паблізу Растова-на-Доне). Калі вярталіся дамоў, раптам запахла паленым: у кабіне было звыш 40°. Селі паспешліва на беразе вузкай звілістай рэчачкі. Пакуль матор астываў, а мы купаліся, беглі да нас людзі з бліжняй станіцы... Толькі сабраліся ўзлятаць, бяжыць насустрач запозненая цётка. За самалётам народ сабраўся. Усе махаюць ёй рукамі, каб саступіла ўбок. Адны паказваюць управа, другія ўлева, і яна спачатку зусім разгубілася.

Сумна, што хутка пасля гэтай вымушанай пасадкі, года не прайшло, загінулі лётчык Аляксандр Міхайлавіч (семнаццаць гадоў лятаў, на фронце быў) і бортмеханік. Разбіліся каля Раманаўскай пры пасадцы познім вечарам... І Уладзімір Пракаповіч, начальнік геалагічнай партыі, патапіўся ў веснавое бездарожжа 1952 года. Вяртаўся на кані ў Раманаўскую з поўным рукзаком марскіх чарапашак за спіною. У адным месцы знясло ў разводдзе масцік, вада перарэзала шасэ. Конь скокнуў, але ногі не ўтрымаліся. Абодва паляцелі ў раўчук. Конь выскачыў, а Пракаповіча пацягнуў цяжкі рукзак. Вада буйная — і панясло ў роў. Спачатку стаяў ён (людзі здалёк бачылі), а потым захлынуўся, не паспелі ратаваць.

Колькі разоў небяспека падсцерагала дзядзьку Гурыка і яго спадарожнікаў! То ледзь паспеў адскочыць ад заведзенага прапелера,

то, разагнаўшыся напрасткі па стэпе, спынілі грузавік за які метр ад абрыву. У 1948 годзе ледзь не згарэў дзядзька ў «Дугласе». Камандзір-пілот сказаў: «Кто-то есть среди вас счастливый, потому и спаслись». Мусіць-такі гэтым «шчаслівым» і быў мой дзядзька. Не падлічана, колькі налятаў ён кіламетраў на невялікіх самалётах. Ён і месца для пасадак дапамагаў выбіраць, раіліся з ім лётчыкі. Па справах геалагічных нямала і ў пасажырскіх лайнерах палятаў.

Забягаючы наперад, раскажу, як часам дарага абыходзяцца вандраванні па бясконцых геалагічных дарогах. У канцы жніўня 1958 года па дарозе на Харкаў, недалёка ад горада Чугуева, трапіў дзядзька Гурык у аўтамабільную аварыю. Зламаліся ў яго грудзіна, адзінаццаць рэбраў і ключыца. Доктар Бурцаў Андрэй Аляксандравіч, заслужаны дзеяч медыцыны УССР, у чугуеўскай бальніцы аджывіў дзядзьку, склаў косці навобмацак (аперыраваць нельга было) і вылечыў. На развітанне падараваў дзядзьку Гурыку свой фотаздымак з надпісам: «Ваше мужество, воля, выдержка и исключительная скромность явились залогом в Вашем выздоровлении».

Дужа трывалым быў дзядзька Гурык. Працаваў з рання да вечара, нішто яго не спыняла: ні надвор'е, ні адлегласці. Многа і на кані ездзіў, па кручах усялякіх лазіў. Не кожны шафёр мог вытрываць яго «тэмп» у працы. Адзін збег разам з дзядзькавым гадзіннікам. Дзядзька суцяшаўся: «Ці не ўсё роўна, у чыёй кішэні гадзіннік будзе, галоўнае, каб цікаў». Іншая была рэакцыя на згубу здабытага для навукі. Моцна перажываў, калі ў поездзе нехта выразаў з яго палявой сумкі каштоўны навуковы здабытак — з цяжкасцю прыдбаныя кавалачкі зямной пароды. Пэўна, вырашыў злодзей, што вязе геолаг золата.

У тое лета 1951 года звазіў дзядзька Гурык гасцей сваіх да хутара Папова, на левым беразе Дона, недалёка ад станцыі Цымлянскай, дзе яшчэ ў 1949 годзе зноў пачаліся раскопкі хазарскай крэпасці Саркел (Белая Вежа). Мясціны гэтыя хутка павінны былі навечна схавацца пад хвалямі Цымлянскага мора. Сумна думалася, колькі старажытнага багацця не паспеюць знайсці, колькі неразгаданых таямніц пойдзе ў нябыт.

Крэпасць Саркел пабудавалі, з інжынернай дапамогай Візантыі, каля 834 года. У 965 годзе яе ўзяў кіеўскі князь Святаслаў. Прыблізна ў 1117 годзе, ратуючыся ад палавецкіх набегаў, белавежцы перасяліліся на Русь, а тут засталося нязначнае руска- палавецкае насяленне ды вялікія могільнікі.

Адкапалі знойдзены калодзеж з абліцаванымі часаным каменем сценкамі, глыбінёю 6,5 метра, і напоўніўся ён крынічнаю вадою. Уцалела вядро, выдаўбленае з вербнага ствала. Дзядзька Гурык радаваўся, што нямала каштоўнага паспелі знайсці археолагі. Кіраваў раскопкамі Міхаіл Іларыёнавіч Артамонаў, выдатны археолаг, прафесар Ленінградскага універсітэта (пазней — дырэктар Эрмітажа).

Дзядзька многа цікавага расказваў: пра візантыйскага спафаракандыдата Петрону, што быў пасланы імператарам Феафілам засноўваць крэпасць Саркел; пра землетрасенні (і так вобразна: як, напрыклад, у час аднаго землятрусу зямля хвалямі пайшла); пра магутны мнагаводны Пра-Дон, які ўпадаў у Эўксінскае возера-мора на 75—80 км вышэй навейшага вусця Дона, і інш.

Рэшткі мезаліту знайшліся ў катлаване Цымлянскага гідравузла. Крэменьчыкі дзядзька сам збіраў, а чэрап Homo sapiens знайшлі будаўнікі. Гэтыя знаходкі перададзены ў Растоўскі краязнаўчы музей. Мезаліт — прамежкавая эпоха каменнага веку паміж палеалітам і неалітам, у Еўропе — 9—5 тысяч гадоў да нашай эры.

За гады працы на Волга-Доне (1947—1953) надрукаваў Гаўрыла

Іванавіч восем навуковых артыкулаў, з іх такія, як «Новые стоянки конца неолита и эпохи бронзы на террасах Нижнего Дона и Маныча как геологические документы», «Следы палеолита и мезолита в Нижнем Подонье», «О палеогеографии Приазовья и Западного Приманычья в узунларско-гирканский и буртасский века».

Помню перадвячэрнія прагулкі з дзядзькам Гурыкам на Дон. Быў ён рады любой магчымасці адпачыць, бо сапраўднага адпачынку ў той напружаны час не меў. Будаўніцтва было паскораным.

На пясчаным беразе з дзецьмі гуляў. Наплаваецца, а потым ляжа на жывот так, каб напалавіну з вады высунуцца, і выдае сябе за «кракадзіла». Малеча падкрадваецца да яго, а ён падпусціць бліжэй — і раптам галаву ўскіне, рот шырака раскрые: «Га-а-а!» — і ўхопіць каго-небудзь за ножку. Крык, смех! І зноў падкрадваюцца...

Любілі глядзець, як хлапчукі станічныя купаліся. Стрыгане ножкамі над вадою, знікне, а вынырне не адразу і зусім не там, дзе чакаеш...

У наступнае лета паехала я на Дон адна. Зноў прыйшлося, як і ў мінулым годзе, плыць да станіцы Раманаўскай на параходзе больш сутак.

Усе чакалі 27 ліпеня — дня адкрыцця Волга-Дона. Дзядзьку мала бачыла, так быў заняты працаю.

Звазіў мяне дзядзька ў Паўночны Партал, дзе экскаватар натыкнуўся на косці слана, які загінуў дзве тысячы гадоў таму назад, скаціўся ў роў і пакрысе быў засыпаны зямлёю. Старанна адкапвалі яго часткі працаўнікі геалагічнай экспедыцыі, залівалі іх парафінам, каб можна было адвезці ў музей. Экскаватаршчыкі пусцілі па крузе кварту з вадой. І мы з дзядзькам Гурыкам таксама адпілі крыху. Апошнія кропелькі і тыя падабраў вясёлы, да пояса распісаны татуіроўкаю асілак. Не раз засмягла піў дзядзька з такіх вось кубкаў. І хоць бы калі пажаліўся, што нялёгкая ў яго работа. Гэта ўжо гадоў праз дваццаць пасля таго дружнага вадапіцця сказаў (і не на мяне глядзеў, а быццам далёка ў ранейшае жыццё сваё): «Многа і цяжка працаваў...»

Няхай даруюць мне, што паўтараю сёе-тое з маіх успамінаў пра дзядзьку Гурыка, надрукаваных у «ЛіМе» за 2.XII.1988 года.

Другі раз ездзіла з дзядзькам на дальні бераг Цымлянскага мора, што разлілося там на 28 кіламетраў ушыркі. Правяралася непажаданая магчымасць абвалаў на новых берагах. Збіраліся праехаць у грузавой машыне 120 км, а выйшла 260. Заблудзіліся ў стэпе. І хоць да мора Цымлянскага дабраліся, але не да той патрэбнай мясціны, куды на другі дзень паляцеў дзядзька Гурык у самалёце.

Месца, дзе пабывалі, уразіла непрыемным пахам водарасцяў. Нявесела было глядзець на ярка-сіняе «цвіценне» вады, што казала пра пабочныя з'явы, якія могуць узнікаць на штучных вадасховішчах. Па дарозе дамоў у адным месцы бачылі далёка ў моры верхавіны дрэў затопленага лесу — з'ява экалагічна шкодная з-за выдзялення такімі дрэвамі хімічнага рэчыва. Суцяшала думка пра неабходнасць усяго зробленага на Волга-Доне, патрэбнага краіне. Так тады думалася...

У дзень адкрыцця Цымлянскага гідравузла пасля мітынгу славілі будаўнікоў выдатныя артысты: Марк Рэйзен, Павел Лісіцыян, Наталля Шпілер. Выступаў украінскі ансамбль Р. Вяроўкі, іншыя спевакі і танцоры. Кранала сардэчнасцю выкананне Клаўдзія Шульжэнка. Здавалася, што аж у самым светла-блакітным небе, высока-высока,

гучаў голас Івана Сямёнавіча Казлоўскага. Дзівосна пяяў ён:

Дивлюсь я на небо та й думку гадаю,
Чому я не сокіл, чому не літаю?..

Верш Міхайлы Пятрэнкі «Небо», мусіць, яшчэ ў 19 стагоддзі загучаў як народная песня.

З плаціны відно было Цымлянскае мора. Далёка ў бэзавай смузе плыў белы параход, бліжэй — прыгожа глядзеліся некалькі яхтачак.

Геалагічная экспедыцыя прабыла ў станіцы Раманаўскай да 1953 года. А потым — жыццё ў Елабузе Татарскай АССР, куды пераехаў дзядзька Гурык са сваёй дружнай сям'ёю: жонка, бацька і маці жонкі, нявестка іх з сынам Сяргеем, які і вырас у гэтай сям'і. Дзядзькавы сыны Усяслаў і Радзім жылі ў той час у Маскве.

Пачаліся новыя вандроўкі: па нафтавым раёне Татарыі і Башкірыі, па Воткінскім і Камскім вадасховішчах. Расказваў дзядзька, як цікава было глядзець з самалёта на снегавыя прасторы Татарыі, замёрзлыя рэкі Каму і Вятку, на частыя вёскі, лясы. Успамінаў, як з-пад снегавых хмар з'яўляўся іх маленькі самалёцік («Вялікая прыемнасць убачыць раптам у снежным бязлюддзі самалёт, які цябе шукае...»). Лётчыка называў «добрым веснікам з неба».

У Елабузе распрацоўвалі некалькі варыянтаў Ніжне-Камскай ГЭС. Выявілі багатыя насенныя флоры Палеа-Камы і Палеа-Волгі.

Большасць чарговых адпачынкаў сваіх выкарыстоўваў дзядзька Гурык для ўсё новых і новых геалагічных пошукаў. 1955—1956 гады багатыя былі на вандраванні. Цяпер ён меў магчымасць часцей бываць у Маскве, працаваць у Ленінскай бібліятэцы, наведваць музеі, цікавыя выстаўкі, тэатр.

На Волга-Доне любіў слухаць казацкія песні. Асабліва падабаліся працяжныя («Умеюць пяяць казакі!»). У час геалагічных вандровак даводзілася яму чуць украінскія песні, беларускія (каля вогнішча ўвечары альбо калі траплялі на якое-небудзь народнае свята).

Цікавіўся новымі беларускімі фальклорнымі зборнікамі. Яшчэ і таму, што сустракаў у іх песні, якія запісаў у 20-я гады бацька мой ад Ефрасінні Міхайлаўны (М. Гарэцкі і А. Ягораў, «Народныя песні з мелодыямі», Менск, 1928). Дзядзьку кранаў «Квінтэт» М. Аладава, створаны на аснове пачутых ад Ефрасінні Міхайлаўны мелодый песень «Дзеўкі хмель садзілі», «Відзіць маё вочка», «Па гароху, па ячынню», «Як прыехаў джанджура» (значэнне слова «джанджура» страцілася). «Квінтэт» упершыню выконваўся ў Мінску 25 мая 1925 года на вечары нацыянальнай музыкі. Былі на ім мае бацька, маці і Ефрасіння Міхайлаўна.

Напісаў дзядзька Гурык артыкул «Горкі і беларускі фальклор» («Полымя», 1966, № 6, с. 145—155).

1956 год — гэта ўжо горад Дзедаўск, за сорак кіламетраў ад Масквы па Валакаламскай шашы. Перавялі дзядзьку Гурыка на працу у Дзедаўскі філіял Гідрапраекта СССР.

Пасадзіў ён сад, недалёка ад дому. За садам — роў, а далей падмаскоўны лес — дзядзькава радасць. У канцы кожнай восені паведамляў нам з Дзедаўска, а пазней — з Мінска, колькі сабраў за грыбны сезон баравікоў.

З 1956 па 1968 год быў дзядзька Гурык на пасадах намесніка начальніка аддзела геалагічных вышуканняў, галоўнага геолага паўднёвых аб'ектаў і галоўнага спецыяліста ў Гідрапраекце СССР.

У 1957 годзе ездзіў на вышуканні пад канал Днепр—Крывы

Рог, дзе ўсё нагадвала яму Дон («Спачатку нават блізкім і родным усё здалося, як прыемны ўспамін, але хутка засумаваў па лясах, па бярозках, па ўзгорках...»). У 1958 годзе вясною лятаў на тыдзень на Горны Алтай, на будаўніцтва Бухтармінскай ГЭС — «...было цікава пабачыць Сібір і Алтай,— суровымі здаліся там краявіды і прырода». У ліпені гэтага ж года працаваў на Букавіне, дзе ёсць паселішчы ўсіх аддзелаў палеаліту. («Часта паселішчы пахаваны адно пад другім, а гушчыня старадаўняга насельніцтва была такая, што аж здзіўляе».)

Я ўжо ўспамінала пра аўтамабільную аварыю, у якую трапіў дзядзька Гурык у канцы жніўня 1958 года пад Чугуевам. Як быў рад, калі праз чатыры месяцы змог прыступіць да працы. У 1959 годзе зноў многа хадзіў, ездзіў, капаў зямлю. Упэўніўся, што яшчэ можа працаваць як палявы геолаг.

У 1959 годзе многа працы было з падрыхтоўкамі дакладаў на Міжнародны Геалагічны Кангрэс, да Усесаюзнай Геамарфалагічнай Канферэнцыі і для Варшаўскага Кангрэса INQUA — Міжнароднага саюза па вывучэнні чацвярцёвага перыяду.

У чэрвені — ліпені 1961 года разам з сынамі Усяславам і Радзімам пабыў дзядзька Гурык у цікавым падарожжы па Беларусі. Праехалі ў сваёй машыне 3 020 кіламетраў: Масква — Орша — Магілёў — Мсціслаў — Старое Сяло — Судоўшчына — Малая Багацькаўка — Курманава — Слаўнава — Горкі — зноў Магілёў і далей па Беларусі. Вельмі зачароўвала дзядзьку прыгажосць беларускай прыроды, асабліва ў раёне Слонім — Гродна, Наваградак — Івянец — Мінск («Нібы ў казцы»).

На Магілёўшчыне заязджалі да родных і знаёмых. Казаў дзядзька, што «старасць моцна змяніла людзей, але знаёмыя рысы пазнаваліся скрозь зморшчкі і сівізну». У Курманаве праведалі ўжо зусім старэнькага настаўніка Пятра Платонавіча Максімава. У Горках агледзелі Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Пэўна ж, успаміналася дзядзьку, як вучыўся тут (1914—1919) і працаваў (1925—1927).

У далейшым падарожжы ў Цімкавічах начавалі ў сястры Кузьмы Чорнага. Ганна Карлаўна ўсё-ўсё падрабязна расказала дзядзьку пра гаротныя пакуты брата.

У 1962 годзе пачалася праца над складаннем манаграфій аб прарэках Рускай раўніны:

1964 год. «Аллювий великих антропогеновых прарек русской равнины. Прареки Камского бассейна». Прысвечана С. Я. Жуку.

1966 год. «Формирование долины р. Волги в раннем и среднем антропогене. Аллювий Пра-Волги». На тытульным лісце надпісаў дзядзька для нас: «...ад Гурыка-прарэчніка». А прысвяціў кнігу заснавальніку савецкай палеакарпалагічнай школы Пятру Аляксеевічу Нікіціну.

1970 год. «Аллювиальная летопись великого Пра-Днепра». У прысвячэнні: «Светлой памяти выдающегося советского ученого-энциклопедиста Петра Николаевича Чирвинского — наставника, друга и вдохновителя — посвящаю. Автор».

П. М. Чырвінскі (1880—1955) — аўтар «Курса месторождений полезных ископаемых» (1926), падручніка гідрагеалогіі (1922) і іншых прац. Яго імя прысвоена адной з гор у раёне падзення Тунгускага метэарыта і мінералу — чырвінскіт. Агульны лёс у 30-я гады ў Мядзведжай Гары ў Карэліі звёў дзядзьку Гурыка з гэтым выдатным вучоным.

У 1971 годзе атрымаў дзядзька Гурык Дзяржаўную прэмію СССР за названыя вышэй тры манаграфіі, якія склалі як бы адну вялікую кнігу.

На Беларусь вярнуўся дзядзька ў 1968 годзе (у Мінск пераехаў вясною 1969 года). Стаў загадчыкам аддзела (цяпер — лабараторыя) геалогіі і палеапатамалогіі антрапагену Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР.

З 1967 года ён старшыня Савецкай секцыі INQUA і старшыня Камісіі па вывучэнні чацвярцёвага перыяду пры Секцыі навук аб Зямлі АН СССР. Выконваў і яшчэ цэлы шэраг навукова-грамадскіх абавязкаў.

У 70-я гады пачалася ўпартая праца на Нёмане. У лісце да мяне за 14.VI.78 г.: «Усе мае думкі ў Пра-Нёмане — так прыемна, калі зразумееш хоць крупіначку».

У 1980 годзе выйдзе кніга — Г. И. Горецкий «Особенности палеопотамологии ледниковых областей (на примере белорусского Понеманья)», а ў 1982 годзе падорыць мне дзядзька Гурык сваю новую кнігу «Палеопотамологические эскизы Палео-Дона и Пра-Дона». У гэты, 1982 год расказваў ён пра самыя большыя ў яго жыцці геалагічныя радасці:

— Найлепшыя знаходкі — у Мядзведжай Гары, а потым, калі пачаў знаходзіць палеаліт,— хутар Дабравольскі (цяпер тут горад Валгадонск). Каштоўнымі былі знаходкі мусцьерскага тыпу (археалагічная культура сярэдняга палеаліту) каля станіцы Канстанцінаўскай.

У БелСЭ: «Носьбіты мусцьерскай культуры неандэртальцы жылі ў пячорах і штучных жытлах, карысталіся востраканечнікамі, скрэбламі, якія адколваліся ад нуклеуса...» Можна ўявіць шчаслівы твар дзядзькі, калі траплялі яму ў рукі рэлікты «мусцьерскага тыпу».

— Трэба было знайсці на Дняпры тыя ж світы (комплекс горных парод), што і на другіх рэках. Знайшлася Венедская світа, Ніжне-Крывіцкая, Верхне-Крывіцкая і інш. Знайшлася марэна Дняпроўская. Да Беларусі прыбліжаўся, зайшоў з поўдня. Ажыццяўляліся гіпотэзы, меркаванні.

— У басейне Нёмана многа стаянак мезаліту, неаліту і бронзы. Асабліва каштоўная мезалітычная стаянка каля мясцовасці Залатая Рэчка (ніжэй в. Беліцы, на правым беразе Нёмана).

— У равах Навагрудскага ўзвышша адзін палеалітычны адшчэп з пацінай (скарынка на крэмні) знайшоўся, сантыметраў 8—10.

Усе каштоўныя знаходкі геолагаў радавалі дзядзьку. На Беларусі ў новых мясцінах знайшліся солі (калійная, тэхнічная, пітная), буры вугаль, сланцы, граніты, даламіт, мінеральныя воды для лячэння; ёсць месцы, дзе, магчыма, будуць знойдзены бурштын, фасфарыты і інш.

Колькім маладым вучоным дапамог дзядзька Гурык аддана палюбіць геалагічную навуку ў многіх яе галінах! Лісты і тэлеграмы, якія ішлі яму ад вучняў у дні юбілеяў з розных мясцін краіны, былі поўныя ўдзячнасці свайму Настаўніку.

Больш за дзесяць новых відаў палеафлоры і палеафауны названы ў гонар Г. І. Гарэцкага. Быў ён і ганаровым членам Геаграфічнага таварыства СССР.

Калі я прачытала «Бібліяграфію навуковых прац акадэміка АН БССР Г. І. Гарэцкага» (Мінск, 1980), згадала ўсе яго навукова-грамадскія абавязкі, то спыталася ў дзядзькі, як жа ён агораў усё пры такой цяжкай рабоце інжынера-геолага. Усміхнуўся: «Я ж люблю ўсю гэтую працу і добра ведаю яе, таму і спраўляюся».

Найлепшым адпачынкам для дзядзькі Гурыка былі цяпер яго паездкі ў лес. Сын Радзім час ад часу вазіў бацьку ў мілыя яму лясныя мясціны.

Навуковая спадчына Радзіма Гаўрылавіча, геолага-тэктаніста, акадэміка АН БССР, таксама багатая, пра што кажа юбілейны выпуск

«Радим Гаврилович Гарецкий (к 60-летию со дня рождения). Биобиблиографический указатель» (Мінск, 1988). У 1969 годзе за ўдзел у стварэнні «Тектонической карты Евразии» і манаграфію «Тектоника Евразии» атрымаў ён Дзяржаўную прэмію СССР. Меў прэмію за адкрыццё Базайскага газавага радовішча ў Заходнім Казахстане. У 1978 годзе за агульную працу «Тектоническая карта Белоруссии» і манаграфію «Тектоника Белоруссии» быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Беларускай ССР. Вялікай уцехаю для дзядзькі Гурыка была такая ж, як і ў яго, самаадданая праца сына.

Пакуль мог, хадзіў дзядзька Гурык на цікавыя выстаўкі, вечары ў Доме літаратара, бываў і ў тэатры.

У 1983 годзе, юбілейным для яго брата Максіма (18 лютага адзначылі 90-годдзе з дня нараджэння), задумаў дзядзька Гурык з'ездзіць у Малую Багацькаўку. Сказаў: «Хачу развітацца, пабуду ўжо апошні раз». Радзім Гаўрылавіч павёз у вёску сваіх бацькоў, жонку і мяне. У М. Багацькаўцы спыніліся ў пляменніцы дзядзькавай Клаўдзіі Іванаўны Шнарскай. Яна заўсёды напамінала дзядзьку яго маці Ефрасінню Міхайлаўну: такая ж добрая, гасцінная, тактоўная.

На могілках багацькаўскіх развітаўся дзядзька Гурык з маці сваёю, бацькам, аднавяскоўцамі...

Прыйшоў час, калі і да вельмі вынослівага, моцнага духам дзядзькі рашуча падступілася старасць, зласней пачалі нападаць хваробы. Адмовіўся ад палявой працы, ад высокіх навукова-грамадскіх пасад. Застаўся кансультантам у сваім інстытуце, а дома, па меры магчымасці, пісаў чарговыя навуковыя артыкулы.

Успамінаецца, як у 1985 годзе хадзіла з дзядзькам у мінскі Батанічны сад. Дзядзька ж быў адным з яго заснавальнікаў. Каля возера з прыгожымі лебедзямі любіў пасядзець на гладкім карычневацёмным камлі-лаўцы, задуманы быў, больш маўчаў...



БАРЫС САЧАНКА

# ШТРЫХІ

## Апошні з магікан

Вось ужо і Кандрата Крапівы няма. Ён пераджыў амаль усіх сваіх равеснікаў і, здавалася, пераджыве яшчэ многіх...

Упершыню з ім я сустрэўся ў школе. Натуральна, не з самім, а з яго творамі. Чытаў іх, дэкламаваў са сцэны байкі, іграў створаныя ім вобразы ў самадзейных спектаклях, што ставіліся па яго п'есах. Потым, калі пераехаў у Мінск, убачыў і яго самога. Высокі, заўсёды вельмі сур'ёзны, ён рабіў уражанне зусім не гумарыста і сатырыка — вясёлага, нераўнадушнага да ўсяго, што адбываецца навокал, чалавека, а хутчэй сумнага, нуднага, абыякавага, словам, сухара-бюракрата. На пісьменніцкіх сходах ён заўсёды адстойваў прынцыповую партыйную лінію, не дазваляў, каб хтосьці вельмі вольнічаў. Помню, аднойчы ён узяўся папраўляць, ставіць «на месца» Аляксея Карпюка, які папракаў некаторых людзей старэйшага пакалення, што не саступаюць маладзейшым кіраўнічых пасад, трымаюцца за іх, быццам п'яныя за плот, хоць, не раўнуючы, парахня з некаторых сыплецца. «Яшчэ невядома, хто каго перасядзіць на гарачай патэльні, калі нас з вамі на яе пасадзіць, — сказаў з задзёрам К. Крапіва, выйшаўшы на трыбуну. — Вы, маладзейшы за мяне, ці я, старэйшы за вас. Ды і з дрэва, якое трасуць, таксама хто з нас упадзе першы — Вы ці я — трэба паглядзець... Галоўнае не ў маладосці і старасці, а ў яснасці розуму, цвярозасці погляду ды і ў здароўі...» Быў ён вельмі ж непрымірымы, рашучы і калі размова на адным з пасяджэнняў у Саюзе пісьменнікаў зайшла пра неабходнасць рэабілітацыі Алеся Гаруна. «Ён быў сацыяліст-максімаліст», — вось той довад, які прывёў усімі паважаны пісьменнік супраць паэта-гаротніка. З Кандратам Кандратавічам пагаджацца не хацелі. І тады ён, падняўшыся яшчэ раз на трыбуну, сказаў: «Пакуль мы, старэйшыя, жывыя, рэабілітаваць Алеся Гаруна нікому не ўдасца. Не будзе нас — рабіце, што хочаце».

На адным з вечароў выпускнікоў універсітэта, на якім прысутнічаў К. Крапіва, я, выступаючы, вымавіў фразу, якая выклікала ў зале апладысменты. Гэта быў афарызм, здаецца, польскага сатырыка Е. Леца: «З маладымі змагаюцца хіба толькі тыя, хто яшчэ не нажыў розуму ці выжыў з яго». К. Крапіву гэтая фраза вельмі ж не спадабалася, ён прыняў яе на свой адрас, наліўся чырванню, папрасіў слова і пачаў мяне і такіх, як я, крытыкаваць, павучаць, што ў зале, дзе сядзела пераважна моладзь, мела зусім не тую рэакцыю, на якую ён, мабыць, разлічваў. І гэта яго яшчэ больш узлавала... Давялося дэкану філфака, які вёў сустрэчу, уціхамірваць залу, заклікаць прысутных да парадку...

Неяк зусім выпадкова, ідучы ў выдавецтва, я ўбачыў, як К. Крапіва нёс туды вялізны рыжы чамадан, — падрыхтаваны рукапіс пяцітомніка. «Вось каб такое сам Кандрат Крапіва ўбачыў, абавязкова ў п'есу ці ў байку ўставіў бы»,— падумаў я. (Дарэчы, той пяцітомнік, калі ён выйшаў, Кандрат Кандратавіч падараваў мне з сваім подпісам: «Барысу Сачанку з пажаданнямі творчых здабыткаў. Кандрат Крапіва. 10. IX. 1974 г».).

Але ўсё гэта назіранні за Кандратам Крапівой як бы з боку. Бліжэй мы пазнаёміліся пазней. Аднойчы сядзелі з Андрэем Макаёнкам у бары Дома літаратара, пілі каньяк і раптам убачылі Кандрата Крапіву. Ён быў на нейкім пасяджэнні ці прыходзіў плаціць партыйныя ўзносы. І Андрэй Макаёнак, ведаючы Кандрата Крапіву больш за мяне, падняўся з-за стала і запрасіў Кандрата Кандратавіча выпіць з намі чарачку. Кандрат Кандратавіч не адмовіўся, сеў за стол і, як мне здалося, са смакам выпіў. Мы налілі яму другую чарку, але ён ад яе адмовіўся.

— Здароўе не тое, — сказаў ён, — хопіць і адной. Дзякую, што запрасілі. А то цяпер маладыя такія... Самі п'юць, а на нас, старэйшых, і забыць могуць, не ўспомняць нават, што мы ёсць...

Мы з Андрэем Ягоравічам правялі Кандрата Кандратавіча да машыны, якая чакала яго ля пад'езда Дома літаратара, і, калі вярталіся назад у бар, Андрэй Ягоравіч гаварыў:

— Ён вельмі адзінокі. Хоць бы хто з вас схадзіў да яго калі дадому. Пагаварыў бы...

— Але ён нейкі неразгаворлівы, — сказаў я. — Ды і пазіраў далёка не перадавых...

— Не, няпраўда! — не згадзіўся са мной Андрэй Ягоравіч. — Ён цікавы чалавек. Жыццё якое пражыў! Амаль цэлы век! І смелы ж як можа ніхто з яго пакалення быў. У самы разгул рэпрэсій напісаў «Хто смяецца апошнім...» Расказвалі мне: першы спектакль па гэтай п'есе ігралі на сцэне, калі ў зале сядзела толькі тры гледачы — сам Кандрат Кандратавіч, Панамарэнка і начальнік НКУС, не ведаю, хто тады ім быў. І лёс вырашаўся і спектакля, і самога Кандрата Кандратавіча... А яго «Мілы чалавек»?.. Не, ён бачыў у нашым грамадстве тое, што многія не хацелі, каб бачылі — гніль яго, плесень... Ды і прахвостаў тых, пралазаў, махляроў, што яно парадзіла...

Творчасць Кандрата Крапівы я ведаў. Чытаў нават многае з таго, што потым не перадрукоўвалася, а калі і перадрукоўвалася, дык папраўленае. Смеласці быццам у Кандрата Крапівы хапала... І разам з тым... Навошта ж нападаць на Алеся Гаруна, не дазваляць, каб яго рэабілітавалі?.. Ды і ў часы разгрому згуртавання «Узвышша» як ён сябе паводзіў — менавіта яму, Кандрату Крапіву, Пятру Глебку і Кузьму Чорнаму старшыня «беларускага саюза савецкіх пісьменнікаў» Міхась Клімковіч на Першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў выказаў падзяку за тое, што яны «помогли БелАПП проделать эту операцию», гэта значыць, разграміць згуртаванне, а яго лідэраў выслаць за межы БССР, пасадзіць у турмы і сталінскія лагеры...

Рыхтаваў я да набору ў рэдакцыі часопіса «Полымя» яго п'есу «Неўміручая брама», якая мне спадабалася, быў на праглядзе спектакля па ёй у Купалаўскім тэатры. Чытаў, вядома, і яго артыкулы па пытаннях мовы, не вельмі верачы, што пісаў ён іх сам... Надта ж казённым, не яго, крапіваўскім, духам патыхала ад іх. Дзіўныя часам заўвагі ён рабіў і на тых творах, якія пасылаліся яму як члену рэдкалегіі «Полымя»...

Калі я перайшоў на працу ў Саюз пісьменнікаў, з Кандратам Кандратавічам давялося сустракацца часцей і па самых розных справах. Бываў я ў яго на працы ў Акадэміі навук, дзе ён, нягледзячы на свае гады, паказваў прыклад дысцыплінаванасці многім, бываў я ў яго дома. Наведваў разоў колькі яго і ў бальніцы. Як чалавек ён быў добры, любіў вясёлых людзей. Ды і на жарты ўмеў адказаць жартам. І зусім не сухар ён быў, як знешне здаваўся. З ім можна было размаўляць пра ўсё. Праўда, сам ён ніколі вельмі не даваў волі языку, але калі ўжо ўстаўляў слова, дык яно было заўсёды да месца. За адзін выпадак мне, як успомню, і цяпер сорамна. Гэта было ў тыя дні, калі памёр Л. І. Брэжнеў. Пазваніў мне сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, паведаміў, што з выпадку вялікага гора вырашана, каб народныя пісьменнікі БССР паслалі спачувальныя тэлеграмы ў Маскву. І Кандрат Кандратавіч таксама.

— Ён жа стары, хворы, ці варта турбаваць?— пачаў я асцярожнае супраціўленне.— Не бачыць, ляжыць у бальніцы...

— Я ўсё ведаю,— спыніў мае разважанні Аляксандр Трыфанавіч.— Таму і даручаю, каб вы схадзілі ў бальніцу і дапамаглі яму напісаць тэлеграму. Тэкст потым адправіце на адрас ЦК КПСС...

Што ж, будучы на службе ў Саюзе пісьменнікаў, я не мог не выканаць заданне сакратара ЦК КПБ. Купіў кветкі, пайшоў у лечкамісію. Знайшоў пакой, дзе ляжаў Кандрат Кандратавіч, адчыніў дзверы. Цёмная, сырая баковачка. Ложак ля сцяны, невялікі столік, ля яго — партфель з паперамі Кандрата Кандратавіча. Сам Кандрат Кандратавіч ляжаў на ложку і, хоць быў у акулярах, амаль нічога не бачыў. Але мяне пазнаў. Я падараваў яму кветкі, спытаў пра здароўе, расказаў навіны з нашага пісьменніцкага жыцця. Кандрата Кандратавіча мала цікавіла ўжо тое, чым мы жылі, жыла наша пісьменніцкая арганізацыя. Ён жыў сваім жыццём, якое не было ў яго ніколі лёгкім. Ды і хвароба мучыла... Сказаў я і пра званок з ЦК, просьбу А. Т. Кузьміна адносна тэлеграмы з выпадку смерці Л. І. Брэжнева.

— Добра, я напішу,— неяк глуха, змрочна згадзіўся Кандрат Кандратавіч.

— Можа, я вам дапамагу?— прапанаваў я свае паслугі.

— Не, я сам... Напішу і пазваню. Вы будзеце дома?

— Так...

Я пасядзеў яшчэ трохі і развітаўся з Кандратам Кандратавічам, пайшоў дадому.

Званка ад Кандрата Кандратавіча не было доўга. Я думаў ужо, што яго і не будзе. Аж не — гадзін у адзінаццаць вечара пачуўся званок. Я падняў трубку — так, гэта быў званок ад Кандрата Кандратавіча. Праўда, званіў не ён сам, а доктар. Ён меў даручэнне ад Кандрата Кандратавіча перадаць мне тэкст тэлеграмы. Яна, на маё здзіўленне, аказалася вялікай — аж на паўтары старонкі. Што было рабіць? Я акуратна перапісаў яе, сеў на аўтобус, паехаў на галоўпаштамт.

Дадому, на сваю кватэру, я вяртаўся ў першай гадзіне ночы, дакараючы сябе, што паддаўся сам на глупства і ўцягнуў у яго хворага, зусім бездапаможнага чалавека, пісьменніка, якога я паважаў, любіў, нягледзячы на пэўныя несупадзенні нашых поглядаў па некаторых пытаннях,— Кандрата Кандратавіча Крапіву.

На апошнім сваім юбілейным вечары, які праводзіўся пры непасрэдным удзеле юбіляра, Кандрат Кандратавіч сказаў прамову, якая заканчвалася словамі:

— Да новых юбілеяў!

Гэта выклікала ў зале, як пішуць газетчыкі, вясёлае ажыўленне.

На жаль, здароўе не дазволіла Кандрату Кандратавічу бываць на наступных сваіх юбілеях. Праводзіліся яны ў асноўным дома. На некаторых з іх даводзілася бываць і мне. Ён пазнаваў мяне з першага слова, казаў, што слухае, як мы, маладзейшыя, выступаем па радыё і тэлебачанні, сёе-тое чытаюць яму з таго, што мы пішам. Радаваўся, што літаратура развіваецца, узбагачаецца. Не хаваў, што не ўсё, што робіцца ў жыцці і ў літаратуры, яму падабаецца.

Неяк мы з А. Вярцінскім і П. Краўчанкам зайшлі да Максіма Лужаніна і Яўгеніі Пфляўмбаум, каб павіншаваць іх з Новым годам. Яўгенія Пфляўмбаум пахвалілася, што яе толькі што павіншаваў Кандрат Кандратавіч.

— Раней ён заўсёды паштоўкі прысылаў, а цяпер вось па тэлефоне пазваніў...

Усе мы добра ведалі Кандрата Кандратавіча, неаднаразова сустракаліся з ім. І таму тут жа вырашылі наведаць яго ў бліжэйшыя дні. Нават выбралі дзень, калі пад'едзем да яго. Папрасілі Аляксандра Амвросьевіча (Максіма Лужаніна) сазваніцца з хатнімі Кандрата Кандратавіча.

У дамоўлены дзень, захапіўшы кветкі і яшчэ сёе-тое да кветак, паехалі да Максіма Лужаніна, каб забраць яго з сабою. Але ён нас расчараваў:

— Сын сказаў, што бацьку нядобрыцца... Давядзецца пачакаць дзень-два.

Пачакалі дзень-два... І пачулі — Кандрата Кандратавіча няма жывога, памёр...

Смерць яго самога як бы падвяла рысу пад той эпохай, якая звязана з імёнамі Сталіна, Хрушчова, Брэжнева... Цэлым векам, у які выпала жыць і працаваць вучонаму і пісьменніку Кандрату Кандратавічу Крапіве...

## Руплівец

Пра дзве самыя першыя нашы сустрэчы Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі расказаў у кнізе «Само слова гаворыць». Дадаць што-небудзь да ўспомненага ім мне цяжка, бо і тут, у апісанні гэтых сустрэч, Фёдар Міхайлавіч, як і заўсёды, вельмі дакладны і лаканічны:

«Прынеслі чарговы нумар тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Чытаю яго дзесяцігоддзі, аж з 1933. Сталася правілам: гартану тыднёвік ад першай да апошняй старонкі, прачытаю прозвішчы аўтараў, назвы артыкулаў, нарысаў, апавяданняў, акідваючы вокам і памер іх, потым — адразу ці пасля — вяртаюся, пачынаю з першай старонкі. На гэты раз, 14 снежня 1957 г., парушыў правіла. Убачыў назву артыкула «Шанаваць родную мову», зірнуў на яго ніз, на правы «куточак»: хто аўтар? Напісаў артыкул Барыс Сачанка, студэнт. [...]

Не напісаў і ні разу не сказаў Сачанка, хто быў яго настаўнік, што натхніў на працу, назіранні, а за імі — на артыкул.

Прачытаўшы артыкул «Шанаваць родную мову», я выразаў яго

і надпісаў: студэнт Сачанка, бачыцца,— з перспектываю. У добры, браток, час. На добрае і шчырае служэнне.

Амаль праз два гады групаю — Янка Брыль, Янка Скрыган, Рыгор Шкраба, два незнаёмыя мне хлопцы і я — выходзім з рэдакцыі «Полымя». Адзін з незнаёмых, паказваючы рукою, пытаецца, ці не адна ў нас дарога, і кажа, што ён ідзе на вуліцу Чырвоную. Тады я жыў у доме на гэтай вуліцы.

І пазнаёміліся. Гэта быў Барыс Сачанка, аўтар артыкула «Шанаваць родную мову». Зайшлі да мяне (я запрасіў), у кватэру; на стале — спарадкаваныя запісы.

Было ў гутарцы-размове і пра дыялектныя слоўнікі, і пра фразеалогію — фраземы. Дыялектныя слоўнікі? Дыялектная лексікаграфія і фразеаграфія? Так сталася, што працяглы час, на цэлую трэць стагоддзя, усё адно як чыста забыліся філолагі, лінгвісты на дыялектнае слова, на неадкладны і дарагі «няспісвальны» клопат — дыялектныя слоўнікі.

А былі яны, былі іх складальнікі: М. Каспяровіч, М. Шатэрнік, А. Крукоўскі. Што сёння? Як заўтра?

Завітанне было не гасцяваннем, не на пачастунак.

Неяк раней на запытанні, чым займаюся, калі ўбачаць свет фразеалагічныя назіранні і фразеалагічныя старонкі, Янка Брыль выказаў: «Збіраеш, думаеш, а далей? Як?»

Гэта было Брылёва *не толькі пытанне.*

Барыс Сачанка, пасля яго і маіх слоў пра механічнасць спасылак на выказванне адносна этнаграфіі і этнаграфістаў у творах, нібыта нырнуў у маю картатэку. Вычытваў фраземы, некаторыя паўтараў, да некаторых прыгадваў варыянты, чутыя ў яго Вялікім Бары, у суседніх вёсках каля (як там казалі, кажуць) Хвойнікаў.

Вычытваў і ставіў алоўкам клічнік ці два на ражках картак. Ён, Сачанкаў клічнік, застаўся на картках пры выслоўях: смуткі яго ведаюць, асёл маляваны, валаводы валаводзіць, вантробы даставаць, грады (ў прыдзірлівай свякрухі) на нявестку брэшуць, на жытку ўзбіцца, у цяжку хадзіць, маланкаю (і маланкою) смаліць, выхаванец смаргонскай акадэміі, расу калаціць (са святкавання Юр'я), мацунку набірацца, кукіш(а) у кішэні паказваць, вока добрае і іншых.

А на развітанні:

— Просьбу ма́ю. Не сцурайцеся, прынясіце, калі ласка, у рэдакцыю аркушы два-тры ці больш. У вас гатовыя аркушы нашаму «Полымю».

Сказаць сваё слова Сачанку пра яго «Шанаваць родную мову»? Мабыць, не зусім падыходзіла гэта. Я змаўчаў.

Я не забыўся пра тое *не толькі пытанне,* пра тое — *просьбу ма́ю, не сцурайцеся».*

За гэтымі першымі сустрэчамі ў нас з Фёдарам Міхайлавічам былі наступныя. Многа-многа сустрэч. І з творамі адзін аднаго, якія і ён і я пісалі і друкавалі, і так, асабіста, з вока на вока. Помню, купіў аднойчы ў 1959 годзе яго «Дыялектны слоўнік», што выпусціла ў свет выдавецтва АН БССР, і не расставаўся з ім цэлае лета на вайсковых зборах у адной з воінскіх часцей, насіў у кішэні гімнасцёркі. І як толькі выпадала вольная хвіліна, даставаў яго, чытаў, імкнуўся запомніць кожнае рэдка чутае і ўжыванае слова. Нават не запомніць, а ўзнавіць у памяці, бо тыя дыялектныя словы і выразы былі мною чутыя ў маленстве ад маці і бацькі, суседзяў і сваякоў, але забыліся за гады вучобы і жыцця ў горадзе. І гэтая кніжачка Фёдара Міхайлавіча, як і наступныя, што з чыёйсьці лёгкай рукі пачалі даволі часта выходзіць у розных выдавецтвах, асвяжалі ў памяці забытае, як бы ажыўлялі

яго, а то і дадавалі нешта новае, раней невядомае. Ды і звычка ў мяне была, з'явілася яна яшчэ ў школе — кожнае рэдкае слова запісваць, запамінаць. Навошта — я тады не ведаў. І з Фёдарам Міхайлавічам мы сышліся напачатку менавіта на гэтым — на рэдкім цікавым слове ці спалучэнні слоў. Неаднойчы, бывала, ён званіў мне па тэлефоне, пытаў, што значыць тое ці іншае ўжытае мною слова, які сэнс я ў яго ўкладваю. Пачаўшы размову са слова, пераходзілі паступова на іншае, і размова наша зацягвалася іншы раз на гадзіну, а то і дзве.

За мовазнаўчымі, лінгвістычнымі публікацыямі ў «Полымі», дзе я тады працаваў, з'явіліся неўзабаве і абразкі Фёдара Янкоўскага — назіранні не толькі над словам, але і жыццём народа, успаміны пра багатае, цікавае жыццё партызанскага разведчыка, вясковага настаўніка, апантанага рыбака, а цяпер — буйнога вучонага, выкладчыка педінстытута. Гэтыя абразкі мы з Іванам Пташнікавым — загадчыкам аддзела прозы чыталі ўважліва і, прызнаюся, з цікавасцю. Не менш цікавыя былі і гутаркі з самім аўтарам гэтых абразкоў, бо Фёдар Міхайлавіч укладваў ва ўсё, што б не рабіў, куды большы сэнс, чым напачатку сяму-таму магло здацца. Гэта была літаратура, сапраўдная проза з трапнымі жыццёвымі назіраннямі, вобразамі і характарамі людзей, глыбокай думкай, падтэкстам. Абразкі гэтыя ды і ўся папярэдняя праца над вывучэннем і прапагандай беларускага слова далі падставы Фёдару Міхайлавічу на паступленне ў Саюз пісьменнікаў. І сярод тых, хто б рэкамендаваў яго ў пісьменнікі, ён захацеў, каб быў і я. Вядома, я не адмовіўся быць яго «хросным бацькам», бо каго ж і прымаць у гэтую арганізацыю, як не такіх рупліўцаў на ніве роднага слова, якім і быў Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі...

З таго часу, як Фёдар Міхайлавіч стаў законным, паўнапраўным членам нашага Саюза пісьменнікаў, ён кожную новую сваю кнігу, што ў яго выходзіла — няхай гэта была чыста навуковая ці блізкая да мастацкай — абавязкова падпісваў мне. Подпісы былі самыя прыязныя, ласкавыя і абавязкова амаль у кожным з іх былі словы ўдзячнасці, падзякі. Маю шчырасць, жаданне памагчы чалавеку, асабліва творчаму, ён цаніў, не забываў.

Беларускаму слову, як вядома, ніколі не жылося лёгка. З яго кпілі, смяяліся, яго выжывалі, знішчалі, дзе толькі можна было. Заадно даставалася і тым, хто за яго заступаўся, хто яго любіў, хто рабіў усё дзеля таго, каб яно не загінула, жыло. А паколькі і Фёдар Міхайлавіч прысвяціў сваё жыццё гэтаму слову, ды і я, то пры сустрэчах нам заўсёды было пра што пагаварыць — і паскардзіцца, і падзяліцца навінамі, супаставіць, як у іншых рэспубліках і краінах адносяцца да свайго роднага слова і як у нас. Па сваёй натуры Фёдар Міхайлавіч быў аптыміст, ён верыў — прыйдуць лепшыя часы, не варта апускаць рук, трэба рабіць усё магчымае, што ў сілах, дзеля росквіту беларускай мовы, закладваць як бы падмурак яго будучыні. І рабіў гэта нястомна, апантана. Ён не толькі пісаў, выдаваў кнігу за кнігай, дзе даследвалася беларускае слова, ён рыхтаваў яго абаронцаў, прапагандыстаў, будучых вучоных — настаўнікаў, аспірантаў. Неаднойчы, убачыўшы ў мяне тую ці іншую рэдкую беларускую кнігу, ён прасіў:

— Барыс Іванавіч, дайце мне гэтую кнігу. Я на ёй падрыхтую двух ці трох кандыдатаў навук...

Некаторыя з такіх кніг я яму даваў, ён іх надта ж хараша перапляраў і калі я звяртаўся праз некаторы час, каб ён усё ж вярнуў іх мне, ён нібыта здзіўляўся:

— А хіба вы мне давалі іх не на зусім?..

Але кнігі вяртаў, зноў жа, заўсёды не забыўшыся падзякаваць...

Кафедра беларускай мовы ў Мінскім педінстытуце, якую ўзначальваў Фёдар Міхайлавіч, была ці не лепшая ў Беларусі, яна рабіла тое, чаго ніхто не рабіў. Гэта выклікала ў адных злосць, у другіх —

зайздрасць, у трэціх захапленне, а, значыцца, прыносіла самы нечаканы клопат яе загадчыку. Ен надта перажываў, калі здаралася нейкая чарговая несправядлівасць адносна беларускай мовы, зноў і зноў чыніўся з яе здзек. І не толькі з боку чыноўнікаў, але і з боку некаторых вучоных, пісьменнікаў, якія, каб спадабацца начальству, часам выступалі на сходах і ў друку з нападкамі на сапраўдных вучоных, абаронцаў нашай мовы, усё набліжалі яе да рускай. Аж хварэў, разоў колькі трапляў у бальніцу. І калі мы сустракаліся з ім, не маглі расстацца — перабіралі то адно, то другое, шукалі нейкага выйсця, каб дапамагчы справе. Асабліва часта такое бывала, калі я працаваў у Саюзе пісьменнікаў, меў, як некаторым здавалася, нейкую ўладу. А ўлады ж у кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў, якім быў я, фактычна не было, быў, як казаў Іван Чыгрынаў, толькі футарал ад улады, бачнасць яе. Але і ў тых умовах я, рызыкуючы трапіць у няміласць, званіў, хадзіў да начальства, каб спыніць гвалт і здзек над самым дарагім нашым скарбам, што дастаўся нам ад продкаў. Фёдар Міхайлавіч, ведаючы маю нераўнадушнасць да нашай мовы, ніколі не мінаў мяне і потым, калі я перайшоў на працу ў выдавецтва, званіў, заходзіў. А, сустрэўшыся, мы заўсёды не маглі расстацца — гаварылі і гаварылі. Пра што? Ды ўсё пра яе ж, гаротніцу, пакутніцу, мову нашу. Мяняліся ж быццам да лепшага часы, але не мяняліся адносіны да беларускага слова. Усёадно як праклялі яго. Хто б не прыходзіў да ўлады, нават думкі не ўзнікала, каб хоць нешта тут паправіць. Адмяняліся самыя розныя пастановы, аб'яўлялася «памылкамі», «недаглядамі», «парушэннямі» што заўгодна, толькі з беларускай мовай нібыта было ўсё ў парадку, нічога ані не трэба папраўляць, хоць менавіта якраз тут наламана дроў як нідзе. Быў бы хлеб, была б каўбаса — а з мовай і той, якая ёсць, пражывём — вось абывацельскае мярыла, якое калі не на словах, дык у думках многіх кіраўнікоў.

І Фёдар Міхайлавіч перажываў.

— Няўжо я так і памру, нічога лепшага не ўбачу,— казаў ён. — Нарадзіўся — душылі нашу мову, жыў — душылі яе, і вось паміраць сабраўся — усё душаць. Але ж і яна жывучая,— усміхаўся ён.— Колькі сваіх душыцеляў перажыла! Быццам на злосць ім усім!..

Закон аб мовах, прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі, таксама не надта ўзрадаваў яго, не супакоіў.

— І Закон будуць ігнараваць, абыходзіць, як хто можа... Ды і Закон трэба было зусім іншы прымаць...

Я быў адным з сааўтараў праекта Закона, таму абараняў яго, тлумачыў, што інакшы Закон у нашых умовах прыняць проста нельга. Каб хоць гэты выконваўся...

— У тым і бяда, што не будзе ён выконвацца, — ківаў з сумам Фёдар Міхайлавіч.— Напладзілі ж цэлую армію чыноўнікаў, якім на ўсё напляваць. І на мову нашу таксама. Куды не пайдзі — янычары сядзяць. І не глядзі, хто з іх якой нацыянальнасці, глядзі якога выхавання. Учора змагаліся за развядзенне коксагызу, асушэнне балот, сёння — за дэмакратызацыю, перабудову. Заўтра з такім жа імпэтам будуць змагацца за нешта іншае. Душы ў іх няма, адказнасці перад бацькамі, народам, зямлёю, будучыняй. Абы яму добра было, уежна ды ўлежна...

— Дык што, нічога і не рабіць?— пытаў я.

— Не, барані божа. Рабіць трэба! Насуперак усім гэтым, хто не любіць ні нас, ні нашай мовы!

Злавалі яго і некаторыя выступленні на сходах і ў друку надта ж маладых, ды ранніх, іх заявы, што быццам ніхто са старэйшых нічога не рабіў дзеля ўратавання нашай мовы, толькі, маўляў, яны гэта ўбачылі і праявілі клопат.

— Якая няўдзячнасць! — абураўся ён.— Мы вунь калі за яе, бед-

ную і пакрыўджаную, заступаліся. Слова на ёй боязна было вымавіць, у турме і лагерах маглі ж згнаіць. А мы на ражон лезлі. І зрабілі ж нешта дзеля яе захавання і развіцця! І не бачыць гэтага, прыпісваць сабе тыя заслугі, якіх няма?

Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі памёр. Хто яго заменіць, прадоўжыць тую справу, якую ён шчыра, сумленна рабіў усё сваё свядомае жыццё?..

## «Чорны воран, Белы лебедзь»

Са Сцяпанам Гаўрусёвым я пазнаёміўся, калі яшчэ быў студэнтам. Аднаму з маіх сяброў спатрэбілася даволі значная сума грошай і ён ехаў да паэта-земляка, каб пазычыць. З сабою ён захапіў мяне.

— У Сцяпана толькі што выйшла ў Маскве кніга,— гаварыў сябра мне па дарозе.— І грошы ў яго павінны быць...

Жыў Сцяпан не ў цэнтры горада, а дзесьці на ўскраіне. Меў адзін пакой, здаецца, ці не на першым паверсе. І калі мы знайшлі, нарэшце, яго кватэру і зайшлі, убачылі Сцяпана на канапе — ён спаў. Жонка збудзіла яго, хоць гэта было і нялёгка — акрамя таго, што ён хацеў спаць, дык яшчэ быў і выпіўшы. Выслухаў даволі ўважліва, чаму мы да яго завіталі, і засмяяўся:

— Знайшлі ў каго пазычаць грошы... Але калі вы прыехалі да мяне, то з голымі рукамі не выпушчу...

І палез пад стол, дастаў па пачцы чыстай паперы.

— Вось вам, хлопцы,— сказаў ён.— Пішыце... Будуць і грошы і слава...

Праз год-два са Сцяпанам Гаўрусёвым я пазнаёміўся бліжэй. І вось пры якіх абставінах. Ведаючы, што жыву я з сям'ёй на прыватнай кватэры, мой знаёмы, таксама пісьменнік, прапанаваў мне пажыць лета ў яго кватэры.

— Я еду ў адпачынак у вёску,— сказаў ён мне.— Кватэра будзе пуставаць. Дык пажыві ты ў ёй...

Я быў удзячны знаёмаму. Адразу ж, як толькі ён паехаў, перабраўся з жонкаю і дачкою да яго жыць. Раніцою, назаўтра ж, прачнуўся ад званка ў дзверы. Калі іх адчыніў, убачыў на парозе Сцяпана Гаўрусёва — ён, як выявілася, жыў па суседству ў такой самай кватэры паверхам ніжэй. Што было рабіць? Запрасіў Сцяпана ў хату, жонка падала сёе-тое на стол. Паклікалі Сцяпанаву жонку... Ад мяне пайшлі да Сцяпана, ад Сцяпана — яшчэ да кагосьці... Словам, на працу ў той дзень я так і не трапіў...

Назаўтра з самай раніцы Сцяпан пазваніў мне ў дзверы зноў. Але гэты раз выпіць у мяне не было чаго — жыў я тады даволі сціпла, на адну зарплату, бо жонка не працавала, глядзела дзіця. Ды і за прыватную кватэру трэба было плаціць. Гутарка са Сцяпанам скончылася тым, што я пазычыў яму свае апошнія грошы і ён пайшоў шукаць сабе новага кампаньёна...

Усё лета пажыць у кватэры знаёмага пісьменніка мне не ўдалося. Неўзабаве ён прыслаў да мяне нейкага свайго сваяка-заіку, а потым прыехаў і сам з сям'ёю. Давялося мне вярнуцца зноў на прыватную кватэру. Але за той час, што кватараваў я ў знаёмага пісьменніка, я добра пазнаёміўся са Сцяпанам Гаўрусёвым, яго жонкай і дзвюма дочкамі. Сцяпан жыў і працаваў па натхненню — пісалася, то пісаў

запойна, суткамі. Не пісалася — гуляў і таксама суткамі. Палаcа працы, палаcа гульні... Жонка яго кахала, даравала яму ўсё. Я па характары і ладу жыцця быў іншы чалавек і яна прыглядалася да мяне: ёй проста было дзіўна, што можна жыць і працаваць у літаратуры інакш, як жыве і працуе яе муж...

Праз год я атрымаў кватэру. І па шчаслівай ці не шчаслівай выпадковасці там, дзе жыў Сцяпан Гаўрусёў. У суседнім доме. Калі пра гэта даведаўся Сцяпан, то ніколі не мінаў мае кватэры — заходзіў у любы час сутак, здаралася, нават уночы. З ім заўсёды, у якім бы ні быў стане, было цікава пагаварыць. Асабліва мне, маладзейшаму. Ён шмат чытаў, прычым, не толькі паэзію. Ён чытаў і крытыку, і прозу, і філасофію. Дарэчы, ён сам збіраўся пісаць прозу.

— Я заткну за пояс многіх, калі вазьмуся. Шчасце некаторых празаікаў, што мне не хапае часу... Але гэты прабел я хутка ліквідую...

І пачынаў расказваць старонкі будучага свайго празаічнага твору. Гэта было цікава. Ва ўсякім выпадку вобразы людзей былі вельмі жывыя, каларытныя; маляўнічыя былі і апісанні прыроды, месцаў дзеяння. І словы патрэбныя ён знаходзіў...

Але пісаць прозу Сцяпан так і не ўзяўся. Пісаў вершы, паэмы, рэцэнзіі. І пісаў добра, таленавіта, з густам. Яго кніга «Шчодрасць» была прыкметнай з'явай у беларускай паэзіі. Адной з лепшых у тыя гады. Яе вылучылі на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР. І што Сцяпан Гаўрусёў не атрымаў гэтай прэміі, вінаваты члены журы, якія хацелі бачыць паэта іншым, не такім, які ён быў, а святейшым за папу рымскага. Калі я чытаў «Шчодрасць», мяне многае ўражвала. А апісанне пажару ў паэме «Штодзённы лістапад» проста ашаламіла:

Пагранічча спала,
Чароты гнула горкая сухмень,
Калі з неасцярожных рук упала
Іскрынка, як надломлены прамень.
І знікла ў момант, як іголка ў возе,
Мільгнуўшы слабай ніткаю дымка.
І доўга прышываць ёй давялося
Лісток мінулагодні да лістка.
І вось кашулі вогненна-чырвонай
Прыўзняліся пустыя рукавы,
І па тайзе, ад жудасці зялёнай,
Пранёсся шолах маладой ліствы.
Кашуля тая ў ярасным мігценні
Чаплялася за травы, за кусты,
За рэдкія лістоўніцы,— і цені
Баяліся наблізіцца сюды.
Відаць, ні да каго не прымярала
Адзежыну бязвокая швяя,
І зараз нецярпліва выбірала,
Каго ў яе адзець зручней бы...

Здзіўлялі, ашаламлялі ў кнізе і іншыя апісанні, абагульненні, параўнанні, метафары, думкі. «Я вырас пад горматнымі стваламі»,— сказаў ён пра сябе ў адным з вершаў, і кніга «Шчодрасць», а таксама наступныя за ёй — «Ураган», «Профіль веку», «Пераклічка», «Кляновыя лісты» і іншыя пацвердзілі, што гэта былі не проста словы, за імі было жыццё паэта. Мне, дзіцяці вайны, многае было блізка ў творчасці Сцяпана Гаўрусёва, я сачыў за ёю, чытаў літаральна ўсё, што ён пісаў. Нешта, мабыць, было блізкае і яму ў тым, што рабіў я. Бо ён таксама сачыў за маёй творчасцю, чытаў тое, што я пісаў і друкаваў. Як толькі выдаваў новую кнігу, ён прыходзіў да мяне, прасіў, каб я падарыў:

— Перачытаць хачу... Ты ж, відаць, сёе-тое правіў... Ды і дапаўняў, — казаў ён.

Ён жыў творчасцю, працаваў нават тады, калі быў не зусім у «форме». Неаднойчы, седзячы ў мяне за сталом, ён раптам пачынаў дэкламаваць свае радкі, напісаныя раней, і зусім новыя, толькі што народжаныя, як бы яшчэ і яшчэ раз правяраючы гучанне, сэнс, вобразную структуру.

— Гэтым Еўтушэнкам і Вазнясенскім і не снілася такое,— гаварыў ён.— Яны жыцця, народа не ведаюць... Пішуць для прадаўшчыц універмагаў...

Неяк ён зайшоў да мяне позна ўвечары з просьбаю — пазычыць пяцёрку. Справа была перад зарплатаю, і пяцёркі ў мяне не было. Не было яе і ў мае жонкі. Праўда, у кашальку валялася дзесятка з адарваным нумарам, якую ніхто не браў у магазіне. Жонка падала яе Сцяпану.

— Давайце, я яе атавару. І нават здачу вам прынясу...

І праз якое паўгадзіны завітаў з паўлітэркам і здачаю.

— Як табе гэта ўдалося?— спытаў я.

— Вельмі проста... Спыніў таксі, праехаў да магазіна. Усунуў таксісту ў руку дзесятку, ён даў здачы... І ўсё...— смяяўся Сцяпан.

З той кватэры, што была па суседству са Сцяпанавай, я праз некаторы час выбраўся, пераехаў на новую. Пакінуў сваю кватэру, перабраўся ў новую і Сцяпан. Але мы часта ўсёадно сустракаліся. Асабліва, калі я працаваў у Саюзе пісьменнікаў. Ён прыходзіў да мяне ў кабінет амаль штодзень, садзіўся насупраць, курыў. І гаварыў, гаварыў. Гаварыў пра тое, што прачытаў, што напісаў ці думае пісаць. Неяк я перапыніў яго:

— Сцяпан, а ці праўда, што твой сусед...— я назваў прозвішча суседа-паэта,— купіў новую машыну?

— А якія гэта адносіны мае да літаратуры?— аж пакрыўдзіўся Сцяпан.— Ты ж ведаеш, што ўсё, што па-за літаратурай, мяне не цікавіць...

І гэта была не поза, гэта быў Сцяпан Гаўрусёў, уся яго сутнасць...

Жыццё з гадамі складвалася ў Сцяпана горш і горш. Ён пакінуў жонку, якая кахала і якая нарадзіла яму дзвюх дачок, жаніўся з новай жанчынай. Потым трапіў у бальніцу, амаль аслеп. Але прадаўжаў жыць літаратурай — пісаў рэцэнзіі, перакладаў вершы паэтаў, якія яму падабаліся, пісаў свае... Уладкоўвацца на працу, як звычайна рабілі ўсе беларускія пісьменнікі, каб мець сталы заробак, ён ніколі не імкнуўся. Усяго і працаваў, што гады тры ў рэдакцыі газеты «Звязда» ды з год у выдавецтве. Жыў жыццём літаратара-прафесіянала. Цяпер жа, пасля таго, як амаль перастаў бачыць, пра сталую працу нечага было і думаць. Як ён зводзіў канцы з канцамі, з чаго жыў нават уявіць цяжка. А ён жа яшчэ даволі рэгулярна плаціў даніну Бахусу.

— Кожная выпітая мною бутэлька,— жартаваў ён,— гэта заклёпка ў касмічны карабель...

Здаралася, я яго папракаў:

— Сцяпан, сёння ж ніякага свята няма. А ты выпіў...

— Як няма? Такога быць не можа...

І браўся гартаць каляндар.

— Во!— смяяўся ён. — Дваццаць гадоў з дня адкрыцця Крэматорскай печы. Не,— трос ён календаром.— У нас звычайных дзён няма... Адны суцэльныя святы — то дзень рыбака, то дзень нафтавіка, то яшчэ нешта...

Сустракаючы ў Доме літаратара Сцяпана раніцою, я іншы раз казаў:

— Сцяпан, так рана, а ты ўжо вясёлы?

— А ты хацеў бы, каб я быў сумны? — пытаннем на пытанне адказваў Сцяпан.— Трэці год пяцігодкі пачаўся, як паведамляюць, паспяхова, ёсць усе падставы для здаровага савецкага аптымізму...

І гэтак шчыра смяяўся, што нічога іншага не заставалася, як і самому засмяяцца...

Ахоўнікі цнатлівай чысціні неяк былі паставілі пытанне аб выключэнні Сцяпана Гаўрусёва з членаў Саюза пісьменнікаў. «За недастойныя паводзіны», як было сфармулявана ў павестцы. Выклікалі Сцяпана на прэзідыум, пачалі дапытвацца, ці будзе ён і далей выпіваць. Ён адказаў шчыра:

— Калі б я сказаў, што не буду, вы мне ўсёадно не паверылі б. Таму прызнаюся — буду...

Шчырасць падкупіла членаў прэзідыума. Пасмяяўшыся, яго не выключылі з Саюза пісьменнікаў. Ды і як было выключаць, калі гэта быў адзін з лепшых нашых паэтаў...

Высокі, прыгожы, ён рабіў уражанне інтэлігента-здаравяка. Здавалася, ён будзе жыць доўга. Сцяпан сам у гэта верыў, у адным са сваіх вершаў пісаў:

Чорны воран, белы лебедзь —
Хто адолее з дваіх?
Першы рукі мне сашчэпіць,
А другі — разніме іх.

Чорны воран, белы лебедзь —
Гляну ўвысь і на жарству.
Мяне воран не зачэпіць,
Покуль з лебедзем жыву...

З «белым лебедзем» — паэзіяй — Сцяпан не расставаўся, жыў заўсёды. І ўсё ж «чорны воран» яго зачапіў... І здарылася гэта рана — на пяцьдзесят шостым годзе жыцця...

## «Конь гуляў на волі...»

«Конь гуляў на волі...» — так павінен быў называцца твор, над якім думаў, працаваў апошнія дні свае Міхась Стральцоў. Пра што ён, той твор? Ні разу пра гэта мы не гаварылі, але, мне здаецца, ён быў пра сябе, сваё жыццё. Як, дарэчы, і ўсе творы пісьменніка...

З Міхасём мы пазнаёміліся ва універсітэце. Ён тады ўжо не жыў у інтэрнаце, бо жаніўся і перабраўся на кватэру да жонкі, дакладней, жончыных бацькоў. Але ў інтэрнат, дзе засталіся яго сябры, заходзіў часта. Асабліва па вечарах. Спакойны, задуменны стаяў у канцы калідора ля акна і курыў. Я, хоць быў на год старэйшы за Міхася, але вучыўся на курс пазней: віной таму была вайна, Нямеччына. Тым не менш, мы хутка з Міхасём сышліся, абмяркоўвалі творы, што пісалі і ён і я, нашы сябры па універсітэце, вядомыя, сталыя літаратары. Па сваёй натуры Міхась быў не гаваркі, ніколі не драў, як некаторыя, горла.

— Старычок,— звяртаўся ён да таго ці да іншага сябра, усміхаючыся.— Усё не так, як ты думаеш, усё куды складаней...

Але слухаць, як іншыя спрачаюцца, даказваюць сваё, любіў. Любіў ён і кампанію. Асабліва, калі на стале была чарка, сядзелі цікавыя, неабыякавыя людзі. Тады ён браў у рот цыгарэту, маўкліва, з асалодаю зацягваўся дымам, і слухаў, слухаў, пра што гаварылі ці

спрачаліся субяседнікі, зрэдку ўстаўляючы і сваё кароткае, але важкае, абдуманае слова. Не, ён ніколі не падліваў масла ў агонь. Яго найчасцей цікавіла ісціна, праўда.

Пачынаў пісаць Міхась з вершаў. Прычым, на рускай мове. Першае сваё апавяданне ён таксама напісаў па-руску. Хтосьці са студэнтаў-аднакурснікаў дапамог яму перакласці апавяданне на беларускую мову і яно было змешчана ці то ў «Літаратуры і мастацтве», ці то ў «Маладосці» ў 1957 годзе. Апавяданне лірычнае, з «блакітным туманам», як жартавалі мы тады. Другое апавяданне было надрукавана нешта ці не праз год. Ды і наступныя апавяданні з'яўляліся не часта. Так, як празаік Міхась рос, набываў моцы. Кожнае слова, кожны сказ былі ў яго выверaны, вынашаны. Здавалася, вось-вось, і ён пойдзе роўнаю хуткаю пісьменніцкаю хадою. Але такога не здарылася — першая яго кніга выйшла толькі ў 1962 годзе. «Барысу Сачанку, сябру па прозе,— напісаў ён на ёй, калі дарыў мне.— Не наракай на сваю літаратурную планіду. Яна ў цябе зайздросная, нягледзячы на «рыфы». Шчыра кажучы, я таксама ў сім-тым зайздросціў Міхасю. Яго спакою, нетаропкай, але ўпэўненай хадзе ў літаратуру. У мяне ж часта не хапала цярплівасці папрацаваць яшчэ і яшчэ над сваім творам. Набягалі новыя і новыя тэмы, яны падганялі хутчэй і хутчэй класці словы на паперу. Недахопы сваіх твораў я бачыў пасля, калі творы былі ўжо надрукаваны. Да таго ж, я браў для сваіх твораў такія тэмы, якія крывавілі, балелі. Даводзілася ўмешвацца рэдактарам. А ўмяшанне рэдактарскага, а ў тых умовах па-сутнасці цэнзарскага алоўка ніколі не паляпшае твор. Мусіць, я скардзіўся тады на свой лёс, і ён, Міхась, мяне супакойваў, суцяшаў...

Пасля заканчэння універсітэта Міхась працаваў у «Літаратуры і мастацтве», я — ў «Полымі». Дзве гэтыя рэдакцыі знаходзіліся тады, як і цяпер, у адным памяшканні, на адным паверсе. І з Міхасём мы сустракаліся як не штодзень. Потым нейкі час нават працавалі разам, калі Міхась перайшоў быў на працу ў часопіс «Полымя». Тады нас, равеснікаў па літаратуры, сабралася ў «Полымі» некалькі чалавек — Анатоль Клышка, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык, Уладзімір Дамашэвіч, Міхась Стральцоў і я. Частымі гасцямі бывалі ў нас Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Янка Сіпакоў. Кожны дзень мы абменьваліся думкамі аб прачытаным, жартавалі, нават даволі жорстка, з падкусам кпілі адзін з аднаго. А ў канцы працы ішлі кампаніяй на Камароўскі рынак. Там малдаване прадавалі на разліў проста з бочак віно. Мы куплялі кавун на закуску, разразалі яго, і па чарзе хадзілі да малдаван, насілі чайнікамі віно, і пілі. Зрэдку, грэлі яго — цёплае, нават трошкі гарачаватае яго надта ж любіў піць Міхась.

Жывучы на прыватнай кватэры на вядомай Камароўцы, я неяк купіў у сваёй гаспадыні палову кабана і паклікаў усіх маладых празаікаў на свежыну. Быў там і Міхась. Не, мы не панапіваліся. Але ўжо нагаварыліся, дык нагаварыліся. Уволю! Абмеркавалі не толькі ўсё, што напісалі самі, але і што напісалі старэйшыя нашы таварышы па літаратуры. Нехта з тых, хто быў на пачостцы, сёе-тое потым камусьці расказаў, і некаторым старэйшым таварышам гэта надта ж не спадабалася, яны пачалі нашу сустрэчу за чаркай лічыць ледзь не змоваю, закалотам супраць іх. Мы ж, успамінаючы таго «паўкабана», якога, дарэчы, амаль усяго і з'елі, доўга смяяліся, натхняючы адзін аднаго прадоўжыць пачатую традыцыю, купляць «паўкабана».

Але нішто не паўтараецца. Міхась неўзабаве перайшоў на працу ў часопіс «Маладосць» загадваць аддзелам прозы. Ды і іншыя нашы сябры памянялі месца працы. Верныя «Полымю» засталіся Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў ды я. Але сувязі з «Полымем» і са мной Міхась не парываў. Сустракаліся мы і ў рэдакцыях, і на вуліцы, і ў застол-

лях. І не толькі са сваімі равеснікамі, але і са старэйшымі нашымі таварышамі — Андрэем Макаёнкам, Іванам Шамякіным, Піліпам Пестраком ды іншымі. Міхась сур'ёзна пачаў працаваць не толькі ў прозе, але і ў крытыцы, і сустрэчы з некаторымі вопытнымі літаратарамі, размовы пра творчасць давалі яму цікавы матэрыял для артыкулаў. Прыязджалі і маскоўскія літаратары, асабліва — Вячаслаў Івашчанка. І зноў жа без сустрэч, доўгіх, іншы раз за поўнач, гутарак не абыходзілася.

Неаднойчы ездзілі мы з ім у Маскву — на розныя нарады, пленумы, з'езды. Часта жылі разам у адным нумары ў гасцініцы, хадзілі ў рэдакцыю часопіса «Дружба народов», у выдавецтвы «Советский писатель» і «Молодую гвардию», сустракаліся са сваімі знаёмымі ў рэстаранах ці непасрэдна ў нумары гасцініцы. Не, Міхась не мяняўся. Гэтаксама, як і раней, мала гаварыў, больш маўчаў, слухаў і курыў, курыў. Неяк, прыехаўшы ў Маскву, ён запрасіў мяне наведаць дом-сядзібу Льва Талстога ў Хамоўніках.

— Старычок, не пашкадуеш...

Сапраўды, я не пашкадаваў. Два паверхі драўлянага дома мы абышлі гадзіны за тры, падоўгу спыняючыся ля стала, за якім былі напісаны сусветна вядомыя творы, ля пакрэсленых, папраўленых рукапісаў, і асабліва, ля пашытых самім Л. Талстым ботаў, зробленых сваімі рукамі іншых рэчаў.

— Нармальным чалавечым жыццём жыў Леў Талстой,— сказаў Міхась мне.— А мы адарваны ад сапраўднага жыцця, жывем не так, як трэба было б жыць...

Аднойчы ён прызнаўся, што ў яго нелады з жонкаю, ён збіраецца разводзіцца. Шкада дочак — іх у яго было дзве і ён іх надта ж любіў.

У сямейных справах цяжка памагаць чалавеку. Нават раіць што-небудзь. Не ведаеш жа ўсіх прычын, чаму раптам між людзьмі, якія сышліся, каб разам пражыць жыццё, узнікаюць непаразуменні. І я таксама нічога не мог параіць Міхасю. Сказаў толькі:

— Глядзі сам, табе відней...

Нялёгка даўся яму гэты ўход ад жонкі, сям'і. Таму, можа, больш, чым гэта трэба было, прыкладаўся да чаркі, перастаў хадзіць на працу ў часопіс «Маладосць». Там доўга чакалі, што Міхась апамятаецца, возьме сябе ў рукі. Урэшце, яго звольнілі з працы. Не, мы, сябры, не былі пабочнымі сузіральнікамі, дапамагалі, чым маглі. Неаднойчы ён прыходзіў да мяне на кватэру і ў дзве, і ў тры гадзіны ночы. І калі я адчыняў дзверы, вёў яго на кухню, ставіў на стол бутэльку, ён апавядаў, як блукаў ён то да аднаго, то да другога свайго сябра-літаратара, і той, убачыўшы яго, выстаўляў за дзверы.

— Старычок, людзі пазнаюцца ў бядзе, гэта праўда,— сумна ўсміхаўся ён.

Я частаваў Міхася чаем, каваю і цярпліва чакаў світання — «зорачку», як казаў Міхась. Тады я напамінаў яму пра сваю цешчу, якая вось-вось павінна была падняцца з пасцелі і завітаць на кухню, і Міхась (а ён прыходзіў часта не адзін) пакідаў кватэру.

Новая яго жонка доўга неваждалася з Міхасём. Як толькі атрымала кватэру, здала Міхася ў ЛТП.

Я тады працаваў ужо ў Саюзе пісьменнікаў. І шчыра, па-чалавечы хацеў дапамагчы Міхасю — выпусціць з ЛТП як найхутчэй. Дзеля гэтага патрэбна была заява ад таго, хто прасіў яго туды забраць. Выклікалі жонку, папрасілі напісаць такую заяву. Але яна адмовілася гэта зрабіць. Тады мы паслалі ў ЛТП кагосьці з нашых пісьменнікаў, здаецца, Л. Прокшу, ён дамовіўся з начальствам, каб Міхася перавялі на лягчэйшую працу (яго прызначылі бібліятэкарам), а потым праз нейкі час дамагліся, каб і зусім выпусцілі.

Ён адразу ж, як апынуўся на волі, прыйшоў у Саюз пісьменнікаў.

— Прафанацыя гэта, а не лячэнне,— абураўся ён.— Мучаць толькі людзей. А каб карысць якая была з гэтага — не.

З новай жонкай жыццё не клеілася, Міхасю проста не было дзе жыць. Яму выдзелілі новую кватэру. Атрымаўшы яе, ён прыйшоў да мяне, папрасіў пазычыць грошы:

— Разумееш, ні ложка, ні стала, ні табурэта,— жаліўся ён.— Голыя сцены ды падлога. Ні спаць легчы, ні прысесці што-небудзь напісаць... Хіба на падваконніку...

Я пазычыў яму грошы. І раз, і два...

З цяжкасцю ён вяртаўся да ранейшага пісьменніцкага жыцця. Спрабаваў уладкоўвацца зноў на працу, але рэдактары, ведаючы Міхася, пыталі, ці не «сарвецца» ён зноў. Яго гэта абражала, ён злаваўся. І неяк замыкаўся ў сябе. Цяпер, сустракаючыся, ён рэдка калі што-небудзь гаварыў, рэдка што-небудзь пытаў. Яго пачала акружаць новая кампанія. Ён захапіўся перакладамі, паэзіяй. Амаль перастаў піць.

— Хачу пераасэнсаваць многае... Прачытаеш вось, калі закончу свайго «Каня...»

Твор гэты так і не з'явіўся ў друку. Хвароба, пра якую і ён сам, і ўсе мы, яго сябры, нічога не ведалі, нават не здагадваліся, падсцерагала ўжо яго. Яна, гэтая страшная невылечная хвароба і паклала яго ў магілу ў самым росквіце творчых сіл, калі ён якраз выбаўляўся з блытаных сцежак жыцця, зноў выходзіў на светлую і ясную дарогу...

## Як рэдка хто...

Нечакана, трагічна, у самым росквіце творчых і жыццёвых сіл памёр Анатоль Грачанікаў. Яму ішоў толькі пяцьдзесят трэці год...

Апошні раз мы бачыліся з ім за два тыдні да яго смерці на вечары, прысвечаным 70-годдзю І. П. Мележа. Выступаючы, ён нібыта мімаходзь, але з удзячнасцю ўспомніў, як Іван Паўлавіч — адзіны з усяго нашага творчага Саюза — заступіўся за яго. Я, на правах вядучага вечара, змушаны быў больш падрабязна расказаць прысутным у зале, як і што было...

...Ішоў чарговы з'езд пісьменнікаў, заключная частка яго — вылучэнне ў спіс для галасавання кандыдатур у члены праўлення. Спіс быў складзены ў кіраўнічых кабінетах загадзя, яго толькі агучвалі. Дадаваць новыя прозвішчы было амаль немагчыма, бо адразу ж ставілася рубам пытанне: «Замест каго?» Сказаць «замест каго» звычайна ні ў кога не хапала духу, і спіс заставаўся такі ж, як яго і прапаноўвалі. Пашырыць колькасць прозвішчаў у спісе таксама не дазвалялася, за гэтым даволі пільна сачыла высокае партыйнае начальства, якое таксама прысутнічала на з'ездзе, і сачыла не выпадкова: пры галасаванні ж мог не атрымаць патрэбнай колькасці галасоў хтосьці з тых, хто не павінен быў ніяк выпасці з праўлення. Пракруства ложа, дый годзе.

І раптам папрасіў слова Іван Паўлавіч Мележ. Спытаў, ледзь стрымліваючы хваляванне:

— Чаму няма ў спісе Анатоля Грачанікава? Быў чалавек намеснікам старшыні, добры паэт... Што здарылася, чаму да яго такая няміласць?..

Падняўся сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, патлумачыў:

— На яго паступіла ананімка,— і дастаў з кішэні нейкі мяты лісток, паказаў І. П. Мележу.

Іван Паўлавіч зноў не вытрымаў, сказаў, гэты раз ужо з абурэннем:

— Ну і што, як паступіла ананімка? Ананімку трэба праверыць, а Анатоля Грачанікава ўвесці ў склад членаў праўлення...

Аўтарытэт у Івана Паўлавіча быў вялікі. І А. Т. Кузьмін — інтрыган з вопытам, да таго ж, пры амаль неабмежаванай уладзе ўсё ж не асмеліўся пярэчыць І. П. Мележу — здаўся.

Анатоль Грачанікаў быў уключаны ў спіс для тайнага галасавання і атрымаў падтрымку сваіх калег — стаў членам праўлення... Мяне ж на тым самым з'ездзе, дакладней, на першым пасяджэнні праўлення абралі сакратаром.

Праз дзень ці два мне споўнілася сорак гадоў. З гэтага выпадку ў мяне дома сабралася невялікая кампанія, каб разам са мною адзначыць мой дзень нараджэння. І калі мы пачалі бяседу, раптам пачуўся званок у дзверы і ў хату зайшоў Анатоль Грачанікаў. Сказаў:

— Выбачай, Барыс Іванавіч.— Ён чамусьці заўсёды мяне называў па імю і па-бацьку, хоць я і прасіў яго не рабіць гэтага, зваць мяне так, як і ўсе звалі: Барыс.— У гэты вечар я не мог не прыйсці да цябе.

І дастаў з кішэні падарунак — маленькае, зробленае са штучнага матэрыялу, жоўценькае, пушыстае кураня.

— Гэта каб ты помніў, не забываў, што цябе ў начальстве пісьменніцкім хацелі б бачыць вось такім куранём. Глядзі, каб не растапталі старыя, вопытныя пеўні, як мяне...

Гэты выпадак, шчырыя размовы пра тых людзей, з якімі Анатоль не адзін год працаваў у Саюзе пісьменнікаў і ад якіх атрымаў штурхеля, зблізілі нас, хоць і да гэтага ў мяне з Анатолем былі самыя добрыя адносіны. Ён быў мой зямляк, перажыў многае, як і я, у вайну. Яго пераезд з Гомеля спярша ў Маскву на вучобу, потым на працу ў Мінск не быў успрыняты адназначна. Знайшліся такія, хто не хацеў гэтага — Анатоль быў даволі небяспечны канкурэнт. Тады і быў пушчаны пра яго злы жарт: «паэт Начальнікаў». Але для мяне ён быў Анатоль Грачанікаў, з якім заўсёды было прыемна сустрэцца, пагаварыць...

На першым жа пасяджэнні нашага новага, толькі што абранага, сакратарыята І. Чыгрынаў, А. Вярцінскі, І. Шамякін і я загаварылі пра тое, каб неяк уладкаваць Анатоля на працу — яму проста не было за што жыць. Якраз вызвалілася месца рэдактара «Вясёлкі» і мы вырашылі прасіць вышэйшае начальства, каб дазволіла прызначыць Анатоля рэдактарам гэтага часопіса. Начальства, трохі памяўшыся, згадзілася.

У жніўні таго ж года памёр І. П. Мележ. Анатоль Грачанікаў, як і многія ў тыя дні, плакаў самымі горкімі, шчырымі слязьмі. Мне ён гаварыў:

— Давай ніколі не забываць, што нас з табою родніць гэты чалавек. Я працаваў з ім і магу табе прызнацца — ён нас любіў, аберагаў... Да таго ж, і ты, і ён, і я — палешукі...

Жыццё ў Анатоля Грачанікава было не такое лёгкае, бясхмарнае, як сяму-таму здавалася. Яму сёй-той ці то зайздросціў, ці то не мог дараваць, што не ўдалося выбіць з раўнавагі. Некаторыя ж лічылі яго вылучэнцам Івана Шамякіна, і, паколькі таго даставаць было цяжка, сваю злосць спаганялі на Анатолю. Дабрэйшай душы чалавек, сумленны і шчыры, які ніколі не пакрыўдзіў, здавалася, і мухі, ён пастаянна цярпеў ад людзей, якім нічога ні разу не зрабіў дрэннага.

— Што ж, такая, мабыць, доля мая...— казаў ён.— Давай не зважаць на гэта.

І быццам не зважаў. Але людская няўдзячнасць глыбока раніла яго, рабіла сваю чорную справу. Відаць, гэта і было прычынай, што ён часцей, чым гэта трэба было, пачаў заглядваць у чарку.

А жыццё тым часам ішло. З «Вясёлкі» Анатоль Грачанікаў неўзабаве перайшоў рэдактарам у «Бярозку», з «Бярозкі» — у «Маладосць». Не ўдавалася, ніяк не ўдавалася сяму-таму выбіць Анатоля Грачанікава з сядла. Выходзілі адна за адной і яго кнігі паэзіі, бо пры ўсёй загружанасці як рэдактара ён усё ж знаходзіў час пісаць вершы. Як паэт, ён рос, набіраў моцы. Стрыманы, памяркоўны, заўсёды пры сваёй думцы, ён і ў паэзіі заставаўся самім сабой — не біў на знешнія эфекты, не лез у фармалістычныя выкрунтасы, а пісаў шчыра, пранікнёна пра тое, што яго хвалявала, чым жыў сам, жылі яго сябры і землякі. І гэта было якраз тое, што і трэба было. Менавіта за чыстую, чалавечую і вельмі шчырую, зямную паэзію яму была прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, а потым, праз нейкі час,— і Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы.

Ведаючы ўсю маю сям'ю, ён час ад часу заходзіў да мяне на кватэру. І калі я бываў дома, і калі мяне не было. Пагаварыць з ім заўсёды хапала ахвотнікаў — ён жа, як рэдактар «Маладосці», упершыню надрукаваў, адкрыў чытачам апавяданні Галіны Ланеўскай (Багданавай) і вершы Святланы Сачанкі — маіх дачак.

Шчырыя, душэўныя размовы з Анатолем вялі мы і ў рэдакцыі часопіса «Маладосць», куды я часта заходзіў, і пры сустрэчах у Саюзе пісьменнікаў, а то і проста на вуліцы. Анатоля цікавіла многае. Не толькі справы літаратурныя, але і грамадскія, тыя бурныя працэсы, што адбываліся ў нашым жыцці ў сувязі з перабудовай. Так ці інакш падзеі ўкручвалі ў свой вір і нас. Заставацца самім сабою, не паддацца на розныя танныя спакусы, не шукаць лёгкага зваблівага шляху папулярнасці — вось што яго клапаціла.

— Мінецца сённяшняе, прыйдзе заўтрашняе,— казаў ён.— Каб не сорамна за сябе было — вось тое, што мяне займала і займае.

Аварыя на Чарнобыльскай АЭС, тое, што і яго родныя мясціны і мае апынуліся ў зоне бяды, далі нам дадатковы агульны клопат. І ён і я часта наведвалі свае вёскі, бо там жылі нашы маці, нашы сваякі. І сустрэўшыся, мы дзяліліся, абменьваліся сваімі ўражаннямі, якія, на жаль, былі невясёлымі.

— Бачыў, да чаго мы дажыліся,— сумна заключаў Анатоль. І ў голасе, у вачах у яго быў проста адчай.

Чым-небудзь супакоіць яго я не мог.

На яго як рэдактара «Маладосці» пісалі ананімкі, розныя заявы. Патрабавалі, каб часопіс стаў іншым, больш «сучасным», збочыў з той дарогі, па якой ішоў і на якой заваяваў аўтарытэт і прызнанне.

— Нічога,— казаў ён іншы раз мне.— Як-небудзь выжывем. І бог нам паможа, калі мы будзем з народам. А пена, шумавінне схлынуць са сваім часам...

І нягледзячы ні на што, пісаў новыя творы, а на старонках «Маладосці» друкаваў тое, што вельмі ж патрэбна было чытачам — «Старажытную Беларусь» М. Ермаловіча, «Споведзь» Л. Геніюш, артыкулы пра далёкае і блізкае мінулае. З'яўляліся на старонках часопіса і імёны раней невядомых аўтараў — празаікаў, паэтаў, крытыкаў...

У адным з апошніх сваіх вершаў Анатоль Грачанікаў пісаў:

Кажуць людзі: чым гаротней доля,
Тым бліжэй ты да чужога болю...

Анатоль Грачанікаў да чужога болю быў, як рэдка хто, блізкі, чулы... Ён многа чаго яшчэ зрабіў бы добрага дзеля Бацькаўшчыны, мовы, культуры, каб смерць не вырвала яго з нашых шэрагаў. Вельмі ж прыйшла яна не ў час, такія людзі, як ён, патрэбны заўсёды, а цяпер — асабліва.



НАВУКА

**ІВАН САВЕРЧАНКА**

# ТАЛЕНТ, ПРЫЗНАНЫ ЕЎРОПАЙ

*На пачатку лета 1562 года з Нясвіжскай пратэстанцкай друкарні, што належала пану Мацвею Кавячынскаму, выйшла дыхтоўная, з густам аздобленая кніжка паважных памераў, больш за пяцьсот старонак, пад тытулам «Катэхізіс, або Старадаўняя хрысціянская навука для простых людзей». Яна адразу прыцягнула ўвагу адукаваных людзей як у Вялікім Княстве Літоўскім, гэтак і далёка за яго межамі. Незаменная чытанка для дарослых і выдатны падручнік для дзетак, «Катэхізіс»* з'яўляўся ў той жа час неардынарным *філасофска-багаслоўскім творам, адметным паводле свайго зместу і глыбіні выказаных думак. Невыпадкова ён выклікаў шырокую літаратурную палеміку, якая сталася прыкметнай з*'явай усяго *еўрапейскага рэфармацыйнага руху.*

*Аўтарам унікальнага твора, што меў вялікі розгалас у свеце, быў таленавіты клецкі прапаведнік Сымон Будны (каля 1530—1593), вядомы дагэтуль бадай толькі ў вузкім коле пратэстанцкіх дзеячаў. Са з'яўленнем «Катэхізіса», а неўзабаве і іншых твораў Буднага, яго імя на доўгі час не сыходзіць з вуснаў шматлікіх шчырых прыхільнікаў і зласлівых непрыяцеляў. Кнігі унікальнага беларускага філосафа імкнуцца атрымаць заходнееўрапейскія універсітэты і найбуйнейшыя бібліятэкі. Глыбока гуманістычныя ідэі Буднага ў абарону свабоды чалавечага духу, ягоныя палымяныя заклікі да паўсюднага панавання ў грамадстве розуму й навукі знаходзяць водгук у Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Францыі і Англіі. Будны становіцца ўзорам вальнадумства і рэнесансавай смеласці, сімвалам духоўнай велічы і таленту славянскіх народаў.*

*Падзвіжніцкая праца Сымона Буднага годна ўшанавана нашчадкамі. Яго імя ўключана ў Каляндар міжнародных дат славутых дзеячаў славянскай культуры ЮНЕСКА, якое сёлета шырока адзначыць 400-я ўгодкі таленавітага сына Беларускай зямлі.*



Першая гістарычная згадка пра С. Буднага — кароткі запіс у метрыках Кракаўскага універсітэта за 19 кастрычніка 1544 года, дзе гаворыцца: ***«Симон Алберти де Будны диоц. Плоценсис*** — І ***гр. с.»***, што ў перакладзе з лаціны азначае — Сымон Будны з дыяцэзіі Плоцкай (?) заплаціў за навучанне адзін грош. Надзвычай высокі ўзровень падрыхтоўкі Буднага, грунтоўнае веданне ім старажытных моваў — лаціны, грэцкай, іўрыта — дазваляе меркаваць, што ён сапраўды меў універсітэцкую адукацыю, а сціслы запіс у інвентарнай кнізе мае непасрэднае дачыненне акурат да нашага асветніка.

Калі зыходзіць з таго, што Буднаму ў час паступлення ва універсітэт было каля 14 год — звычайны для пачаткоўцаў узрост,— то, значыць, ён нарадзіўся прыкладна ў 1530 годзе або ў самым канцы 20-х гадоў XVI стагоддзя ў нейкай Будзе. Дзе знаходзілася тая Буда — загадка, бо вёсак з такім найменнем на Беларусі, таксама як і ў Польшчы, шмат. На карысць жа яго беларускага паходжання паказваюць многія факты. Найперш ён вельмі кепска ведаў Польшчу, нават Ракаў, вядомы ў Еўропе асяродак польскага рэфармацыйнага руху, называў «нейкі Ракаў». Гэта і не дзіўна, бо дакладна вядома, што ўсё сваё свядомае жыццё Будны пражыў у Вялікім Княстве Літоўскім і толькі зрэдку выязджаў у Польскае Каралеўства дзеля ўдзелу ў пратэстанцкіх Сінодах. Аднак асабліва важна тое, што Будны напісаў свае першыя творы — «Катэхізіс» і «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» — акурат на старабеларускай мове. Матчынай мовай асветніка несумненна была наша мова. Пра гэта красамоўна сведчыць і палымяны заклік Буднага да князёў Радзівілаў шанаваць яе ўва ўсе часы, берагчы як неацэнны скарб. «Слушная бо речь ест,— пісаў ён у звароце да Радзівілаў,— абы ваши княжацъские милости того народу язык миловати рачили, въ котором давъные предъки и их княжацъские милости панове отци, ваших княжецских милости славне преднейшие преложеньства несуть». Чужынец не напісаў бы гэткіх пранікнёных слоў пра нашу мову, яны маглі нарадзіцца толькі ў сэрцы патрыёта, чалавека з непахіснай верай у свой народ, ягонуюю несмяротнасць.

На жаль, цяпер дакладна невядома, дзе Будны атрымаў пачатковую адукацыю. Праўда, ёсць сякія-такія падставы гаварыць пра яго знаходжанне на Падляшшы, магчыма ў маёнтку Хадкевічаў, у Заблудаве ці ў Супрасльскім манастыры. Пра гэта ўскосна сведчыць гісторыя з выпраўленнем кніг Святога Пісання архімандрытам Супрасльскага манастыра Кімбарам у сярэдзіне 30-х гадоў XVI стагоддзя, пра якую асветнік расказаў у сваёй «Прадмове да Чытача», змешчанай у Новым Запавеце 1574 года. Там якраз выклікаюць цікавасць апісаныя Будным розныя дэталі, нават дробязныя факты, што мог ведаць толькі сведка тых падзеяў.

У тым, што Будны тады быў якраз у Супраслі ці непадалёк ад яго — у Заблудаве, асабліва пераконваюць ягоныя заўвагі — «на маёй памяці», «сярод іншага памятаю...». Вось вытрымка з тае прадмовы: «Прыгадваю, што зрабіў на маёй памяці адзін «мудрэц» на Падляшшы са Святымі Евангеллямі. Быў у Супрасльскім манастыры архімандрыт Кімбар. Ён толькі сябе аднаго лічыў мудрым філосафам, як тое і ўласціва абмежаваным людзям... Усе манахі хвалілі Кімбара, уважалі яго за надзвычай адукаванага чалавека. Выключэннем быў манах Арсеній, які сцвярджаў адваротнае ды не пераставаў паўтараць Кімбару, каб ён пакінуў Святыя Кнігі ў спакоі, асабліва Евангеллі Напрастольныя. Сьвяты айцец не сцярпеў крытыкі ў свой адрас і пасадзіў убогага манаха ў вязніцу, як таго выма-

гала іхняя дысцыпліна. Аднак Арсеній здолеў нейкім чынам паведаміць пра дзейнасць архімандрыта спачатку Аляксандру Хадкевічу — дзеду цяперашніх паноў Хадкевічаў, на землях якога знаходзіўся той манастыр, а потым і мітрапаліту Макарыю. Мітрапаліт паклікаў Кімбара на Сабор (ці, як мы кажам,— Сінод), куды той мусіў прыехаць і прывезці выпраўленыя ім кнігі. Там, на Саборы, Арсеній паказаў тыя мясціны ў Евангеллях, што сапсаваў Кімбар, ды расказаў пра тое, як ён пацярпеў ад яго».

Нягледзячы на прыведзеныя доказы, меркаванне пра падляшскі перыяд жыцця Буднага, яго сувязі з Хадкевічамі — усё ж такі покуль што гіпотэза, якая патрабуе дадатковых аргументаў.

Сакратар Віленскага кальвінскага гуртка, імя якога не захавалася, у адным з пратаколаў, пазней падрыхтаваных да друку Янам Зарэмбам, 11 студзеня 1558 года запісаў: «У той дзень Сымон (Зак.— І. С.), казнадзей збору ў Літве і на Падляшшы, а таксама суперінтэндант кальвінскі, паведаміў прысутным пра велізарную карысць ад вывучэння Катэхізіса і з дазволу старэйшых братоў прызначыў Сымона Буднага катэхізістам». Прыведзеныя словы — самая ранняя дакументаваная звестка пра знаходжанне Буднага ў Вільні.

С. Будны выкладаў асновы тэалогіі ў Віленскім пратэстанцкім зборы, атрымліваючы за гэта, як сведчаць крыніцы, шчодрую па тым часе ўзнагароду. У рашэнні збору ад 8 лютага 1558 года, у прыватнасці, паведамлялася: «На той сходцы пастанавілі таму свайму катэхізісту Сымону Буднаму ганарар памерам дзесяць польскіх залатых за квартал. Таксама вырашылі наняць яму і Б. Якубу Курніцкаму стол коштам 12 польскіх залатых за квартал, лічачы з 11 студзеня 1558 года. За гэта той катэхізіст абавязаны вучыць Слову Божаму ўва ўсе нядзельныя дні, на святы, у аўторкі ды пятніцы па абедзе а першай гадзіне».

У сталіцы Вялікага Княства Літоўскага С. Будны знайшоў не толькі надзейны жыццёвы прытулак, але і атрымаў выдатную магчымасць удасканаліць свой талент педагога, пісьменніка, філосафа і багаслова. У Вільні панавала спрыяльная для творчасці атмасфера. Там яшчэ лунаў дух асветнікаў і гуманістаў Эразма Вітэлія, Міколы Гусоўскага, Францішка Скарыны. Вольналюбівыя віленчукі першыя пазнаёміліся з новымі павевамі Рэфармацыі, вучэннямі Лютэра і Кальвіна. Яны памяталі палымяныя казані Абрама Кульвы, які пасля навучання ў Кракаве, Сіене, Вюртэмбергу вярнуўся на радзіму доктарам багасloўя і заснаваў у Вільні пры падтрымцы Боны Сфорца першую ў Вялікім Княстве лютэранскую школу.

Якраз у Вільні С. Будны пазнаёміўся з берасцейскімі выданнямі Ваявудкі і Станіслава Мурмеліуса, творамі К. Імлера «Зборнік дзесяці запаведзяў Божых» (1553), У. Рэгіуса «Некаторыя спосабы і звычаі» (1554), С. Зарэмбы «Песні хвалы Божай» (1558), ананімным «Катэхізісам» (1553), якія ён горача абмяркоўваў са сваімі паплечнікамі — С. Закам, М. Вендрыгоўскім, М. Чаховіцам.

У віленскі перыяд жыцця Будны, аднак, не прымаў актыўнага ўдзелу ў тых дыскусіях, што распачаліся ў асяроддзі пратэстантаў і ў выніку якіх адбылося рэзкае размежаванне адзінай дагэтуль рэфармацыйнай плыні на Беларусі, спачатку на два, а пасля і яшчэ на некалькі кірункаў. Мяркуючы па першых творах Буднага, ён схіліўся да кальвінскай дактрыны. На яго канфесійны выбар хутчэй за ўсё тады паўплываў аўтарытэтны багаслоў, велікакняскі суперінтэндант С. Зак (Зацыуш), які 18 студзеня 1558 года на сходцы, дзе быў і Будны, выступіў з праграмным творам пад назвай «Правілы». Там пытанне аб святым прычашчэнні разглядалася акурат у духу Кальвінавага вучэння.

Пазней на Сінодзе ў Пінчаве ў траўні 1560 года сярод кальвінаў

адбыўся новы раскол з-за розных тлумачэнняў сутнасці Бога. Вядомы прапаведнік Пётра Гоняд выступіў там з антытрынітарнымі ідэямі, пачаў вучыць супроць Тройцы. Яго падтрымалі многія прысутныя на Сінодзе багасловы. Пад уплывам Дж. Бландраты магутны беларускі князь Мікалай Радзівіл Чорны таксама схіліўся да арыянства.

Будны, аднак, не спяшаўся ўслед за сваім патронам прымаць погляд антытрынітарыяў. Ён не хацеў браць на веру чужыя думкі, рызыкуючы, вядома, трапіць у няміласць да ўсемагутнага князя. Ужо тады выявілася неардынарнасць натуры Буднага, імкненне самастойна адшукаць ісціну, дайсці самому да сутнасці з'явы. Ён, разам з тым, не кінуўся на злом галавы ў вір дыскусіяў, а бесперапынна назапашваў далей веды — грунтоўна аналізаваў біблейныя тэксты, скрупулёзна параўноўваў пазіцыі і погляды шматлікіх аўтарытэтных багасловаў, заходніх і ўсходніх айцоў царквы, нарэшце, прыводзіў у сістэму свае веды пра Сусвет, Бога і Чалавека і, такім чынам, набліжаўся да выпрацоўкі ўласнай тэалагічнай дактрыны.

Каля 1560 года С. Будны пераехаў з Вільні ў Клецк, дзе ў мясцовым кальвінскім зборы прадоўжыў пачатую ў Вільні работу. У сваіх казанях, прасякнутых любасцю да чалавека, асветнік навучаў дабрыні, шчырасці, богабаязнасці, заклікаў слухачоў да штодзённае сумленнасці, высакароднасці, даводзячы, што толькі праз хрысціянскае жыццё можна дасягнуць збавення. Ганарліўцаў, зайздроснікаў, злачынцаў, клятваадступнікаў, а таксама тых, хто моліцца адначасна двум багам — Хрысту і паганскаму дубу ці каменю, Будны палохаў пякельным агнём і вечнымі пакутамі.

Да нашых дзён, на жаль, не дайшло жывое слова казаняў клецкага прапаведніка. Але вучэнне апантанага сваёй справай катэхізіста не знікла бясследна. Яно ўзыходзіла залатою рунню ў сэрцах усё новых пакаленняў. І сёння яно жыве як несціханы покліч да паўсюднага панавання чалавечнасці, душэўнай чысціні, хрысціянскай любові.

Свой зварот да друкаванага слова асветнік растлумачыў нясцерпным жаданнем спыніць распаўсюджанне «хлуслівых вучэнняў», «злых рэчаў, якія перамаглі ў Хрыстовай Царкве».

Яго «Катэхізіс» 1562 года прываблівае чытачоў як зместам, гэтак і манерай выкладання матэрыялу, выключнай логікай разважанняў і пераканаўчасцю доказаў. Апрача «Прысвячэння князям Радзівілам», напісанага ў сааўтарстве з М. Кавячынскім і Л. Крышкоўскім, «Прадмовы да Чытача» і «Пасляслоўя» выданне Буднага мела чатыры асноўныя раздзелы: «Аб дзесяці запаведзях Божых», «Аб веры», «Пра малітву Госпада», «Аб Святых Тайнах». Гэткі парадак раздзелаў знешне паўтараў вядомы «Вялікі Катэхізіс» 1529 года Марціна Лютэра. Але «Катэхізіс», што выйшаў з-пад пяра беларускага пісьменніка,— гэта не пераклад і не плагіят, а бясспрэчна арыгінальны твор, вынік уласнай творчасці нашага унікальнага філосафа і тэолага XVI стагоддзя.

Літаральна праз тры месяцы пасля з'яўлення «Катэхізіса», 11 кастрычніка 1562 года, з Нясвіжскай друкарні выйшаў новы твор С. Буднага «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам», у «Пасляслоўі» да якога пісалася: «Доконана ест сия книга о Оправдании... 1562, октября 11 дня на городе Несвижском, вытеснена накладом благочестивых мужей Матвея Кавечинского, Лаврентия Крышковского и Симона Будного».

Кніга прысвячалася тагачаснаму земскаму падскарбію Вялікага Княства, вядомаму дзяржаўнаму дзеячу Астафею Валовічу. Ён выдаткаваў значную суму грошай на пабудову Нясвіжскай друкарні і забеспячэнне яе ўсім неабходным. Выказваючы Валовічу падзяку

за ягоны клопат пра развіццё асветы, аўтар пісаў: «Часто бо от твоей милости слышал есмь, якобы рад есь мел подданым своим учителей верных и на розмноженье книг добрых накладов обецуеш не жаловати. А не только обецуешь, но и початок сее друкарни нашее твоей милости наклады исперва еще, яко некое основаніе уготовали и укрепили. На што я и с товарищми своими памятуючи и вдячность показати хотечи, умыслили есмо под именем твоим сие початки выпустити».

Вельмі крыўдна, што да цяперашняга часу не захавалася ніводнага паасобніка «Апраўдання» С. Буднага, хоць яшчэ ў мінулым стагоддзі яго бачыў рускі бібліёграф В. С. Сопнікаў. А твор гэты, напэўна, не менш унікальны, чым «Катэхізіс». Не дарма ж супроць яго выступіў пісьменнік-палеміст XVI стагоддзя, сучаснік Буднага, вучань Ніла Сорскага, Арцёмій, які ўцёк ад ганенняў з Маскоўшчыны і атайбаваўся ў маёнтку Юрыя Слуцкага.

Жывучы ў Клецку, С. Будны каля 1562—1563 гадоў пачаў наладжваць непасрэдныя кантакты з дзеячамі заходнееўрапейскай Рэфармацыі. Публічная дыскусія пачатку 60-х гадоў XVI стагоддзя паміж клецкімі, нясвіжскімі, віленскімі і малапалянскімі пратэстантамі, прысвечаная досыць складанаму тэалагічнаму пытанню пра зыходжанне Святога Духа, падштурхнула Буднага да напісання твора «Аб зыходжанні Святога Духа». Беларускі тэолаг, жадаючы пачуць меркаванні знаных еўрапейскіх тэарэтыкаў Рэфармацыі, паслаў падрыхтаваны на лаціне багаслоўскі трактат у Цюрых, Генрыху Булінгеру. Рукапіс твора і суправаджальны ліст да яго Будны перадаў у Швейцарыю з клецкім старастам Геранімам Макоўскім, які ехаў туды ў якасці спадарожніка Мікалая Радзівіла Сіроткі.

Ліст клецкага катэхізіста да лідэра швейцарскай Рэфармацыі надзвычай цікавы. У ім Будны паведамляў пра поспехі новага вучэння ў Вялікім Княстве, ухваляў дзейнасць свайго мецэната Мікалая Радзівіла Чорнага, якому, дарэчы, Булінгер таксама прысвячаў свае творы. Будны пісаў славутаму вучонаму пра цяжкасці, з якімі сутыкаліся беларускія пратэстанты, асуджаў уціск з боку каталіцкай і праваслаўнай цэркваў, а таксама перашкоды, якія чынілі яму прыхільнікі паганства.

Цяпер, аднак, невядома, ці адказаў Булінгер на ліст Буднага. Напэўна, нешта перашкодзіла яму зрабіць гэта, бо рукапіс твора беларускага пісьменніка застаўся у Цюрыху, дзе і сёння захоўваецца ў Дзяржаўным архіве. А мо гэта быў другі экземпляр?

Прыкладна ў сярэдзіне 1563 года тэалагічныя погляды С. Буднага радыкальна змяніліся. Ён перайшоў на бок антытрынітарыяў і пачаў вызнаваць адзінага Бога, адмовіўшыся ад дагмата Тройцы. Светапоглядныя зрухі асветніка знайшлі адлюстраванне ўжо ў польскамоўным выданні «Катэхізіса» (Нясвіж, 1563—1564). У ім Будны змясціў асобныя раздзелы з крытыкай трайчакоў і аргументы супраць іхняй дактрыны Абсалюта(Бога).

Неўзабаве пасля выхаду з друку «Катэхізіса» на польскай мове і публічных антытрынітарных выступленняў клецкага катэхізіста, праваслаўныя і каталіцкія дзеячы абвінавацілі яго ў сувязях са «старазаконнікамі» ці, інакш, «старазапаветнікамі», вучэнне якіх было мадыфікацыяй юдаізму. Але гэта — несправядлівы папрок, наўмысная хлусня ворагаў.

Погляды Буднага і іншых беларускіх антытрынітарыяў сапраўды ў некаторых другасных момантах супадалі з вучэннем «старазапаветнікаў». Да прыкладу, іх пазіцыі супадалі ў адмоўным стаўленні да абразоў, малітваў да святых і ў адносінах да некаторых іншых неістотных догматаў. Аднак яны разыходзіліся ў галоўным: С. Будны і ўсе антытрынітарыі, у адрозненне ад

«старазапаветнікаў», ніколі не выракаліся хрысціянскага вучэння; яны верылі ў выратавальную місію Сына Божага, лічылі Законам Божым не толькі Стары, але і Новы Запавет і г. д. Між імі існаваў непераадольны бар'ер: тэалагічная і этычная дактрына антытрынітарыяў — гэта толькі адметны кірунак хрысціянства, у той час як вучэнне «старазапаветнікаў» — не што іншае, як абноўлены юдаізм.

Каб адмежавацца ад юдаізму і развеяць усялякія сумневы сучаснікаў у дачыненнях са «старазапаветнікамі», С. Будны ўзяўся за пераклад на польскую мову твора раннехрысціянскага апалагета Юстына «Размовы Святога Юстына, філосафа і пакутніка, з Трыфанам Яўрэем», у якім якраз выкрывалася юдэйскае вучэнне, паказваліся «перавагі» над ім хрысціянскае дактрыны. 16 кастрычніка 1564 года «Размовы» Юстына былі надрукаваныя Будным у Нясвіжскай друкарні. У сваёй «Прадмове» перакладчык яшчэ раз падкрэсліў адмоўнае стаўленне да юдаізму і выклаў уласнае разуменне сутнасці Хрыстовай навукі. Гэта быў вычарпальны і годны адказ на неабгрунтаваную крытыку ідэйных праціўнікаў.

У Клецку С. Будны працягваў самаадукацыю. Ён набываў для сваёй бібліятэкі кнігі заходнееўрапейскіх аўтараў, захоплена аналізаваў творы грэцкіх і лацінскіх апалагетаў хрысціянства, асабліва шануючы Тамаша Аквінскага. Асветнік апантана чытаў апошнія выданні Берасцейскай друкарні С. Мурмеліуса; творы вядомага праўніка Барталамея Граіцкага («Палажэнне аб польскім праве», 1559—1560; «Артыкулы Магдэбургскага права», 1560; «Палажэнне аб аплаце і судах», 1560; «Учынак пад час Суда», 1560), ананімныя антыпапскія памфлеты — «Кароткія звесткі пра новаабранага папу Пія IV» (1560), «Гісторыя пра папу Іаана VIII, які быў жанчынай Жыльбертай» (1560) і розныя публіцыстычныя лісты, казані, павучанні. С. Будны набываў гэтаксама кнігі, выдадзеныя ў Берасці друкаром Цыпрыянам Базылікам. Найперш твор Я. Казаноўскага «Адказ на зварот Жана Кальвіна да польскіх братоў» (1564) і палемічны антыпольскі трактат «Размова Паляка з Літвінам» (1564), што належаў, напэўна, віленскаму войту, знакамітаму праўніку Беларусі Аўгустыну Ротундусу. У гэтым творы, дарэчы, выкрывалася прапольская пазіцыя пісьменніка з Княства С. Ажахоўскага і ўтрымліваліся важныя аргументы супраць ідэі інкарпарацыі, г. зн. поўнага ўваходжання Беларускага гаспадарства ў склад Польшчы, чаго ў 60-я гады XVI стагоддзя палякі дабіваліся асабліва настойліва.

У клецка-нясвіжскі перыяд жыцця С. Будны пазнаёміўся з найбуйнейшым арыянскім пісьменнікам і тэолагам таго часу Паўлам з Бжэзін, які пэўны час жыў пры двары Мікалая Радзівіла Чорнага і ўваходзіў у склад літаратурнага гуртка, члены якога працавалі над перакладам знакамітай Берасцейскай Бібліі 1563 года. Няйнакш, пры спрыянні клецкага катэхізіста з Нясвіжскай друкарні ў 1564 годзе выйшлі тры багаслоўскія трактаты Паўла з Бжэзін: «Адрозненні ў веры Станкаравых вучняў», «Кароткае апісанне падзеяў, якія адбыліся ў 1563 годзе ў Кракаве і Пінчаве» і «Супраць догматаў новай веры, выказаных Сарніцкім у Варшаве». С. Будны вельмі высока ставіў Паўла з Бжэзін, неаднаразова падкрэсліваючы ў сваіх творах яго глыбокую тэалагічную падрыхтаванасць і неацэнны ўклад у пашырэнне антытрынітарнага вучэння.

Клецкі катэхізіст, вядома, падтрымліваў творчыя кантакты і з іншымі членамі Нясвіжскага літаратурнага гуртка — Андрэем Тшацескім, Джорджам Шоманам, Тэнандам, Станкарам і інш. Ажыццёўлены імі ў Нясвіжы пераклад і выданне Бібліі ўскосна падштурхнулі С. Буднага да глыбокіх экзэгетычных росшукаў і філалагічных даследаў, якія неўзабаве далі добры плён. Якраз пасля выдання Берасцейскай Бібліі 1563 года беларускім асветнікам авалодала ідэя зра-

біць новы, больш дасканалы пераклад Святога Пісання і выправіць нарэшце хібы, што з розных прычын трапілі ў яго на працягу некалькіх стагоддзяў.

У здзяйсненні грандыёзнай задумы С. Будны натуральна разлічваў на матэрыяльную падтрымку М. Радзівіла Чорнага, які быў не толькі сталым фундатарам і арганізатарам кнігавыдавецкай справы, але і сам някепска валодаў пяром, выступаў як пісьменнік-публіцыст і таму, як ніхто іншы, мог ацаніць нялёгкую працу творцы і вучонага.

Аднак ажыццявіць свой план перакладу Бібліі ў клецка-нясвіжскі перыяд С. Будному не ўдалося. У 1565 годзе памёр Мікалай Радзівіл Чорны. С. Будны, як і ўвесь рэфармацыйны рух Беларусі, пазбавіўся сваёй галоўнай апоры. Нясвіжскі гурток неўзабаве распаўся. Неспадзяваныя жыццёвыя абставіны прымусілі і беларускага гуманіста таксама шукаць новы, прыдатны для творчасці прытулак.

Але час няпэўнасці быў кароткі: дзесьці ў канцы 1565 ці на самым пачатку 1566 года яго запрасіла ў Холхава Ганна Кішчына, віцебская ваяводзіна, кіраўніком або, як тады казалі пратэстанты,— міністрам тамашняга арыянскага збору. У жыцці нашага асветніка пачаўся новы перыяд.

Упэўнены ў сваіх ведах і здольнасцях, таленавіты прапаведнік нарэшце апантана ўзяўся за сталую працу над уласным перакладам Бібліі і апокрыфаў на старазапаветныя і новазапаветныя тэмы, адначасна ажыццяўляючы іх навуковае асэнсаванне.

С. Будны працаваў не складаючы рук, маючы намер самастойна, без непасрэднага творчага супрацоўніцтва з іншымі тэолагамі справіцца з вырашэннем найскладанейшае задачы. І ўжо на Сінодзе 1568 года ў Іўі клецкі міністр не без радасці паведамляў прысутным пра пэўныя поспехі сваіх безупынных перакладчыцкіх заняткаў.

У часе знаходжання ў Холхаве С. Будны адхіляўся ад працы над перакладам, бадай, толькі для ўдзелу ў Сінодах. Так, вядома, што ён браў удзел у рабоце арыянскіх Сінодаў у Венграве (1566, снежань 1567) і Скрыне (чэрвень 1567), на якіх выступіў з абвяржэннем тэорыі спрадвечнага існавання Хрыста. З яго ўдзелам праходзіў вядомы Сінод ў Іўі (з 20 да 26 студзеня 1568). На ім С. Будны выступаў літаральна па кожным з пытанняў, вакол якіх узніклі дыскусіі: аб Госпадзе Хрысце, што не быў асобаю да нараджэння Марыяй; па чыёй лініі — Іосіфа ці Марыі — Госпад Хрыстос з'яўляецца сынам Давыдавым?; аб Святым Духу; аб Святым Хрышчэнні — патрэбнае яно верным альбо досыць таго, што іх ахрысцілі ў дзяцінстве?; аб ганарлівасці свету, пра заціранне саміх сябе, а гэтаксама пра падданых і нявольнікаў; аб клятвах; аб пасце; аб выхаванні міністраў; пра пакаранне ў Божым Слове; аб падрыхтоўцы міністраў і іх выпраўленні.

Сярод тых, хто прысутнічаў на Іўеўскім Сінодзе і з кім Будны без сумневу асабіста пазнаёміўся, былі галоўныя арыянскія дзеячы Вялікага Княства: Павел з Візны — міністр пана Давыда Эсмана, былы суперінтэндант віленскі, Ян Баптыста Свянціцкі — кейданскі міністр, Блазіуш Качаноўскі — заслаўскі міністр, Якуб з Калінаўкі — колішні міністр пана Астафея Валовіча, Сымон Зыра — лоскі міністр, Валянцін Еранімовіч — іўеўскі міністр, Сымон Міхайлавіч — лоскі катэхізіст. Характар дыскусіяў на гэтым Сінодзе і яго вынікі Будны пазней перадаў у сваім творы «Апісанне Іўеўскага Сінода 1568 г.»

У сакавіку 1569 года С. Будны прыехаў на чарговы вельмі прадстаўнічы пратэстанцкі Сінод у Бельжыцах. Пра гістарычную значнасць і неардынарнасць Бельжыцкага Сінода сведчыць нават пералік

яго ўдзельнікаў. Так, напрыклад, з антытрынітарыяў на ім апрача Буднага прысутнічалі Дж. Шоман, М. Чаховіц, Я. Секяржынскі, Д. Бялінскі, Ян Каліноўскі, П. Гоняд, Л. Крышкоўскі, М. Кравіцкі, В. Кастэнскі, А. Стагрош, А. Вітрэлін, Мацвей з Пяскоў, Я. Мегалій, В. Пульхраній, Якуб Каліноўскі, С. Таркоўскі, І. Тэльвінскі. Кальвінскі бок, г. зн. апанентаў Буднага, прадстаўлялі Я. Казаноўскі, С. Фарноўскі, Я. Шадурскі, М. Жытно, Б. Гілоўскі, Тамаш з Высокага, Марцін з Горскага, Войцех з Крэсімава, Т. Фальконіус, Я. Сакалоўскі, Ян Татарын з Навагародка, Лозій з Хланёва, С. Сарніцкі, Ян з Коцка, Станіслаў з Левартова, Пантан з Лабуні.

Сярод 24 слухачоў-арыянаў названы і Васіль Цяпінскі, аднадумца Буднага, яго блізкі і надзейны сябра.

На Сінодзе ў Бельжыцах пры найактыўнейшым удзеле Буднага абмяркоўвалася нешта 37 пытанняў, сярод іх — аб школе для хрысціянскіх дзетак, пра навуку для простага люду, пра купцоў і спекулянтаў, аптэкараў і лекараў, падаткі і мыта, зборавых рамеснікаў, хрысціянскіх слугаў, абавязкі паноў і інш. Вынікам удзелу Буднага ў хрысталагічных дыскусіях на ўсіх Сінодах 1566—1569 гадоў сталася з'яўленне каля 1569 года твора «Аб зачацці Сына Божага», які, на жаль, не захаваўся да нашых дзён.

У 1570 годзе С. Будны зноўку быў вымушаны перапыніць сваю перакладчыцкую працу, каб адказаць П. Гоняду, які абвінаваціў яго ў «эбіёнскай ерасі». Выдадзеныя ў Венграве чатыры тэалагічныя трактаты Гоняда — «Дасканалае і правільнае вучэнне аб выключным першынстве Хрысціянскай Царквы» (1570), «Аб хрышчэнні» (1570), «Пра Сына Божага» (1570), «Аб трох» (1570) — утрымлівалі непасрэдныя і ўскосныя выпады супроць холхаўскага міністра. Каб абвергнуць довады апанента, С. Будны 10 чэрвеня 1570 года надрукаваў у Берасцейскай друкарні на сродкі А. Валовіча невялічкую брашуру «Аб асноўных догматах веры».

Дзесьці ў канцы 1570 года, прыкладна пасля 5—6 год руплівай працы, С. Будны нарэшце надрукаваў у Нясвіжскай друкарні Даніэля з Лэнчыцы пад адной вокладкай свой пераклад Новага Запавету і Апокрыфаў. Кніга выйшла накладам нясвіжскага старасты Мацвея Кавячынскага і адразу сталася найбуйнейшай з'явай духоўнага жыцця 70-х гадоў XVI стагоддзя.

Каля 1571 года С. Будны з невядомых сёння прычын пакінуў Холхава (магчыма, памерла яго апякунка Ганна Кішчына?) і пераехаў у Заслаўе да Яна Глябовіча, мінскага кашталяна, вялікакняскага земскага падскарбія, троцкага кашталяна (з 1584) і ваяводы (з 1586).

У Заслаўі С. Будны пражыў каля двух год. Там 15 чэрвеня 1572 года асветнік скончыў працу над перакладам кніг Старога Запавету, якія неўзабаве разам з перапрацаваным Новым Запаветам і «Прадмоваю да Чытача» былі надрукаваныя Д. Лэнчыцкім, няйнакш, ва Уздзе, куды Гектар і Альбрэхт Кавячынскія, па смерці брата Мацвея, перавезлі колішнюю Нясвіжскую друкарню, што стала іхняй уласнасцю.

Некаторымі даследчыкамі выказвалася думка, што Біблія 1572 года была выдадзена ў Заслаўі. Але гэтае меркаванне не падмацаванае дакументальна. Наадварот, усе факты сведчаць супроць яго. Важкім доказам перамяшчэння друкарні Кавячынскіх з Нясвіжа якраз ва Узду з'яўляюцца заключныя словы напісанага братамі «Прысвячэння пану М. Радзівілу», дзе літаральна сказана: «Пісана ва Уздзе, года ад нараджэння Сына Божага 1572. Месяца чэрвеня 30 дня». Калі б выданне ажыццяўлялася ў Заслаўі, дзе ў гэты час жыў С. Будны, што дадаткова пацвярджаецца лістом асветніка да П. Любянецкага, адпраўленага ім акурат з Заслаўя 20 красавіка 1572 года, то, напэўна, не здарылася б і тая прыкрая гісторыя, што на доўгі час

азмрочыла жыццё перакладчыка. Усё ў тым, што выдаўцы, не параіўшыся папярэдне з Будным, «выправілі» шэраг мясцін ягонага перакладу. Праўда, цяжка сказаць — зрабілі яны гэта свядома ці выпадкова, бо перакладчыка не было побач. С. Будны пазней, адмаўляючыся ад свайго перакладу 1572 года, пісаў: «Два гады назад мною быў перакладзены Новы Запавет, але некаторымі маімі прыяцелямі многія месцы былі ў ім змененыя без узгаднення са мною. Я быў бы рады адразу даць публічны адказ на тыя свавольствы, але не мог, бо **друкарня знаходзілася не ў маіх руках** (падкрэслена мною.— **І. С.**). Таму прашу, лічыце той пераклад чыім хочаце, толькі не маім».

С. Будны, вядома, не чакаў, што так паглумяцца з ягонай шматгадовай працы. Але здарылася, як бачым, найгоршае. Будны, аднак, мужна перанёс гэты цяжкі ўдар лёсу.

Залатою пароюў творчасці С. Буднага стаўся перыяд з 1573 да 1583 года, калі ён жыў у Лоску ў доме вядомага беларускага магната, прыхільніка арыянаў Яна Кішкі. Той прыдбаў у братоў Кавячынскіх друкарню, запрасіўшы да сябе і яе кіраўніка Д. Лэнчыцкага.

У Лоску Будны знайшоў выключна спрыяльныя ўмовы для плённай працы. Не губляючы часу, ён неадкладна прыступіў да выпраўлення сапсаванага Гектарам і Альбрэхтам Кавячынскімі перакладу Новага Запавету і ўжо літаральна праз год надрукаваў яго ў Лоску, напісаўшы «Эпіграму на герб Яна Кішкі» і грунтоўную «Прадмову да Чытача».

Мяркуючы паводле ўласных выказванняў С. Буднага і ягоных шматлікіх спасылак у тэксце Новага Запавету, перакладчык карыстаўся самымі разнастайнымі папярэднімі выданнямі і рукапісамі Святога Пісання: лацінскімі, гебрайскімі, грэцкімі і рознымі славянскімі, а гэтаксама шматлікімі творамі старажытных тэолагаў, якія хоць неяк закраналі ці цытавалі біблейныя тэксты. У часе працы над Новым Запаветам С. Будны абапіраўся, паводле яго ж слоў, на ранейшыя пераклады, зробленыя выдатнымі еўрапейскімі вучонымі: Лаўрэнцам Валам, Эразмам Ратэрдамскім, Марцінам Лютэрам, Себасцьянам Касталіёнам, Тэадорам Бэзам, Мікалаем Зэгерам. Са старажытных аўтараў Будны нязменна карыстаўся творамі Тэртуліяна, Эўсебія, Эпіфанія, Ераніма. Беларускі тэолаг меў пад рукамі Біблію Скарыны, пераклад Пятра Мсціслаўца і Івана Фёдарава, Берасцейскую Біблію 1563 года, пераклад Станіслава Мужыноўскага, чэшскую і харвацкую Бібліі ды шэраг іншых тэкстаў Святога Пісання.

Можна адназначна сцвярджаць — ніхто з тагачасных еўрапейскіх перакладчыкаў новазапаветных твораў не прарабляў папярэдне такой грандыёзнай тэксталагічнай працы, як С. Будны. Дзякуючы надзвычайным аналітычным здольнасцям беларускага асветніка, ягонаму таленту, шырокай эрудыцыі, глыбокай дасведчанасці ў пытаннях экзэгетыкі і, галоўнае, дасканаламу веданню старажытных моў, навукова-крытычны ўзровень выдання Новага Запавета 1574 года стаўся, бадай, самым высокім сярод усіх вядомых на той час у Еўропе. Сам жа асветнік з характэрнай для яго чалавечай сціпласцю не лічыў яго цалкам дасканалым і пазбаўленым хібаў. Ён не разлічваў на шчодрыя ўзнагароды і не шукаў лаўраў лепшага перакладчыка. «Якая ласка мне будзе — пісаў ён,— не ведаю. Але пра тое зусім не дбаю. Мне досыць ужо таго, што не закапаў майго малога таленту, а прынёс карысць... Усю маю працу няхай ацэняць наступныя пакаленні».

Пасля з'яўлення Новага Запавету 1574 года імя Буднага набыло яшчэ большую папулярнасць у краінах Заходняй Еўропы — Англіі, Францыі, Германіі; з ім імкнуцца завесці знаёмства, пачуць ягоныя меркаванні па тых ці іншых праблемах. Красамоўнае сведчанне шырокай вядомасці беларускага тэолага — ягоная перапіска з англій-

скім гісторыкам Іаганам Фоксам. Да нашых дзён захаваўся «Ліст» Буднага да яго ад 4 мая 1574 года. Цяпер ён зберагаецца ў Оксфардскай бібліятэцы.

У Буднага, вядома, з'явіліся не толькі новыя сябры і шчырыя паплечнікі, але і новыя апаненты, да ліку якіх належаў цюрыхскі багаслоў Сімлер. Так, напрыклад, па выхадзе ў свет кнігі Буднага «Аб дзвюх прыродах Хрыста» (Лоск, 1574), Сімлер выступіў з вострай крытыкай яе ў сваім творы «Абвяшчэнне праўдзівага вучэння аб дзвюх прыродах Хрыста» (1575).

Хрысталагічныя ідэі Буднага, выказаныя ім у творы «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з'яўляецца такім жа Богам як Бог-Айцец» (1574), раскрытыкаваў другі апанент беларускага асветніка Ян Віганд у кнізе «Туман арыянскай ерасі».

У 1572—1576 гадах С. Будны спрычыніўся да палітычных падзеяў, што адбываліся ў першы і другі перыяды жыцця Вялікага Княства без манархаў. Пасля смерці ў 1572 годзе вялікага князя Жыгімонта Аўгуста ён, няйнакш, далучыўся да палітычнае партыі, якая выступала супроць абрання на велікакняскі пасад француза Генрыха Валуа, пра што ўскосна сведчыць ягоны пераклад на польскую мову твора Эрнеста Варамунда Фрыза «Аб фурыях, альбо Французскім шаленстве» (Лоск, 1576), які быў скіраваны супроць французскіх уладаў.

15 жніўня 1576 года С. Будны надрукаваў у Лоску свой найважнейшы тэалагічны трактат «Аб асноўных догматах хрысціянскай веры». Гэты трактат фактычна складаўся з двух твораў — «Вызнання веры» і «Абароны «Вызнання веры». Да кожнага з іх былі напісаныя асобныя прадмовы, дзе раскрывалася гісторыя іх узнікнення.

Так, ідэя стварэння «Вызнання веры» зарадзілася ў беларускага асветніка ў часе арыянскага Сіноду, што адбываўся, напэўна, у Вільні ў 1573 годзе. Пасля ягонага выступлення прысутныя там браты якраз і параілі лоскаму міністру пісьмова сфармуляваць выказаныя ім думкі, што ён неўзабаве і зрабіў, вярнуўшыся ў Лоск.

Задума напісаць «Абарону» да «Вызнання веры» ўзнікла ў Буднага пазней, недзе ў канцы 1575 года, пасля новых палемічных выпадаў у яго адрас Пётры Гоняда, Сімлера, Мацвея Бжазоўскага, Яна Віснёўскага, Геранíма Занхіуса, Станіслава Фарноўскага, Марціна Чаховіца.

Пасля выхаду ў свет кнігі «Аб асноўных догматах хрысціянскай веры» палеміка не толькі не прыпынілася, а, наадварот, яшчэ больш узмацнілася. Асабліва з'едліва С. Буднага крытыкавалі П. Скарга і Я. Віганд. Апошні адгукнуўся на новы твор беларускага тэолага кнігай «Аб Ісусе Хрысце» (1576).

На працягу некалькіх наступных дзесяцігоддзяў трактат С. Буднага «Аб асноўных догматах хрысціянскай веры» заставаўся ў цэнтры рэфармацыйнай палемікі. З яго высновамі дыскутавалі Станіслаў Астроўскі ў кнізе «Аб спрадвечнай боскасці Ісуса Хрыста» (1588) і Марцін Сміглецкі ў творы з гэткай жа назваю, што выйшаў з Віленскай езуіцкай друкарні ў 1595 годзе.

У 70-я гады XVI стагоддзя, калі на землях Вялікага Княства і Польшчы пачаўся працэс выпрацоўкі дзяржаўна-палітычнай і этычнай дактрыны пратэстанцтва, між прадстаўнікамі розных яго накірункаў узніклі вострыя дыскусіі, найперш па пытаннях аб прызначэнні дзяржавы, сутнасці ўрада, абавязкахураднікаў. Свой погляд на гэтыя надзённыя пытанні часу С. Будны выказаў у творы «Абвяржэнне Чаховіца, які лічыць, што хрысціяніну нельга займаць дзяржаўную пасаду». Пасля апублікавання твора ў адрас беларускага асветніка, з боку гэтак званых анархістаў — Якуба з Калінаўкі, Пётры Гоняда, Яна Немаеўскага, Паўла з Візны і інш.— нібы град

пасыпаліся самыя адмысловыя абвінавачванні.

Будны, аднак, займаў і далей цвёрдую пазіцыю і пры кожным зручным моманце даказваў неабходнасць урада. У 1577 годзе ён прымае чынны ўдзел у падрыхтоўцы перавыдання кнігі Анджэя Фрыча Маджэўскага «Аб выпраўленні дзяржавы», у якой якраз прыводзіліся шматлікія гістарычныя і лагічныя аргументы ў абарону ўрада і пацвярджалася права хрысціяніна займаць свецкія пасады.

Услед за кніжкай Маджэўскага лоскі міністр у 1580 годзе перавыдаў у той жа друкарні Яна Карцана твор Якуба Палеолага «Абарона правільнага погляду на ўладу», змест якога таксама быў скіраваны супроць вучэння анархістаў. Пра мэту гэтага выдання асветнік пазней гаварыў: «Мы надрукавалі Палеолагавы лацінамоўныя кнігі, у якіх абараняецца ўрад, дзеля таго, каб Гонядавы вучні агледзеліся і не кідаліся з матыкамі на сонца».

Лоскае выданне Палеолагавай «Абароны» з'явілася, напэўна, у першай палове 1580 года, бо ўжо восенню таго ж года Будны прывёз некалькі дзесяткаў паасобнікаў на Сінод, што пачынаўся ў Левартове (каля Любліна), а пасля працягваўся ў самім Любліне. «Абарону» з ахвотай набывалі прысутныя на Сінодзе замежныя вучоныя. «Толькі нашы браты,— успамінаў праз нейкі час Будны з крыўдаю,— нават тыя, каму заўжды быў уласцівы спакой і цярплівасць да іншадумцаў, з трэскам накінуліся на мяне, грамілі надрукаваныя кнігі і не жадалі нават трымаць іх у руках».

Вярнуўшыся з Любліна, С. Будны склікаў пратэстанцкі Сінод Вялікага Княства (пачаўся 6 студзеня 1581 года ў Лоску) і зноў вынес на яго абмеркаванне пытанне пра ўладу. Калі прыйшоў час галасавання, увесь Сінод, за выключэннем двух чалавек, пайшоў следам за сваім духоўным лідэрам і выказаўся ў абарону ўрада.

Падтрымка братоў натхніла Буднага, і ўжо 21 лютага 1581 года ён напісаў свой гнеўны «Адказ на Ліст набожнага мужа, Сеньёра аднаго з польскіх збораў». Гэты «Адказ» асветнік рыхтаваў, знаходзячыся ў Любчы, пра што сведчыць подпіс пад творам.

У сваім «Адказе» Будны паказаў на хібы ў поглядах польскага брата, выкрыў ягоныя памылковыя ўяўленні пра Закон Божы, раскрытыкаваў ваяўнічасць Сеньёра, яго хваравітае непрыняцце іншых думак.

Аднак і пасля вострай палемічнай сутычкі з Сеньёрам беларускі асветнік не страціў надзеі знайсці агульную мову з польскімі братамі. Ён шчыра імкнуўся да ўзаемапаразумення і згоды, бо бачыў, якая смяротная небяспека для ўсяго рэфармацыйнага руху зыходзіць ад унутраных канфліктаў.

18 студзеня 1582 года лоскі міністр з верай у лепшае накіроўваецца на Сінод у Іўе. Але ягоныя спадзяванні на хуткае прымірэнне аказаліся ілюзорнымі, бо апаненты проста праігнаравалі запрашэнне і даслалі Буднаму і Я. Кішку лісты з надуманымі адгаворкамі.

Склікаць агульны антытрынітарны Сінод Буднаму ўдалося толькі праз паўтара месяца — 1 сакавіка 1582 года ў Любчы. Спрэчкі праходзілі два дні — першага і шостага сакавіка. Ідэйныя ворагі лоскага міністра, імкнучыся ўхіліцца ад абмеркавання пытання пра ўрад, здолелі навязаць Любчанскаму Сіноду другасную на той момант дыскусію пра Сына Божага. «Яны,— пісаў пазней Будны,— гвалтам прымусілі нас да тае размовы, паставіўшы ўмову: калі мы не захочам гаварыць аб Сыне Божым, то яны адмовяцца весці гутарку пра ўрад».

Праціўнікі Буднага скарысталі яго неаднаразовыя пратэсты супраць абмеркавання на Сінодзе тэалагічных пытанняў дзеля сваіх карыслівых мэт; яны ўзвялі на лоскага міністра паклёп, нібыта ён абвяргае ў сваіх казанях боскасць Хрыста, а на Сінодзе не хоча пра гэта гаварыць. На наступным Луцлавіцкім Сінодзе, які адбываўся ў

траўні 1582 года, ворагі беларускага асветніка, абапіраючыся толькі на ўласную ж хлусню, адлучылі яго ад збору. Апякун Буднага, напэўна, не надта разумеючы прыроду разыходжанняў асветніка з аднаверцамі, калі даведаўся пра рашэнне Сінода, пазбавіў Буднага месца міністра ў Лоску і адмовіў яму ў далейшай падтрымцы. Здарылася найвялікшая несправядлівасць: лепшага і разумнейшага палічылі за ворага і выгналі са сваіх шэрагаў. Гэта была трагічная памылка, што сведчыла пра глыбокі ідэйны і арганізацыйны крызіс тагачаснага рэфармацыйнага руху на Беларусі.

Пацярпеўшы няўдачу, С. Будны ўсё ж не пакінуў арэны змагання. Ён зноўку ўзяўся за пяро і пачаў дзейнічаць праверанымі сродкамі. За кароткі тэрмін пры матэрыяльнай дапамозе шляхціца Аляксандра Хамутоўскага асветнік напісаў бліскучыя публіцыстычныя трактаты «Вызнанне аб урадзе і ўрадніках» і «Абарону ўрада», якія склалі аснову ягонага зборніка «Аб свецкай уладзе». Кніга выйшла ў студзені 1583 года з Лоскай друкарні з дазволу яе фундатара Я. Кішкі, які, няйнакш, пашкадаваў свайго былога духоўнага настаўніка і выканаў яго апошнюю просьбу.

Зборнік быў надрукаваны коштам любельскага падчашага, вядомага арыянскага дзеяча Крыштафа Ласоты. Якраз на ягоны герб С. Будны і паплечнік беларускага асветніка Ф. Даманоўскі напісалі два панегірычныя вершы на лаціне.

Погляды беларускага філосафа на ўрад падтрымалі многія дзяржаўныя дзеячы Беларусі і Польшчы — ваяводы, кашталяны, старасты і інш., незалежна ад іх канфесійнай прыналежнасці. Але яны чамусьці не абаранілі асветніка ад нападак Яна Немаеўскага і Каспара Вілкоўскага, а галоўнае — ад прысуду Венграўскага Сінода 1584 года, які канчаткова асудзіў пазіцыю Буднага і тым самым пазбавіў яго апошняй надзеі прыйсці да згоды з братамі і разам пашыраць хрысціянскую навуку сярод славянскіх народаў.

Трагічныя падзеі 80-х гадоў XVI стагоддзя пазбавілі С. Буднага душэўнае раўнавагі, назаўсёды выбілі яго са звыклай жыццёвай каляіны. Каля 1583 года ён пакідае Лоск і, напэўна, накіроўваецца ў Іўе, дзе дзейнічала арыянская акадэмія. Асветнік, мусіць, зноўку паспрабаваў знайсці сябе на педагагічнай ніве. Ускосным доказам знаходжання Буднага ў Іўі з'яўляецца вядомы факт ягонага супрацоўніцтва з рэктарам Іўеўскай акадэміі Янам Ліцыніем Намыслоўскім, на падручнік якога ён у 1589 годзе напісаў панегірычны верш.

У канцы 80-х гадоў XVI стагоддзя С. Будны разам з Ф. Даманоўскім удзельнічаў у дыспуце з полацкімі езуітамі, пра што ёсць паведамленне ў кнізе «Апісанне Навагародскага дыспута 1594 года».

Жыццёвы шлях нашага славутага асветніка, чалавека універсальных ведаў, унікальнага філосафа і прапаведніка, таленавітага пісьменніка і перакладчыка, завяршыўся 13 студзеня 1593 года ў Вішневе, у доме шляхціца-пратэстанта Лявона Моклака.

Увесь свой век С. Будны стала жыў у Вялікім Княстве Літоўскім, пісаў свае творы на вытанчанай старабеларускай мове, і таму ягоная творчасць без сумневу належыць беларускаму народу. Але ён тварыў яшчэ і па-польску і на лаціне, што дае ўсе падставы гаварыць пра ўклад нашага асветніка ў развіццё польскай і, шырэй, усёй еўрапейскай літаратуры і культуры.



МАСТАЦТВА

БАРЫС БУР'ЯН

# ЧАЯВАННЕ З КАРЫФЕЕМ

Калі я ўбачыў яго на «сваім месцы» — у цэнтры горада — упершыню, ён быў ладны і светлы, яшчэ пышнавалосы, з першымі срэбнымі хвалямі ў чупрыне. Прырода адарыла красою ягоную постаць. З-пад пінжака шырока клаўся аж на плечы белы каўнер сарочкі «апаш». На грудзях ззялі ордэны і медалі. Гэтак карцінна абапіраўся ён на прыгожы, выштукаваны кій. Штосьці прыродна элегантнае і артыстычнае было ўласціва чалавеку. І ён звыкла «з гары» глядзеў на трамвай, які на тармазах пачынаў спускацца да Свіслачы, на мінчукоў яшчэ ў напалову вайсковым адзенні, на чародкі дзяцей, што беглі ў школу.

— Уладамірскі,— прамовіў хтосьці паблізу, і я пазнаў яго, бо ўчора пляскаў яму ў далоні пасля спектакля «Прымакі» (ён ішоў у адзін вечар з «Паўлінкай», але неўзабаве адпаў ад яе).

«Яго месца» і цяпер захавалася. Гэта прыступкі ў Цэнтральны сквер паблізу тэатра імя Купалы. Усё тут перапланавана, але ўваход у колішні Аляксандраўскі сквер, у цэнтры якога па-ранейшаму цямнеюць абрысы фантана са скульптурнай кампазіцыяй «Хлопчык з лебедзем», прыблізна той жа самы. У сорак пятым навокал было суцэльнае разбурэнне. Вялізныя груды бітай цэглы. Муры, за якімі пустэча, і толькі сляпыя адтуліны там, дзе былі вокны з шыбамі і дзверы, нагадвалі, што тут было некалі жытло. Руіны з перакручанымі жалезабетоннымі бэлькамі, рудымі ад іржы, цягнуліся ўздоўж і ўпоперак цяперашняй Кастрычніцкай плошчы. Затое дрэвы ў скверы, шэры гмах Дома афіцэраў і такі ўтульны будынак тэатра цудам уцалелі. І каробка будынка Вярхоўнага Савета Беларусі (тады ён дабудоўваўся для ЦК КП(б) Беларусі) узнімалася за скверам. Гэты пейзаж зрабіўся звыклым для людзей. Разбурэнне зрабілася звыклым.

Звыклым быў і гэты чалавек. Задуменны. Велічны. Прыгожы.

— Уладамірскі...

Так адказвалі мінчукі тым, хто пытаўся пра яго. А то і паказвалі артыста самі як гарадскую славутасць нароўні з выдатнымі мясцінамі Мінска. Тут, казалі, быў калісьці кінатэатр «Чырвоная зорка». На рагу — гасцініца «Парыж», яшчэ дарэвалюцыйная. Вунь там — колішні Дамініканскі манастыр. Праўда, то былі адны папялішчы.

Мінала лета, пажоўклая лістота засыпала вуліцу з трамвайнымі рэйкамі (а вуліца называлася тады праспектам Сталіна). Але недзе каля гадзіны або дзвюх на тых прыступках зноў і зноў з'яўляўся Уладамірскі. Каўнер дэмісезоннага паліто адцяняў срэбра ягонай галавы, а кій сціскала рука ў пальчатцы. І ён з-за акуляраў углядаўся ў вулічны паток. І думу сваю думаў.

Так было.

Калятэатральныя балбатуны і плеткары гаварылі, што гэтак «ён» выхваляецца, пазіруе, задавака з Першага БДТ. Мінчукі ж успрымалі яго на тым цэнтральным месцы горада як нешта натуральнае, што не вымагае ніякіх тлумачэнняў. Вы кажаце «задавака»? А яму ёсць чым ганарыцца. Мае ён права на пашану. Ён — рыцар беларускага сцэнічнага мастацтва.

Пазней «рыцар» змяніўся на яшчэ больш велічнае і цяпер рэдка ўжыванае — карыфей.

Так яно і сапраўды было. Папулярным ён быў нароўні з першымі выдатнымі зоркамі на беларускім акцёрскім небасхіле — з Уладзімірам Крыловічам і Кацярынай Міронавай, Фларыянам Ждановічам і Генрыхам Грыгонісам, Лідзіяй Ржэцкай і Вольгай Галінай... Нават па афіцыйнай табелі аб рангах, прынятай у тыя часы, гэта прызнана: Уладзімір Восіпавіч Уладамірскі быў трэцім дзеячам драматычнага тэатра, якому надалі годнасць народнага артыста рэспублікі (пасля У. Галубка і М. Рафальскага) у 1938 годзе. Пяты сярод народных артыстаў СССР — пасля Г. Глебава, П. Малчанава, Б. Платонава, А. Ільінскага — у 1955 годзе. Вядома, такія званні надаваліся за розныя заслугі, не адно толькі творчыя і мастацкія, але той, хто бачыў памянёных вышэй акцёраў на тэатральных падмостках хоць бы толькі адзін раз, можа пацвердзіць: выдатныя былі мастакі, па-рыцарску трымалі сябе ў почаце Мельпамены і Таліі.

Але, я і сам ведаю, што сёння такія словы, як «рыцар» або «карыфей», гучаць занадта гучна і напышліва. Мы прызвычаіліся да больш простай гаворкі. Ды калі прыгадваеш свае ўражанні тых гадоў, калі перад тваім позіркам паўстаюць гэтыя аблічча, гэтыя постаці, ты пачынаеш сумнявацца і з невыказнай і незразумелай трывогай думаеш: а ці сапраўды ў цябе было права вітацца за руку, чаяваць за гасцінным сталом, заходзіць у закулісную грымёрную, каб прывітаць таго ж Уладзіміра Восіпавіча? І гэта з табой ён гутарыў без цырымоній, як з добрым знаёмым, спадзеючыся на водгук, на разуменне?

Са мной.

Часцей за ўсё ў Крыжоўцы. На дачы паблізу ад новаўтворанага Мінскага мора. Пад вялізнымі мачтавымі соснамі, вяршаліны якіх гамоняць пра штосьці сваё, асабліва ў непагодную пару. Увечары гаспадар і заўжды нетаропкі зусім няспешна раскладае вогнішча. Полымя шугае ўгару, іскравы россып ляціць роем у прыцемках, надаючы гутарцы асаблівую сардэчнасць.

Шчыра прызнаюся, што я па-журналісцку ведаў: перад ліслівым брама і сама адчыняецца,— і ўсё падбіраў словы для кампліменга, які мог бы абудзіць у старога акцёра шчырую споведзь.

Пачаў з самага яскравага ўражання, якое зрабіў на мяне дуэт Уладамірскіх — яго, бацькі, і ягонага сына — Барыса. Было гэта ў

спектаклі «Губернатар правінцыі». Сюжэт быў закручаны спрактыкаванымі пастаўшчыкамі палітычна-надзённых п'ес Л. Шэйнінымі бр. Тур. Малады афіцэр Савецкай Арміі ў «нашай» зоне, акупаванай саюзнікамі Германіі, выконвае абавязкі губернатара. Дзякуючы ягонай вынаходлівасці і такту, вядома, у гэтай правінцыі ўсе добрыя немцы сытыя, а хісткія — пераконваюцца ў перавазе сацыялістычнай маралі над капіталістычнай (той, што пануе ў заходніх сектарах Германіі). Нават зацятыя фашысты, што фанатычна-паслухмяна выконвалі волю свайго шалёнага фюрэра, робяць крокі насустрач новай уладзе, якую ўвасабляе губернатар правінцыі з чырвонай зоркай на аколышы.

І вось ён наладжвае сустрэчу старога нямецкага вучонага Ота Дзітрыха, які ўпарціцца і не хоча супрацоўнічаць з савецкім камендантам, з ягоным сынам. Сын пакутаваў у гітлераўскай турме, бо быў апантаным антыфашыстам.

Бацька і сын — паводле драматычнай сітуацыі на сцэне. І яны ж, бацька і сын, у жыцці па-за тэатрам. Мабыць, было нейкае дзіва ў тым, як схуднелы і заўчасна пастарэлы малады чалавек, прывалакваючы ногі, якія яшчэ не адвыклі ад кайданоў, павольна рухаўся насустрач не па гадах маладжаваму старому. Недзе пасярэдзіне авансцэны яны спыняліся. Сын моўчкі цягнуў наперад рукі, ці то вітаючыся з бацькам, ці то паказваючы сляды ад жалеза на запясці. Ота Дзітрых стаяў нерухома скамянелы...

Яны былі падобныя адзін да аднаго. Так падобныя, што ў акупаваным немцамі Мінску зацяты тэатрал, трапіўшы на спектакль «Патанулы звон» Г. Гаўптмана, калі пабачыў Барыса Уладамірскага ў ролі, не паверыў, што гэта не Уладзімір, не той «Улад», як яго называлі, аб якім гаварылі, што ён разам з Першым БДТ эвакуіраваўся з Адэсы і цяпер выступае недзе ў Сібіры. Глядач у антракце пашыбаваў за кулісы з воклічам: «Не можа быць... Гэта, вядома, Улад, а не якісьці хлопец...»

І сапраўды, было штосьці ў іх, у бацькі і сына, пародзіста-артыстычнае. Манера, голас, пастава, міміка, жэст — усё выразна перадае настрой і стан душы. Гэта і ў штодзённых буднях. А на сцэне яшчэ дадаецца, я сказаў бы, цудадзейная здольнасць імгненна пераўвасабляцца ў тэатральны вобраз, набываць аблічча і звычкі таго персанажа, што прадугледжаны драматургам.

...Вось Уладзімір Восіпавіч гаворыць штосьці пра надвор'е або просіць жонку Кацярыну Васілеўну падаць яму акуляры і тут жа пачынае паказваць вам, напрыклад, якім ён быў Апалошам Мурзавецкім у спектаклі «Ваўкі і авечкі» А. Астроўскага. Ніякага грыму. Чалавек толькі змяніў выраз вачэй, перасмыкнуў плячыма, надламаў у каленках нагу — і перад вамі гэты нікчэмны пустальга, п'янаваты ёлуп. У руках у яго з'яўляецца дубчык накшталт бізуна-арапніка. І звяртаецца ён, гэты гуллівы хлюст, да жанчыны, каб галантна выпрасіць грошы на апахмелку, перасыпаючы свае словы гэтымі манернымі галіцызмамі: «ма тант», «пардон». І пранонс — чыста парыжанін. Парыжанін — з Койданава! І гэты хітравата-пусты позірк «туды-сюды», быццам не ведае сам, пра што зараз скажа і чаму скажа якраз тое, што зрываецца ў яго з вуснаў. Адна-адзіная страсць: выпіць кілішак...

Помню, як Барыс Уладамірскі рыхтаваў ролю Шмагі ў «Без віны вінаватых» таго ж А. Астроўскага, якую некалі бліскуча выконваў яго бацька. Чамусьці якраз Апалона Мурзавецкага яму не хацелася б «падпусціць» у Шмагу. А яны ж вельмі блізкія: правінцыяльна замшэлы арыстакрат і правінцыяльны комік. І ў Шмагі любімы прыстанак на зямлі — буфет. Ды толькі калі Мурзавецкі ва Уладзіміра Восіпавіча нават не здагадваўся пра сваё прыніжанае і вартае жалю

становішча дармаеда, што сведчыць пра апошнюю стадыю выраджэння роду Мурзавецкіх, дык Барысаў Шмага — вольны абы з кім у абыходжанні, сам у пэўныя моманты глядзіць на высакародную Кручыніну тужліва і насцярожана, баючыся, як бы яна не заўважыла водбліску яго чалавечака жалю па згубленым гонары.

Мабыць, такая здольнасць адразу пераўвасабляцца ў чужую табе істоту — гэта і ёсць неабходная якасць акцёрскага таленту. І я сам не ведаю, чаму тады ля вогнішча пачаў размову з «Губернатара правінцыі», з эпізода сустрэчы бацькі-бюргера з сынам-антынацыстам. Але па твары У. Уладамірскага адчуў, што зачапіў нешта балючае для яго.

Цягнучы далоні да агню, нібы грэючы пальцы, Уладзімір Восіпавіч загаварыў пра сваю прафесію. Наконт таго, што акцёр робіць вобраз «з самога сябе», са сваіх уяўленняў аб магчымасцях чалавека — нізка падаць да разбойніцтва і злачынства або ўзнімацца да вяршыняў альтруізму, калі і сапраўды гатовы зняць і аддаць кашулю таму, хто жыве ў галечы. Перш-наперш у сваёй душы падпільноўвай высокія памкненні, калі яны, вядома, з'яўляюцца, і тыя праявы хцівасці або зайздрасці, без якіх таксама ніводны з нас не абыходзіцца. Давайце пагартаем ролі хоць Лопэ дэ Вэга (У. Уладамірскі быў кранальна адданым другам-слугой Трыстанам у прыгажуна-кавалера Тэадора ў камедыі «Сабака на сене»!), хоць Кандрата Крапівы (Даніла Дрыль у «Партызанах», Канягін у «Мілым чалавеку», кампазітар Гудовіч у драме «З народам»), хоць Максіма Горкага (маштабная і глыбокая работа — Іван Каламійцаў у «Апошніх»), і мы ўбачым зусім канкрэтны чалавечы лёс у спалучэнні з асяроддзем праз выяву псіхалагічна вельмі загадкавых імкненняў, жаданняў, звычак. Што ні роля — адметная асоба.

Я слухаў такія развaжанні, чакаючы, да чаго ж мяне вядзе мой суразмоўнік. У яго вачах зіхацеў водбліск жывога агню і рукі былі падобнымі да рук дырыгента перад аркестрам, нібы Уладзімір Восіпавіч дырыжыраваў полымем кастра. Далоні ўздрыгвалі. І на вачах былі слёзы.

Мабыць, так, як у «Губернатары правінцыі» на сцэне ў спектаклі 1948 года, ён сам сустрэўся са сваім сынам. І было нейкае дзіўнае і страшнае адчуванне, быццам і яны пераадольваюць бар'ер, які аддзяляў іх раней адзін ад аднаго. Бо ў Томску народны артыст БССР Уладзімір Уладамірскі разам з калегамі па Першым БДТ збіралі грошы на баявы самалёт і потым прасілі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага ім такую машыну вызначыць, каб яны перадалі яе франтавой эскадрыллі, а ў гэты самы час... Ну, калі не ў гэты самы, то ў той жа год... Тут, у акупаваным тады Мінску, Бора... яго сын... рабіў адзінае, на што быў здатны, што ўмеў рабіць... Ён выступаў на сцэне гарадскога тэатра, адкрытага Мінскім магістратам у тых жа самых сценах, што і БДТ-1...

Я адчуваў, як яму балюча гаварыць пра гэта, і што ён, засланёны ад мяне вялікім, у неба, агнём, пачувае сябе вольным ад спачувальнага ці асуджальнага позірку збоку.

Юнак, адораны ад прыроды талентам, прагне, каб яго мара пра поспех на падмостках здзейснілася. І на хлеб надзённы зарабляць трэба! Водаправодчыкі ў разбураным Мінску рамантавалі трубы, наладжвалі падачу вады ў бальніцы і на пошту, на чыгуначную станцыю. І ў нямецкія шпіталі. І ў камендатуры. Пажарнікі тушылі пажары, у тым ліку і тыя, што ўспыхвалі пасля налётаў на наш горад савецкіх бамбардзіроўшчыкаў. Півавары варылі на заводзе на Старажоўцы піва для мінчукоў і для тых, хто прыйшоў у горад з нямецкім вермахтам. Настаўнікі вучылі дзяцей лічыць і пісаць, прычым пісаць і гаварыць па-беларуску, на роднай мове. Артыст... Малады артыст

меў адну дарогу — у святло рампы. А ў яе промнях той жа гаўптманаўскі «Патанулы звон»...

Пакуль артыста падобная сітуацыя не кранае непасрэдна, пакуль ён разглядае ролю ў п'есе як партытуру чужога жыцця, ён можа асуджаць той або іншы персанаж, а потым на сцэне яго выкрываць або высмейваць. Але вось ты разам з усімі патрыётамі на Вялікай зямлі, як тады называлі неакупаваную большасць савецкай тэрыторыі, абураешся тым, што знаходзяцца там, у захопленых фашыстамі гарадах і вёсках, настаўнікі, якія згаджаюцца за маркі выкладаць дзецям «скажоную» геаграфію і «скажоную» гісторыю. Знаходзяцца там і фельчары і нават урачы, што ідуць да аперацыйных сталоў або ў палату псіхічна хворых, каб ратаваць чалавечае жыццё. Ёсць паравозныя машыністы, якія стаяць за рэверсам лакаматыва, што цягне эшалон з баявой тэхнікай нашага ворага да лініі фронту...

«Я амаль без ваганняў, рашуча асуджаў такіх... там... у Томску... Калі ты патрыёт, ідзі ў партызаны, на падпольную работу... Бадзяйся беспрацоўным... Толькі... нельга табе...» — абрываў сябе Уладзімір Восіпавіч, падкідаючы ў вогнішча хваёвыя лапкі, адхінаўся ад рою іскраў і зноў цягнуў рукі да агню.

Не помню дакладна слоў, якімі мы тады абменьваліся, але ўсё ж у нас хапіла смеласці не пагадзіцца з распаўсюджанай думкай пра свядомы калабарацыянізм, пра супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі ўсіх тут — не дзеля таго, каб выжыць, а па перакананнях, паздрадніцку. Не быў ідэйным перабежчыкам у чужы лагер кожны, хто служыў «пад немцам».

Расхваляваўшыся, Уладзімір Восіпавіч раптам загаварыў пра ідэалогію, якая працінае мастацтва ў нашай краіне, як больш нідзе. Ён жа ўдзельнік і сведка рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Яму самому выпала выступаць з куплетамі і меладэкламацыяй перад маршавымі ротамі, якія выпраўляліся на перадавыя пазіцыі для абароны першай у свеце дзяржавы рабочых і сялян — Рэспублікі Саветаў. Яго захапляла велічная мэта — вызваленне прыгнечаных і прыніжаных з-пад пяты капіталу. Наогул, інтэлігенты юных гадоў захапляюцца сацыяльнай утопіяй фанатычна.

— Ведаеце, калі раней набожны чалавек верыў у несмяротнасць сваёй душы, якой наканавана пасля цялеснай смерці выпраўляцца ў божы свет, дык маё пакаленне верыць у іншы несмяротны лёс,— сказаў упэўнена Уладзімір Восіпавіч.— Мы паверылі, што нашы справы на карысць чалавецтва, на карысць нашых дзяцей і ўнукаў, калі толькі гэтыя справы будуць вартыя высокага камуністычнага ідэалу, і ёсць зарука нашага вечнага жыцця ў памяці нашчадкаў...

— Выходзіць, вы — таксама з тых, што веруюць? — спытаў, помню, я, бо размаўлялі мы ў канцы 60-х, і за нашымі плячыма быў XX з'езд КПСС, выкрыццё культу асобы Сталіна, і з'явілася свабода ў разважаннях пра ролю і значэнне ў нашым жыцці ідэалогіі, якая ператвараецца ў практыку з парушэннямі, як тады казалі, рэвалюцыйнай сацыялістычнай законнасці.

— З тых! — цвёрда сказаў Уладамірскі і кінуў у агонь вялікую галіну з сухімі іголкамі.

Сёння я магу ўпэўнена гаварыць, што творчасці нашых карыфеяў драматычнай сцэны спрыяла іхняя вера ў рамантыку рэвалюцыйных перамен у грамадстве. Магчыма, хтосьці з іх і расчароўваўся ў сваіх меркаваннях. Нехта і вызваляўся ад «ружовых акуляраў». Бывала ў каго-небудзь і прасвятленне. Толькі агульнай атмасферай творчасці была вера ў справядлівасць найвышэйшай мэты, абвешчанай у Кастрычніку пераломнага ў гісторыі Семнаццатага года: мір — народам, зямля — сялянам, заводы і фабрыкі — рабочым. Неўзабаве пачнецца этап адмірання дзяржавы як інструменту прымусу, і надыдзе

светлая ява — будучыня. Хай сёння яшчэ пануе самаўладны чыноўнік. І суд, бывае, выносіць прадузяты і наперад неаб'ектыўны прысуд, прымусова вызначаючы чалавеку злавесны лёс. Абмежаваны і паслухмяны вышэйшай уладзе камандзір можа павесці тысячы байцоў на загадзя марную вайсковую аперацыю. Гэта — непазбежныя выдаткі станаўлення і фармавання таго — самага-самага! — справядлівага грамадства.

Калі мы развітваліся, затушыўшы касцёр, Уладамірскі прамовіў, нібы толькі самому сабе: «Непазбежнае зрэдку бывае міласэрным», а я пачаў успамінаць, з якой ролі мог ён узяць такі сумнаваты афарызм. Стары яшчэ ціха прамовіў: «Жаданае заўсёды перакрыжоўваецца з немінучым...»

Пакуль я ехаў у электрычцы, потым ішоў праз горад да сябе на Валгаградскую, усё думаў, чаму мы так і не паглыбіліся ў размову пра незвычайныя абставіны жыцця бацькі і сына ў час вайны. Праўда, і ў недамоўленым было сваё значэнне, свой сэнс. А больш праясніла асацыятыўная частка размовы.

Напрыклад, я прыгадаў, як здзіўляў і ўзрушаў залу адзін жэст Івана Данілавіча Каламійцава ў «Апошніх». Драма ідзе да фіналу — усе ў доме падзяліліся ўжо на варожыя станы. Смерць забірае адзінага дабрадзея ў гэтым доме — Якава Каламійцава. Наперадзе канчатковы распад сям'і. Хоць тую смерць і чакалі, брат Якава — Іван — трыумфуе ў душы: цяпер наогул запануе ў доме гаспадаром. Нарэшце! Таму ён, пачуўшы чаканую навіну, набліжаецца да нябожчыка на дыбачках. Ціхенькі са сваёй няціхенькай радасцю. І пакуль ідзе, дастае з кішэні чорную жалобную стужку. Прымацоўвае яе на рукаў. Помсліва аглядае ўсіх, нібы з дакорам: хныкаеце і ніхто не адчувае, якая гэта чорная жалоба, а яна — во...

Важны і грозны паліцэйскі чын, жандар высокага рангу, Іван Каламійцаў выглядаў ва У. Уладамірскага нават патомным жандарам. На ім быў і пэўны налёт арыстакратычнага паходжання. Арыстакрат, які свядома ідзе ў паліцыю дзеля аховы цара-бацькі і вялікай дзяржавы. Чаму? Такі парадокс па-мастацку даследаваў разам з Максімам Горкім выканаўца гэтай ролі на беларускай сцэне.

Цікава, што спектакль упершыню быў паказаны ў сакавіку таго незабыўнага цяпер і для нашчадкаў 37-га года. Прэм'ера ў тэатры супадала з пасяджэннямі пленума ЦК КП(б) Беларусі, на якім першым сакратаром ЦК быў абраны В. Шаранговіч. Неўзабаве і яго расстраляюць паводле прысуду надзвычайнага суда, якім кіраваў не менш знакаміты цяпер Андрэй Вышынскі, а дырыжыраваў з-за куліс залы ў Доме Саюзаў сам І. В. Сталін. А тады, пасля лютаўска-сакавіцкага Пленума ЦК ВКП(б), Шаранговіча накіравалі сюды з Масквы, каб завяршыць чыстку партыйна-дзяржаўнага апарату ад так званых «варожых элементаў», ад «ворагаў народа», першымі сярод якіх былі М. Галадзед, М. Гікала, А. Чарвякоў, якія яшчэ ўчора мелі рэпутацыю адданых ленінцаў і паплечнікаў таварыша Сталіна.

Спектакль «Апошнія» выконваўся на сцэне і ў жніўні трыццаць сёмага, калі ў Мінск прыехаў пасланец Сталіна Г. Малянкоў (пра яго цяпер вядома, што ён тады знішчыў амаль усё тагачаснае рэспубліканскае кіраўніцтва Беларусі). На адказныя пасады ў наркаматы і камітэты партыі былі прызначаны людзі, якія змянілі папярэднікаў, арыштаваных і расстраляных як «ворагі народа» у тых жа Курапатах. Уцалелі і захавалі жыццё толькі чацвёртыя ці пятыя наступнікі на адказных пасадах (напрыклад, К. Мазураў, які ў той час пачынаў кар'еру ў палітаддзеле Беларускай чыгункі).

Не ведаю, ці маглі хоць як-небудзь супастаўляць тое, што адбывалася ў краіне, з паказаным на сцэне ў «Апошніх» сучасныя гледа-

чы. Хоць людзі майго пакалення пасля XX з'езда КПСС разважалі даволі адкрыта і на такія тэмы, нам усё ж і ў галаву не прыходзіла пытацца наконт таго ў бацькоў. Сама думка пра пэўнае падабенства жандараў усіх часоў да звычайнага выканаўцы дзяржаўнай палітычнай волі, да лютага цэрбера-ахоўніка, і сталінскія чэкісты — не выключэнне, яшчэ ў канцы 60-х гадоў магла прагучаць кашчунствам.

Мае спробы даведацца пра ўсё ў артыстаў, якія ўдзельнічалі ў прэм'ерных паказах «Апошніх», заканчваліся нічым. Ніхто тады не суадносіў разгулу тэрору 37-га года з мастацкім творам, які адлюстроўвае рэчаіснасць царскай Расіі першага дзесяцігоддзя нашага веку. Тут жа прыватная сямейная драма Каламійцавых! Ды і першапачатковая назва п'есы была «Бацька» (нібы ў процівагу вядомай аповесці таго ж Горкага «Маці»).

Ускосна мне на такое пытанне, якое я і задаваў у вельмі закамуфляванай форме, адказаў Уладзімір Восіпавіч. Мы сядзелі на верандзе яго дачы, пілі чай з пернікамі, даліваючы ў шклянкі лікёр «Бенедыктын». Гаспадар гарэзліва бліснуў акулярамі, у якіх адбіваліся залаты бок самавара і сонечныя блікі з-за фіранак, і заўважыў: «Іван Данілавіч не грэбаваў чаяваць з лікёрам... Ха-ха-ха!»

Трэба ж! І я таксама нашпігаваны рэплікамі з розных роляў. Мне адразу ўспомніўся жарт горкаўскага генерала Печанегава з «Ворагаў», які піў каву «з каньяком і паручнікам». Таму мы разам і смяяліся: «Ха-ха-ха...»

Смех той абарваўся, калі Уладзімір Восіпавіч, падхапіўшы тэму п'есы «Бацька», загаварыў, што як гэта ні дзіўна, але калізіі, падобныя да тых, якія перапляліся ў доме Каламійцава, усё ж даволі частыя ў розных сем'ях. Іншыя вонкавыя ўмовы, не такое службовае становішча галавы дома, не той грашовы цэнз, але і ў звычайнага трактаразаводца або ў акадэміка можа быць такая дачка, як Верачка Каламійцава, такая жонка, як Соф'я, і такі сын, як Пецця... Яны могуць у звычайныя дні бегаць у школу або на каток коўзацца на каньках, гуляць у карты, употай ад бацькоў чытаць «раманы пра каханне» — усё будзе выглядаць увогуле прыстойна.

А на самой справе?

Паглядзеў на мяне Уладамірскі тады дапытліва. Быццам правяраючы, ці можна мне гаварыць тое, што меўся ён цяпер сказаць. Чамусьці ціха параіў: «Піце чай, пакуль ён яшчэ цёплы. Лікёр не павінен астываць...» І без пераходу прыгадаў, што вось у спектаклі Ірачка Ждановіч у ролі Веры выкрыквае адносна Івана Данілавіча, абараняючы ягоны гонар: ён жа герой! У яго стралялі гэтыя дробныя зайздроснікі-бунтаўшчыкі. «А ён камандуе людзьмі. Ён кіраваў і яшчэ будзе кіраваць,— значыць, ён разумны і добры чалавек...» Святая прастата!

Чаму мы так узрушана слухалі воклічы актрысы з пералівамі дзявочага голасу? Асабліва калі Вера пыталася ў маці: «Хіба няма сумленных людзей, мама?»

А муж Іраччын — Бора Платонаў, выконваючы ролю Пятра Каламійцава, не менш апантана крычыць: «Ці сумленны чалавек наш бацька?» і ўзнімае вэрхал на ўвесь дом, бо яму сэрца падказвае нейкую жудасную праўду пра ўсю пошласць і фальш роднага чалавека, які і яму ж пэўны час здаваўся сумленным служакам, чыё жыццё небяспечнае ад пагрозы з боку парушальнікаў спакою ў дзяржаве.

Не, не будзем параўноўваць непараўнальнае!

Прыблізна такі вокліч пачуў я перад тым, як Уладзімір Восіпавіч зусім ціха прамовіў: «А ў самой Ірачкі бацька — Фларыян Паўлавіч — быў арыштаваны і пасля высланы з Беларусі, пэўны час жыў і працаваў у Саратаве разам з іншымі сасланымі туды рыцарамі беларускай культуры — Язэпам Дылам і Чэславам Родзевічам, пазней

яго загналі аж на поўнач Валагодчыны. Платонаў вучыўся майстэрству і глыбіні псіхалагічнай праўды на сцэне ў яго ж, у свайго цесця, Фларыяна Паўлавіча, якога лічыў сваім бацькам...»

Гэта мне адкрылася тады ўпершыню: якія дзіўныя — то светлыя і радасныя, то пастылыя і непрыветныя — узоры тчэ падобны да фантастычнага чалавечы лёс! І самы смелы выдумшчык не створыць такую камбінацыю і такое перапляценне таго, што дыктуе артысту драматург і рэжысёрскае тлумачэнне, з тым, што ён у гэты ж час асабіста перажывае і думае, тоячыся і хаваючы ў душы.

Не хачу прыдумляць словы, якія тады гаварыў Уладзімір Восіпавіч. Помню, што з трапяткой павагай паведаміў мне, як пра сваё ўласнае, выпакутаванае пачуццё, якое вылілася ў Ірыны Фларыянаўны ў адказ на пытанне аб яе асабістых адносінах да палітычнага аблічча арыштаванага бацькі. Пытанне, што гняло жанчыну чулага сэрца і вялікага таленту ўсё жыццё аж да нашага цяперашняга часу. «Калі мой бацька вораг народа, то я яго выракаюся»,— так вымушана была адказаць сваім інквізітарам І. Ждановіч.

Мне здаецца, што Уладамірскі некалькі разоў шэптам паўтарыў гэтае адно слова «калі... калі... калі...».

Ірына мела права і павінна была насіць прозвішча мужа — Платонава. Шлюб абавязвае нават так рабіць. І тады імя «Ждановіч» знікла б з тэатральнага небасхілу Беларусі. Яна ж гэта не зрабіла. З годнасцю несла праз гады бацькава прозвішча. Дык ці адцуралася яна ад яго? Хай маралісты балбочуць, што ім хочацца, але ўчынак Ірыны Ждановіч — высакародны і смелы. А палітычным прайдзісветам яна кінула костку: «Калі мой бацька...»

Цяпер вы разумееце, адкуль у Джульеты ў спектаклі 1946 года «Рамэа і Джульета» былі такія пранізлівыя і трапяткія інтанацыі, калі яна стаяла перад выбарам — ці адмовіцца ад свайго вялікага кахання, ці пайсці насуперак забабонам і сямейным звычаям. Кахае яна, з роду Капулеці, юнака з варожага яму роду — Мантэкі. Узрушаная сваім пачуццём адданасці да свайго бацькі — Фларыяна Паўлавіча, актрыса з дзівоснай мастацкай сілай раскрывала трагедыю асобы, якая паўстае супроць нечалавечых нораваў — варожасці.

Рамэо! Ах, чаму Рамэо ты?
Ад бацькі адрачыся, ад імя,
А не — дык пакляніся мне, што любіш,
І я дачкой не буду Капулеці...

— Я не мог стрымаць слязу, калі пачуў, як гэта вымаўляе на сцэне Іра ў ролі Джульеты,— сказаў стары Улад праз дваццаць гадоў пасля прэм'еры.

Кацярына Васілеўна заходзіла на веранду, штосьці нам падкладала на сподкі, падлівала ў шклянкі. Мы адхіляліся ад галоўнай тэмы размовы, жартавалі, цягнулі той «Бенедыктын» з кілішкаў. Сонца ўжо выцягвала свае промні з шыбаў веранды. Мы ўсё чаявалі і чаявалі.

Не палічыце за плётку, але быў яшчэ адзін аповяд Уладамірскага. У яго калегі і сябра па сцэне, выдатнага артыста, першая жонка — надзіва прыгожая і вельмі сакавітая актрыса — мела звычай глядзець спектаклі з удзелам мужа, потым прыбягаць у грыміровачную і галасна расхвальваць яго. Выказвала такім чынам пакланенне перад мужавым талентам. У тэатры хадзілі чуткі, быццам яна вельмі ўпадабалася не абы-каму, а самому старшыні рэспубліканскай установы, абрэвіятура якой і дагэтуль абуджае прылівы жаху — «ОГПУ». І вось аднаго разу цалуе яна мужа і спяшаецца нібы ў залу глядзець спектакль. Сама ж сядае ў прысланую за ёй аўтамашыну маркі «Форд-АМО» і знікае.

Тым часам высвятляецца, што выканаўца галоўнай ролі ў тым спектаклі захварэла, і дырэкцыя замяняе яго іншым відовішчам. Пасля фінальнай заслоны акцёры вяртаюцца ў грымёрныя, кураць, адпачываюць, анекдотамі перакідваюцца. Раптам улятае тая прыгажуня з чырвоным румянцам на шчоках і пачынае шчабятаць сваё: маўляў, які ты быў тэмпераментны сёння, асабліва ў другім акце... І гаворыць пра той спектакль, што быў адменены і замест якога яе муж з партнёрамі іграў іншы. Хуткі быў «Форд-АМО», але падвёў, спазніўся.

І разышліся яны — тая прыгажуня і той асілак беларускай сцэны. Дык жа лёс свавольны і таемны ў сваіх вычварах. Другая жонка таго акцёра параўноўвалася з чароўна прыгожай біблейскай Юдзіф. Ці была і яна здрадліва-пажадлівай? Мяркуйце самі. Заўдавеўшы, гэтая Юдзіф сама распускала пра сябе пагалоску, нібы да яе не без поспеху заляцаецца першы кіраўнік рэспублікі. Ці не тыя пагалоскі і сталі прычынай яе арышту...

Уладамірскі прызнаўся, што ніколі не бываў сведкам сцэн рэўнасці свайго калегі-сябра. Толькі ўлоўліваў глыбокі трагізм у інтанацыях голасу і ва ўнутраным напружанні волі ў розных сцэнічных вобразах, створаных тым каларытным мастаком як гераічнага, так і жанрава-характарнага рэпертуару. Рампа вымагае, каб ты растрачваў тыя сілы душы, што назапашаны і ў драматычных тваіх асабістых спрэчках з лёсам і з самім сабой. Гэтыя сілы потым будуць вырывацца з тваёй душы, хочаш ты таго ці не. Любая роля правакуе ў мастака галюцынацыі рэальнага гора, рэальнай бяды, рэальнай смерці.

...Мы ўжо выправіліся на праходку да прыціхлага ўвечары вадасховішча. У густым блакіце неба схіліў да зямлі свае рогі маладзік. А Уладзімір Восіпавіч усё гаварыў і гаварыў. Пра набалелае, відаць. Як артыст, ён зведаў усю прынаднасць мастацкага паглыблення ў ролю, усвядоміўшы на асабістым вопыце, што, якім бы ні быў супрацьлеглым яму ягоны персанаж, на падмостках ты мусіш выстаўляць напаказ і нешта запаветнае, патаемнае, вельмі інтымнае.

Паўтару яшчэ раз: Уладамірскі з тых артыстаў, што гатовы адразу пераўвасобіцца ў вобраз, часам да непазнавальнасці змяніць аблічча і тэмпераментныя градусы напалу душы. Ягоная пластычнасць рухаў была такая ўражлівая, што ў некаторых мізансцэнах хацелася яго затрымаць і замацаваць статуарна ў характэрнай для яго персанажа позе з надзвычай трапным жэстам. Выдатныя абертоны ў голасе і выразная дыкцыя, узбагачаныя інтанацыйнымі характарнымі фарбамі, рабілі зразумелымі тэкст і падтэкст у вуснах Уладамірскага.

Усё гэта і спрыяла поспеху акцёра ў гледачоў з першых яго выступленняў у складзе беларускай трупы, у якую яго залічыў Фларыян Ждановіч у 1924 годзе. Але, ён быў ці не самым старэйшым з артыстаў пасля Ф. Ждановіча, Г. Грыгоніса і К. Міронавай. А ў мальераўскім «Мешчаніне ў шляхецтве» ці не самым маладым гарэзам у вынаходлівых скоках і сальта-мартале, у танцавальных піруэтах, у імправізацыйных выбрыках, у арыгінальных фокусах быў якраз ён, Валодзя Уладамірскі. Ён так захапіў сваёй акцёрскай дасціпнасцю Е. Міровіча, што той спецыяльна для новага артыста піша і праз год ставіць «Каваля-ваяводу», дзе роля Блазана і рухае дынамічны фальклорна-камедыйны сюжэт. Хітры мужычок прымае аблічча блазна, каб пасмяшыць Ваяводу тым, што рознымі хітрыкамі прыводзіць у палац і садзіць на трон звычайнага вясковага каваля. Уладамірскі з асалодай і натхненнем круціў карагоды смешных прыгод, што здараліся з рознымі персанажамі гэтай па-народнаму мудрай казкі пра разумную сілу, якая да пары да часу тоіцца ў сялянскім характары.

Цікава, што славуты Ян Райніс, калі гасцяваў у Беларусі, паглядзеўшы спектакль, ухваліў п'есу і сказаў яе аўтару: «У асобе артыста Уладамірскага вы знайшлі ідэальнага выканаўцу. Якая ў яго

здольнасць пераўвасабляцца! Якая хуткая змена пачуццяў! Багатая артыстычная натура ваш Уладамірскі!»

Гэтыя якасці тэатральнага артыста-мастака не менш ярка выявіліся і ў наступнай напісанай для яго Е. Міровічам п'есе — у «Кар'еры таварыша Брызгаліна». Уладамірскі даследаваў тып прыстасаванца вялікага калібру.

Яго герой — пакручастымі пуцявінамі праходзіць шлях ад царскага жандара Прэлава да актывіста бальшавіцкай партыі і валаснога начальніка, які адно толькі ведае, што выкрывае ворагаў савецкай улады. Старыя тэатралы і сёння смяюцца, прыгадваючы гэтага спрытнага і напышлівага бурбона, абвешанага значкамі розных таварыстваў, саюзаў, грамадскіх арганізацый і спартыўных клубаў, нібы узнагародамі. Як урачыста аддаваў таварыш Брызгалін чэсць сцягу і гербу! Як ён прыструньваў падначаленых і розных візіцёраў-хадатаяў! Смешны, бо па-тэатральнаму сатырычны выведзены на святло рампы, і страшны, калі з такім спрытам можа па сваёй волі рабіць чорную справу пад лозунгі ўсё тае ж партыі, куды ён так надзейна ўбіўся ў ласку.

Я пераказваю тое, што цяпер лічыцца хрэстаматыйна ўзорным у акцёрскім мастацтве Беларусі. Тэатр і драматургія развіваліся далей з улікам вопыту такіх артыстаў, як Уладамірскі. Яго ж уклад у тую своеасаблівую скарбніцу, якая пасля выглядае як легенды і рэпарцёрска-рэцэнзенцкія апісанні сцэнічных работ, сапраўды вялікі і маштабны.

Не бачыў спектакляў «Фландрыя» В. Сарду, «Браняпоезд 14-69» У. Іванава, «Гута» Р. Кобеца, «Мост» Я. Рамановіча, «Бацькаўшчына» Кузьмы Чорнага, таму і пра яго званара Іонаса, кітайца Сін Бін-у, шкловыдзімальшчыка Цыганка, бюракрата-выпівоху Мухіна і пра Леапольда Гушку магу меркаваць таксама з аповядаў сучаснікаў і радкоў у тэатразнаўчай літаратуры. Уяўляю ж гэтыя персанажы лёгка, бо па некалькі разоў глядзеў і тыя «Апошнія», і «Губернатара правінцыі», і «Хто смяецца апошнім», і «Гэта было ў Мінску», і «Ваўкі і авечкі», і «З народам», і «Каварства і каханне», і «Даходнае месца», і «Пінскую шляхту», і «Праўда добра, а шчасце лепш», і «Сабаку на сене». Бачыў і той скандальны спектакль «Мілы чалавек», на якім пасля першага акта з урадавай ложы, бразнуўшы дзвярыма на ўсю залу, маланкай знік першы кіраўнік рэспублікі і за ім астатнія савецкія вяльможы: яны не сцярпелі такой праўды пра сябе, ды яшчэ ваенных часоў.

Мае асабістыя ўражанні ад акцёра Уладамірскага пераконваюць мяне і сёння, калі тое пакаленне купалаўцаў ужо змяняюць унукі славутых піянераў колішняга Першага БДТ, што мне пашчасціла бачыць выдатнага мастака тэатральнага пераўвасаблення. Не надта сардэчнае знаёмства з самім Уладзімірам Восіпавічам усё ж наблізіла мяне да маштабнай і арыгінальнай мастакоўскай асобы. Пэўныя яго ўчынкі тлумачыліся ўласцівымі творчаму чалавеку дзівацтвамі і нават капрызамі. За талент Усемагутны Творца патрабуе расплаты.

Пра адно дзівацтва я ў яго ўсё ж спытаў на сцежцы ўздоўж ціхай вады, у якой адбіваўся той маладзік. Чаго гэта артыст Уладамірскі абраў сабе пазіцыю ў цэнтры Мінска і выстойваў там, на прыступках лесвічкі ў сквер з фантанам, здаралася, гадзіну. Пазней у спектаклі «З народам» мастак А. Багданаў у сцэнаграфіі аднаўляў акурат гэтае месца. Паводле п'есы Кандрата Крапівы сюды ў час акупацыі Мінска немцамі прыходзіць іграць на скрыпцы і збіраць міласціну кампазітар Гудовіч. Не хоча і не можа ён супрацоўнічаць з акупацыйнымі ўладамі і зарабляць пісаннем музыкі для опернага тэатра, што адчыняецца там жа, дзе гучалі пры Саветах ягоныя творы. Гудовіч — не Шкуранкоў (дарэчы, нават прозвішча гэтага персанажа перагукала-

ся з прозвішчам Аляксея Туранкова, а сюжэт увогуле паўтараў афіцыйную версію ягоных паводзін). Гудовіч пойдзе жабраваць са скрыпкай, але не пераступіць парога тэатра з немцамі ў партэры!

Помню, як выбіраў тактоўныя выразы, каб — крый Божа! — не выглядала гэта алюзіяй, быццам я ківаю ў адрас сям'і Уладамірскіх. Бо самае галоўнае было ў тым, што стары Уладамірскі ў вобразе Гудовіча граў на скрыпцы на тых жа прыступачках, і калі міма вялі нашых ваеннапалонных, з яго струн паліласся мелодыя «Інтэрнацыянала». Вядома, абарваныя чырвонаармейцы ў пілотках адразу падбадзёрваліся, узнімалі ў салюце руку («Рот-фронт!»), выкрыквалі нешта, а да Гудовіча кідаліся ўжо з сабакамі паліцаі... Дзякуючы знаёмай мясціне на мірным часе, гэтая сцэна ў спектаклі вельмі ўзрушала залу.

Ці не прадчуваў Уладамірскі, што яму давядзецца на тэатральных падмостках амаль паўтараць мізансцэну, якую ён абраў для сябе як амаль штодзённую вахту ў Мінску? Бо і тады, калі руіны разабралі для Цэнтральнай плошчы і пасадзілі ладныя ліпы, а пасяродку ўзнеслі велічна мануметальную статую Сталіна, сівы артыст не-не ды і маячыў на «сваім месце». Насупраць агромністай падабізны правадыра ўсіх народаў. На плошчы імя Сталіна.

Уладзімір Восіпавіч нічога мне не адказаў. Мабыць, я і сапраўды быў бестактоўным на гэты раз. Пэўныя аналогіі ўсё ж у падобных супастаўленнях узнікаюць. Чамусьці замест свайго Гудовіча ён раптам прамовіў імя свайго Каламійцава. У тым сэнсе, што гэта ў вас, тэатральных журналістаў, завядзёнка такая: вызначаць вяршыні творчасці. Вось у яго крытыкі ў адзін голас называюць Івана Каламійцава творчай вяршыняй артыстычнай дзейнасці.

Я спасылаўся на бедны лексікон тэатразнаўчай навукі, на газетныя штампы, але ўпарта паўтараў, што ў «Апошніх» ён стварыў незабыўны характар сатрапа з вельмі жывымі чалавечымі пачуццямі і перажываннямі, якія нават у самыя непасрэдныя моманты ягонай скрухі або разгубленасці не лагодзяць жандарскай сутнасці Івана Данілавіча. Аднойчы ў хвіліну амаль што роспачы ён пытаецца: «Вы байку пра раненага льва ведаеце?» І амаль праз слёзы вымаўляе: «Дык вось, паранены леў — гэта я!..» І скардзіцца, што паранены, і яго можа кожны брыкнуць і падкусіць, і не забывае, што — леў.

Ад прыроды чалавек незвычайны, валявы і знаходліва-выкрутлівы, Каламійцаў свядома і добраахвотна робіцца жандарам. Чаму? Былі ж добрыя намеры! Ахоўваць цэласнасць і гонар дзяржавы. Гэта і арыстакрата абавязак ганаровы. Каб рабіць гэта добра, зрабіся адмысловым прафесіяналам. Маральныя прынцыпы? Дзеля высокай мэты часам і імі варта... Так-так, і грэбаваць, і адступацца ад іх. Ты — віж, ганіцель, шпег, выжла, следчы. Табе трэба вастрыць слых, дасканаліць розум, ні на хвіліну не губляць пільнасць. Ого, як высока ўзнімае цябе прафесійны вопыт! Ты пачынаеш адчуваць сябе звышчалавекам. Знаўцам псіхалогіі, тайных поклічаў і парыванняў, юрлівай прагавітасці і ненатоленай прагі да славы. Сабе даруеш тыя чалавечыя слабасці, асабліва ў асяроддзі хаўруснікаў, калі ўзнімаеш чару або сціскаеш у абдымках пажадлівае цела... А з раніцы зноў — допыт, высочванне, падпільноўванне. Такое жыццё!

І ты — Каламійцаў! — робіш кар'еру. Табе многае дазволена ў гэтым свеце і многае даруецца. Ты ўваходзіш у смак: аказваецца, быць жандарам — тваё жыццёвае прызначэнне, тваё прызванне, твой абавязак. І тое, што выпраменьваецца з цябе, робіцца атмасферай твайго дому, тваёй сям'і, твайго існавання, якім бы добрым ад прыроды ты ні быў, паліцэйскі лад жыцця робіць з цябе пачвару.

Не, Іван Данілавіч ужо не заўважае, што ён — пачварная натура.

Ен скардзіцца, смуткуе, гневаецца, хітруе, нібы нармальны чалавек, ды толькі ўсе яго паводзіны сканцэнтраваныя на адным: абдурыць, прынізіць, скарыстаць у сваіх інтарэсах, прымусіць падначальвацца і капітуляваць любога, хто трапляе пад яго ўладу. Хай сабе гэта жонка або дачка, брат ці які там студэнт-дэмагог або бунтаўшчык з сацыялістаў, радыкалаў, разумнікаў-філосафаў...

І парадокс гісторыі: такія людзі заўсёды і ўсюды патрэбныя дзяржаве. У «Меркаваннях Жэрома Куаньяра» А. Франса ёсць трапная выснова з роздуму пра нешта падобнае: «Дзяржава падобная да чалавечага цела. Не ўсе ягоныя функцыі могуць быць цнатліва чыстымі, высакароднымі і прыемнымі для сузірання. Таму некаторыя з іх, самыя патрэбныя, даводзіцца ўтойваць». Служба жандара — тайная служба. І сам ён — адданы паладзін свайго суверэна — лічыць за лепшае дзейнічаць пад покрывам ночы, у кабінетах з зашторанымі шыбамі, у турэмных камерах, у катоўнях за моцным мурам, у бязлюдным лесе. Там выконваюцца, магчыма, самыя патрэбныя для захавання дзяржаўнай бяспекі функцыі.

І вось і ў гэтым спектаклі яны зноў сустрэліся партнёрамі — бацькам і сынам — паводле сцэнічнай сітуацыі. Барысу Уладамірскаму даручылі па чарзе з Б. Платонавым быць Пятром Каламійцавым у «Апошніх», і цяпер гэты трагічны вокліч: «Ці сумленны чалавек наш бацька?», поўны роспачы і няўхільнага гневу, адрасаваўся і сапраўды роднаму бацьку. І калі Іван Данілавіч з мужчынскім разуменнем натуральнасці і разам з тым па-бацькоўску агідна накідваўся на Пятра: «Ты — захварэў? Ужо захварэў, нягодны смаркач, га? Ах, ты распусная дрэнь, паспеў падчапіць ужо!» І гэта крычыць сыну ён, разбэшчаны валацуга, у адказ на жаданне таго пагаварыць з бацькам «як чалавек з чалавекам»!

Не атрымоўваецца — як чалавек — у Івана Данілавіча. Прыгожай старэйшай дачцэ Надзеі ён ці не прапануе паспрыяць у далікатным інтарэсе, пытаючыся: «Скажы, у цябе няма сціплага жадання наставіць яму рогі, га?» Каму — «яму»? Мужу — турэмнаму доктару Ляшчу, ён жа такі нягеглы, да таго ж пранырлівы спрытнюга. «Яму» можна і варта!

Такі чалавек шчыра перакананы, што гэта сям'я губіць яго, перашкаджаючы вярнуцца на высокую пасаду, што дома навокал яго злыя людзі. Брату кажа: «Дзіўна жорсткі ты чалавек, Якаў». Да жонкі ледзь не са слязьмі: «Паслухай, Соня, няўжо я злы чалавек?»

Можна было б падагульніць, сказаўшы: такім чынам артыст зводзіць асабісты парахунак з пэўным тыпам. Штосьці падобнае я і гаварыў. Накшталт таго, што яму, Уладамірскаму, у спектаклі «Фронт» паводле А. Карнейчука даводзілася паказваць усю абмежаванасць і злачынную непадрыхтаванасць да новай вайны героя грамадзянскай вайны Івана Горлава. Кавалерыйскага генерала, выстаўленага супроць танкавага фельдмаршала Гудэрыяна. Дык ці не было ў абмалёўцы таго Горлава кропель асабістай крыўды на падобных камандуючых. Гэта ж яны панічна беглі ад танкавых армад немцаў у сорак першым, пакідаючы акупанту і Беларусь. Наш Мінск. І малодшага Уладамірскага — Барыса ў ім...

У 49-м годзе стары Улад выступае ў ролі гаўляйтэра фон Кубэ («Гэта было ў Мінску» А. Кучара). Гэты дзеяч гітлераўскага рэйха наводзіў «новы парадак» тут, у акупаваным краі. І ад яго волі залежала, напрыклад, быць у Мінску беларускаму тэатру ці не быць. Тэатру, на падмостках якога быў вымушаны дэбютаваць як артыст сын Уладамірскага — Барыс. Зноў жа тэатральная гісторыя ўнутрана звязана з асабістым лёсам акцёра, які выконвае галоўную ролю ў спектаклі. І Кубэ быў пастаццю, апантанаю ў сваім запале перайначыць да непазнавальнасці тую Беларусь, якая цяпер падуладная яму, гаўляй-

тэру. Месія ў генеральскім мундзіры! З пукатымі вачыма, якія свідруюць кожнага і нікому не вераць. І гэтыя перапады ад з'едлівага шэпту да саркастычнага рогату!

— Не, не, чаго не было, таго не было! — адказаў артыст.— Мае асабістыя адносіны да вобраза не маюць права выходзіць на паверхню. Сцэна не для таго існуе, каб на ёй зводзіць асабістыя разлікі. Тады атрымліваюцца карыкатуры, шаржы, плакатныя страшыдлы. Я выходжу на падмосткі, каб паўстаць перад залай жывым чалавекам з ягонымі вартасцямі і заганамі, гонарам і патаемнымі інстынктамі, з псіхалагічна-маральнымі комплексамі. А выносіць прысуд гэтаму чалавеку,— ваш клопат: глядзельнай залы... І крытыкаў, зразумела! Прашу вас аб адным: не ўнушайце вы мне чужых майму разуменню мастацтва думак і настрояў, не навязвайце мне — напраміллы бог! — палітычныя разлікі і каверзы... Не трэба, не трэба...

Мы з ім гутарылі, рыхтуючы ягоны артыкул для «Літаратуры і мастацтва». І я разумеў, што многае, аб чым мы гаворым, туды не змесціцца. І сапраўды ў артыкуле «Падарожжа ў блізкае і далёкае», апублікаваным напярэдадні свята — 31 кастрычніка 1967 года,— ёсць аповяд пра лёс тэатральнага артыста ў рэвалюцыйную пару, вытрыманы ў духу часу, з артадаксальнымі высновамі, з добрым грамадзянскім пафасам. Сам «стары Улад» доўга крэмзаў алоўкам рукапіс, бурчэў нешта, прасіў удакладніць фармулёўкі. На развітанне ўсміхнуўся: «А рэдакцыйны васпан і сам добра ведае, чаго не трэба ўстаўляць у нататкі да свята. І за гэта дзякуй!»

Я не ведаю, якім чынам развівалася б наша гаворка на тыя ж тэмы цяпер, калі адноўлена незалежнасць Беларусі, калі дзякуючы галоснасці мы пра многае ведаем лепш і паўней, чым тады, і ўся практыка сацыялістычнай перабудовы свету ацэньваецца адкрыта і па-рознаму. Памёр У. Уладамірскі ў 1971 годзе. Пры ім разбураўся манументальны помнік Сталіну на Цэнтральнай (Кастрычніцкай) плошчы, але мысленне і свядомасць наша інертная, і таму так доўга мы жылі ды і яшчэ жывём стэрэатыпамі.

Успамінаючы маё чаяванне з выдатным мастаком сцэны, я стараюся вытрымаць той тон размовы, які тады панаваў у доме Уладамірскага. Такі талент і такая асоба не маюць ніякой патрэбы ў прыхарошванні і аздобе. Уладамірскі дарагі нашай духоўнай культуры такі, якім ён быў. І я толькі ўводжу ў свае нататкі акурат тое, што па тагачасных ідэалагічных нормах не лезла ў аглоблі, хоць пасля таго адліжнага XX з'езда прайшло адзінаццаць гадоў, калі мы ў Крыжоўцы рыхтавалі артыкул «Падарожжа ў блізкае і далёкае». Абодва ведалі і помнілі, чаго не трэба, ой, не трэба пісаць у газету — брэжнеўскі час набіраў апагею.

Псіхалогія творчасці акцёра мае свае законы. І артыст Уладамірскі быў тым варты ўвагі і пашаны, што па гэтых законах па-мастацку даследаваў самыя разнастайныя чалавечыя характары. Нашы размовы і наша чаяванне адбываліся ўвосень 1967 года. Напярэдадні паўвекавога юбілею Кастрычніка («Вялікага», зразумела). І Уладзімір Восіпавіч паводле тагачаснай нашай звычкі адзначаў тое, што ўвайшло ў жыццё з пераменамі і катаклізмамі тае пары. Яго шчыра вабіла рамантыка будучыні. І ён, як усе мы тады, яшчэ не думаў і не дазваляў сабе думаць пра вельмі трагічны парадокс: абвясціўшы мэтай сацыяльнай перабудовы грамадства адміранне дзяржавы як палітычнай арганізацыі эканамічна пануючага класа, як структуры, якая ахоўвае існуючы лад і душыць усе спробы перайначыць яго, бальшавіцкая партыя сама пачала ўзмацняць абвешчаную тады першай у свеце дзяржаву працоўных. І ёй спатрэбіліся ўсе атрыбуты і інстытуты якраз дзяржаўнай моцы. І тэатр заклікаными быў ідэалагічна апраўдваць такое ўмацаванне

існуючага ладу. І акцёр падзяляў свае персанажы на тых, хто самааддана служыць гэтай мэце, і тых, хто свядома ці выпадкова падрывае асновы дзяржавы і яе маральныя прынцыпы.

У паштоўках і лістах да мяне, у размовах са мной Уладамірскі заўсёды падкрэсліваў гэта: «Я — акцёр новай, савецкай школы». У многім так яно і было. Ды толькі сапраўднае мастацтва прабіваецца праз любыя ідэалагічныя межы тым, што адлюстроўвае і даследуе спрадвечныя каштоўнасці і заганы чалавечай натуры. Акцёрскае мастацтва асабліва адчувальна робіць гэта — вобразна і жыва. Бо выканаўца ролі, захапляючы нас самаахвярным учынкам або шчырым каханнем, здзіўляючы жудаснай здрадай ці хітра-падманнай інтрыгай, прымушае глядзець на тое, якім ствараюць асобу прырода і абставіны. Фізіялагічна чалавек — недасканалае стварэнне прыроды, і гэта агульнавядома. І што б там ні гаварыў самы сумленны мастак пра сваю творчасць, ён усё роўна даследуе гэтую з'яву такой, якой яна ёсць, каб абудзіць у недасканалых людзях жаданне быць лепшымі, дабрадзейнымі і сумленнымі.

Такім артыстам быў Уладамірскі.

Калі мы развіталіся пасля на платформе электрычкі «Крыжоўка», ён нечакана строга загаварыў:

— Вы бачылі мяне на вуліцах Мінска толькі на адным месцы? Там, на прыступках лесвіцы каля тэатра? Больш нідзе? А ў мяне быў яшчэ адзін сталы маршрут, шаноўны васпане. Калі Барыс сядзеў у турме за тое, што быў артыстам пры акупацыі, я ішоў на вячэрнюю праходку па праспекце, па Урыцкага, па Валадарскага... Ах, раней і сапраўды гэта былі Багадзельная, здаецца, Захар'еўскі завулак, Прэабражэнская, Серпухаўская... Спыняўся паблізу ад турэмных муроў. І малітоўна прасіў: «Бора, хай будзе твая ноч спакойная... Хай будзе сон твой мірны і моцны... Хай прыбудзе сіл у цябе, каб вытрымаць з гонарам і гэтае выпрабаванне... Добрай табе ночы, сынку!..» Я веру, што нашы душэўныя зычлівыя імпульсы маюць магнетычную энергію і пранікаюць, прасочваюцца нават праз каменныя муры...

Ці не быў гэта агульны адказ старога Улада на ўсе мае запытанні і ўскосныя намёкі, не ведаю. Уладзімір Восіпавіч уздыхнуў і дадаў:

— А вы кажаце, прыступкі... прыступкі... насупроць Сталіна...

З-за лясной павароткі засвяціў доўгі прамень святла, электрычка падала зычны сігнал. Мы па-акцёрску абдымаліся перад развітаннем.

— Завітвайце яшчэ... пачаявацъ... з карыфеем, як вы казалі,— іранічна прамовіў ён.

— А вы ж і сапраўды — карыфей.

— Артыст... Блазен Яго вялікасці пралетарыяту... Так нас называў некалі ленінскі нарком Луначарскі...

«Лу-на-чар-скі, Лу-на-чар-скі»,— загрукалі па рэйках колы і так і грукалі да самага Мінска.





# КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

АЛЕГ ЛОЙКА

# НА ТРАГІЧНЫХ ПЕРАВАЛАХ

*Шляхамі беларускай паэзіі XX стагоддзя*

Можна сказаць, што дзе чалавек, там паэзія. І тое будзе слушным, бо сапраўды чалавек, яго сэрца, унутраны свет душы — змясцілішча, з якога паэзія выпраменьваецца. Але калі маецца на ўвазе выпраменьванне, то чалавек у дадзеным выпадку адно што творца, не болей,— той, хто выпраменьвае, агучвае ў слове сябе, перададзеныя голасам перажыванні, думкі. Калі ж мець на ўвазе, а што ж самыя перажыванні і думкі ў чалавеку — стваральніку паэтычнага слова — спарадзіла, то ў азначэнні «дзе чалавек, там паэзія» акцэнт сам па сабе пераносіцца на слова «дзе» — як на вызначэнне месца, абставінаў, часу: гісторыі, субстрату — народнага быцця як перадвытокаў паэзіі. І, такім чынам, любы час, любыя абставіны можна лічыць «паэтычнымі», вытокавымі для паэзіі, спараджаючымі паэзію. Іншая справа, якой становіцца паэзія таго ці іншага часу, тых ці іншых абставін. У гітлераўскай Германіі паэты пайшлі ў дзіцячую паэзію, у фашысцкай Італіі ўзнікла так званая герметычная паэзія — закамуфляваная, сама ў сабе, шыфр чагосьці, што паэт выражаў, непасрэдна не выкрываючы. Не счэзла паэзія і ў параметрах сталінізму — ні са старонкаў афіцыйнага друку, ні ў ГУЛАГах, дзе, нягледзячы ні на якія забароны, слова паэтычнае не ўмірала, бо нараджалася і з вуснаў скатаваных, дыскрэдытаваных. Такім чынам, у адначассі нараджалася і афіцыйная і неафіцыйная паэзія, якая сёння для нас — паэзія аднаго часу, двух вытокаў ды, урэшце, адзіна наша нацыянальная паэзія. Вядома, аднаго духу, ладу, характару была паэзія афіцыйная, іншага — падцэнзурная. Але гісторыку літаратуры роўна цікавая і роўна належыць і першая, і другая як праявы

адной літаратуры. Прычым гэтыя праявы мелі месца ў розных жанрава-стылёвых формах і спарадзілі свае ўстойлівыя ўзоры, каноны — больш і менш ўдалыя, больш і менш цэласна мастацкія. Так што ўзнікла тут і свая класіка — класічныя песняспевы культаўскага зместу ці калгасна-вытворчай лірыкі і, з другога боку, класіка лагерных зэкаў.

З песні, кажуць, слова не выкінеш — не выкінуць з гісторыі літаратуры і любой у ёй існай, быўшай з'явы: ні сацрэалізму, ні тэорыі бесканфліктнасці, ні вульгарызацыі, ні шаблону і ўгодніцтва кан'юнктуры, траты высілкаў — растраты талентаў — на сталінскія і ленінскія прэміі. Мецэнацтва было відавочным — каманднa-адміністрацыйнае дзяржаўнае мецэнацтва. І вельмі дарагой цаны яно было, бо пазбаўляла літаратуру сапраўднай народнасці, рэальнай праўды, вялікай сапраўднай філасофіі, адухоўленасці, шчырасці, непасрэднасці. Але не трэба думаць, што літаратура цалкам была пазбаўлена ўсіх азначаных момантаў змястоўнасці. Бо, па-першае, заставалася ў краіне падцэнзурная літаратура, па-другое, узнікла і літаратура эміграцыі — нацынальнага зарубежжа. Разам з тым нельга лічыць, што абсалютна па-за народнасцю, рэалізмам, рамантызмам, мадэрнам, тых жа адухоўленасцю і шчырасцю заставалася літаратура, што атрымлівала сталінскія і ленінскія літаратурныя прэміі, што з'яўлялася з году ў год, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе ў друку.

З году ў год і з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе наша беларуская літаратура была ў руху, у зменах. Бо і тая ж кан'юнктура змянялася, ды змены ішлі і ад уплываў рэспублік на рэспубліку, і ад уплываў усяго свету — і з бліжняй нам Усходняй Еўропы — так званага сацыялістычнага лагеру і з лагеру, які афіцыйна ахайваўся, але ж раз-пораз і ўсё часцей даваў пра сябе знаць размываннем сацрэалізму то «сацрэалізмам без берагоў», то пранікненнем ідэяў экзістэнцыялізму, структуралізму і іншых. Так што задачы пазнання і вывучэння нацыянальных літаратур СССР, у тым ліку і беларускай літаратуры, у перыяд з 1917 года да першага перабудовачнага 1985 года, гэтыя задачы з нялёгкіх, з вельмі разгалінаваных і аб'ёмных. А — галоўнае — іх нельга ігнараваць, нельга адкінуць. Як і ўсё ў навуцы, яны патрабуюць класіфікацыі, аналізу, пастаноўкі ў гістарычную перспектыву і раскрыцця чым найпаўнейшага — дзеля сцвярджэння гістарычнай праўды, дзеля ўзяцця ў гісторыі ўрокаў, дзеля не падфарбоўвання яе, а вылучэння ў ёй няўмольна асуджанага і таго, за што не сорам, што, нягледзячы ні на што, сцвердзіла сябе, каб застацца дзеля працягу, дзеля апоры і далейшага мастацкага развіцця нацыянальнай літаратуры і культуры народа.

7 лістапада 1917 года Якуб Колас пісаў уступныя радкі да трэцяй часткі паэмы «Сымон-музыка», якія пачыналіся ўслаўленнем прыгажосці роднага краю, яго прыроды і пераходзілі ў позірк паэта на гістарычнае мінулае свайго народа. Пафасным і надзвычайна сардэчным было ўслаўленне красы краю:

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць...

Ды тут жа краса роднага краю абуджала ў сэрцы паэта здзіўленне:

Край мой родны! Дзе ж у свеце
Край другі такі знайсці,
Дзе б магла так, поруч з смеццем,
Гожасць пышная ўзрасці?
Дзе бы вобруку з галечай
Расквітнеў багацтва цуд
І дзе б з долі чалавечай
Насмяяліся, як тут?..

Думка пра «долю чалавечую» натуральна пераключалася на думкі пра гістарычную долю народа:

Эх, чаго нам ні прыйшлося,
Брацце мілыя, ужыць!

І, відаць, нездарма гісторыю народа паэт пачынаў з лёсу народжаных ім талентаў, з болем ускліваючы:

Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць
Невядомых, непрызнаных,
Не аплаканых нікім,
Толькі ў полі адспяваных
Ветру посвістам пустым!

7 лістапада 1917 года такі лёс нацыянальных талентаў Якубу Коласу бачыўся як гістарычна мінулы. Рэвалюцыя, на рубяжы якой узніклі радкі надзвычай магутнай патрыятычнай сілы, вуснамі паэта як бы адпявала лядачы лёс, трагедыі мінулага. На парозе новага часу ўжо не пра звод думалася,— пра новы лёс і народа, і яго талентаў. «Звялося»,— думалася,— было і будзе толькі ў часе мінулым, напэўна ж, думалася яшчэ і ў той час, калі ўжо ў рэальнасці звод нацыянальных талентаў займеў самы жорсткі свой п р а ц я г. Гэта з другой паловы 20-х гадоў. І сёння ці не як пра адну з трагічных заканамернасцяў развіцця беларускай паэзіі ўвогуле ўсяго XX стагоддзя прыходзіцца ўсклікваць усё тымі ж коласаўскімі словамі: «Колькі талентаў звялося!» Прычым звялося па-featured — ды яшчэ як па-рознаму! Адны з нашых паэтаў проста фізічна загінулі ў гады сталінскіх рэпрэсій, расшырыўшы геаграфію магілаў беларускіх паэтаў да Варкуты і Калымы, іншыя хоць не загінулі фізічна, але якой маральнай загубе яны падлеглі, пра тое сёння нават цяжка бывае думаць і гаварыць!..

Доўгімі былі блуканні па Сібіры і Поўначы і нібы шчасліўцаў, бо прайшлі яны праз пекла ГУЛАГаў і пасяленняў і да канца 50-х гадоў прычакала іх Беларусь, такіх выдатных і значных беларускіх паэтаў, як Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Алесь Звонак, Сяргей Грахоўскі, Станіслаў Шушкевіч, Мікола Хведаровіч, Павел Пруднікаў, Андрэй Александровіч. Усім ім у 50-я гады прыйшлося пачынаць у паэзіі нанова. У кожнага з іх была выкраслена з актыўнага літаратурнага жыцця больш як чвэрць стагоддзя. Другі дэбют у самых моцных з 20-х гадоў Дубоўкі і Пушчы быў відавочна слабейшым, асабліва ў Пушчы. На другім дыханні не змаглі акрыяць А. Александровіч і М. Хведаровіч, пераважна ў дзіцячую паэзію пайшоў С. Шушкевіч. Толькі з другой паловы 80-х гадоў — з пачатку перабудовы — на поўны голас сталі раскрывацца таленты А. Звонака і С. Грахоўскага. Якім жа лічыць звод іх талентаў — паўтрагічным, трагічным?..

Ды каб жа наша паэзія зводзілася аднымі толькі рэпрэсіўнымі адлучэннямі яе творцаў ад Радзімы! Зводзілася яна і тымі каманднa-адміністрацыйнымі, ідэалагічнымі механізмамі, якія былі ўведзены ў дзеянне да канца 20-х, у 30-я гады ў самой Беларусі, распасці-

раючы сваю ўладу ўжо над усімі тымі, хто не трапіў у карныя засекі. На волі тады было таксама ж, як і ў няволі: дамоклаў меч страху, падазронасці, утрапення і рэгламентацыі, адсячэння, кан'юнктурных прадпісанняў навісаў над кожным творцам, ведучы многіх да духоўнага самазабойства, зыначвання сябе, падробкі пад узоры, культавым часам апрабаваныя, ухваленыя, пад ідэалогію, ім сцверджаную — нярэдка дэгуманізаваную, вульгарызаваную.

У гэтай сувязі ў другой палове 20-х, у 30-я гады зблек рамантычны бляск паэзіі Янкі Купалы, паэзія Якуба Коласа спразаізавалася або зрытарычнела. Матывы паэзіі Янкі Купалы і Якуба Коласа звузіліся, агаляючы каркас схематычнага супастаўлення цяжкага дарэвалюцыйнага жыцця і радаснага жыцця ў буднях сталінскіх пяцігодак, як і прафаніруючы формы нацыянальнай песні да псеўданароднага стылю.

Яшчэ большымі трагедыямі, калі лічыць, што ў трагічнага ёсць ступені ці параметры, быў лёс тых маладых паэтаў 30-х гадоў, якія ў свае 30 год аказаліся хрэстаматыйнымі і ў пасляваенны час не змаглі агораць другога дыхання ні пасля XX з'езда КПСС, ні ў 60-я гады. Так, цікавай кніжкай «Шыпшына» дэбютаваў у 1926 годзе Пятро Глебка. Але на што ён патраціў свой талент у 30-я гады? На пералажэнне вершам «Гісторыі ВКП(б)», на сюжэты, што стэрэатыпна паказвалі індустрыялізацыю ці шкодніцтва, ілюстравалі сталінскі тэзіс аб абвастрэнні класавай барацьбы з набліжэннем да сацыялізму. Толькі стратай, толькі зводам таленту сталі такія паэмы П. Глебкі, як «Арка над акіянам» (1930), «У тыя дні» (1937), як пасляваенная паэма Петруся Броўкі «Чырвангарадок» (1950). І сёння з болем трэба прызнаць, што шмат у чым на кан'юнктурныя ідэі былі растрачаны таленты Аркадзя Куляшова, Анатоля Вялюгіна, Сцяпана Гаўрусёва, хоць творы А. Куляшова ў свой час былі адзначаны аж дзвюма сталінскімі прэміямі (1946 і 1949 гадоў).

Звод не мінаў нашай паэзіі і ў 60—70-я гады, калі ў псіхбальніцы аказаўся адзін з найталенавітых маладых тады паэтаў — Алесь Наўроцкі, аўтар дзвюх арыгінальных паэтычных кніг — «Неба ўсміхаецца маланкаю» (1962) і «Гарачы снег» (1966). Не мінуў ён беларускай літаратуры ў 70-я гады, калі выхапіў з жывых 37-гадовага Рыгора Семашкевіча (1945—1982), 40-гадовую Яўгенію Янішчыц (1948—1989). Недзе якраз у застойныя гады пачыналася тая дэпрэсія іх духу, якая прывяла да трагічнага канца.

Сапраўды, жудасна-крывавы рахунак выстаўляе сёння беларуская паэзія таму нядаўняму мінуламу, што было спароджана вычварнасцямі перараджэнняў рэвалюцыі. І тым большым болем па сэрцы б'е гэты рахунак, што ён як бы ў здзек, як бы ў насмешку, як бы ў горкую адплату паэзіі народа, які так спадзяваўся на рэвалюцыю, столькі гімнаў ёй выпеяў, столькі мар светлых пра яе выткаў!..

Беларускую паэзію часоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ўпаўне можна адносіць да пераходнай, ча́савыя рамкі самой гэтай пераходнасці пашыраючы з аднаго боку да 1914 года — пачатку першай імперыялістычнай вайны, з другога — да 1923-га — да з'яўлення ў гэтым годзе літаб'яднання «Маладняк», аднайменнага часопіса і публікацыі ў ім славутага верша Янкі Купалы «Арлянятам».

Пераходныя перыяды — перыяды як бы з размытымі контурамі паэзіі з яе неакрэсленасцю, разгубленасцю, надзеямі і сумнівам, заклікамі і беспраграмнасцю. У такія перыяды адбываюцца разам з тым і падрахункі вынікаў развіцця за папярэдні перыяд і крышталізацыя новага паэтычнага светабачання, новай паэтыкі — з адрачэннем ад традыцый, раней зацверджаных як нацыянальныя, як класічныя. Як правіла, адрачэнне гэтае — не без працягу раней сцверджанага, не ў адрыве ад яго. Але дэкларатыўна яно амаль

заўсёды ў поўным адхрышчванні ад паэзіі этапа, што яму папярэднічаў. У гэтай сувязі, дзеля высвятлення канкрэтнага пераламлення законаў пераходнасці ў нашай паэзіі 1915—1923 гадоў, спынімся на творах Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Чарота і Уладзіміра Дубоўкі.

Да 1918 года Янка Купала маўчаў, Якуб Колас у гэты перыяд у асноўным працаваў над паэмамі «Новая зямля», якую скончыў у 1923 годзе, і «Сымон-музыка», першы варыянт якое быў закончаны ў 1918, другі — страчаны — у 1923 годзе. Паэма Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы» была створана ў 1922 годзе. У 1922 годзе ў газеце «Наша будучыня» (Вільня) 16 снежня вялікай нізкай лірычных вершаў упершыню пра сябе шырока заявіў Уладзімір Дубоўка. Улічваючы пакуль што толькі вышэй пералічаныя творы, ужо нават на падставе гэтага пераходны перыяд 1915—1923 гадоў можна лічыць падрахункавым для класічнага нацыянальнага эпасу, творцам якога быў Якуб Колас. Паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка», па сутнасці, у адзін год былі закончаны — у 1923-ці. Але што дзіўна і сімптаматычна: Якуб Колас канчаў свае велічныя класічныя паэмы, а Міхась Чарот пачынаў свой новы нацыянальны гераічна-рэвалюцыйны эпас — паэмай «Босыя на вогнішчы», якая ў 20-я гады шырока рэкламавалася як пралетарская, як выключна наватарская ў нашай паэзіі.

Вядома, паэма Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы» — сваёй фрагментарнасцю, сімволікай, алегарычнасцю, рытмічнай раскаванасцю, алітэрацыйнасцю — была поўнай супрацьлегласцю вобразам і стылю нацыянальна-класічнай «Новай зямлі» Якуба Коласа. Паэма «Босыя на вогнішчы» была паэмай мадэрнісцкай, тыпалагічна блізкай да паэмы «Дванаццаць» А. Блока. Але неарамантычнай назваць яе, па сутнасці, нельга, бо мадэрнізм у паэзіі не абавязкова быў і ёсць неарамантызмам. Дый не так з неарамантызмам звязана паэма Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы», як з нацыянальным класічным рамантызмам нашай літаратуры пачатку XX стагоддзя — з творчасцю Каруся Каганца, Янкі Купалы, Власта, Алеся Гаруна. Так, вобраз крыжа як сімвала пакут Хрыста за шчасце людства ці ўвогуле як сімвала жыццёвых пакутаў беларуса, беларускага селяніна, беларускага народнага інтэлігента ў дарэвалюцыйны час мы мелі не толькі ў паэтаў-хрысціянскіх дэмакратаў Казіміра Сваяка ці Андрэя Зязюлі, не толькі ў паэта-рэвалюцыянера Алеся Гаруна. Найшырэйшае месца гэты вобраз займеў у Янкі Купалы — у яго драме «Раскіданае гняздо», дзе крыж на плячах сваіх на свежую магілу самагубцы-бацькі праносіць праз сцэну сын бацькі — Сымон Зяблік,— праносіць, рэальна згінаючыся пад цяжарам свежага, з сырога дубу крыжа і — алегарычна — паклаўшы гэтым на сваё плячо і бацькаў жыццёвы крыж пакутаў, увесь цяжар бацькавае крыжавое пакуты, з якой бацька прайшоў па зямлі, што ў яго зрабавалі і што ўласнага шчасця яму не дала. І ўспомнім тут адначасова і іншы крыж — з канцоўкі паэмы Якуба Коласа «Новая зямля», «ціхі», «маўклівы» крыж, што стаў на магіле асноўнага героя Коласавай паэмы Міхала. І, можа, не так ціхі ці маўклівы, як чорны — крыж жалобы, смутку, жалю і жальбы, змрочнай наканаванасці, чорнага лёсу.

Міхась Чарот, пераймаючы вобраз крыжа ад усёй класічнай дарэвалюцыйнай беларускай паэзіі, вобраз крыжа рэвалюцыянізуе: робіць яго **чырвоным,** а не чорным, **чырвоным крыжом** волі...

Лепш бы не ўвасабляў ты, Чароце, волю ў гэтым новым чырвоным крыжы!.. Не! На той час усё было як бы на месцы: адкідалася старая сімволіка, сцвярджалася новая! Крыжу чорнаму, як гаварылася ўжо, супрацьпастаўляўся чырвоны, няволі супрацьпастаў-

лялася воля — з верай, што крыж колеру рэвалюцыі ніколі не стане крыжам чорным — з яго мінулымі пакутамі і горам. Сімволіка Міхася Чарота аказалася, аднак, як бы зламыснай: крыж крыжам застаўся, чырвань рэвалюцыйнай веры абярнулася чырванню крыві ахвяраў, што злеглі падчас рэпрэсій. Спаконвечны крыж як бы папомсціў за сябе! Паэту нельга волю звязваць з крыжам! Крыж заўсёды ёсць крыж, і таму ён у Міхася Чарота ў выніку не мог не аказацца — для нас ужо — папярэднікам, нібы прарочым сімвалам сталінскіх рэпрэсій, хоць не думаў жа беларускі паэт, які сам стаў у 1938 годзе ахвярай яжоўскіх расстрэлаў, што і нібы свой уласны чырвоны крыж апявае, не думаў, што нібы прадугадвае кветкі крывавых барваў на Курапацкім могільніку!..

Але не толькі выпадкова, як бы незнарок прадбачыла наша літаратура ліхалеццe, крывавыя развязкі, дэгуманізацыю, дэмаралізацыю, што з самага пачатку пачала ўсчыньваць дыктатура пралетарыяту пад лозунгамі класавай барацьбы. Першымі ў гэтым аказаліся найпершыя пісьменнікі дарэвалюцыйнай пары́ — Янка Купала, Якуб Колас. Янка Купала — асабліва вершамі, напісанымі ў 1918—1919 гадах у Смаленску — «Крыўда», «Свайму народу», «Званы», «Забытая карчма», «Першы снег», у якіх паэт асуджаў грамадзянскую вайну як братазабойчую, а палітыку бальшавікоў як антынародную, антынацыянальную. Рэвалюцыю наогул Янка Купала прымаў, у яе верыў, як у будучыню, што прынясе яго народу сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Ды, прымаючы рэвалюцыю наогул, Янка Купала не прыняў тых яе канкрэтных праяў, што зыходзілі з бальшавізму як агрэсіўнай ідэі — з замахам на ўсясветную рэвалюцыю, на адмаўленне нацыянальнай ідэі. Канкрэтна катэгарычна не мог прыняць Янка Купала і ідэалогіі, носьбітамі якой сталі А. Мяснікоў, В. Кнорын — тадышнія заправілы ў Смаленску як цэнтры Заходняй вобласці, якія адназначна асуджалі беларускі нацыянальна-вызваленчы рух як буржуазна-рэакцыйны, контррэвалюцыйны, лічачы яго лішняй рагаткай на шляху да сусветнай рэвалюцыі. Янка Купала рэагаваў найбурнейшым чынам і сваёй лірыкай, і публіцыстыкай, якой аддаўся ўсёй душой па пераездзе са Смаленка ў Мінск. У лірыцы Янкі Купалы Смаленскага перыяду можна вылучыць тры патокі вершаў: па-першае, уласна публіцыстычны — з канкрэтным адрасатам, насуперак якому паэтам горача абаранялася палітычная ідэя Адраджэння Беларусі («Свайму народу», «Крыўда»); па-другое, паток лірычных разваг, філасофскага одуму, рэфлексіі з асуджэннем рэвалюцыі ў агульнагуманістычным плане («Першы снег», «Званы», «Забытая карчма», «Рунь»); па-трэцяе, вершы Янкі Купалы клаліся ў рад агульнакультурнай праблематыкі з насіленнем ў іх патрыятычнага пачатку («Спадчына»). У выніку Янка Купала аказваўся адным сярод першых (зноў жа з У. Г. Караленкам, як у час справы Бейліса!), хто бескампрамісна бараніў традыцыі гуманізму.

Янка Купала, як ужо гаварылася, быў не адзінокі ў сваім усвядомленым, катэгарычным непрыняцці крывавага разгулу грамадзянскай вайны, праяў антыгуманізму, спароджаных тэрорам. Сведчанне таго ёсць і ў паэзіі, і ў прозе Якуба Коласа перыяду рэвалюцыі і грамадзянскай вайны: у паэме «Сымон-музыка», асабліва ў радках, дзе паэтам асуджалася «калатнеча варожых станаў», дзе ён сцвярджаў, што «не вырваць злу ад зла кайданаў»; у апавяданні «Крывавы вір», герой якога — летуценнік-гімназіст становіцца бязвіннай ахвярай класавай нянавісці. Гуманістычны, чалавечаспачувальны пафас апавядання Якуба Коласа «Крывавы вір» — надзвычай моцны, традыцыйна-класічны, цалкам супраць новай рэвалюцыйнай зашоранасці нормамі класавай нянавісці, бальшавіцкай бескампра-

міснасці, што рабіла выканаўцу проста забойцам. Нездарма найбольш нападкаў з боку вульгарызатарскай крытыкі было якраз на апавяданне «Крывавы вір». Больш нападкаў было хіба толькі што на коласаўскі верш супраць Рыжскага дагавору:

Нас падзялілі. Хто? Чужаніцы,
Чорных дарог махляры,
К чорту іх межы, к д'яблу граніцы,
Нашы тут гоні-бары!

Як і шэраг вершаў гэтага ж перыяду ў Янкі Купалы, верш Якуба Коласа супраць Рыжскага дагавору меў таксама канкрэтнага адрасата — спраўцаў Рыжскага дагавору, што па жывому — напал — перарэзалі Беларусь. Менавіта маючы на ўвазе вершы, падобныя да гэтага коласаўскага, да вершаў Янкі Купалы «Свайму народу», «Крыўда», ёсць усе падставы гаварыць, што голас беларускай паэзіі перыяду рэвалюцыі і грамадзянскай вайны быў нязломным і незламаным, баявым і наступальным, мужным і высокапатрыятычным, як і высокагуманістычным, высокасумленным. Зрэшты, у цэлым таго ж духу і пафасу ён заставаўся і ў 1923—1926 гадах: праўда пачуцця, праўдзівасць водгаласу — сэрца паэта, народнага жыцця, нацыянальнага феномену, народнай адметнасці і непаўторнасці, нацыянальнага характару і традыцыі,— усё гэта заставалася ядром змястоўнасці беларускай паэзіі тых гадоў, хоць дэфармацыя ўжо цікавала, хоць у грамадска-палітычнай і агульнакультурнай атмасферы ўжо вісела тое, ціск чаго не маглі не адчуваць камертонныя сэрцы паэтаў — асабліва зноў жа сэрцы першых паэтаў Беларусі пачатку XX стагоддзя — Янкі Купалы і Якуба Коласа. І тут сёння могуць толькі ўражваць сваёй прадбачлівасцю ці — лепш сказаць — прадчувальнасцю лірыка Якуба Коласа 1923 года, лірыка Янкі Купалы 1926 года.

З другой паловы 20-х гадоў вульгарна-сацыялагічная крытыка пачала дзяўбці беларускую літаратуру, што стваралася ў абсягу Савецкай Беларусі, за памылкі: розныя «зрывы», «ухілы», неразуменне, няспеласць думкі і нявытрыманасць лініі, як з тых жа канцовых гадоў другога дзесяцігоддзя XX стагоддзя ў Беларусі, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, не па днях, а па гадзінах пачаў расці страх як спараджэнне таталітарызму, культу Сталіна, рэпрэсіўнай палітыкі. Падкрэслім, што на пачатку 20-х гадоў ніхто яшчэ і не ведаў, не чуў, што такое каяцца за памылкі, што такое страх перад Ягодам, Яжовым, Берыем, Цанавам. І якраз таму і здзіўляе праўдзівасць такіх вершаў Якуба Коласа, як «Звон шыбаў», «Цені-страхі», напісаных на самым пачатку 20-х гадоў. Першы з іх — канцоўкай — нібы прыватна-асабісты:

Шклечка ж звоніць усё раз-пораз,
Не дае ўсё мне заснуць.

Ды звужэнне да асабістага, прыватнага ідзе ад вельмі шырокага — аб'ектыўнага: ночы маўклівай, цемені, глухаты, старой вішні за акном, што

Прылажыла чутка вуха...
Штось прамовіць: шу-шу-шу!
І заціхне, бы баіцца
Памыліцца
І сказаць што-небудзь лішне.

Боязь «сказаць што-небудзь лішне», боязь «памыліцца», адкуль вы ў вершы паэта? Ды гэтае пытанне, яно — не наша, яно — у вершы — пытанне паэта да самога сябе, пытанне з пошуку, з прагі

вычуць, зразумець, асэнсаваць, ды і зафіксаваць. Верш разам з тым пераходзіць з лірызму ў стыль іншы — у дух балады з яе валадарствам над таямнічым, загадкавым, няўцямным:

Няма ветру, ўсюды ціха;
Шыбы ж звоняць — што за ліха?
Хто ў іх стукнуў? Хто чапае?
Ці то знак хто хоча даць,
Што згубілі мы дарогу,
Б'е трывогу.
Ходзіць, ўсіх прасцерагае
І накладвае пячаць...
Хто такі ён? Невядомы,
Незнаёмы,
А мо дзе і сустракалі,
Мо з ім бачыліс не раз?

Верш «Звон шыбаў» — імпрэсіяністычны, але імпрэсія тут нездарма з пытальнымі сказамі, нездарма хоча «сэнсу — ...учытаць» — на грані падсвядомага, няўлоўнага. Але ж гэтае падсвядомае, няўлоўнае — рэакцыя, спараджэнне аб'ектыўнага, рэальнага. Хто ён, «невядомы, незнаёмы, а мо дзе» і сустраканы, бачаны «не раз»? Канкрэтнага адказу паэт не дае, але ўвага чытача звернута канкрэтна на тое, што ўжо навісае, надыходзіць, ёсць у атмасферы — не проста ў прасторавай, але ж у грамадскай, у сацыяльнай. «Баіцца памыліцца»! «Памыліцца і сказаць што-небудзь лішне»! Формула часу надыходзячага, страху надыходзячага — і фіксацыя, і папярэджанне, як то і ў вершы — своеасаблівым двайніку «Звону шыбаў» — з назвай больш адкрытай: «Цені-страхі». І тут ужо дзейнічае ўсё «хтось нязнаны»: «З цёмных шчылін... цені-страхі выклікае, штось ім шэпча, штось ківае, ды таемна, няўчытана».

Як і ў вершы «Звон шыбаў», хоць і не на першым плане, але ёсць і ў вершы «Цені-страхі» адкрытае лірычнае «я»:

Я іду, гляджу і — дзіва:
Ці раней таго не бачыў?
Ўсюды стала нейк пужліва
І трывожна-баязліва!

Вось яна — характарыстыка атмасферы культу, які яшчэ не склаўся, але ўжо фармаваўся — абставінамі, новым ладам, сцверджаным перамогай рэвалюцыі: «Пужліва і трывожна-баязліва». Паэт сцвярджае праўду аб сваім часе, рэгіструе змены, навіну. Ён, праўда, не можа яшчэ паверыць, што такое насоўваецца, што такое ўвогуле магчыма ў свеце, а таму сам у сябе пытае:

Ці я сам страхоў шукаю,
Сам іх вобразы ствараю,
Ці тым страхам ўсе спавіты?

І пры гэтым зноў жа, як і ў «Звоне шыбаў», уводзіцца баладная частка — на гэты раз сюжэтная: чаплі, «тры вароны... з гаю», «старцы дыбаюць», каб перастрэць пытанні лірычнага героя верша, каб адназначна адказаць на іх:

— Мы не знаем!.. Не, не знаю!..
. . . . . . . . . .
Воч старцы не падымаюць,
Ўсе маўклівы, разважаюць:
— Мы — сляпыя, мы — глухія!..

У цемень і глухату ўпіраюцца жыццё і людзі. З вобразаў маўчання ночы, цемры, глухаты пачынаўся «Звон шыбаў», тымі ж вобразамі завастраецца і канцоўка верша «Цені-страхі», толькі, можа,

у яшчэ большай сваёй згушчанасці, у яшчэ значнейшым абагульненні:

Цені сталі больш густыя,
мнагалучны, несчыслёны,
    Мнагазначны, хоць пустыя,
Вельмі страшны, бо нямыя,
Пад пячаццю ўсе замкнёны.

Усе гэтыя заключныя радкі верша Якуба Коласа «Цені-страхі» сёння можна ўзяць за адзін усеаб'ёмны эпітэт да тых твораў сучаснай беларускай літаратуры, што ў наш час сталі шырокім люстрам, якое адбівае шматлікія трагедыі людскія і народныя, спароджаныя сталіншчынай. Так што сапраўды вешкавымі можна лічыць вершы Якуба Коласа пачатку 20-х гадоў — праўдзівымі і прадвызначальнымі, мужнымі, гуманістычнымі, народнымі. А — галоўнае — падобныя вершы і Янкі Купалы і Якуба Коласа былі прадвызначальнымі, вектарнымі для ўсёй беларускай літаратуры, бо былі словам-узорам для маладой беларускай паэзіі ўсіх 20-х гадоў.

Дасюль перадвытокі маладнякоўскай і ўзвышанскай паэзіі ўвесь час бачыліся звужана, бо толькі ў вершы «Арлянятам» Янкі Купалы, у коласаўскім вершы «Водгулле» іх бачылі ў сваім спрашчэнстве беларускай паэзіі пачатку XX стагоддзя схематызатары і дактрынёры 30-х, пачатку 50-х гадоў. Сам міф аб «рэвалюцыйнай радасці» Янкі Купалы атрымаў сваю класічную, зацёганую ў часе формулу з-пад пяра ўсесаюзнага народнага камісара культуры А. В. Луначарскага ў 1930 годзе.

Канец 20-х, 30-я гады ўвогуле далі нарматыўнае разуменне беларускай літаратуры XX стагоддзя, вытворнае з ідэалагічных установак найперш вульгарнага сацыялагізму — са сцверджання як прыматных крытэрыяў пралетарскасці і адмаўлення як рэакцыйных, буржуазна-дэмакратычных, нацдэмаўскіх ідэй нацыянальна-вызваленчага руху (адраджанізму, нашаніўства, эстэцтва так званай чыстай паэзіі, паэзіі красы дзеля красы, ідэй дабра і міласэрнасці). Цалкам адмаўлялася метафарычнасць, падтэкставанасць, ускладнёнасць жанравых форм і стылю — асабліва з пачаткам 30-х гадоў, калі пайшла унітарызацыя пад сталінскім лозунгам мастацтва сацыялістычнага паводле зместу, нацыянальнага па форме, калі нібы самім І. В. Сталіным была падказана пісьменнікам назва метаду, як тады лічылася, цалкам новай, адзіна перадавой, адзіна унікальнай у свеце савецкай літаратуры.

Назва метаду адназначна абавязвала літаратуру быць рэалістычнай. Прыметнік, які азначаў скіраванасць савецкай літаратуры да сацыялістычнага ідэалу, паняцце метаду сацыялістычнага рэалізму ніякім чынам за рамкі рэалізму не выводзіў. Прычым рэалізм прымаўся як метад паказу «жыцця ў формах жыцця». То была формула рэалізму з эстэтыкі рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў — з-пад пяра М. Г. Чарнышэўскага. Метад сацрэалізму, такім чынам, ставіўся ў гістарычную перспектыву пераемнасці рэвалюцыйна-дэмакратычных традыцый. Лічылася, што працяг, развіццё рэвалюцыйных традыцый выявы праўды рэальнага жыцця з яго рэальнымі сацыяльнымі і маральна-філасофскімі праблемамі, пад лозунгамі народнасці не маглі не быць таксама і рэвалюцыйнымі, і народнымі, і прагрэсіўнымі, і высокамастацкімі. Дэмагагічная завязка была, такім чынам, з самога пачатку абвяшчэння, замацавання цвёрдых канонаў сацрэалізму як метаду, звязанага толькі з праўдападобнымі формамі адлюстравання, толькі з простай, бытапісальнай манерай пісьма.

Эвалюцыя ў 20-я гады ў Савецкай Беларусі і нацыянальнай прозы і нацыянальнай паэзіі дае дастаткова матэрыялу, каб убачыць нараджэнне з іх нетраў таталітарнага літуніверсалізму, стандартызацыі, стэрэатыпу, што будуць пануючымі і ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі. Так, на самым пачатку 20-х гадоў, калі складваўся маладнякізм як адмаўленне нібыта нудліва-слёзнага, шэрасялянскага нашаніўства, лаяльнае і пафасна панегірычнае вітанне рэвалюцыі і новага жыцця было і ў паэзіі і ў прозе да празмернага рамантызаваным, напоўненым сімволікай, метафарыстыкай, патэтыкай, мадэрнізацыяй рытмаў і рыфмы. Прычым рамантызацыі, грамадзянскай патэтычнасці роўна аказаліся падлеглымі і старыя «нашаніўцы» — саракагадовыя Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны і маладое папаўненне — паэты першага паслярэвалюцыйнага закліку — Міхась Чарот, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Андрэй Александровіч, Алесь Дудар. Розніцы не было: рамантычна ўзвышанымі, рамантыкамі па духу і стылю былі і прадстаўнікі народнай інтэлігенцыі, і выхадцы з сялян, і ўраджэнцы горада. Але вельмі хутка на першы план пачалі выходзіць тыя з пісьменнікаў, хто ці паходжаннем, ці тэмай даваў падставы на годнасць пралетарскага пісьменніка. Першым пралетарскім паэтам як пясняр пралетарыяту, «босых на вогнішчы» пачаў лічыцца аўтар паэмы «Босыя на вогнішчы» Міхась Чарот; першым пралетарскім паэтам «беларускага бруку» стаў лічыцца сын мінскага шаўца Андрэй Александровіч, першая кніжка якога мела назву «На Беларускім бруку» (1925); першым пралетарскім беларускім пісьменнікам, беларускім Максімам Горкім стаў лічыцца аўтар першага рамана пра беларускага рабочага «Сокі цаліны» Цішка Гартны. Ды пралетарскасць іх, роўна як і сялянскасць і інтэлігентнасць Купалы, Коласа, Дубоўкі, Пушчы, амаль заўжды даволі арганічна ўвязвалася, злівалася з рамантычным,— як ужо гаварылася, палемічна ўвязвалася, завастралася,— асабліва ў маладнякоўцаў, якія па першым часе і не думалі, і не ўяўлялі, наколькі глыбокія і менавіта гістарычна ўласнанацыянальныя карані ў літаратурнага рамантызму Беларусі, у самой дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры, бо яны ёсць і ў Янкі Купалы, і ў Якуба Коласа, і ў Максіма Гарэцкага, і ў Алеся Гаруна — пісьменнікаў больш чыста свецкага, уласна народнага духу, як і ў пісьменнікаў-дэмакратаў хрысціянска-клерыкальнага крыла — ксяндзоў Андрэя Зязюлі, Казіміра Сваяка, як і ў Каруся Каганца ці ў Цёткі — паэтэсы рэвалюцыі 1905 года.

Бурна рамантычная патэтыка вітання рэвалюцыі была сапраўды ашаламляльнай, аглушальнай. Новае ў маладнякоўскім рамантызме было якраз у ашаламляльнай незвычайнасці, прыўлашчанай нібы ад рэвалюцыі і толькі ад рэвалюцыі. А таго і не падумалі ўбачыць маладнякоўцы, што больш, чым яны, пафасна рамантычныя і Янка Купала, і Якуб Колас, а — галоўнае — арганічна-рамантычныя, а не празмерна, не ашаламляльна. Так званая маладнякоўская «бурапена» была якраз з накладных выдаткаў ашаламляльнага неарамантызму. Янка Купала вершам «Арлянятам», паэмай «Безназоўнае» даваў узоры класічнага нацыянальнага рамантызму, як і Якуб Колас паэмай «Сымон-музыка», «Казкамі жыцця». Маладняковец жа Міхась Зарэцкі, пішучы ў рамантычным ключы, уплываў на ўсю маладнякоўскую прозу зноў жа празмернасцямі, што адбівалася і на абмалёўцы герояў, і на выбары сюжэтаў, кампазіцыі, стылю — дынамічнага, неўраўнаважанага.

Крайнія ча́савыя рамкі, з якіх вылоньвалася нарматыўнасць сацыялістычнага рэалізму, вызначаюцца, такім чынам, з аднаго боку, гадамі з'яўлення вершаў рэвалюцыйнай патэтыкі, з другога — гадамі з'яўлення празаізаванай паэзіі маладога Аркадзя Куляшо-

ва (паэма «Аманал», 1932; «Гарбун», 1934). Ды да празаізацыі паэзіі, да вульгарнай схематызацыі нацыянальнай прозы пачатку 30-х гадоў шлях пралягаў не без перападаў. То быў пакутны для беларускай літаратуры час, згубны для яе час — час паступовых стратаў, згубы заваяваных пазіцый, эстэтычных вышыняў, маральна-філасофскай заглыбленасці. Але з самага пачатку ўсё ж былі заваёвы, затым — згубы, затым — выкрэсліванне з памяці наступных пакаленняў,— выкрэсліванне, якое, аднак, ні ў 30-я, ні ў першыя пасляваенныя гады ў цэлым ніяк не змагло выбіць нашай літаратуры з рэчышча народна-субстратнага, неадступна праведнага ў вышэйшым агульначалавечым плане. Крыніцы забіваліся шлакам, рэчышча вузела і звужвалася часам да ручайнага, але ўсё ж рака літаратуры народна-праведнай у пясок не пайшла, не выпарылася пад спёкай задухі, генацыду, вытраўлівання, зыначвання.

І якраз паміж рамантычнай патэтыкай і празаізацыяй лёг час адмаўлення патэтыкі, час, які спакваля вёў да асуджэння рамантызму ўвогуле як стылю ў літаратуры, зарыентаванага на нацыянал-фашызм. І ў гэтым была свая логіка: нарматыўнасць не магла не адхіліць набок супраціўніка прымітыву, жыццёва праўдападобных форм, форм мудрых саміх па сабе, пафасна асуджальных, сацыяльна азначальных, значных сваёй пачуццёвай рэакцыяй на свет, на гістарычныя абставіны, сваёй асуджальнай сілай, духам непрыняцця, адпору, пратэсту, нязгоды, нежаданнем ісці ў нагу з рэгламентарным, унітарным, схематычным, дагматычным.

20-я гады ў нашай паэзіі ў цэлым і сталі менавіта арэнай бітвы паміж сіламі ў ёй сапраўды народнымі, сапраўды мастацкімі, разняволена рамантычнымі, разняволена духоўнымі, незалежна індывідуальнымі, з усведамленнем свайго ідэалу ў літаратуры, мастацтве ўвогуле, нацыянальнага ідэалу ў прыватнасці. І так як падобныя пазіцыі былі перашкодай на дарозе да зацвярджэння унітарнага метаду сацрэалізму, да якога так ці інакш вырульвала палітыка ў літаратуры бальшавікоў, літаратуру нацыянальна-духоўнага супраціву не маглі не чакаць непрыемнасці — аж да вынішчэння, да выкаранення.

Лідэрам нацыянальнага духоўнага супраціву да 1926 года быў Янка Купала. Ды нездарма год заснавання «Узвышша» таксама 1926-ты: тое, што здзяйсняў у нацыянальнай паэзіі да 1926 года Янка Купала, з гэтага года падхапілі, узялі на плечы свае «ўзвышанцы» — у паэзіі найперш Уладзімір Дубоўка і Язэп Пушча. Што міф аб «рэвалюцыйнай радасці» Янкі Купалы быў цераз гады раздзьмуты да занадтасці, гэта сёння відавочна. Але трэба гаварыць увогуле пра вузкасць у Янкі Купалы паласы гэтай радасці, як вузкаю была яна ва ўсёй паэзіі першай паловы 20-х гадоў. Стан яе эйфарыі, можна сказаць, быў зусім непрацяглы — 1923—1924 гады з купалаўскімі «Арлянятам» і паэмай «Безназоўнае», з вершамі «Маладняк» Міхася Чарота, «Паэты рэвалюцыі» Алеся Дудара, «Кавалям жыцця» Андрэя Александровіча — з іх гучнымі радкамі: «Перастаў і сумны спеў гусці, Дні прыйшлі — ажно не верыцца» (М. Чарот); «У дзень радасці кіпучае на свет з'явілісь мы» (А. Дудар); «З песняй гучнай, бадзёрай, вясёлаю — я каваць буду долю прысветную...» (А. Александровіч). Ды, «гучнай, бадзёрай, вясёлаю» песня маладых і немаладых гарністаў рэвалюцыі ўласна пераставала ўжо быць у самім 1924 годзе, і тое адразу ж канстатавалі тагачасныя крытыкі. Так, адзін з іх пісаў: «Чырвоны Кастрычнік як бы ўжо прагрымеў. Паэты — бунтары-разрушыцелі замянілі мячы і бомбы на высі лятункаў і думы адзіноцтва. І хоць не раз і не адзін з паэтаў яшчэ падбіраюць крошкі бурлівага банкету — рэвалюцыі і адбіваюць ёй барабанныя дыфірамбы, аднак, услухаўшыся, ня-

трудна ў нашай маладой творчасці пачуць матывы пра тугу змяркання, пра шэрыя будні. Ідэі як бы выблеклі, знасіліся, развеяліся»[1]. У выніку новыя настроі асуджаліся як «блакітная анамалія», «блакітная мляўкасць». І тое асуджэнне трывае ў нас, па сутнасці, да апошняга часу, зацверджанае на пачатку 60-х гадоў у вядомым даследаванні Ніла Гілевіча пра паэзію «Маладняка» «Акрыленая рэвалюцыяй». Бо якраз у гэтым грунтоўным даследаванні, працытаваўшы Л. Жыценя, малады тады літаратуразнавец пісаў: «Трывога была прабіта недарэмна і своечасова. Сапраўды, на старонках перыядычнага друку пачало паяўляцца ўсё больш і больш твораў, якія гучалі рэзкім дысанансам агульнаму жыццярадаснаму, аптымістычнаму настрою маладнякоўскай паэзіі. Якісьці беспрадметны сум, «васільковая журба», няпэўнасць жаданняў, якаясьці кволасць пачуццяў, бяскрылая летуценнасць, бязвер'е і песімізм — гэтыя і падобныя да іх атрыбуты ўпадніцкай лірыкі сталі досыць назойліва паўтарацца...»[2]

Сёння — у гістарычнай перспектыве — кожнаму ўжо відаць, што не ў «рэзкім дысанансе» была праблема, не рэцыдывам упадніцкіх матываў усё тое было, што канкрэтна крытыкам як з'ява раскрывалася. Сапраўды, на той час усё яно аб'явілася: сум, журба, жаданні чагосьці іншага, інакшага, непрыняцце рэчаіснасці пачуццямі, надзеі-летуценні на абнаўленне, і гаркаватыя бязвер'е, песімізм. На ўсю паэзію маладнякоўцаў ў духу свайго часу Н. С. Гілевіч традыцыйна глядзеў як на акрыленую рэвалюцыяй. А іх рэальная творчасць пад гэткую канцэпцыю не падыходзіла, бо была з рэальнага жыцця, бо была жывым, сумленным, арганічным водгукам на яго. Не беспрадметным быў сум маладнякоўцаў, што выходзілі з эйфарычнага стану, і не «кволымі» былі іх пачуцці, не «бяскрылай» была іх летуценнасць, як і бязвер'е і песімізм не з упадніцкай паэзіі Расіі ці Захаду перакачавалі ў змест іх паэзіі, у яе матывы і настроі. Акрыленая рэвалюцыяй, ужо не акрыльвалася больш наша паэзія таго часу тым, што было яе працягам, што было звязана з нэпам, што было звязана з палітыкай партыі ў галіне літаратуры і мастацтва.

Да апошняга ж часу застаецца таксама неаспрэчным тлумачэнне «блакітнай мляўкасці», спаду патэтыкі нібы тлятворнымі ўплывамі нэпа. Але нэп калі і ўплываў, то павярхоўна, прычым на цалкам лаяльную ці — лепш сказаць — афіцыйную, блізкую да кан'юнктурнасці частку паэтаў. Ён, праўда, у дадзеным выпадку збіваў патэтыку ўслаўлення героікі Кастрычніка, спарадзіў стэрэатып героя і сюжэта. Герой — «скураная куртка» ва ўмовах нэпа трапляе ў спакусныя сеткі народжанага нэпам мяшчанства. Герой не мае прамога класавага ворага, а класава чужы яму нэпман узяты пад ахову савецкага закона. Герой пакутуе, лічачы, што савецкая ўлада здрадзіла рэвалюцыі. У абставінах нэпа ён — «скураная куртка» — лішні чалавек. У А. С. Пушкіна герой яго паэмы «Цыганы» — лішні чалавек — уцякае ў цыганскі табар. У паэме А. Звонака «Каршун» (1929) герой яе — «скураная куртка» — лішні чалавек уцякае ў стэпы Башкірыі. Аналогія беспадстаўная, бо ніякімі не «лішнімі» людзьмі былі адкінутыя нэпам героі рэвалюцыі — героі-супрацiўленцы супраць нэпа. Не прымала бытавых прыкмет нэпа, бунтавала супраць іх як уступкаў старому, здрадзе новаму, рэвалюцыйнаму і лірыка шэрагу маладнякоўцаў — А. Дудара, А. Александровіча. Пра ўсіх пералічаных можна сказаць, аднак, як пра артадаксальных былых вітальнікаў «чырвані папараў». Ды фарватарна ж народнае, глыбін-

[1] Жыцень Лявон. Блакітная анамалія. «Савецкая Беларусь», 24 жн. 1924 г.
[2] Гілевіч Н. С. Акрыленая рэвалюцыяй. Мн., 1962. С. 104.

на творчае ішло не з-пад пяра бунтуючай артадоксіі. Ішло, як ужо гаварылася, у працяг чуйнага, арганічнага, сейсмічна душэўнага рэагавання на рэвалюцыю, якое ўжо мелася ў Янкі Купалы, Якуба Коласа — з гадоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Ішло і з першамастацкіх асноў саміх маладнякоўцаў, што асабліва відно на творчай эвалюцыі Уладзіміра Дубоўкі і Язэпа Пушчы.

Віленскім дэбютам першага была вялікая нізка вершаў, змешчаная ў газеце «Наша будучына» (16 снежня 1922 года). У цэлым гэта была сапраўды «стромкая песня вясельная», для якой «з-за балота мігціць, за выгарамі, ўжо праменіць пярэстая гаць» будучыні. Ды ўжо нават з таго, што будучыню паэт бачыць «пярэстай», відаць, што зрок яго не зашораны, што не аднаколернай ён бачыць яе і не як дальтонік. «Стромкай», «вясельнай» была песня маладога дэбютанта заклікамі, іх пафасам:

Маладое пакаленне,
Прачынайся, час прыйшоў.
Залатое Адраджэнне
Кліча ўсіх пад родны схоў.

Кроў у нас хай закрынічыць,
Завіхрыцца дух вірам,
Хай імпэт наш чараўнічы
Бомкне гора перуном!

Эпітэты «чараўнічы», «залатое», дзеясловы «крынічыць», «віхрыцца» рабілі сапраўды імпэт Уладзіміра Дубоўкі варыянтам падкупалаўскай «рэвалюцыйнай радасці». Але радасць маладога паэта, менавіта пры самым першым яе сцверджанні-выяўленні, была цалкам пры рэальным чалавеку — шчаслівым і нешчаслівым:

Паліюцца песні з краю і да краю:
То шчаслівы й нешчаслівы ў іх пяе.

Была ж яна і з душы лірычнага героя не без утрапёнасці:

На душы — туга студзёная,
І душа — што мітульга.

Так што матывы тугі і мітульгі ў паэзіі першай паловы 20-х гадоў пачаліся не з 1924 года, а былі ў наяўнасці з самага пачатку, ды яшчэ пры разуменні, як у маладога У. Дубоўкі, таго, што «праз прасцяг хада штодзённая нельга знойдзе. А дзе ж льга?». І то была засцярога паэта не перад чымсьці іншым, як перад завязкай новых канфліктаў, новых забарон, што новы час нёс з сабою. Гэты новы час малады У. Дубоўка адразу ж бачыў вунь у якой няпростай дыялектыцы, складаючы апафеоз руху наперад — да мэты, але «не ля мэты пакуль, праз стромы, амшары, праз верас...». Верас — кветка восеньская, а не вясновая. Не з вясной асацыіраваў сваю «рэвалюцыйную радасць» У. Дубоўка, а больш менавіта з вобразамі і настроямі «Звону шыбаў», «Ценяў-страхаў» Якуба Коласа, калі пісаў:

Імжа, і склізота, і прыкрая золь
За скрогатам ветру — навалай.
У чмарнасць убралася светлая столь,
Блакіт ад зямлі адарвала.

Кудлатай лазой расплялася журба,
Цярушыцца шэранню ў сэрца.
Душа — ў падарожжы жахлівы жабрак.
Наўкол — непакойныя гэрцы...

Такім чынам, пішучы ў 1924 годзе пра матывы журбы, тугі, неспакою і г. д., Л. Жыцень проста забываўся, што патэтычная эйфа-

рыя ў гонар рэвалюцыі была ў Беларусі не просталінейнай, што ўласна мінорны тон пасля паласы эйфарыі быў працягам ужо туга навязаных пачуццёвых вузлоў адпаведных матываў. Так было не ў аднаго У. Дубоўкі, але і ў Язэпа Пушчы.

Двух паэтаў-лідэраў вылучаў Янка Купала ў 20-я гады,— а менавіта Дубоўку і Пушчу. І Пушча, можа, быў у большай ступені, чым Дубоўка, адкрыты, просталінейны ў выяве супраціву і абароне нацыянальных святыняў. Паэт арыгінальны, Пушча разам з тым дазваляў сабе дапускаць у сваёй вобразнасці непрыхаваныя сляды ўплываў паэзіі Сяргея Ясеніна, у выніку чаго крытычны бум супраць ясенішчыны напрамкі ўдараў па ім. Ды з вельмі ж упартых хлопцаў-беларусаў аказаўся Язэп Пушча, бо інакш не напісаў бы сваіх «Лістоў да сабакі» (1929), вульгарна-сацыялагічная лаянка якіх ледзь не паўстагоддзя прадаўжалася, каб у наш час, нарэшце, змяніцца на словы, сапраўды заслужаныя паэтам — яго талентам, пазіцыяй, выбарам ідэалу творчага перайманння дзеля нацыянальнага арыгінальнага прыўлашчвання.

Сярод вершаў, што адкрываюць першы зборнік Язэпа Пушчы «Раніца рыкае» (1925), і першы яго друкаваны верш «Раніца» — з промнем усё той жа падкупалаўскай «рэвалюцыйнай радасці», што «па шляху пабег у сутулае сяло», дзе

з сявенькай працы на плячох
ратай спаткаў яго:
уцеха хлынула з вачэй
і гойкнула ў сінь бягом.

Вобраз уцехі — не адзіны пушчаўскі варыянт вобраза Купалавай эйфарыі, бо ў іх мажорным шэрагу ў Пушчы і пастух, што «весела йграе... на ліпнёвай жалейцы», і шчэбет, што «раніцу... пільнуе ў лісці жоўта-зялёным», і ў цэлым вёска, што «рыпамі вясніц цешыць сялянскае сэрца». Ды ўсё ж зборнік «Раніца рыкае» складаюць больш вершы, у якіх матывы радасці ўспамінаюцца ўчарашнімі, былымі, як то ў вершах «Ось дзе будзе ўжо радасці поўна...» («А я ашаломлены ў песні ўспомню паўстання хмялёвыя ночы»), «Я ў песні пра вёску трыбуню...» («...І вельмі, ах, вельмі я рад быў, калі вёска ўзбуяніла коллем»), «Прывітанне табе...» (з успамінам таго, як «беларуская песня, ды ад постаці спелага жыта душы... чупрыніла радасці высадкі»). На першы ж план у першай паэтычнай кнізе Язэпа Пушчы выйшлі вершы, што ўжо год таму назад як асуджаліся Л. Жыценем. Сярод іх «Мне чупрыны не хочацца звесіць», які падкрэсліваў думку, што паэт уласна сам і не хацеў бы журыцца, ды не журыцца не можа, «бо не з тых жа, душою што крывяць». У выніку тут быў двайны пратэст: і супроць таго, што запануе ў савецкай паэзіі сацрэалізму, будучы па-руску ахрышчаным «бодрячеством», і супраць нялюдскага крыўлення душою нагул, адхілення ад праўдамоўства, супраць рэгламентавання, падпарадкавання, гвалту, націску, догмы. І — трэба падкрэсліць — другі, сарцавінны раздзел у зборніку «Раніца рыкае» Пушча называе адным словам-займеннікам: «Я». Ці то абрэвіятурнае «Я» ад «Язэп», ці сапраўды проста ўласнаіменны займеннік, розніцы няма. Так ці інакш, Пушча вылучае сябе сярод хлопцаў-паэтаў, дае як бы сваю душэўную біяграфію: «Сахою **я** гонейкі песціў, кілзаючы сонца ў шлеі», «васількова-зялёнаю ночкай **я** зрэбную вёску пакінуў...» і вось «мне чупрыну не хочацца звесіць у гэты вечар аўсяна-зялёны». Лірычная распрацоўка біяграфічнага, стварэнне «лірычнай» гісторыі ўласных думак і перажыванняў, паэтычнай кардыяграмы душы — вось якую эстэтычную ўстаноўку заняў і абараняў Язэп Пушча. І гэта была ўстаноўка праграмная — для літаратуры, тэндэнцыя

ў беларускай паэзіі сапраўды народная, традыцыйна-нацыянальная, гуманістычная і цнатліва высокая. Вылучаючы асобным цэнтральным раздзелам зборніка «Раніца рыкае» раздзел «Я», Язэп Пушча дэманстратыўна выяўляў самакаштоўнасць для паэзіі менавіта асобы, уласна чалавека, рэальнага чалавека. То быў найвялікшы супраціў нашай паэзіі нівеліраванню чалавеча індывідуальнага ў паэзіі, адмаўленню прымату асобы перад масай, перад героем усярэдненым, схематызаваным. Зараджэнне культу асобы — правадыра масы, народаў было звязана з рэдукцыяй культу чалавека, асобы кожнага чалавека. Пазіцыя Язэпа Пушчы была, такім чынам, антыкультаўскай — яшчэ ў перадатмасферы сталінскага культу. Яна была ваяўніча антыкультаўскай, аж пакуль голас паэта не быў заглушаны, пакуль паэт не быў адарваны ад Беларусі, ад беларускай паэзіі адміністрацыйнай высылкай.

«Лісты да сабакі» — апагей ваяўнічай, бескампраміснай, мужнай лірыкі Язпа Пушчы. «Лісты да сабакі» Язэпа Пушчы — выдатны дакумент праўдзівасці і сумленнасці паэта, праўдзівасці і гуманістычнасці беларускай паэзіі 20-х гадоў у цэлым. Сёння гэта твор разам з тым і адзін з самых апраўдальных для нашай паэзіі 20—30-х гадоў, бо на шалях узважвання таго, што здрабнела, абездухоўнілася, дэфармавалася, і таго, што аказалася сапраўды народным і грамадзянскім, такія творы, як «Лісты да сабакі», пераважваюць сваёй высокай сілай мастацкага абагульнення і самай высокай грамадзянскасцю, сапраўднай народнасцю, патрыятычнасцю.

Пратэст Язэпа Пушчы — і маральны і сацыяльна-палітычны. Паэт не хоча «падхалімам быць, крывіцца» — крывіць душою,— гэта пратэст у агульначалавечым плане. Не хоча паэт «і ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам», і ў гэтым ужо — жэст, пратэст грамадзянскі:

Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў
І супраць ветру размахваць крыламі,—

па-рамантычнаму заяўляў Язэп Пушча, будучы па-рамантычнаму ж упэўнены:

Тады заброснеюць душы затоны,
Калі ў грудзях мой дух зусім мне займе.

«Вольны птах» — не адназначны, просталінейны «чырвоны бусел». Воля супрацьпастаўлялася няволі, ненатуральнаму буслу, чамусьці навязанаму, супярэчнаму белым крылам буслоў, іх чорнабелай натуральнай пярэстасці, нацыянальнай прыродзе. У выніку ішла абарона натуральнага, роднага, нацыянальнага, зуніфікаванага «чырвоным», закаваным у чырвоны колер. І то было выклікам і самой пралетарскасці, якая не прымала сялянскасці, не прымала песняра яе С. Ясеніна.

Без бачання асацыяцыяў і алюзіяў ясенінскага раду не зразумець ні ўсёй грамадзянскай пафаснасці «Лістоў да сабакі» Язэпа Пушчы, ні іх мастацкай шматслойнасці, падтэкставасці, намёкавасці. Вобраз бадзяжнага паэта, «братоў нашых меншых» — звяроў, сабакі, пафас абароны «старой вёскі», адчуванне грахоўнасці перад ёю валацужнага паэта-крыжывальшчыка гарадскіх вуліц,— усё гэта ў Пушчы, несумненна, з ясенінскіх уплываў. Але трэба падкрэсліць, што ясенінская традыцыя — не адзіная ў «Лістах да сабакі»,— «Лісты да сабакі» увогуле — дэманстратыўна — твор з пачатку да канца на літаратурных рэмінісцэнцыях: анталагічных, рамантычных, фальклорна-беларускіх. Так, калі аўтар «Лістоў» упадабняе сябе да Адысея, якога пасля доўгай разлукі прызнаў, пазнаў толькі сабака, то за гэтым відавочніцца не толькі антычна-гамераўская,

але і сярэдневяковая куртуазна-рыцарская традыцыя, бо ж і ў сюжэце «Трыстана і Ізольды» быў сабака, які паперад Ізольды пазнаў непазнавальна змененага пасля вандровак Трыстана. Нацыянальная ж традыцыя пранізвае «Лісты да сабакі» з пачатку да канца: ад радкоў «ляжыць акраец хлеба на стальніцы, а ў збане на акне юнацтва ружа», «а покуль б'е жывой вады крыніца», «у гэту восень стаў народ наш сіратою» і да «сталеццямі гараць і свецяць зоры, і іх вятры не ў сілах затушыць». Вобразы ружы, жывой вады, крыніцы, сіраты, зор, вятроў — яны ўжо ішлі да Язэпа Пушчы як з фальклору, так і з паэзіі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Такім чынам, сінтэз традыцыйна-літаратурнага ў «Лістах да сабакі» сапраўды шматвузельны.

Ды асноўны ўток, на які клалася традыцыя, быў найперш узвышанскага стылю: «У слёзна-золкім небе згасла радасць зор»; «ты выць пачаў пад хатай і пад крыжам і вочы слёзныя закатываць ў імглу»; «усюды зрок вачэй блакітных вяне, і ўсюды бачу я жалобны бант»; «не цалаваў жа здраднымі губамі ніколі я лістоў, апаўшых з дрэў». У сваім узвышаўскім каларыце «Лісты да сабакі» былі яшчэ і ў блізкім літаратурным суседстве з вобразнасцю 20-х гадоў У. Дубоўкі. Але ніяк не дзеля паказу якогасьці кангламерату літаратурных аксесуараў традыцыйна-літаратурную аснову «Лістоў да сабакі» трэба разглядаць, бо ў іх яны — не эклектыка, а спецыяльная ўзаемазвязка — дзеля драматызацыі, трагізацыі. Не дэманстрацыя вывучкі, эрудыцыі, а парнаскае над імі ўзвышэнне пры ўпляценні ў іх акцэнтаваных матываў, вобразаў. Матывы пошуку «нязнанай славы», літаратуршчыннае антынэпманскае «ў рэстаране п'яным, дзе радасць распіваюць пад джаз-банд», літаратуршчыннае паэтычна-рэвалюцыйнае «замоўклі рэвалюцыі вялікай штурмы», літаратуршчыннае ясенінскае «няхай сабе я сёння страшна хворы»,— усё гэта як бы ці ў падножжа душэўнай драмы, ці на грані трагічнага зыходу. Калі ўслед за «няхай сабе я сёння страшна хворы» ідзе няхай і не рашуча пратэстуючы радок «не трэба ўсё ж рэцэптаў для душы», то тут менавіта паэт на парозе драматычнага, са сваім непрыняццем рэцэптаў-рэгламентацый для паэта, для асобы, для душы. Іншае, калі за звычайным выбухае незвычайнае — ужо пратэст душы, як то ў спараным радку «мне лепей быць звычайным бы ратаем, чым грэх з сябе змываць у атрутнай ванне». «Атрутная ванна» — гэта ж абавязкова выклікáла трагічны вобраз, трагічную развязку жыцця С. Ясеніна. Сябе пад С. Ясеніна мераючы, пад трагізм мераў сябе Язэп Пушча. Грахоў С. Ясеніна не жадаючы прымаць, каб не змываць іх з сябе, беларускі паэт з С. Ясеніным і супраць С. Ясеніна. З С. Ясеніным ён абараняе роднае сяло, гутарыць з ахоўнікам яго — верным сабакам, і ён жа хоча ўберагчы сябе ад граху, што смерцю выкупляецца.

Якога ж граху баіцца аўтар «Лістоў да сабакі»?

...падхалімам быць, крывіцца
І ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам.

Ды сутнасць паэтавай боязі глыбей, бо ў душы яго катлуецца найперш боязь здрады — здрады сына Радзімы Радзіме, сына вёскі — вёсцы. Літаратурны лёс яго як песняра смутку афіцыйна асуджаецца, і гэта выклікае ўтрапенне паэта:

Калі паэт галоў на грудзі звесіць,
Няўжо краіне ён тады не сын?

І яго, паэта-патрыёта, першы клопат — адзін:

З чала краіны вырву ўсё ж я церні,
Каб долю іх не ведаў болей сын.

«Гэтакі трывожны б'ецца пульс», настолькі трывожны, што не можа паэт не спадзявацца на сваю песню. «Няўжо мне ранаў песня не загоіць?» — задае ён пытанне, верачы ўсё ж у сілу песні, але дэфініцыя, якая наступае ўслед, па сутнасці, нечаканая:

Паэт, які не ведае агоній,
Не здолее уславіць Беларусь!

Якая ўжо тут «рэвалюцыйная радасць»?! Праз церні да зор! Праз крызісы душы — агоніі, памірайце і з мёртвых устаньце. Голас паэта гучаў тут у абарону, у апраўданне «матываў смутку, горычы, жальбы». «Лісты да сабакі» — такім чынам, станавіліся і фактарам літаратурнай палемікі, маніфестам свабоды душы — супраць кпін «над пяснярскім лёсам», бэшчання, лаянкі паэзіі «ў гандлярскай краме».

Асаблівасцю паэзіі 20-х гадоў было ўвогуле спалучэнне ў ёй дыскусійна-літаратурнага з сацыяльна значным. У гэтым сэнсе «Лісты да сабакі» Пушчы стаяць у адной шарэнзе з такімі паэмамі Дубоўкі, як «Там, дзе кіпарысы», «І пурпуровых ветразей узвівы», «Штурмуйце будучыні аванпосты». Для аўдыторыі 20-х гадоў, бадай, першаснымі былі ў гэтых творах лініі літаратурна-палемічныя. Сёння чытачу першаснымі, думаецца, становяцца сацыяльна значныя сюжэтныя лініі. Ды за першасныя іх, думаецца, меў і сам Язэп Пушча. Увогуле, можа, мела месца тут і знарокавая камуфляцыя, хоць, як паэт свайго ego, Язэп Пушча проста і па гэтай прычыне спалучаў фактар літаратурнай барацьбы з магутна напятай лініяй апявання роднага, запаветнага, што апыньвалася пад пагрозай знешніх, варожых для іх, разбуральных фактараў. «Лісты да сабакі» — менавіта ў гэтым сэнсе — помнік беларускай паэзіі 20-х гадоў выключны.

Вобраз сабакі ў «Лістах да сабакі» Язэпа Пушчы — гэта вобраз вернага ахоўніка запаветных скарбаў — роднай хаты, з якой асацыіруецца Радзіма, усё чалавеку самае блізкае і дарагое. У радках непасрэднага звароту да сабакі паэт вельмі ж і вельмі тэкстава адкрыты:

Вартуй, вартуй лепш хату да рассвету,
Вуглоў каб не разнеслі людзі вуліц...
Вартуй, мой дружа, родны ганак,—
Пішу аб гэтым я табе з Расіі.

Рызыкоўнасць такіх заклінанняў была ж відавочнаю. Вёска папярэджвалася ад пагрозы «людзей вуліц» — горада, «родны ганак» — перад пагрозай з Расіі — ад таго, што ішло з Масквы, з Крамля, ад савецкай улады, рэвалюцыі, якая адтуль пайшла, ад палітыкі, якая адтуль зыходзіла.

Не менш адкрытымі былі і радкі ленінградскага адрасу:

Стаю вось перад Зімнім тут палацам
І ўвесь, не ведаю й чаго, дрыжу,
І сам не ведаю, чаго так плачу...
Хто там? Прыйдзі хутчэй — крыжуй!

Боязь укрыжавання, чаканне ўкрыжавання — выказаць такое, апець такое — гэта было ва ўмовах зараджэння культу самаасуджальным, самурайскім самазабіццём. Гэта было ўразрэз, але не без перспектывы:

Няхай сабе аблаюць і ў газетах,
Мо ўспомніць часам хто калісь.

У газетах і ва ўсіх даследаваннях і гісторыях лаялі амаль паўвека, але, бачачы цяпер, ад чаго засцерагаў паэт перад нашэсцем сталіншчыны, вялікім ганараваннем мы карануем сёння і рызы-

коўнасць, і адчай паэта, што зрабілі яго проста адной з легендаў найгераічнейшага супраціву нашай літаратуры наступу таталітарызму і бездухоўнасці.

З усталяваннем у 30-я гады ў літаратурах народаў СССР метаду сацрэалізму і ў нашай літаратуры да гэтага ж часу зацвердзілася пэўнае акрэсленае кола міфаў — апорных для апалагетнай пафаснасці, для ідэалагічнай асновы ў цэлым, партыйнасці літаратуры ў прыватнасці. Апорныя міфы датычыліся як змястоўнасці літаратуры, так і яе тэарэтычнага рыштунку.

Першым па часе ў нас якраз і стаў міф аб «рэвалюцыйнай радасці» як першасным пафасе беларускай савецкай літаратуры з яе апяваннем радаснай сучаснасці ў кантрасце з горкай, пакутнай цяжкой доляй народа ў дарэвалюцыйную пару. Гэты міф найперш схематызаваў паэзію — у яе развіцці ў бок да культавай, апалагетычнай. «Радасная», сонечная сучаснасць сама сабой выводзіла напрасткі да матываў светлай будучыні. З апалагетычнымі і патэтычнымі матывамі апявання рэвалюцыі, героікі грамадзянскай вайны, заваёў сацыялізму ў горадзе і вёсцы, нараджэння новага ладу, новага чалавека, усяго самага перадавога, найлепшага ў свеце — савецкага пачынаўся яшчэ адзін міф — як бы доччын самага першага аб «рэвалюцыйнай радасці», які вынікаў з яго, прымыкаў да яго — міф аб росквіце беларускай літаратуры — перш за ўсё сапраўдным, самым высокім росквіце талентаў Янкі Купалы, Якуба Коласа. На самай справе ўсталяванне сацрэалістычных догмаў у літаратуры вяло да яе мастацкага збяднення, да дэградацыі нават такіх буйных талентаў у ёй, як Янка Купала, Якуб Колас. Але дэмагагічна сцвярджалася, што толькі ў новых абставінах па-новаму, па-сапраўднаму развіліся таленты абодвух народных паэтаў. Асноўныя матывы і вобразы, якія развіваліся, такім чынам, усёй заняволенай сацрэалістычнай дагматыкай беларускай літаратурай аж да XX з'езда КПСС сталі матывы радаснага, шчаслівага, калгаснага, усенароднага жыцця, вобраз шчаслівага народа, шчаслівай Радзімы, вялікага яе правадыра І. В. Сталіна. Узвышэнне, услаўленне правадыра было кульмінацыйным, найвышэйшым пунктам выявы шчаслівасці лёсу. Нормай літаратурнага дэбюту, перадумовай прэстыжнасці паэта, асновай для дзяржаўнага прэміравання стала найперш для паэтаў апяванне вобраза І. В. Сталіна.

Міф аб велічы, мудрасці, дабраце, сціпласці І. В. Сталіна — бацькі народаў, правадыра ўсяго прагрэсіўнага чалавецтва, Леніна сёння — гэта ўжо быў самы найпершы міф у беларускай савецкай паэзіі ўсіх 30-х, ваенных і першых пасляваенных гадоў — аж да выкрыцця культу XX з'ездам КПСС.

Апяванне шчаслівага жыцця на працягу 30-х гадоў даволі шырока разгарнула стэрэатыпы ў тэматыцы і ў малюнках паэзіі і прадаўжала іх разгортваць у пасляваенны час (матывы шчаслівых праводзін і службы ў Чырвонай Арміі, вобразы «радасных» чырвоных абозаў са здачай збожжа дзяржаве, «радасных» выбараў у Саветы, вобразы лямпачкі Ільіча, натхнёных «радасных» муляраў, шклоўшчыкаў, трактарыстаў, сельскіх брыгадзіраў, даярак, савецкай моладзі ўвогуле, савецкай эпохі ўвогуле, савецкіх, сталінскіх нашых дзён, «нашай эры», нашых перамог, дасягненняў, прыярытэтаў і г. д.). У выніку стваралася карціна ўсеагульнага народнага шчасця, усясветных перамог сацыялізму і камунізму, самага лепшага, самага перадавога, самага шчаслівага — савецкага, сталінскага. Па-за карцінай шчаслівасці, светлага сонца і вобраза бацькі Сталіна свету як не было, гісторыі, акрамя Кастрычніка і яго перамог, як не было, чалавека як асобы, як індывідуальнасці, як інтэлектуала і пачуццёвага суб'екта як не было. У поўным адрыве ўсё ішло ад знеш-

няга свету — варожага, імперыялістычнага — за жалезнай заслонай,— свету, які падаваўся толькі ў вобразе пагрозы, ворага рэвалюцыі, савецкай улады, савецкага ладу. Культ асобы спараджаў і культ ворага, варожасці ўсяго, што не з рэвалюцыі, не з яе міфаў і нормаў.

Такім чынам, разрастаўся як апорны для ўсёй савецкай паэзіі міф аб гнілым варожым эстэцтве, ненароднасці, рэакцыйнасці ўсяго, што мела месца ў дарэвалюцыйнай паэзіі народаў СССР, свету, Еўропы перш за ўсё. Прынцып партыйнасці як найвышэйшай ступені народнасці зацвярджаўся пры адмаўленні ідэалаў і нацыянальна-адраджэнскіх і агульнагуманістыных, агульнадэмакратычных увогуле. Дэмагогія як хросная маці бальшавізму тут зноў жа брала сваё, бо абвяшчала літаратуру сацрэалізму літаратурай з вышэйшай ступенню народнасці, абапёртай на прынцып партыйнасці. Прынцып партыйнасці скоўваў, звужаў, дэфармаваў, мастацкі збядняў, пазбаўляў літаратуру выявы праўды народнага жыцця ў яго рэальнай поўні, рабіў літаратуру беспрынцыпнай, далёкай ад сапраўднай народнасці. Ды ўсё тое выдавалася, сцвярджалася як праява вышэйшых форм народнасці.

Патрабаванні партыйнасці ў 30-я гады прывялі паэзію ўвогуле да выхалашчэння народнасці як першаснага духоўнага, філасофскага, маральнага субстрата, як мастацкай нацыянальнай формы. Знешняе, а не ўнутранае засталося ад першанароднага субстрата, бо не нацыянальны характар, не нацыянальнае светаразуменне, светаадчуванне, а толькі атрыбутыка формы заставалася — дзеля выражэння матываў псеўдарадасці, псеўдалюбові да правадыра, нянавісці да класавага ворага. Усё гэта можна лёгка ўбачыць нават па творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа, сацыялістычны змест — кан'юнктурныя запатрабаванні партыйнасці ў якіх амаль цалкам забівалі іх народнасць, хоць фармальная нацыянальная атрыбутыка — традыцыйна-фальклорная вобразнасць, песенна-народная рытміка ў народных паэтаў заставаліся.

Партыйнасць цалкам выключала з нацыянальнай паэзіі рэфлексію, што лічылася выявай гнілога інтэлігенцкага нутра, арыентацыю на анталагічна-класічныя асновы лірыкі, што лічыліся ненароднымі, як і на неарэалістычную, неарамантычную — сімвалісцкую, акмеісцкую, імажыnісцкую і іншыя паэтыкі паэзіі пачатку XX стагоддзя, якія аб'яўляліся як мадэрнісцкія, упадніцкія, эстэцкія, а зноў жа значыць ненародныя, рэакцыйныя. 30-я гады ў нашай паэзіі адрынулі ад анталагічных і неарамантычных тэндэнцый такіх нашых выдатных паэтаў XX стагоддзя, як Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Уладзімір Жылка, Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча.

Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя відавочна і не без гонару за тое ўсведамляла сваю роднасць, гістарычную і эстэтычную крэўнасць са сваёй папярэдніцай — беларускай паэзіяй XIX стагоддзя. Было то напавідоку і яе творцам і яе нацыянальнаму чытачу, бо выдавецкай пецярбургскай суполкай перавыдаваліся кнігі Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская» і «Смык беларускі», а першыя гісторыкі роднай літаратуры, як гэта Ф. Я. Карскі, рабілі здабыткам чытача радкі адзінага верша Паўлюка Багрыма — паэта з народа, напісаныя яшчэ ў 1828 годзе, першыя з якіх гучалі заклікава, па-песенна-народнаму, са святочнасцю, аптымізмам: «Зайграй, зайграй, хлопча малы, у скрыпачкі і цымбалы, а я зайграю ў дуду...» Гэта была а капэла па-народнаму, па-сялянску, па-беларуску. Што народна-сялянскі, народна-беларускі аркестр учыняецца, сам ён яго ўчыняе, адчуваў, выдаючы ў 1891 годзе свой першы зборнік «Дудку

беларускую» Францішак Багушэвіч, а затым далучаючы да яго «Смык Беларускі» (1894). Ёсць смык, будзе скрыпачка, чакай скрыпкі. Цётка (Алаіза Пашкевіч) якраз на гэтую багушэвічаўскую падумку і адгукалася, калі свае першыя зборнікі, што зрадзіліся з эмоцый паэтэсы-рэвалюцыянеркі, удзельніцы рэвалюцыйных бітваў 1905 года, адной з заснавальніц Беларуская сялянскай грамады (1902—1904), адной з першых публіцыстак рэвалюцыйна-народніцкай першай беларускай газеты «Наша доля» (1906), называла «Скрыпачкай беларускай» і «Хрэстам на свабоду» — абодва 1906 года. Хрэст беларускага народа ў рэвалюцыю, хрэст беларускай паэзіі на яе барыкады, пад сцягі народнай барацьбы — сацыяльна-рэвалюцыйнай і нацыянальна-вызваленчай, такім чынам, нібы адбываўся менавіта пад незвычайныя гукі народна-нацыянальных інструментаў. Далучаў сваю першую паэтычную кніжку назвай «Жалейка» (1908) і Янка Купала і першы беларускі паэт-ксёндз Казімір Сваяк (зборнік «Мая ліра», 1926). Вобраз дарэвалюцыйнага Янкі Купалы — песняра нядольнага жыцця беларуса-мужыка заставаўся ў памяці перш за ўсё з гэтай сваёй «Жалейкай» у руках, а гучанне яго паэтычных у гонар Рэвалюцыі песняў крытыкі будуць упадабняць ні да чаго іншага, як толькі да «сонечных фанфар». І яшчэ без вобраза цымбалаў нельга будзе ўявіць нацыянальную паэзію 30-х — 50-х гадоў — цымбалаў вясельных, ідылічных — з лакіровачнай, імітаванай пад народную песню паэзіі, і цымбалаў, што раздзяляюць сіроцкія шляхі ахвяраў фашысцкай напасці — герояў паэмы А. Куляшова «Прыгоды цымбалаў» (1944).

Відавочнай была пераемнасць і вобразаў, звязаных з сялянскай працай: не забываліся заклікі Кастуся Каліноўскага да касы і сякеры асабліва ў дакастрычніцкага Купалы з яго паэтызацыяй касца і касьбы, пачынаючы з верша 1907 года «Касцу», першага верша Янкі Купалы ў газеце «Наша ніва». Але беларускі чытач пачатку XX стагоддзя таго ніяк адразу не адчуваў, што не толькі як відавочная пераемніца вобразаў і матываў беларускай паэзіі XIX стагоддзя пачынаецца і набірае сваёй змястоўнасці беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя, як і ўсяго гэтага стагоддзя ў цэлым. Сёння повязі сучаснай беларускай літаратуры са старабеларускай паэзіяй, з адраджэнскімі традыцыямі ў ёй, з барокавымі і асветніцкімі, з уласна сярэдневяковымі ўжо і выразна бачацца, і вельмі выразна асэнсоўваюцца. Не тое было на пачатку стагоддзя.

Рэвалюцыйна-гераічная паэзія Цёткі, рамантычна-гераічная паэзія Янкі Купалы, поўная рэаліяў нацыянальнай даўніны адраджэнска-патрыятычная лірыка Каруся Каганца — усё гэта бачылася не больш як толькі ў блізкай сувязі з гераічна-рэвалюцыйнай спадчынай К. Каліноўскага і ніяк не перакідвала звязкавых мастоў да паўстанцкіх песняў беларускіх касіньераў Тадэвуша Касцюшкі, а тым больш да гераічнага лацінамоўнага эпасу Беларусі пачатку XVI стагоддзя — да паэм Яна Вісліцкага «Пруская вайна» (1516), Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» (1523); а тым больш да гераічных вобразаў і матываў «Слова пра паход Ігаравы» — вялікага помніка продкаў усіх усходніх славян. Такім чынам, і гераічны пачатак, які заставаўся і цяпер першасным духоўным субстратам беларускай паэзіі, самахоць затушоўваўся: было напачатку толькі рэквіемнае купалаўскае пачуванне гераічнай гісторыі народа:

Усё прайшло, мінула,
Як і не было,
У капцах паснула,
Зеллем зарасло.

Але ж не мінула бясследна, не засталося забытым, не магло застацца. Повязі паэзіі пачатку XX стагоддзя з сярэдневякоўем, буду-

чы не ўбачанымі, яшчэ не ўскрытымі, сёння проста здзіўляюць пераклічкай як многіх рэаліяў, як многіх вобразаў і матываў! Ад асветніцка-рэлігійнага крыжа Ефрасінні Полацкай (XII стагоддзе) — да крыжа міласэрнасці Цёткі — і паэтэсы-рэвалюцыянеркі, і шпітальнай сястры міласэрнасці. Ад Яна Казіміра Пашкевіча — аўтара верша 1621 года з яго ўслаўленнем русчызны, з яго ўпэўненасцю, што яе слава не загіне — да паэтэсы зноў жа Пашкевіч — Пашкевічанкі, як яе называлі да рэвалюцыі Янка Купала і Максім Гарэцкі. А вобраз у «Трэнасе» (1610) Мялеція Сматрыцкага Маці — праваслаўнай царквы, здраджанай, зганьбаванай здрадай сваіх сыноў — з патэтычна-патрыятычным маналогам, што ўзбуйняе яе да вобраза Маці-Айчыны,— як наўпрост ад яго ідзе традыцыя да зборнікаў Алеся Гаруна «Матчын дар» (1918) з тым жа вобразам у эпіцэнтры, да першага зборніка Уладзіміра Караткевіча «Матчына душа» (1958). А затым: боскі вобраз Маці-Айчыны Мялеція Сматрыцкага (пачатак XVII стагоддзя), вобразы «Мадоннаў» (пачатак XX стагоддзя) у Максіма Багдановіча, вобраз Куліны — маці паэта ў Рыгора Барадуліна — лепшага паэта другой паловы 50—80-х гадоў, як і вобраз маці з паэмы Анатоля Вярцінскага «Заазер'е» (1966), як і вобразы беларускіх мацярок-сялянак у паэзіі Дануты Бічэль-Загнетавай. Усё гэта не простая пераклічка вобразаў у вяках, а выява зноў жа першаснага духоўнага субстрата беларускай паэзіі як усяго XX стагоддзя, так і ва ўсім яе гістарычным развіцці.

І зноў жа ўнутраную цэласнасць беларускай паэзіі ўсяго XX стагоддзя паказваюць і тыя суадносіны вобразаў і матываў, што бачацца на яе скрыжалях, пралеглых ад пачатку да канца стагоддзя. У Янкі Купалы — трэці, выніковы зборнік дакастрычніцкага часу — «Шляхам жыцця» (1913). Максім Танк у Заходняй Беларусі ў 1936 пачынае свой шлях у нацыянальную паэзію зборнікам «На этапах»; у 70-я гады выдае зборнік «Дарога, закалыханая жытам». Максім Багдановіч — аўтар адзінага паэтычнага зборніка «Вянок» (1913) — марыць з ім у руках аб магчымых сваіх новых зборніках — «Маладзік», «Шыпшына», «На ціхім Дунаі». Першым зборнікам «Шыпшына» дэбютуе ў 1926 годзе Пятро Глебка; першым зборнікам «Маладзік над стэпам» дэбютуе ў 1959 годзе Рыгор Барадулін, з найлепшым сваім паэтычным зборнікам «Свеце мой ясны» адыдзе Міхась Стральцоў. Янка Купала пачынае з паэтызацыі купальскае кветкі, Максім Багдановіч — «радзімага васілька», а ў далёкай ад іх перспектыве — кветка іван-чай у франтавога паэта Аляксея Пысіна, яснавокія мальвы (аднайменны зборнік) — у Еўдакіі Лось, вобраз дзівасілу (аднайменны зборнік 1969 года ў Алега Лойкі). Вобраз сонца ў гербе Францішка Скарыны — першадрукара (пачатак XVI стагоддзя) — і вобраз сонца ў Янкі Купалы — дарэвалюцыйнага і савецкага часу як адзін з самых цэнтральных вобразаў у нашага народнага паэта. І затым вобраз сонца ў маладога Язэпа Пушчы («На сіні выган сонца выганяе пасвіць дзень»); культавыя вершы пра чалавека-сонца 30-х — першых пасляваенных год; вобраз сланечніка («Паэма сланечніка») у Алеся Разанава; сонца пасля Чарнобыля ў маладога сённяшняга беларускага паэта Міколы Мятліцкага. І яшчэ з вобразам агню: «Босыя на вогнішчы» (1922) М. Чарота, «Прыручэнне агню» (1965) Ніны Мацяш, «Агмень» (1982) — Анатоля Сыса. І яшчэ з вобразамі рэк: ад чачотаўскага зборніка «Песенькі вясковыя з-над Нёмана і Дзвіны» — да зборніка «Невадам з Нёмана» Ларысы Геніюш, «Нёман ідзе» Дануты Бічэль-Загнетавай, «Нача» — Васіля Зуёнка. І яшчэ ад паэмы «Уяўленне» Уладзіміра Жылкі да філасафічнасці зборніка Анатоля Вярцінскага «З'яўленне».

А як павязаныя паміж сабой сістэмы вобразна-выяўленчых срод-

каў, іх асобнасць на розных — ніжэйшых, вышэйшых вітках спіралі развіцця нашай паэзіі XX стагоддзя ў цэлым! Яе рамантычная высокасць метафара — аснова купалаўскага «афектыўнага стылю» (Рыгор Бярозкін) і яе каралеўская высокасць найнезвычайнейшая метафара ва Уладзіміра Хадыкі, Максіма Танка, Анатоля Вялюгіна, Рыгора Барадуліна ці сімвал-метафара ў Алеся Разанава. Яго маляўнічая высокасць эпітэт у Максіма Багдановіча і строгая дакладнасць, звычайная жывапіснасць у Міколы Аўрамчыка, Аляксея Пысіна, Рыгора Семашкевіча, Яўгеніі Янішчыц. Антычнае высакароднае паходжанне гекзаметра ў М. Багдановіча і беларуская непаўторнасць гекзаметраў У. Караткевіча, адраджэнскае паходжанне санета ў М. Багдановіча і беларуская класізацыя санета ў сучаснай нашай паэзіі Алесем Звонакам. Французскае новапарнаскае паходжанне культуры гукапісу і музычнасці ў М. Багдановіча і мілагучнасць інструментоўкі, бадай, ва ўсёй шматлікай плеяды сённяшняй жаночай паэзіі.

Пераемнасць, пераклічка, повязь вобразаў, матываў, асацыяцый, эмацыянальных ладу, настройкі, настрояў, рэфлексійных паглыбленняў у нацыянальна-арнаментальных атрыбутах — ва ўсім гэтым сапраўды ёсць выява супервышэйшага, першаасноўнага, субстратна-народнага, субстрактна-нацыянальнага як першападглеб'я адзінства, цэласнасці.

Такім чынам, гонар і чалавечнасць беларускай паэзіі ўсяго XX стагоддзя ўтрымлівала гуманістычная традыцыя. Але ўсё ж і наступ дэфармацыі быў значны, і цалкам ухіліцца ад яе — не заўжды ставала моцы. І самай цяжкай бядой ад дэфармацыі была якраз страта гуманістычнага пафасу — замена любові нянавісцю, душэўнай праўды — палітычнай формулай, агульначалавечага маральнага пачуцця — псеўдакласавым «чуццём» [1]. Сталінская тэорыя абвастрэння класавай барацьбы сапраўды была асобнай мадэллю свету, «у якой падвергліся жахліваму скажэнню ўсе чалавечым паняцці, у якой усе грані і ўсе клетачкі жыцця пранізаны рэнтгенам варожасці і страху, у якім адбывалася забойчае збядненне і адзічэнне чалавечага сэрца» [2]. Пры гэтым змяніліся тэмы, цікавасць да тых ці іншых жанраў, да тых ці іншых сфераў жыцця народа. Так, у 30-я гады паэзію запаланіла тэма радасці калгаснага жыцця, ідылічны паказ яго, з аднаго боку, з другога боку — армейская тэма, апяванне Чырвонай Арміі, выпраўленне на службу ў яе, вобраз першага маршала Кліма Варашылава, матывы бадзёрых спадзяванняў біць ворага на яго ўласнай тэрыторыі, магутным ударам, малой кроўю. Усё гэта з пастаянным услаўленнем «бацькі народаў» — Сталіна. З мастацкага боку гэтая культава-ідылічная паэзія была найчасцей падробкай пад песенныя і эпізаваныя ўзоры фальклору пры згубе чалавечага «я» героя, пры сапраўднай вайне з агульналюдскім гуманізмам. Ідылічны паказ калгаснага жыцця працягваўся і ў пасляваенныя гады — 40-я, 50-я. Не рэальны стан пакутлівага адраджэння сяла ў пасляваеннай разрусе з яго бесхацінствам і бясхлеб'ем паказвала паэзія, а парадныя калгасныя чырвоныя абозы са збожжам, парадныя выбары з прыездам на іх на конях пад бомамі, парадныя выхады трактароў на ворыва, камбайнаў — на жніво. Рэальны чалавек, па сутнасці, счэз з нацыянальнай паэзіі, як і паказ рэальнага стану рэчаў, рэальнага народнага жыцця. У ідылічным калгасным полі сустракаўся ідылічны трактарыст ці брыгадзір з сонцам ці з лірычнай гераіняй — гераіняй фермы, льнаводкай, паляводам. На калгасных рэках запальвалі лямпачкі Ільіча калгасныя электрастанцыі. Манцёр таксама мог спя-

[1] Дзюба Иван. Пятьдесят лет спустя. «Дружба народов», 1989, № 4. С. 237.
[2] Тамсама.

ваць рамансы льнаводцы ці паляводцы, смуглянцы ці бландзінцы, як і муляр на рыштаваннях тым варты апявання, што ўдзень ён кладзе цэглу ў паверх за паверхам, а ўвечар ходзіць у вячэрнюю школу і так расце, шырыцца жыццёвы кругагляд героя. Кругагляды нацыянальнай паэзіі тым, аднак, ніяк не шырыліся. Паэзія, адарваная ад інтэлектуальнага і пачуццёвага, індывідуальнага, асабістага, інтымнага, выраджілася ў бяздушны шаблон. Грамадзянскасць была растворана ў рыторыцы. Патаптанне асобы ў паэце, рэфлексіі, інтыму было звязана з супрацьпастаўленнем у лірыцы грамадскага і ўласна асабістага, прыватна лірычнага як шкадлівага, пазалітаратурнага. Паэт у гэтай сувязі і заяўляў пра свайго лірычнага героя:

Не вузкі свет пачуццяў асабістых,
Яго хвалюе спраў грамадскіх шыр.

*Хваляванне за «спраў грамадскіх шыр» было выражэннем* уяўнага актывізму, псеўдаграмадзянскага актывізму, псеўдаграмадзянскасці. Рэальны свет пры гэтым выступаў па-за ўласнай асобай, па-за чалавекам, па-за людзьмі. Свет гэты аказваўся толькі халоднарэчыўным — светам не населеных людзьмі дамоў, абязлюдненых вуліц. І ўвогуле бязлюдная, бесчалавечая — абяскроўленая, абяздушаная лірыка прыходзіла да стэрэатыпу статычна-безэмацыянальнага:

Сталічны, жыллёвы,
Пяціпавярховы
Быў дом пабудаваны
Датэрмінова.

*А побач з ім — паведамлялася — зазелянелі* Алеі Міру. І гэтым ужо вырашалася іншая дзяжурная тэма ўсіх 50-х і яшчэ 60-х гадоў — тэма міру, абароны яго ад імперыялістаў з паэтызацыяй вобраза голуба, дзіцяці, пальмавай галінкі. Тэма міру ўваходзіла ў сімбіёз з самымі рознымі міжнароднапалітычнымі тэмамі — за мір у Грэцыі, у Карэі, у В'етнаме, за подпіс пад Стакгольмскай адозвай, за кангрэс міру ў Празе. То была вельмі вузкатэматычнага маштабу палітызацыя паэзіі, падсаджвання яе на п'едэстал грамадзянскасці, на трыбуну публіцыстычнасці. Узоры патэтыкі часам былі не без сапраўднага дыхання паэтычнай напружанасці («Слова да Арганізацыі Аб'яднаных Нацый» Аркадзя Куляшова, «Дзённік міру» Максіма Танка). Часам запыняла ўвагу на сабе арганічная прастата маўлення ў сузалежнасці ад народна-песеннай вобразнасці (паэма «Хлеб» Петруся Броўкі). Але ў цэлым дэфармацыя паэзіі ў атмасферы зыначвання яе праз звужэнне дзяжурнай тэмай, праз палітызацыю — па-за рэальным светам чалавечых народных думак і пачуццяў на доўгі час трымала паэзію ў цянётах марнасці, другаразраднасці, крызіснасці, канец чаму быў пакладзены толькі XX з'ездам КПСС — грамадска-палітычнай атмасферай, ім спароджанай, раскаванасцю асобы ў лірыцы, што выйшла сапраўды ў шырокі свет грамадзянскіх спраў, успрыняла іх усім гарачым сэрцам і ўсёй усхваляванасцю раскаванага інтэлекту. Настаў зорны час маладой паэзіі 60-х гадоў — Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вярцінскага.

Але з другой паловы 60-х гадоў нашу літаратуру стала падпільноўваць іншая дэфармацыя, што вынікала таксама з пастаянна чыннага ва ўмовах адміністрацыйна-каманднай сістэмы палітызавання літаратуры, імкнення трымаць яе на службе ў кан'юнктуры, падаванага апошняй як патрабаванне службы часу, партыі, народу. З 60-х гадоў у нас пачалася апалагетызацыя сучаснасці, патраба-

ванне актуальнасці, звязанай з надзённа-кан'юнктурным. Ішло рэзкае супрацьпастаўленне сучаснага несучаснаму, прымаліся толькі сучасная тэма, сучасны герой, а што было не ад сучаснага — тое лічылася ледзь не антынародным, антыпартыйным. У гэтай сітуацыі пачала цалкам дыскрэдытавацца гістарычная тэма. Часопіс «Полымя» цалкам выключыў са сваіх старонак нават публіцыстычныя артыкулы пра гістарычнае мінулае. Нават падзеі 20-х гадоў, калектывізацыі аб'яўляліся несучаснымі, і Іван Мележ не без падстаў высцерагаўся, ці пойдзе яго «несучасны» раман «Людзі на балоце» у друк, у людзі. Трэба падкрэсліць, праўда, што маладая незалежная крытыка кан'юнктурнаму лозунгу сучаснасці ў літаратуры па-баявому супрацьпаставіла пазіцыю сучаснага погляду на свет і людзей, у тым ліку і на гістарычнае мінулае, тым не аддаючы гістарычнай тэмы на суцэльнае збэшчванне з боку чыноўнікаў ад літаратуры. Тым не менш перыяд скасабочання літаратуры лозунгам «даеш сучаснасць» быў даволі доўгатрывалы, бо ён канчаткова заглух толькі ва ўмовах перабудовачных гадоў.





# СЯРОД КНІГ

МІХАСЬ
КАВАЛЕЎ

## ЗОРКІ ПЕРШАЙ ВЕЛІЧЫНІ

І. Замоцін. **Творы.** «Мастацкая літаратура», 1991.

Упэўнены, што гэтая кніга неўзабаве стане бібліяграфічнай рэдкасцю.

Аўтар яе — рускі вучоны Іван Іванавіч Замоцін — асоба неардынарная, адметная ў гісторыі літаратуразнаўства і педагогікі. Прафесар літаратуры, вядомы крытык, І. І. Замоцін у 20-я гады далучыўся да беларускага нацыянальнага адраджэння. Таму дазваляю сабе колькі слоў сказаць пра жыццёвы шлях гэтага таленавітага вучонага.

Іван Замоцін нарадзіўся 2 лістапада 1873 года ў сям'і беззямельнага селяніна Цвярской губерні. У восем год застаўся без бацькі. Маці прала бялізну ў настаўніцы, якая і заўважыла здольнасці хлопчыка да вучобы, уладкавала яго ў адну з гімназій у Пецярбурзе.

У 1897 годзе Іван Замоцін скончыў Санкт-Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут і быў прызначаны на пасаду выкладчыка моў 3-й Варшаўскай гімназіі, дзе і пачаў не толькі педагагічную, але і плённую літаратуразнаўчую дзейнасць. З 1908 года І. Замоцін — прафесар Варшаўскага універсітэта. У 1922 годзе яго запрашаюць на пасаду прафесара Беларускага дзяржаўнага універсітэта. І вучоны з ахвотай згадзіўся пераехаць «у адноўленую Беларусь для дружацкага супрацоўніцтва».

За два гады І. Замоцін дасканала вывучае беларускую мову і літаратуру, становіцца адным з вядучых вучоных Беларусі таго часу, выдатным даследчыкам творчасці Максіма Багдановіча, Якуба Коласа і іншых пісьменнікаў. Асаблівую ўвагу член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Акадэміі навук БССР І. І. Замоцін удзяляе творчасці Якуба Коласа. Складальнік кнігі твораў Замоціна, пра якую ідзе гаворка, Яфім Гаварушка ў артыкуле «Колас і Замоцін» («Маладосць», 1982, № 11, с. 166) прыгадвае словы жонкі вучонага Веры Паўлаўны, якая дакладна перадала меркаванне самога Якуба Коласа: «Ніхто з літаратуразнаўцаў і крытыкаў так грунтоўна і глыбока не разглядаў маю творчасць, як Іван Іванавіч Замоцін. Я вельмі ўдзячны яму».

І сапраўды, у 20-я гады, калі пачала браць верх вульгарызатарская крытыка, на старонках часопіса «Полымя» з'явіўся грунтоўны артыкул І. Замоціна пра Якуба Коласа, які У. Конан у прадмове да «Твораў» называе мікраманаграфіяй, дзе паэма «Новая зямля» разглядалася як магістральная «пуціна беларускай літаратуры». Парадокс у тым, што якраз не мясцовыя крытыкі, а рускі вучоны аказаўся «прарокам не ў сваёй айчыне», пранікліва заўважыў у Коласавай паэме этапны твор, мастацкае падсумоўванне цэлай эпохі ў жыцці народа.

Перад намі, піша І. Замоцін, разгортваецца жыццё лесніка ва

кожнага пісьменніка даследуецца ў кантэксце агульнага літаратурнага працэсу і ў адзінстве з развіццём крытыкі, журналістыкі, грамадскай думкі.

Вытрымала выпрабаванне часам даследаванне «Паэма Якуба Коласа «Сымон-музыка» як аўтахарактарыстыка». Яно і сёння адзін з лепшых твораў крытычнай думкі пра лірыка-эпічную паэму, якая, па меркаванні У. Конана, не мае аналагаў у еўрапейскай літаратуры. Даследчыка найперш зацікавіла таямніца мастацкай творчасці, што заўсёды была ў полі зроку беларускай літаратурнай традыцыі. Ёсць у артыкуле цікавая гіпотэза, своеасаблівае адкрыццё тагачаснай крытыкі, якое было вынікам супастаўлення матываў «музыкі» ў творчасці такіх непадобных паэтаў, як Максім Багдановіч і Якуб Колас.

Дарэчы, на падставе аналізу паэмы «Сымон-музыка» І. Замоцін даследаваў таямніцу ранняга фармавання спецыфічна «мастакоўскай душы» ў дзіцяці з яе надзвычайнай чулліваасцю і ўспрымальнасцю.

І яшчэ адно. Улічваючы, што беларускае літаратуразнаўства 20-х гадоў не магло падняцца на новую ступень без неадкладнага разгортвання тэксталагічных даследаванняў, Замоцін за кароткі тэрмін становіцца заснавальнікам новай галіны навукі — беларускай тэксталогіі. Самым важным дасягненнем гэтай навукова-арганізатарскай і даследчай працы І. Замоціна стала двухтомнае акадэмічнае выданне «Творы М. Багдановіча (1927—1928)» і манаграфія пра творчасць паэта. На думку У. Конана, калі б вучоны нават нічога іншага не напісаў і не пакінуў нашчадкам, апрача гэтых фундаментальных выданняў, то і тады яго імя варта было б залатымі літарамі напісаць на скрыжалях беларускай літаратуры.

Замоцінскі матэрыял пра М. Багдановіча таксама змешчаны ў «Творах». У полі зроку Замоціна — чалавечая і паэтычная асоба Багдановіча, яго духоўная повязь з Радзімай, з беларускай, славянскай і сусветнай культурамі. Даследчык імкнуўся выявіць жыццёвыя і творча-мастацкія крыніцы, з якіх утварылася глыбокае мора прыгожай, узнёслай і трагічнай паэзіі чалавека і паэта загадкавага і таямнічага лёсу.

Вучоны ў сваім даследаванні разглядаў біяграфію паэта не толькі храналагічна, але і як матэрыял для асвятлення пытання генезісу творчасці. Даследчык вылучае наступныя моманты: 1) сацыяльная спадчыннасць; 2) псіхафізіялагічная спадчыннасць па дзвюх лініях — па лініі псіхічнага складу (напрыклад, надаронасць продкаў паэта) і па лініі фізічнага складу (напрыклад, спадчынныя хваробы); 3) абстаноўка ранняга дзяцінства, наколькі яна рабіла ўплыў на фармаванне будучага пісьменніка; 4) гады вучэння і розныя ўплывы ў гэты час (кнігі, сябры, уражанні навакольнага жыцця і прыроды і г. д.); 5) навакольнае грамадскае асяроддзе і грамадскія сувязі як у гады юнацтва, так і ў гады сталасці; 6) характар разумовых інтарэсаў пісьменніка, як дзелавой працы па спецыяльнасці (калі такая ў яго была) і працы грамадскай; 7) літаратурныя сувязі і літаратурныя ўплывы; 8) кола інтымных перажыванняў (склад асабовага жыцця, выдатныя ў ім падзеі, сяброўскія сувязі, каханне і г. д.).

Як піша І. Замоцін, «для біяграфіі больш складанай паводле матэрыялу і храналагічна больш працяглай пералік гэтых момантаў, вядома, можа быць прадоўжаны; але ў дапасаванні да М. Багдановіча, які памёр вельмі рана і пражыў сваё нядоўгае жыццё ў параўнальна простай абстаноўцы, гэтыя моманты амаль што вычэрпваюць увязку яго творчасці з яго жыццём». Шэраг цікавых і багатых зместам даведак да пытання аб сацыяльнай спадчыннасці, як аб адным з момантаў у біяграфіі М. Багдановіча, вучоны бярэ з «Материалов к биографии Максима Адамовича Богдановича» (рукапіс), падрыхтаваных бацькам паэта. Адам Юравіч, бацька паэта, па паходжанні селянін. Маці была дачкою дробнага чыноўніка, які служыў наглядальнікам Ігуменскай павятовай бальніцы, але па маці сваёй і бацькавых продках паходзіла з духоўнага звання. Гэтыя сацыяльныя ўмовы паходжання паэта, падкрэслівае І. Замоцін,— адзін з сур'ёзных фактараў развіцця яго асобы і творчасці. Праводзячы свае дзіцячыя і вучнёўскія гады ў інтэлігентным асяроддзі бацькі, які жыў разумовай працай, і маці, якая атрымала

закончаную, хоць і невялікую, адукацыю, і іх блізкіх сяброў і знаёмых, таксама людзей інтэлігентных,— ён у той самы час не мог набыць ад бацькоў ніякіх вузкасаслоўных ці вузкапабытоўных традыцый і, наадварот, атрымаў, як спадак, у іх асобе моцную сувязь з працоўным народным жыццём і жыццём працоўнай інтэлігенцыі.

Не менш значнымі былі ўплывы на будучага паэта і па лініі псіхічнай, асабліва інтэлектуальнай спадчыннасці. Уся абстаноўка жыцця ў сям'і, дзе на першым месцы стаялі інтэлектуальныя і грамадскія інтарэсы, павінна была зрабіць адпаведны ўплыў на светапогляд маленькага Максіма.

І. Замоцін падкрэслівае, што бацька паэта надзвычай уважліва адносіўся да падбору літаратуры для пазакласнага чытання дзяцей: «У гэтым пераліку звяртае на сябе ўвагу: 1) наяўнасць беларускай народнай паэтычнай стыхіі, якая з самага ранняга дзяцінства ўдзельнічае ў выхаванні будучага паэта і 2) шырокае выкарыстанне ўзораў сусветнай народна-эпічнай і мастацка-літаратурнай творчасці. Апошняя акалічнасць, безумоўна, выхоўвала ў будучым паэце тую шырыню літаратурных інтарэсаў, якая з часам вызначылася як у разнастайнасці жанраў у яго ўласных паэтычных доследах, так і ў яго шматлікіх перакладах і перайманнях з чужых літаратур».

Студэнцтва для Максіма Багдановіча апошні кругабег, які завяршаў яго кароткі жыццёвы шлях. Дзеля гэтага ўсе моманты, асабліва важныя для выяўлення крыніц творчасці пісьменніка, галоўным чынам у гады даспявання таленту, у дачыненні да Максіма Багдановіча прыходзіцца шукаць ў студэнцкіх гадах.

Вучоны ўдзяліў значную ўвагу і пытанню мастацкай тэхнікі ўвогуле, мастацкай формы ў шырокім сэнсе слова, якая ахоплівае ўсе фармальныя прыёмы і сродкі — лексіку, марфалогію, сінтаксіс, метрыку, страфіку.

Ён шчыра папрацаваў для культурнага адраджэння беларускага народа, разам з ім перажыў духоўны ўздым і разам з ім пацярпеў ад сталінскіх рэпрэсій.

І яшчэ важнае значэнне мела яго педагагічная дзейнасць. Цудоўныя лекцыі прафесара, прачытаныя на літфаку Вышэйшага педагагічнана інстытута (цяпер Мінскі педінстытут імя А. М. Горкага), запомніліся тагачасным студэнтам на ўсё жыццё. Вось што ўспамінае, напрыклад, былы настаўнік, ветэран працы са Смалявіч, Яфім Максімавіч Гаварушка: «Лекцыі Замоціна былі не толькі глыбокія, змястоўныя, але і вельмі цікавыя і захапляючыя. Выкладчык вучыў студэнтаў: «Майце свой падыход, сваю канцэпцыю па кожным літаратурным творы. Не займайцеся, паважаныя студэнты, плагіяцтвам чужых думак з крытычных артыкулаў, смялей выказвайце ўласныя меркаванні. Вы здольны самастойна зрабіць аналіз мастацкага твора. Рэкамендую крытычныя працы чытаць толькі пасля таго, як у вас складзецца свой погляд на тую ці іншую літаратурную прадукцыю любога пісьменніка». («Голас Радзімы», 1989, 27 красавіка, артыкул «Любімы настаўнік».)

Сёлета спаўняецца 120 гадоў з дня нараджэння выдатнага вучонага. Выданне яго твораў — даніна павагі яго памяці, значны ўклад у справу духоўнага адраджэння нашага народа.

**АНДРЭЙ ФЕДАРЭНКА**

# СМЯЛЕЙ РАДАВАЦЦА

Барыс Пятровіч. **Ловы.** Апавяданні. «Полымя», 1992.

Кніжкі з дадатку да часопіса «Маладосць» досыць дзіўная ў нашым літаратурным жыцці з'ява: з аднаго боку, да іх нейкі ўстойлівы недавер, паблажлівасць — як да нечага несур'ёзнага, не дужа вартага ўвагі (напрыклад, рэцэнзіі на гэтыя кніжкі, па нейкіх няпісаных законах, можа чамусьці даваць адна «Чырвоная змена»); з другога — гэтыя кніжкі разглядаюцца на секцыях, па іх прымаюць у Саюз пісьменнікаў — уступілі ўжо каля дзесяці чалавек, у тым ліку і аўтар гэтых радкоў. Праўда, у «нашыя» не вельмі даўнія часы кніжка, скажам, прозы з бібліятэч-

кі «Маладосці» выходзіла накладам ад трох да пяці тысяч.

Кніжка «Ловы» Б. Пятровіча выйшла ў колькасці 491 асобнік. Не хочацца нават варушыць пытанні кшталту: «Што ж гэта з нашай літаратураю адбываецца?» — і так, думаю, усім ясна, што з ёю адбываецца... Мне проста па-чалавечы крыўдна за несумненна таленавітага аўтара, за цікавую кніжку, якая, не паспеўшы выйсці з друку, зрабілася бібліяграфічнай рэдкасцю,— і тым больш, мне здаецца, кніжка гэтая заслугоўвае рэцэнзіі і ў «Ліме», і ў «Полымі», і ў той жа «Маладосці».

Барысу Пятровічу трыццаць тры гады — як для празаіка, узрост надзвычай спрыяльны (помніце талстоўскае: «Калі б я быў літаратурным начальнікам, я забараніў бы празаікам друкавацца да трыццаці гадоў»? Праўда, сам Леў Мікалаевіч дэбютаваў у дваццаць чатыры...). Аўтар «Ловаў» друкаваўся ў перыёдыцы, але не часта, і ў цэлым публікацыі яго прайшлі незаўважанымі: адзіны больш-менш разгорнуты водгук на іх дае Алесь Марціновіч у «Настаўніцкай газеце» за 11 чэрвеня гэтага года. Але, чытаючы «Ловы», проста не верыш, што пісаў пачатковец, па сутнасці, дэбютант — такое адчуванне, што гэта рука сталага пісьменніка, са сваім стылем, са сваёй філасофіяй жыцця.

У кніжцы змешчаны трынаццаць невялікіх апавяданняў — ад традыцыйна-вясковага «Апошняя лыжка», лірычна-настраёвага «Каханне. Канец 70-х» да наватарскіх, свежых формаю і стылем «Як рыбіна аб лёд», «Ловы» альбо «Людзі доўга не жывуць». Сярод гэтых апавяданняў ёсць мацнейшыя, ёсць слабейшыя, але прахадных — няма, на кожным адбітак аўтарскай душы, хваляванняў, усе яны найперш — чытэльныя. Вось возьмем апавяданне «Апошняя лыжка» — самае, бадай, традыцыйнае ў зборніку. Згадзіцеся: цяперашнім часам, пасля ўсяго, што пісана-перапісана пра паміранні вясковых філосафаў дзядоў і бабак, патрэбна пэўная смеласць, калі хочаце, нават выклік устойлівым літаратурным канонам, каб пачаць апавяданне такім сказам: «Бабка Мар'я даўно жыла адна». Сюжэт таксама будзе для нас не новы — акрамя хіба таго, што ў бабкі Мар'і быў некалі рэпрэсаваны чалавек: бабка жыве адна, з катом «Ваською», есць боршч, успамінае сваё жыццё, мужа, якому калісь здрадзіла, сыноў, што не хочуць да яе прыязджаць і заходзіць (адзін жыве блізка, у гэтай жа вёсцы); у тую ж ноч яна памірае, а праз дзень сыны збіраюцца, каб яе пахаваць. Разам з тым гэтае апавяданне немагчыма зблытаць са шматлікімі іншымі на такую ж тэму. Яно па-свойму арыгінальнае, бо і ў радках, і між радкоў у ім струменіць любоў (любоў прыдумаць нельга) да гэтай бабкі, да яе ката, да яе думак і звычак. А піша ж малады чалавек! У яго бабка нюхае боршч, «смешна заціскаючы свой маленькі нос шчокамі»,— слова «смешна» тут лішняе, бо апавяданне пішацца вачыма бабкі, але, яшчэ раз паўтаруся,— патрэбна любоў, проста нейкі біблейскі гуманізм, каб апаэтызоўваць сам працэс ежы старога чалавека, якому асталося жыць лічаныя гадзіны. «Бабка перамяшала боршч, паставіла міску, наліла. Па-гаспадарску плюхнуўся на дно кавалак мяса, верх зацягнуўся тонкай залацістай плёнкай тлушчу — глядзецца можна». «Ела яна павольна, акуратна, маленькімі глыткамі». Нават кот, які ўскочыў на стол, калі бабка задрамала, не лезе сам у міску, а будзіць, штурхаючы галавой пад руку, гаспадыню, каб тая кінула яму што на падлогу...

Трэба аддаць Б. Пятровічу належнае: калі б нават нічога не ведаў з ранейшага жыцця гэтай бабкі, дзякуючы вось такім апісанням, перад намі — вобраз. Чалавека, які пражыў нялёгкае, але годнае, людскае жыццё.

Да слабейшых, на маю думку, апавяданняў у зборніку можна аднесці «Развітанне», якое пабудавана на сюжэце «накладка сноў» — прыём у літаратуры яшчэ больш зацяганы, чым дзяды з бабкамі. Увогуле, здаецца, што пісьменнік злоўжывае снамі, героі ў яго спяць часта. Мабыць, не варта яму і залішне эксперыментаваць, бо тады замест апавядання атрымліваецца тэкстоўка, расшыфраваць якую, пэўна, не змог бы і сам аўтар («Пісягі часу»). У дыялогах, асабліва вясковых апавяданняў, пракідваюцца штампы: вясковы дзядзька, возячы «смуродны сілас», кажа хлопчыку: «Душа ў цябе, відаць, вялікая... Трэба ёй усяго паспрабаваць... Вось і ў мяне так

з дзяцінства было. А потым як зламалася нешта ў сярэдзіне...» («Сусед»). Другі дзядзька, таксама з віламі ў руках, расказвае таксама хлопчыкам, як ён ішоў па балоце: «Вясною дзела было... Жоўта ўсё куды ні глянеш, бытта само сонца пад ногі ўпала і я па сонцу йду. І сярод гэтай квецені там-сям віднеюцца сінія-сінія лужыны-азерцы. Падыдзеш бліжэй, сонца ў іх купаецца — ну як жаўток на патэльні... Ступаю проста на сонца, а яно, як жабка, выскоквае з-пад нагі, разбіваецца, разлятаецца на часткі, і ўся лужына бліскучай залатой лускою пакрываецца...» («Забыты аповяд»). Паэт можа пазайздросціць...

Вось гэта, а таксама слова «зараз», якое паўсюдна ўжываецца Б. Пятровічам у значэнні «цяпер», бадай, адзінае, што ўмоўна можна аднесці да недахопаў кнігі, за што «чапляецца вока». А ў цэлым мова ў аўтара літаратурна пісьменная, багатая. Асабліва ўдаюцца яму метафары і параўнанні. П'яны мужчына ідзе па вуліцы, і «вочы яговыя блукаюць недзе ўнізе, быццам ён грыбы шукае». З сумкі «апошняя, як тоўстая задастая пані ў зялёнай сукенцы ў абцяжку, вылезла пляшка. Амаль да паловы плёхалася ў ёй гарэлка». Дзяўчына ўначы на лаўцы плача, «быццам скуголіў ад болю маленькі шчанюк...». Хлопчык слухае песню «Люблю дывытыся, як ты ідзеш па воду» і «ўяўляе, як прыгожы, статны хлопец-хахол Дывытысь ідзе па ваду...». І Маруся яго за гэта любіць.

Некалі Р. Бярозкін сказаў пра творчасць Алеся Жука: «Пісьменніка можна вызначыць па адной метафары: «цацерукі як патэльні» — гэта якраз метафара пісьменніка». Кніга Б. Пятровіча ў гэтым плане ці не паказальная. Але прозу, як вядома, вызначае найперш сэнс. Возьмем апавяданне «Ловы» — адно з самых моцных у кнізе. Маларослы — метр ад зямлі, дзядзька Мішка, якога дражняць за вочы «неданоскам», «баўтуном», «посікам», бярэ з сабою на паляванне падлетка Лёньку, абяцаючы пачаставаць таго смажанымі драздамі. Абхадзіўшы паўлесу, паляўнічыя сядаюць падсілкавацца, п'юць гарэлку, потым заўважаюць сойку на кублe. Мішка вырашае, што, раз няма драздоў, можна падсмажыць і сайчанят. «Лёнька пачаў даставаць птушанят па адным. Возьме за ногі, а цела боўць і ў галаву пералілося, возьме за галаву, а цела боўць і да ног пераваліласяя, адвісла, як вада ў гумавым балоніку...» Птушанят пакідалі ў кайстру, і Мішка пачаў расказваць пра смажаных драздоў — «цягнуў свой расказ, нібы акын песню, і хвіліны ляцелі, мільгалі, як вокны электрычкі на Мохавым пераездзе...». Пачалі збірацца, узгадалі пра непадсмажаных сайчанят, знайшлі кайстру — «а ў ёй ужо ціха і смярдзіць. Нехта з паляўнічых неўпрыкмет сеў на яе і птушанят падушыў. Размазалася слізь і нутраная чарната іхняя па ўсёй кайстры. Мішка вытрас грузкі камяк птушанят пад хваіну, нагою прытаптаў,ігліцы наверх нагарнуў...».

Дзеянні герояў нелагічныя, нічым не апраўданыя, але аўтар нічога і не хоча тлумачыць, ён разумее, што тлумачэнні — любыя — толькі рассыплюць апавяданне, разбураць эфект ад яго. І толькі між радкоў прачытваецца: «Я сам не ведаю, чаму людзі такія, хто іх такімі зрабіў, я таксама дзіўлюся ім і нічога не магу выправіць».

Тое, што аўтар не набіваецца ў настаўнікі, на роўных ідзе з чытачом да канца, найбольш выяўляецца ў апавяданні «Як рыбіна аб лёд». Тут Б. Пятровіч прама піша пра свайго героя-забойцу: «Мясніком ён не быў і з крывёю справы не меў. Просты савецкі хлопец, які дагэтуль нідзе ніколі нічога ніякага. Прыгадваю лёс ягоны: акцябронак, піянер, камсамолец, слесар-рамонтнік... Нічым не вылучаўся сярод іншых. Хіба шмат не піў ды грошы любіў. Але хто ў нас іх не любіць? Асабліва цяперака, калі купіць няма чаго, а яны ўсё складваюцца і складваюцца, любоўна, паперка да паперкі. Ну, патраціў іх на магнітафон з рук, ну, залез у доўг, ну, выйшаў на справу... Але навошта, навошта чалавека забіў? Не ведаю. І Сцяпан, калі яго зараз спытаць, сам, напэўна, нічога адказаць не змог бы: ну, забіў і забіў...».

Калі б у нас стваралі нейкую своеасаблівую анталогію, «залаты фонд» лепшага беларускага апавядання, і я меў бы да гэтага нейкае дачыненне, я без усялякіх ваганняў уключыў бы ў гэты фонд апа-

вяданне Б. Пятровіча «Як рыбіна аб лёд». Яно свежае для беларускай прозы і сюжэтам, і стылем, і аўтарскай пазіцыяй — аб'ектывізмам, горкай, безнадзейнай іроніяй з дурасці, жорсткасці людской, якія невядома адкуль бяруцца і невядома як іх перамагчы. У рускіх гэтую лінію — горкі смех праз слёзы — пасля Чэхава перахапілі і павялі Салагуб, Аверчанка, часткова Булгакаў, Зошчанка, Шукшын, цяпер — Крупін, а ў беларускай літаратуры яна чамусьці спынілася недзе на раннім Коласе (Калюга і Мрый — гэта іншае, у іх альбо чысты гумар, альбо палітычная сатыра). Калі Б. Пятровіч паверыць у гэты свой дар, будзе развіваць яго, нашая літаратура можа ўзбагаціцца надзвычай цікавым, новым пісьменнікам.

Коратка пра апавяданне «Як рыбіна аб лёд». З вышэйзгаданай цытаты можна зразумець, што просты савецкі хлопец Сцяпан улез у нейкі дробязны даўжок, выйшаў на справу і спакойна, нічога не думаючы, калі надараецца момант, забівае чалавека. На другі дзень забойцу, а разам з ім яшчэ двух падазроных, забіраюць у міліцыю. Сцяпан, які ведаў, за што яго ўзялі, «па дарозе паспеў прыдумаць, што казаць, і таму на допыце позірк ягоны быў шчыры і ўпэўнены. І душа была чыстая і голая, як перад нараджэннем. Двое ж іншых раскіслі, блыталіся ў словах», урэшце адзін не вытрымаў — пасля адпаведнага «дазнання» — і прызнаўся, што ён забіў. Сцяпана адпусцілі, нават папрасілі прабачэння.

Ён «крочыў па пустой вуліцы — мароз разагнаў усіх па кватэрах — і не было ў яго радасці, што выпусцілі. Левай нагой гнаў ён перад сабой бляшанку з-пад кансерваў, і яна істэрычна вішчала, адрываючыся ад нагі і кранаючыся мерзлага асфальту. **І не было каму спыніць і даць яму па шыі».**

Вось адзінае, падкрэсленае мною, аўтарскае ўмяшанне ў тэкст, яго рэакцыя, адносіны да свайго героя... Вось той славуты «цецярук як патэльня», што вызначае пісьменніка. Не ведаю, як вам, а на мяне дыхнула ад гэтага нечаканага аўтарскага ўмяшання нечым чэхаўскім — як адгалосак напаўзабытай цяпер, сапраўднай літаратуры...

У гэтым апавяданні таксама моцная, нечаканая канцоўка, але я знарок не буду яе пераказваць — авось хтосьці захоча пачытаць.

Некалі на секцыі прозы Г. Марчук гаварыў: «Мы развучыліся радавацца, баімся хваліць, баімся сурочыць, нечага асцерагаемся, нешта стараемся недагаварыць; калі і хвалім, дык з «але», калі і радуемся, дык з азіраннямі».

Я з гэтымі словамі згодзен. У літаратуру ідзе цікавы, свежы пісьменнік — давайце гэтаму смялей радавацца.





# ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ

## АНАТОЛЬ ЗЭКАЎ

## Вясковы хор

*Свае спяваю песні землякам,*
*І ціха падпяваюць*
*землякі мне.*
*. . . . . . . . . . . .*
*Я свой тут людзям,*
*Лесу...*

*УЛАДЗІМІР КАРЫЗНА*

Калі сталіца не прызнае —
Вязу я песні землякам.
Дармо, што нот яны не знаюць,
Ледзь-ледзь іх знаю я і сам.
Ды зацягну ўсё ж песню басам,
А землякі — за мною ў такт.

Так забасім мы дружна разам,
Што здрыганецца бліжні тракт.
Усё ваколле заспявае,
Прачнуцца лес і бальшакі...
Калі сталіца не прызнае —
Заўжды прызнаюць землякі.

---



Тэхнічны рэдактар **Г. У. Скакун.**

Карэктары: **М. І. Гусева, Л. З. Кудравец, З. К. Надумовіч.**

Здадзена ў набор 4.10.92. Падпісана да друку 21.12.92. Фармат паперы $70 \times 108^1/_{16}$. Друк афсетны. Друк. арк. 16. Ум. друк. арк. 22,4. Ум. фарб. адб. 22,325. Ул.-выд. арк. 21,43. Тыраж 7 000 экз. Зак. 1478. Падпісная цана 10 руб.

**Падпісная цана 10 р.** **Індэкс 74985**
(Цана ў рознічным продажы 17 р.)

# ПРЭМІІ ЧАСОПІСА «ПОЛЫМЯ»

Рэдакцыйнай калегіяй прысуджаны прэміі часопіса «Полымя» за лепшыя творы, апублікаваныя ў 1992 годзе:

ПРОЗА

**Генрыху ДАЛІДОВІЧУ** — за раман «ЗАХОДНІКІ» (№№ 7, 8);

ПАЭЗІЯ

**Уладзіміру ПАЎЛАВУ** — за вершы (№№ 2, 11);

КРЫТЫКА І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

**Дзмітрыю БУГАЁВУ** — за артыкул «ДАСЯГНУТАЕ І СТРАЧАНАЕ» (№ 10);

**Алесю МАРЦІНОВІЧУ** — за рэцэнзію «НАЗВАЦЬ СУМЛЕННЕ ШЧАСЦЕМ» (№ 7);

НАВУКА. МАСТАЦТВА

**Валянціну ГРЫЦКЕВІЧУ** — за артыкул «ЯКОЙ БЫЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТАРЫЧНАЙ НАВУЦЫ» (№ 5);

ГІСТОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ І КУЛЬТУРЫ

**Сымону СКАРУЛІСУ** — за артыкул «ЛІСТАПАДАЎСКАЯ СПРАВА» І ЯКУБ КОЛАС» (№ 11).

**ISSN 0130—8068 Полымя 1993. № 1. 1—256.**